*Серия основана в 2009 году*

*Учредитель серии «Неизвестная история» А. Е. Тарас*

*Оформление серии Б. Г. Клюйко*

*Научное редактирование и примечания А. Е. Тараса*

Печатается по изданию:

Vacłaŭ Panucevič.
SAMOGITIA AND LITHUANIA
The different Lands and Folks

Chicago

1953

**Пануцэвіч, В.**

Літва і Жамойдзь. Розныя краіны і народы / Вацлаў Пануцэвіч. — Мінск : Харвест, 2014. — 304 с. : мал. — (Неизвестная история)

ISBN 978-985-18-2703-5

Гэтая кніга дасюль заставалася невядомай чытачам на Беларусі. І вось прыйшоў час выправіць такую загану. Нягледзячы на тое, што сваё даследаванне Вацлаў Пануцэвіч выканаў 60 год таму, яно па-ранейшаму мае значную каштоўнасць для суайчыннікаў. У першую чаргу гэта тычыцца пераканаўчага доказу ім таго факту, што ліцвіны (продкі цяперашніх беларусаў) і жамойты (продкі цяперашніх летувісаў) былі рознымі народамі, якія гаварылі на розных мовах, жылі на розных землях, мелі розныя культурныя традыцыі.

**ISBN 978-985-985-18-2703-5**



# ЗМЕСТ

# ПРАДМОВА
# РЭДАКТАРА-ВЫДАЎЦА

Навуковыя і навукова-папулярныя працы гісторыка Вацлава Пануцэвіча (1910—1991) добра вядомыя сярод навукоўцаў беларускай эміграцыі ў краінах Заходняй Еўропы і Паўночнай Амерыкі. Але на сваёй радзіме яны па-ранейшаму застаюцца ў забыцці. Даўно пара ўхіліць гэтую несправядлівасць.

У сучаснай Беларусі перавыданыя некаторыя працы Пануцэвіча, прысвечаныя пытанням царкоўнай гісторыі. Аднак, на наш погляд, найбольш цікавае для шырокага кола чытачоў яго даследаванне старажытнага мінулага беларусаў і суседніх народаў. Пануцэвіч выдаў яго ў трох тамах. Аднак наклады ўсіх трох былі чыста сімвалічныя — 50 (пяцьдзесят) асобнікаў кожны! А калі ўлічыць яшчэ і тое, што гэта адбылося ў Злучаных Штатах 60 год таму, становіцца зразумела, чаму яны не дайшлі да айчынных чытачоў.

Зараз мы прапануем першы том даследавання, які быў выдадзены ў 1953 годзе.

Зробленыя ў ім высновы па шэрагу аспектаў не адпавядаюць сённяшнім канцэпцыям навукоўцаў. Але, нягледзячы на гэта, даследаванне В. Пануцэвіча па-ранейшаму мае значную каштоўнасць для суайчыннікаў. Асабліва гэта тычыцца пераканаўчага доказу ім таго факта, што жамойты (продкі цяперашніх летувісаў) і ліцвіны (продкі цяперашніх беларусаў) былі рознымі народамі, якія гаварылі на розных мовах.

Другі том прысвечаны апісанню і аналізу крыніц па тэме даследавання. Ён цікавы толькі для вузкіх адмыслоўцаў. Гэтая кніга маецца ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Менску.

Трэці том мы спадзяёмся перавыдаць у агляднай будучыні.

Усе тры тамы былі выдадзеныя на беларускай мове лацінскім шрыфтам і на тарашкевіцы. Алесь Жлутка змарнаваў вельмі

шмат часу і высілак на тое, каб перакласці зыходны тэкст на кірылічны шрыфт. На жаль, імёны або прозвішчы, этнічныя і геаграфічныя назовы аўтар прывёў у надзвычай архаічным варыянце, таму ў некаторых выпадках цяжка зразумець, што або каго ён меў на ўвазе.

Асобныя словы — у касых дужках — устаўленыя рэдактарам па меркаваннях стылю. Напрыклад: /яны/, /іх/, /гэрцаг/ і г. д.

У шмат якіх месцах адны і тыя ж назовы прыведзеныя то з маленькай, то з вялікай літары. Напрыклад: «літва» і «Літва»; «прусы» і «Прусы»; «жамойдзь» і «Жамойдзь», «крывічы» і «Крывіччына». Назоў з малой літарай пазначае племя (народ), з вялікай — краіну.

Кніга мела 1055 спасылак на крыніцы. Яны займалі прыкладна 40 % яе аб'ёму. Шматлікія спасылкі былі на дзве-тры старонкі і нават больш (!), уключалі вялізныя цытаты на латыні або на замежных мовах. Мы (А. Тарас і А. Жлутка) вырашылі адмовіцца ад іх. Справа ў тым, што пераважная большасць крыніц, скарыстаных аўтарам, — гэта старыя кнігі і артыкулы (выдадзеныя да 1950 г.) на латыні, старажытнай грэцкай, на нямецкай, польскай і літоўскай мовах. Не патрабуецца даказваць, што нашым чытачам, за рэдкімі выключэннямі, уся гэтая літаратура недаступная — і з прычыны адсутнасці яе ў бібліятэках, і з прычыны няведання моў.



*Старонка з арыгінала кнігі Панунэвіча*

*Па-першае*, гэта публікацыі вынікаў даследаванняў нямецкіх, польскіх, летувіскіх, беларускіх, расійскіх археолагаў (Фогт, Касцшэўскі, Шукевіч, Спіцын, Лер-Сплавіньскі, Шчэрба-

коўскі, Ляўданскі, Мілеўскі, Цэгак-Галубічова і іншыя).

*Па-другое,* творы антычных і сярэднявечных аўтараў: Герадота «Herodoti Historiae»; Цэзара «Commentarii de bello Gallico»; Палібія «Historiae»; Страбона «Strabonis Geografica»; Плінія Старэйшага «Naturalis historiae»; Тацыта «Germania» і «Annales»; Іардана «Getica»; Пракопа Цэзарыйскага «Opera omnia»; Цітмара Мерзебургскага (ён жа Дытмар/Dietmar) «Die Chronik des Bischofs Thietmar von Merseburg»; Адама Брэменскага «Gesta Hammaburgensis ecclesiae pontificum»; Гельмольда «Chronica Slavorum»; Саксона Граматыка «Gesta Danorum»; Пятра Дусбургскага «Chronicon terrae Prussiae» (больш за 300 спасылак); Длугаша «Historia Poloniae» і некаторых іншых.



*Тытул першага выдання П. Дусбурга «Хроніка зямлі прускай»*

*Па-трэцяе,* Пануцэвіч у шэрагу месцаў спасылаецца на працы сучасных яму гісторыкаў. Але такіх спасылак у яго менш за ўсё.

Малюнкаў у аўтарскай публікацыі было ўсяго толькі 25, да таго ж выкананых не прафесіяналам. Замест іх мы змясцілі ў кнізе больш за 130 іншых, якія ўзялі з сучасных навуковых выданняў.

*Анатоль Тарас*

VACŁAŬ PANUCEVIČ

# ЖАМОЙДЗЬ І ЛІТВА

## РОЗНЫЯ КРАІНЫ І НАРОДЫ

CHYKAGA

1953

---

VACŁAŬ PANUCEVIČ

# SAMOGITIA AND LITHUANIA

## THE DIFFERENT LANDS AND FOLKS

CHICAGO

1953



## ПРАДМОВА АЎТАРА

Пытаньне пачаткаў Жамойдзі, Прусаў, Яцьвягаў і Літвы прадстаўляе сабой вялікую блытаніцу ва ўсёй гістарычнай літаратуры ўсяго сьвету. На гэтую тэму можна знайсьці ў розных мовах нямала кніжак, на жаль, усе яны абасноваными на памылковым выхадным поглядзе: быццам Жамойдзь і Літва твораць адно паняцьце, з той толькі розьніцай, што «Літва» ёсьць агульным назовам, а Жамойдзь і Аўкштота абазначаюць два складовыя плямёны «літоўскага» народу. Яшчэ шырэйшым паняцьцем мае быць назоў «балты», які абдымаў бы літоўцаў, латышоў, прусаў і яцьвягаў.

Нават сучасная крывіцкая /беларуская. — *Рэд.*/ літаратура, адрозьніваючая ў прынцыпе Жамойдзь і Літву, як розныя этнічныя краіны, ня дала разьвязкі на паходжаньне ўсіх названых народаў, ані ня здолела прадставіць Вялікага Княства Літоўскага як чыста крывіцкай з'явы, дзе Жамойдзь была адной з правінцыяў гэтай дзяржавы, не адыграўшай большай палітычнай і культурнай ролі.

Калі ў чужой літаратуры пануе, можна сказаць, поўнае паблытаньне гэтага пытаньня, то ў нашай пакутуе таксама нязгодны з праўдай кампрамісовы погляд, авеяны «балта-славянскімі» тэорыямі, быццам Вялікае Княства Літоўскае ёсьць супольным творам жамойдаў і крывічоў (беларусаў), дзе князі і пануючая верхавіна былі жамойдзкага паходжаньня, а дзяржаўны зьмест,

культура і дзяржаўная мова належалі нашаму народу. Прытым на доказ крывіцкасьці Вялікага Княства Літоўскага высоўваецца як наймацнейшы доказ дзяржаўная мова гэтага Княства. Аднак гэты адзіны доказ, хоць і выдатны, ня ёсць здавальняючы, на што жамойды знаходзяць супрацьдоказ, што дзяржаўная мова ня ёсьць вырашальным фактарам дзеля этнічнага абазначэньня дзяржавы. Дзяржаўнай мовай на Захадзе доўгі час была лацінская мова, не мае гэта абазначаць, што паасобныя нацыянальныя дзяржавы не існавалі ў Сярэдніх Вякох.

Заблытанасьць пытаньня аб паходжаньні Вялікага Княства Літоўскага мае свае глыбейшыя прычыны ня толькі чыста палітычныя з боку жамойдаў. Першыя гістарычныя весткі аб краінах і народах каля Балтыцкага мора перад з'яўленьнем Вялікага Княства Літоўскага не закранаюць этнічнай прыналежнасьці паасобных краінаў. Адсюль гістарычная навука XVIII, XIX і першай палавіны XX стагодзьдзя, няўзброеная яшчэ досьледамі дапаможных ведаў, як археалёгія, антрапалёгія, мовазнаўства, гісторыя культуры і этнаграфія, апіралася галоўным чынам на пазьнейшых крыніцах, калі ўжо існавала Вялікае Княства Літоўскае і калі дзяржаўны назоў «Літва», «Litvania», «Lituania» адносіўся да цэласьці, а часамі і да складовых частак гэтай дзяржавы.

Іншай прычынай, магчыма найбольш увёўшай заблытанасьць у гэтай справе, была распаўсюджаная Гаштальдамі /Гаштольдамі. — *Рэд.*/ у XV ст. (каб супрацьставіцца польскім імкненьням далучыць Літву да Польшчы і польскай прапагандзе аб «вышшасьці» польскай шляхты гэрбовай) фантастычная легэнда, што літоўскае баярства выводзіцца ад рымлянаў, якое ў старыя часы прыбыло адтуль і села ў Жамойдзі (адсюль мае быць «важнейшае» ад польскай гэрбовай шляхты). Легенда аб беспасрэдным паходжаньні літоўскіх баяраў з Рымскай Імпэрыі мела палітычна падмацаваць іх аўтарытэт бяз еднасьці з рэлігійным цэнтрам Рыму. Здаецца, што глыбейшай крыніцай гэтай тэорыі было праваслаўе, якое пашырылася ў той час сярод літоўскага баярства.

Нямала тут спрычыніліся таксама Пётр з Дусбургу і Длугаш, што да гістарычных фактаў /унёсшыя/ шмат свае нічым не абас-

нованай фантазіі. Яшчэ буйнейшую фантазію мелі гісторыкі XVIII і XIX стагодзьдзяў, як Нарушэвіч, Лелевэль і Нарбут, якія ў гэтым духу зьвялі пытаньне Літвы і Вялікага Княства да жамойдзкай праблемы[1].

Яшчэ адной крыніцай заблытанасьці і памяшаньня паняцьцяў была рэлігійная падкладка. Праваслаўе ад свайго выхаднага асяродка Кіеўскай Русі атрымала неадлучны сынонім «рускай» веры і налажыла свой адпячатак на ўсім, што было зьвязанае з царкоўна-ўсходнім абрадам. Адсюль і пісьмо і самыя вернікі атрымалі акрэсьленьне «рускіх», «Русі», хоць тэрытарыяльна Русь абазначала Кіеўшчыну.

Супрацьстаўленьнем да «рускасьці» праваслаўя была Літва, спачатку нехрысьціянская, а пасля каталіцкая ў лацінскім абраду. Дзеля таго, што ў тыя часы вера (рэлігія) была вырашальным мерылам пры акрэсьленьні людзей, у многіх дакумантах чарадуюцца, быццам азначэньні дзьвюх народаў, «Літва» і «Русь», «літоўскае» і «рускае». Каталіцкія імкненьні у XIV—XV стст. мелі гэткі штучны падзел замацаваць юрыдычна праз прывілеі літоўскіх баяр-каталікоў. У XVI ст. прыйшлося ануляваць гэткія законы, бо, з аднаго боку, вядучая верхавіна літоўскага баярства ў пераважаючай большасьці належала да ўсходняга абраду, з другога боку, пашыраўся рэфармацыйны рух як сярод баяраў, так і простага народу. Лацінскі абрад ня здолеў утрымаць пачатнага сэпаратызму каталікоў і праваслаўных, «літвінаў» і «рускіх» (з моманту ўвядзеньня ў канцы XVII ст. польскай мовы ў ВКЛ супрацьстаўленьне мела характар «польскай» і «рускай» веры), таму пякучай патрэбай сталася рэлігійная унія.

Паняцьце «літоўскасьці» ў рэлігійным значэньні ў XVI ст. пачало звужвацца да жамойцкага элементу, чыста каталіцкага і не славянскага, сярод якога ўсходні абрад не пашыраўся. Замацоўваў гэты працэс пратэстантызм і кальвінізм, які на жывой жамойцкай мове пранікаў да жамойцкага насельніцтва, а за

---

[1] Адам Нарушэвіч (1733—1796) — аўтар «Гісторыі польскага народа» (у 7 тамах), выданай у 1780—86 гг. (том 1 быў выданы пасмяротна у 1824 г.).

Іахім Лелевэль (1786—1861) — аўтар «Гісторыі Літвы і Русі да Люблінскай уніі з Польшчай 1569 года», выданай у 1839 г.

Тэадор Нарбут (1784—1864) — аўтар «Гісторыі літоўскага народа» (у 9 тамах, выданых у 1835—1841 гг.), даведзенай да 1569 г. — *Рэд.*

ім пайшлі езуіты гэтым самым шляхом у абароне «літоўскай» веры ў «літоўскай» (жамойцкай) мове.

Ужо першыя аўтары з XVI—XVII і наступных стагодзьдзяў не маглі разабрацца ў рэлігійнай і этнічнай блытаніцы, якая вытварылася ў ВКЛ. Не існавалі тады дапаможныя навукі, як археалёгія, лінгвістыка, этнаграфія, каб адхіліць занавесу 3—4 стагодзьдзяў, а запісаных пераказаў, апрача «рымскай» легенды, ня было.

Вытварыўся такі стан, што ўсходні абрад далей карыстаўся крывіцкай мовай са штампам «рускасьці», лацінскі абрад сярод крывічоў — польскай мовай са штампам «польскасьці», а на жамойцкі элемэнт перайшоў прыпадкова, як вісячы ў паветры, назоў «літоўскі» ў гэткім рэлігійным паняцьці. У палітычным і дзяржаўным значэньні назовы «Літва», «літоўскі» ўтрымаліся да палавіны XIX ст. як абазначэньне Крывіччыны, не абдымаючы сабой ані Жамойдзі, ані Русі, і ўтрымоўваючы гэтым пачатнае сваё значэньне.

На гэтых усіх блытаніцах і разьвілася па сёньняшні дзень бескрытычная літэратура ў розных мовах. Гэтыя старыя памылкі падхапіла ў сваю карысьць жамойдзкая прапаганда і давяла пытаньне Літвы і Вялікага Княства да абсурду.

Зусім новае і яркае сьвятло на гісторыю Літвы і Вялікага Княства Літоўскага даюць нам дапаможныя навукі XX стагодзьдзя, а ў першую чаргу археалягічныя пошукі. Яны поўнасьцю разьбіваюць усю фантазію сухіх гісторыкаў і такую ж жамойдзкую прапаганду, з другога ж боку выдатна падмацоўваюць і гістарычныя крыніцы.

Аўтар гэтай працы хоча падысьці да разьвязкі пастаўленага пытаньня не з традыцыйнага пункту гледжаньня, паўтараючы памылкі папярэднікаў, але з усебаковага асьвятленьня, шукаючы сапраўднага і бесстаронняга адказу. Аўтар паставіў сабе за мэту кінуць новае сьвятло на ўсе дасюль заблытаныя і цёмныя пытаньні і пры дапамозе ўспамагальных навукаў і гістарычнай крытыкі накіраваць іншых на вялікі шлях з дасюлешняга тупіку.

Задуманая праца мае ахапіць тры тамы.

Першы том галоўным чынам базуецца на дасягненьнях археалёгіі і прэгісторыі і мае за сваю мэту даказаць:

а) сутнасьць славянскай матэрыяльнай і духовай культуры;
б) яе засяг на ўсю Прыбалтыку;
в) дакладнае вызначэньне жамойдзкай духовай і матэрыяльнай культуры, час яе паяўленьня ў Прыбалтыцы і засяг;
г) славянскасьць прусаў і літвы, іх паходжаньне і час выхаду на гістарычную арэну.

Другі том зьмяшчаць будзе гістарычную аналізу ведамых крыніцаў да пытаньняў першага тому.

Трэйці том мае прадставіць разьвіцьцё гістарычнага працэсу Крывіччыны, Прусаў і Жамойдзі да XV ст. пасьля нараджэння Хрыста.

# Частка I
# ШТО ГАВОРАЦЬ АРХЭАЛЯГІЧНЫЯ ДАДЗЕНЫЯ



## Глава 1
## СЬЛЯДЫ ПЕРШАБЫТНАГА ЧАЛАВЕКА Ў ЭЎРОПЕ

Навука згодна сьцьвярджае, што чалавек паявіўся на зямлі ў чацьвертай эпосе (плейстацэне) разьвіцьця жыцьця на зямлі, паймена на час дэлювіюм[2]. На гэты час прыпадаюць вялікія кліматычныя забурэньні, у выніку якіх Эўропу і Паўночную Амэрыку наведаў холад, а з поўначы насунуўся ледавік, які дайшоў у Эўропе да Карпатаў і Альпаў, займаючы прастору Скандынавіі, Ісляндыі, Англіі, Ірляндыі, Бэльгіі, Галяндыі, Нямеччыны, Польшчы, Крывіччыны, Прусаў, Жамойдзі, Латвіі, Эстоніі, Фінляндыі, Даніі і паўночнай Расеі.

[2] Дэлювіюм (ад лацін. «deluo») — такі гістарычны перыяд, калі на схілах і ў падэшвы ўзвышшаў назапашваліся часціны горных парод, змытыя адталымі і дажджавымі водамі. — *Рэд.*

Ледавік прадстаўляў сабою велізарны нанос лёду, сьнегу, каменьняў, пяску і гліны і даходзіў да 100 і больш мэтраў таўшчыні. Гэтая халодная пара, як цяпер даказана навукова, не была бесперапыннай, але мела і цёплыя пэрыяды, у часе якіх ледавік таяў і адыходзіў на поўнач, а пасьля з паваротным ахаладжэньнем вяртаўся назад. На аснове назіраньняў паўночных Альпэйскіх рэкаў нямецкія вучоныя Пэўк (Peuk) і Брукнэр (Brueckner) устанавілі чатыры галоўныя ледавіковыя пэрыяды ў Эўропе. Ад назоваў Альпэйскіх рэкаў гэтыя ледавіковыя пэрыяды называюцца: Гюнц, Міндэль, Рыс і Вюрм (Guenz, Mindel, Riss, Wuerm).

У міжледавіковых пэрыядах было так вялікае пацяпленьне, што ў Францыі і Гішпаніі жылі ў той час такія зьвяры, якія цяпер знаходзяцца ў Афрыцы, прыкладам ільвы, гіпапатамы і іншыя. Гэтыя міжледавіковыя пэрыяды называюцца: Гінц-Міндэль, Міндэль-Рыс, Рыс-Вюрм. У Скандынавіі, Даніі, Нямеччыне,



*Найбольшае пасоўваньне ледавікоў у Еўропе*

Польшчы, Крывіччыне, Прыбалтыцы і Фінляндыі існуюць сьляды ўсіх чатырох ледавікоў, вынікам якіх ёсьць велізарныя наносы пяскоў, гліны, вапны, каменьняў у адпаведных напластаваньнях, наносы скандынаўскага граніту і вялікая колькасьць азёраў на прасторы паўночнай Эўропы — асабліва ў Фінляндыі, Прыбалтыцы, Крывіччыне, Прусах, Паўночнай Нямеччыне і Даніі. Кірунак адыходзячага ледавіка наглядна паказвае паўночна-заходні кірунак усіх бальшых сярэдня-эўрапэйскіх рэкаў, як Заходняя Дзьвіна (Даўгава), Вяльля (Вілія), Нёман, Прыгора (Прэгола), Буг, Вісла ад Варшавы да Торуня, Варта, Одра (Одэр), Лаба (Эльба). Сталася гэта таму, бо ў часе таяньня ледавікоў зьбіралася велізарная колькасьць вады, якая сьцякала, згодна з пахіласьцю эўрапэйскага кантынэнту на поўнач, у паўночным кірунку, але таючы ледавік твары ў яшчэ запору для спаду вады ў гэтым напрамку.

Ведама, у часе трываньня ледавікоў, на прасторы імі занятай, немагчымае было расьліннае, зьвярынае і чалавечае жыцьцё, а жыцьцё папярэдніх пэрыядаў было зьнішчанае і пакрытае ледавіковымі наносамі. Пасьля адыходу ледавіка паступова паяўлялася спачатку бедная расьліннасьць, мох, травы, кусты і дрэвы, характэрныя для паўночных тундраў, а потым у меру пацяпленьня штораз буйнейшая расьліннасьць — лясы іголкавыя і лісцястыя.

Пасьля канчатковага адыходу ледавіка пацяпленьне праўдападобна асягнула свой найвышэйшы пункт, бо ў Швэцыі пачалі расьці дубы, клёны, ліпа, бярозка, граб і іншыя лісьцястыя дрэвы, характэрныя для цяплейшага клімату. Таксама ў той час сярэдня-эўрапэйская прастора мела іншы выгляд, як у нашыя часы. Балтыцкае мора злучалася спачатку з Паўночным упоперак Швэцыі, а з Паўночным акіянам цераз Фінляндыю. У наступным пэрыядзе Балтыцкае мора сталася фактычна вялікім возерам з салодкай вадой, бо было акружанае з усіх бакоў сухазем'ем, а то з прычыны ўзвышэньня зямлі ў Даніі і Фінляндыі. Толькі ў апошнім пэрыядзе воды Балтыцкага мора злучыліся зноў з Паўночным у Катэгацкім праліве.

У залежнасці ад кліматычных пераменаў тварыўся і зьвярыны сьвет. З хвілінай паяўленьня сякой такой расьліннасьці

прыходзяць сюды паўночныя зьвяры: алені, мамуты, паўночныя козы, сібірскія насарожцы, дзікія коні, зубры і іншыя. З далейшым пацяпленьнем тундра замянялася на стэп. Паўночныя зьвяры ішлі далей на поўнач, а ў стэпе жылі: ласі, туры, дзікія аслы, дылювіяльныя коні, антылёпы, пячэрныя мядзьведзі, ваўкі, лісы і розныя грызуны.

Аснаўная маса гэтых зьвяроў — гэта расьлінаеды вялікага складу і дужасьці, здольныя да хуткага руху з аднаго месца на другое. Халодны клімат забясьпечваў іх у вялікай меры перад небясьпечнымі дзярунамі, як ільвамі, тыграмі, лямпартамі і ім падобнымі. Гэты мамэнт важны дзеля зразумленьня жыцьця першабытнага чалавека ў пасьляледавіковай Эўропе. Паймен-на першабытны чалавек займаўся лоўляй гэтых зьвяроў. Прымітыўныя ягоныя прылады, як камень, калок ці астрыё з косьці змушалі яго паляваць на вялікіх зьвяроў, якіх можна было нагнаць на абрывы рэкаў, на скалы і г. п., і гэткім спосабам здабыць сабе ежу на даўжэйшы час. Паляваньне на малых зьвяроў, прыкладам на зайцоў, зусім яму не аплачвалася і часта пераходзіла ягоныя магчымасьці, дзеля большага спрыту зьвяроў.


*Каменныя прылады эпохі палеаліту*

Такім чынам з адыходам ледавіка на поўнач пасоўвалася за ім расьліннасьць, за ёю расьлінаедныя зьвяры, а за імі чалавек, пакуль ён не дайшоў да паўночнага Скандынаўскага ўзьбярэжжа. Тут, калі ўжо не хапала зьвяроў, прымушаны быў карміцца вустрыцамі (мушлямі), якіх вялікія астаткі з прыладзьдзем першабытнага чалавека знойдзена на Нарвэскім пабярэжжы.

Час існаваньня кліматычных пераменаў і ледавікоў у Эўропе розныя вучоныя абазначаюць па-рознаму. Адныя лічаць на

50—60 тысячаў гадоў, іншыя на меншую або большую колькасьць. Швэцкі вучоны архэалёг і гэалёг Дэ Гээр (De Geer) падае храналёгію на аснове назіраньняў рэкаў на ўсходнім узьбярэжжы Швэцыі ад Схонэн да Упсалі, а пайменна на аснове штогодніх наносаў, якія пакідаюць рэкі на верхнім слаі зямлі. Ён вылічыў, падобна як аблічаюць век дрэваў па колькасьці слаёў, што гэтая прастора (ад Схонэн да Упсалі) ад часу адыходу апошняга ледавіка мае 5000 гадоў. Такім чынам прыблізна за 3000 гадоў да нараджэньня Хрыста магчымае было зьвярынае і чалавечае жыцьцё у басэйне Балтыцкага мора.

***

З кароткага вышэй пададзенага агляду эпохі ледавіка ў Эўропе вынікае, што ягоны абсяг на паўдні абымаў не ўсяю прастору Эўропы, прыкладам паўдзённая частка Расеі, Украіна, Балканскія краіны, Італія, Францыя, Пірэнэйскі поўабток, часткова Бэльгія і паўдзённая Англія не былі занятыя зусім ледавіком, а ў Міндэль-Рыскім (Mindel-Riss) цёплым пэрыядзе ледавік знаходзіўся на Паўночным акіяне. Такім чынам магчымае было зьвярынае і чалавечае жыцьцё ў Нямеччыне, Англіі, Бэльгіі, Галяндыі, Украіне, паўдзённай Польшчы і нават паўдзённай Крывіччыне.



*Неандэрталец (рэканструкцыя)*

Архэалягічныя знаходкі поўнасьцю пацьвярджаюць вышэй сказанае. Найстарэйшыя знаходкі сьлядоў першабытнага чалавека з дылювіяльнай фармацыі перад ледавіком знойдзена ў Дардоні (Dordogne),



*Неандэртальцы ў вогнішча*

у паўдзённай Францыі, уздоўж ракі Вэзэрэ і яе бочных прытокаў, якія ўрэзваюцца глыбока ў вапнёвыя залежы, твораны шматлікія пячэры і падзеленыя ходы. У гэтых лёхах жыў першабытны чалавек і пакінуў па сабе каменныя прылады, астаткі ежы, вогнішча, а на сьценах пячэраў малюнкі розных зьвяроў, як сьвіньні, зубра, рэна[3], мядзьведзя, мамута, ільва і іншых, а таксама шалашоў. Апрача гэтага знойдзена там косьці чалавека, мамута, рэна і іншых зьвяроў. Косьці зьвяроў з цёплых краінаў і іх малюнкі ды малюнкі шалашоў сьведчаць, што чалавек жыў тут у цёплыя пэрыяды, а косьці і малюнкі зьвяроў, характэрныя для халоднага клімату, сьведчаць зноў аб жыцьці чалавека ў часе трываньня ледавіка на поўнач ад Альпаў і Карпатаў.

Падобных стаянак першабытнага чалавека з ледавіковай эпохі і міжледавіковых пэрыядаў знойдзена шмат у розных краінах, як у Гішпаніі, Партугаліі, Бэльгіі, Нямеччыне, на Балканах, на Украіне, у Англіі, Польшчы. З міжледавіковага пэрыяду знойдзена таксама некалькі стаянак першабытнага чалавека

[3] Рэн — паўночны алень. — *Рэд.*

і ў Крывіччыне, дзьве з іх пад наносам пяскоў 5—6 м таўшчыні, адна ў вёсцы Бердыжа на рацэ Сож, другая ў Юравічах на рацэ Прыпяць, далей у вёсцы Елісевічы каля Смаленска (з канца ледавіка), Косьценках, Гагарыне і іншых. На стаянках у Бердыжы і Юравічах ня знойдзена астаткаў жыльля ані чалавечых косьцяў. Дзеля адсутнасьці на Крывіччыне прыродных пячэраў, чалавек у цёплыя пэрыяды будаваў шалашы на паверхні зямлі, а ў часе холаду жыў у зямлянках. Сьляды гэткай зямлянкі знойдзена ў Елісевічах. На ўсіх стаянках была вялікая колькасьць каменнага прыладзьдзя, і часткі зброі (каменныя насадкі да стрэлаў) ды мноства косьцяў мамутаў (у Бердыжы каля 60 мамутаў, мядзьведзяў, зуброў, коняў, кароваў і іншых, пераважна расьлінаедаў, што сьведчыць аб іх паходжаньні з Вюрмскага халоднага пэрыяду).

У басэйне Балтыцкага мора дасюль ня знойдзена сьлядаў чалавека з ледавіковай эпохі, а першыя з іх адносяцца да пасьляледавіковага пэрыяду і сягаюць прыблізна 2500 год перад нараджэньнем Хрыста.

На аснове знойдзенага прыладзьдзя, астаткаў ежы, касьцей зьвяроў, упрыгожаньня, знойдзеных малюнкаў, уладжаньня стаянак і іншага можна ўстанавіць матэрыяльную і духовую культуру найстарэйшых жыхароў Эўропы, а на аснове антрапалягічных памераў шкілетаў, чэрапаў ды розных астаткаў косьцяў першабытнага чалавека ў спалучэньні з праявамі ягонай матэрыяльнай і духовай культуры даведацца аб яго паходжаньні.

Матэрыяльную культуру ледавіковага пэрыяду прынята называць палеалітам або старакаменнай парой (ад грэцкага слова παλαιός і λίθος — стары камень), а гэта таму, бо чалавек у той час умеў карыстацца каменем як аснаўным сродкам і прыладзьдзем да абароны, барацьбы, працы і вырабу іншых прадметаў з дзерава. Палеаліт трываў даволі доўга, некалькі тысяч гадоў, і падзяляюць яго на галоўныя два пэрыяды: старэйшы і маладзейшы палеаліт.

Старэйшы палеаліт панаваў амаль да канца Міндэль-Рыскага, цёплага пэрыяду. Маладзейшы палеаліт — у Вюрмскім пэрыядзе. У старэйшым палеаліце чалавек карыстаўся прыладамі з неацёсанага каменя; у маладзейшым — з каменя і косьцяў (ха-

рактэрныя іголкі з косьці да шыцьця скураной вопраткі дзеля забясьпечаньня перад холадам).

Археалёгія падзяляе далей старэйшы палеаліт на тры пары: Шэльскую (Chellaon), Ашэльскую (Acheul) і Мусціерскую (le Moustier) — ад назоваў францускіх мястэчкаў, дзе былі знойдзеныя косьці і прадметы, розьнячыся між сабой. Шэльская пара адносіцца толькі да Францыі і Заходняй Эўропы; Ашэльская сягае далей да Бэльгіі і паўдзённай ды заходняй Нямеччыны; Мусціерская амаль да ўсяе Эўропы.

Маладзейшы палеаліт падзяляецца таксама на тры пары: Арыньянскую (Aurignace), Салютрэйскую (Solutre) і Магдаленскую (Magdalene). Назовы гэтыя, так як і для старэйшага палеаліту, узятыя ад назоваў францускіх мястэчкаў, дзе былі знойдзеныя каменныя прылады, вырозьніваючыся тэхнікай свайго вырабу.



*Фігурка жанчыны, зробленая з камня (стаянка Касценкі каля Варонежу)*

Каменныя вырабы старэйшага палеаліту былі зробленыя з крэменя ў выглядзе клінкоў, якімі можна было лепш, чымся гладкім каменем, забіць зьвяра, абдзерці яго са скуры, парэзаць мяса і г. д. Аднак жа ўжо ў Мусціерскую пару чалавек навучыўся вырабляць тонкае і вострае прыладзьдзе, як нажы, скрабачкі, шылы, ножыкі да скрабаньня косцяў і вырэзваньня зь іх фігурак чалавека і зьвяроў, якія таксама знойдзены ў старых стаянках[4].

Калі возьмем пад увагу з аднаго боку кірунак пасоўваньня чалавека на звальняную ледавіком прастору ў часе палеаліту,

[4] У Крывіччыне гэта ў Елісевічах, Косьценках і Гагарыне.

а з другога боку параўнаем знойдзеную культуру на прасторы Эўропы з культурамі суседніх кантынэнтаў, то выяўляецца два аснаўныя кірункі прыходу сюды чалавека. Першы, старэйшы, паўдзённы кірунак з Афрыкі, і другі, маладзейшы, са Усходу, з Азіі.

Тая самая культура, якая разьвівалася ў паўночнай Афрыцы, характэрная і для паўдзённай і заходняй Эўропы амаль для ўсяе ледавіковай эпохі.

Пад канец старэйшага палеалітычнага пэрыяду, здаецца, наступіла новае ахаладненьне клімату, што ўстрымоўвала беспасрэдны прыход людзей з Афрыкі і давала пачаткі для фармаваньня самастойнасьці Эўропы. Міма цесных сувязяў культуры ашэльскай з папярэднім пэрыядам, прадстаўляе яна сабой і самастойныя рысы. Што клімат панаваў у гэтым часе халодны, сьведчаць знойдзеныя косьці мамута, сібірскага насарожца, бізона, мядзьведзя, замест ранейшых ільва, слана, гіпапатама ды малюнкі шалашоў у пячорах. Насельніцтва гэтай культуры пранікае далей на ўсход, углыбкі эўрапэйскай прасторы, да Швайцарыі (з Італіі), паўдзённай Нямеччыны, Чэхаў і Польшчы ды далей на ўсход на Украіну. Сувязь з культурай Афрыкі яшчэ і надалей трывае.

Толькі ў трэйцім (мусціерскім) пэрыядзе наступае тварэньне самастойнай культуры, незалежнай ад Афрыкі. Сталася гэта таму, бо ў гэтым пэрыядзе маем далейшае ахаладненьне, якое зьмяніла ранейшы стэп у тундру. Чалавек прымушаны быў зьмяняць дасюлешні спосаб жыцьця: адзявацца, шыць вопратку са скураў, тварыць больш ёмкія і вострыя прылады з крэменя, як нажы, скрабачкі, іголкі, астрыі як наканечнікі да сваей зброі, ды замест ранейшых шалашоў шукаць сховы перад холадам у пячэрах і зямлянках, бо хоць даўней ведамы быў яму агонь, на адкрытай прасторы не даваў яму патрэбнага забясьпечаньня перад холадам. Ва ўсіх трох пэрыядах старэйшага палеаліту чалавек аднак ня ўмеў яшчэ абрабляць каменьня, яго выгладжваць і рабіць у ім дзіркі. Ня былі таксама ведамыя вырабы з гліны.

Із знойдзеных прыладаў, спосабу жыцьця і паховінаў можна зрабіць некаторыя вывады адносна ягонага сацыяльна-

га і духовага жыцьця. Усё даказвае, што чалавек старэйшага палеаліту быў паляўнічым і намадам /вандроўнікам. — *Рэд.*/. Карміўся мясам вялікіх зьвяроў расьлінаедаў, якіх напатыкаў у стэпе і тундры. З дзярунамі, як пячэрныя мядзьведзі і львы ды гіены, прыходзілася змагацца галоўным чынам за заваloданьне пячэрамі, дзе гэтыя зьвяры прабывалі. Займаўся таксама лоўляй рыбы, аб чым сьведчаць рыбалоўныя гачыкі. Жыў невялікімі грамадамі, якія больш адказвалі гэткаму спосабу жыцьця. Падобна жывуць яшчэ сёньня найбольш прымітыўныя плямёны сярэдняй Афрыкі, некаторых выспаў на Індыйскім і Спакойным акіянах. Характэрным ёсьць спосаб пахавінаў у стаянцы палеалітычнага чалавека ў сьпячым палажэньні з прыладамі і ўпрыгожаньнямі, якія ён меў за жыцьця і ў тым месцы, дзе жыў чалавек, што абазначае ягоную веру ў пасьмертнае жыцьцё і культ продкаў.

Што да расавага паходжаньня палеалітычнага чалавека ў Эўропе, то былі дасьледаваныя косьці і шкілеты з мусціерскага пэрыяду, як найстарэйшыя дасюль знойдзеныя ў Эўропе, якія пацьвярджаюць таксама цьверджаньне, што палеалітычны чалавек належаў да чорнай расы і прыйшоў з Афрыкі.



*Малюнак рэнаў на сьцяне пячоры поруч Лурда (Францыя)*

Пайменна ў 1856 г. у даліне Нэандэрталь каля Дортмунду ў Нямеччыне пры раскопках быў знойдзены некамплетны і моцна зьнішчаны шкілет палеалітычнага чалавека. Спачатку некаторыя вучоныя, як напрыклад Вірхоў (Virchow), дапускалі, што гэта астаткі паталягічнага першабытнага чалавека, якія ня могуць служыць дастатковым матэрыялам да вывадаў аб расавым складзе дылювіяльнага насельніцтва Эўропы. З прыбліжаных аблічэньняў вынікала, што гэты чалавек быў ростам каля 1,60 м, чэрап

меў даўгі з нізкім і назад пахіленым лобам і зусім неразьвітай косьцяй барады.

Хутка аднак зьмяніліся погляды вучоных, калі былі знойдзеныя далейшыя шкілеты ў іншых мясцовасьцях. І так у 1900 г. у пячэры каля Крапіны былі знойдзеныя падобнага складу шкілеты, далей у 1908 і 1909 гг. у Краманьён (Францыя), Брун (Нямеччына), Спай (Бэльгія) і Голі Гіл (Англія), якія падмацавалі погляд, што ў палеалітычную пару гэтая прастора была заселена насельніцтвам з расавымі прыкметамі знойдзеных прадстаўнікоў. Называюць яго нэандэртальскай расай (Homo neandertalensis), раней таксама Homo primigenius.

Знаходкі гэтай расы, выяўленыя на тэрыторыі Гішпаніі, Францыі, Бэльгіі, Нямеччыны, Чэхаў, Краацыі /Харватыі. — *Рэд.*/ і Палястыны, адносяцца ўсюды да мусціерскай пары. Homo neandertalensis па сваім складзе блізкі да знойдзенага на высьпе Ява ў 1909 г. прымітыўнага шкілету, т. зв. Piteacantropus erectus, блізкага да гарылы (малпы), што дало нават аснову да падмацаваньня тэорыі аб паходжаньні малпы (чалавекападобнай) і чалавека ад супольнага прататыпу.

Не знаходзіцца ў нашым абсягу зацікаўленьня разгляд правільнасьці ці няправільнасьці гэтай тэорыі. Нас цікавіць адно, што знаходкі ў Эўропе, на Яве і Афрыцы належаць да аднаго антрапалягічнага кругу. Ці гэта была самастойная і чыстая раса, ці скрыжаваньне зь іншымі расамі, існуючымі на той самай прасторы, нельга акрэсьліць. У кажным выпадку зусім магчымае скрыжаваньне, якое наглядаецца на ўсёй прасторы зямной кулі ў найдаўнейшыя і цяперашнія часы.

Аб афрыканскім паходжаньні палеалітычнага насельніцтва ў Эўропе сёньня няма ніякага супраціву ў антрапалёгіі. Чэкаcноўскі (Jan Chekanowski) навязвае гэтую расу да тыпу афрыкааўстральскага, падкрэсьліваючы распаўсюджаньне яго таксама ў Аўстраліі. Зусім амаль пэўным з'яўляецца, што нэандэртальскі чалавек належаў да чорнай расы. Сведчыць аб гэтым блізкі анатамічны склад яго да чорнай расы, супольнасьць матэрыяльнай і духовай культуры і той факт, што ў часы палеаліту ўся Афрыка была заселеная чорнымі, інакш як у пазьнейшых часох ды сёньня. Ізаляцыя чорнага кантынэнту наступіла ў выніку

пацяпленьня ў нэалітычныя часы і паўстаньня пустыні Сахары ды заняцьця паўночнай Афрыкі белымі.

Нэандэртальская раса доўгі час трымалася ў Эўропе. Сведчаць аб гэтым знаходкі з пазьнейшага пэрыяду. Шлягінгаўфэн (Schlaginhaufen) знайшоў каля Люцэрны з канца маладзейшага палеаліту (Магдаленскі перыяд) і пачатку нэаліту шкілеты, якія мелі характэрныя рысы нэандэрталёідаў. Міма пазьнейшага памяшаньня расаў на аснове закону Мэндэля (у выніку прыбыцьця ў Эўропу іншых расавых групаў), сьляды нэандэртальскай расы Вільсэр (Wilser) бачыць у фрызаў, Грант (Grant) у ірлянцаў, Лёмброзо (Lombroso) у прыродных праступніках (злачынцах).

З гэтага самага часу, што паходзіць нэандэртальская раса, знойдзены шкілет у пячэры каля Mentogne (Францыя), які сваімі прыкметамі поўнасьцю падобны да чорнай расы і гэтым яшчэ больш падмацоўвае вышэй сказанае аб афрыканскім паходжаньні насельніцтва заходняй Эўропы ў часы палеаліту. Мэнтонскі чалавек (Grimaldi rasse) быў сярэдняга росту, доўгагаловы, шырокага твару з моцна высунутай ніжняй сківіцай ды слаба зазначанай барадой, плоскім і шырокім носам, ён меў асабліва даўгія канцавіны. Вэрт (Werth) прыпісвае яму пакручастыя валасы. Сьляды гэтых старых расаў з часоў палеаліту відавочныя і сёньня ў заходняй Эўропе: у Італіі, Францыі, у Гішпаніі і Партугаліі ў цёмнай пігмэнтацыі скуры, цёмных вачах, доўгагаловасьці, ніскім або сярэднім росьце і па-



*Чалавек грымальдзійскай расы (рэканструкцыя)*

кручастых чорных валасох ды нахіласьці ў вялікім працэнце да праступстваў.

Як ужо было сказана раней, з часоў старэйшага палеаліту на тэрыторыі Крывіччыны і ў басэйне Балтыцкага мора ня знойдзена сьлядоў чалавечых шкілетаў. У Крывіччыне знойдзеныя толькі ў палеалітычных стаянках косьці тундравых зьвяроў і каменнае прыладзьдзе з часоў маладзейшага палеаліту. Гэта сьведчыць, што ў старэйшым палеаліце праўдападобна ня было насельніцтва на нашай тэрыторыі і прыбалтыцкіх краінах. Такім чынам чорная раса тыпу нэандэртальскага ці мэнтонскага чалавека сюды не сягала, бо ня было спрыяльных умоваў да жыцьця, і не тварыла расавага субстрату для насельніцтва белай расы, як гэта было ў заходняй Эўропе.

У часы маладзейшага палеаліту пачаўся другі кірунак паходу людзей з Усходу, з Пярэдняй Азіі на эўрапэйскую прастору. Гэты чалавек вырозьніваўся рэзка ад нэандэртальскага і мэнтонскага прадстаўніка заходня-эўрапэйскага насельніцтва сваім складам і сваёй культурай. Знойдзеныя шкілеты ў Aurignace, Combe-Capelle, Bruex і Bruenn далі аснову да цьверджаньня, што ў Эўропу з паўдзённага ўсходу прыйшла новая раса, названая ад першай знаходкі арыньяцкай расай (Homo aurignacensis).



*Чалавек арыньякскай расы (рэканструкцыя)*



*Малюнкі рэнаў і канёў перыяду Арыньяк-Мадлен у пячоры Камбарэль (дэпартамэнт Дардонь, Францыя)*

Характэрныя прыкметы знаходак: сярэдні рост (1,60 м), худашчавы склад, стройныя канцавіны, падобныя да сучаснага чалавека, вялікая доўгагаловасьць, нос плоскі і шырокі, барада слаба зазначаная. У параўнаньні да нэандэртальскага тыпу гэтая раса так сваім чэрапам, як і ўсім складам зусім блізкая да сёньняшняга тыпу міжземнаморскага (італьянцаў, французаў, гішпанаў, грэкаў). Вэрт, Клаач, Коссінна, Фішэр, Чэканоўскі і іншыя антрапалёгі ўважаюць, што гэта былі прадстаўнікі белай расы, паводля Вэрта, з фалістымі цёмнымі валасамі і цёмнай пігмэнтацыяй вачэй.

Арыньяцкая раса прынясла з сабой новую матэрыяльную і духовую культуру вышэйшай ступені. Знаходкі каменнага прыладзьдзя характэрныя лепшай апрацоўкай самага каменя, сярод якіх вырозьніваюцца нажы, скрабачкі, шылы, наканечнікі да кап'я і стрэлаў. Апрача каменя ўжываецца як матарыял да вырабу розных прадметаў косьць і рог, чаго не сустракалася ў старэйшым палеаліце.

У Эўропе арыньяцкая культура найбагацей выступае на тэрыторыі Францыі і прыдунайскіх краінаў. Сваім абсягам абдымае таксама Галіччыну, Валынь і Палесьсе ды Чарнігаўшчыну. У Польшчы — ваколіцы Кракова і Айцова.



# Глава 2
# НОВАКАМЕННАЯ ЭПОХА

У наступным пэрыядзе маладзейшага палеаліту, у солютрэйскім, яшчэ халодным, Прыбалтыка і паўночная частка Крывіччыны была пакрытая ледавіком, а значыць ня мела спрыяльных умоваў для чалавечага жыцьця. У гэтым пэрыядзе паявіліся ў Эўропе, незанятай ледавіком, новыя людзі з сярэдняй Азіі. Знойдзеныя чэрапы гэтых людзей у Бэльгіі, Нямеччыне, Англіі, Гішпаніі і Партугаліі характарызуюць іх як кароткагаловых (круглагаловых) з круглым лобам, нізкім і шырокім тварам, кароткім і шырокім носам, няшмат выстаючымі сківіцамі, невысокага росту, з кароткімі канцавінамі пры непрапарцыянальна доўгім тулаве. Антрапалёгія бачыць у гэтых прыкметах супольнасьць з мангольскай расай.

Распаўсюджанасьць гэтай кароткагаловай расы абдымае сярэднюю Азію аж да Спакойнага акіяну, а на захадзе энклявы яе пранікаюць галоўным чынам уздоўж эўрапэйскіх узвышшаў (Карпатаў, Судэтаў, Альпаў, Пірэнэяў) далёка на захад і поўнач Эўропы. Досьледы над групамі крыві, а пайменна выяўленьне групы, характэрнай для мангалёідаў, пацьвярджаюць вышэй сказанае.

Гэта былі людзі намадзкага тыпу, у аснаўным паляўнічыя рэнаў, паўночных аленяў, горных козаў і мядзьведзяў. Шлях іх

паходу вызначаецца ўздоўж Чорнага мора, Карпатамі і Альпамі, а з адсюль, як з выхаднай прасторы, пранікнулі яны далей у Пірэнэі, Вагезы і Ардэны, паўночную Францыю, Бэльгію, Галяндыю і Данію, Швэцыю, Нарвэгію. Археалягічныя знаходкі з канца палеаліту і мэзаліту (пераходны пэрыяд між палеалітам і нэалітам пасьля адыходу ледавіка) даюць вельмі шмат доказаў адносна шляху пасоўваньня гэтай расы. Праўдападобна да часткі гэтай групы людзей адносіцца запіска Ю. Цэзара ў кнізе «De bello Gallico» (Гальская вайна), дзе ён успамінае, што на Рэйне пры вусьці Шэльды жыве нейкі народ, не гэрманскага і не кельцкага паходжаньня, які займаўся лоўляй рыбаў і вышукваньнем птушыных яек. Некалькі стагодзьдзяў пазьней Людвік Набожны патрабаваў ад Утрэхтскага біскупа спэцыяльнай місіі для вострава Вальхэр, дзе жыло дзікае насельніцтва[5].

На ўсёй гэтай тэрыторыі яшчэ сёньня (асабліва ў горах) сустракаецца насельніцтва зь вялікім працэнтам усходняй расы або зь вялікімі прыкметамі гэтай расы. Як даказваюць знаходкі месца жыхарства гэтых людзей у Швайцарыі з часу раньняга нэаліту, яны ўмелі будаваць на возерах асады з дрэва (палікавыя асады). Там жа знойдзеныя пры гэтых асадах шкілеты з прыкметамі мангалёідаў, насеньне збожжа, каменнае прыладзьдзе і прымітыўныя гліняныя гаршкі, што сьведчыць аб іх пераходзе з намадзкай на земляробскую культуру.



*Краманьёнскі чалавек*

У гэтым самым адрэзку часу, што і кароткагаловая ўсходняя раса, паявілася

[5] Людвік Набожны (Lois le Pieux), сын Карла Вялікага, у 781—814 гг. быў каралём Аквітані, а ў 814—840 гг. імпэратарам франкаў. — *Рэд.*

ў Эўропе насельніцтва, названае ад першай знаходкі у 1868 г. у пячэры Краманьён (Cro-Magnon, Францыя) краманьёнскай расы. Прыйшло яно таксама з усходу. Адзначалася высокім ростам (1,80 м), моцнай фізычнай будовай, з прыгожым чэрапам, зусім блізкім да сучаснага эўрапэйца, тварам сярэднешырокім, глыбока асаджанымі вачыма, кароткім, абрывістым лобам ды выразна зазначанай барадой. Далейшыя знаходкі ахапляюць: Францыю, Бэльгію, Аўстрыю, Галяндыю, Паўночную Нямеччыну, Польшчу, Данію і Скандынавію.

Разам з шкілетамі гэтых людзей выступаюць шкілеты мамутаў, рэнаў і іншых паўночных зьвяроў, што даказвае, што яны пасоўваліся на поўнач за ледавіком і карміліся мясам траваедных зьвяроў. Таму называюць гэтых людзей паляўнічымі рэнаў. Гэтая група, здаецца, займала ў часы малодшага палеаліту і мэзаліту прастору Крывіччыны і ўсёй Прыбалтыкі. Прынясла яна вышэйшую культуру, якая праяўляецца ў лепшых каменных вырабах, уменьні ляпіць з гліны прымітыўнае пасудзьдзе, шыць вопратку і рабіць з косьці розныя прылады.

***

Назоў новакаменнай эпохі, або нэаліту, узяты, таксама як і папярэдняй, ад тэхнікі вырабу прыладзьдзя. Аснаўным матарыялам ёсьць і надалей крэмень, рог і косьць, а толькі пасьля і мэталы, якія будуць пераходам да наступнай мэталёвай эпохі. Новае слова ў тэхнікі гэтай эпохі ёсьць умеласьць выгладжваньня або ашліфоўкі каменя на ўсёй яго паверхні. Далей чалавек навучыўся вярцець дзіры ў камені і да каменных прыладаў прыладжваць чаранкі, перапілоўваць камень, ткаць, апрацоўваць зямлю, з гліны рабіць рознае пасудзьдзе і будаваць для сябе жыльлё.

Разам з гэтым асвоіў першых хатніх зьвяроў, патрэбных ня толькі да ежы, але як цяглую сілу да апрацоўкі зямлі і аховы свае гаспадаркі. Да найраней асвоеных зьвяроў належыць сабака, які ня толькі старажыў хату чалавека, але служыў яму выдатна ў часе паляваньня й ловаў. Далей сьвіньні, авечкі і козы, рагатая жывёла і конь. Усе яны паходзяць з Азіі, што паказвае на кірунак прыходу новых людзей з новай, няведамай ва Эўропе культурай.

Аднак нельга звужваць руху белага чалавека выключна да кірунку паўдзённа-ўсходняга ці ўсходняга.

Розныя расы белага насельніцтва ў нэаліце праявілі велізарную пружкасьць па Пярэдняй Азіі ва ўсіх кірунках, ахапляючы прастору Індыі, Паўночнай Афрыкі, паўдзённай і заходняй Эўропы. Сьляды гэтага паходу знаходзім у розных расах хатняй жывёлы і гатунках расьлінаў, якія паходзяць часткова таксама з Індыі і Афрыкі, ды ў параўнаўчай лінгвістыцы.

Параўнаўчая лінгвістыка дае доказы аб існаваньні чатырох выхадных моўных групаў у пярэдняй Азіі сярод белага насельніцтва. Гэтыя групы завалодалі ў эпоху нэаліту велізарным прасторам Азіі, Афрыкі і Эўропы і стварылі цывілізацыйныя цэнтры, якія прамянявалі сваёй культурай на іншыя краіны старога сьвету. Да гэтых групаў належаць: дравідская, хаміцка-сэміцкая, іранска-каўказкая і індаэўрапэйская.

Творам дравідаў была адна з найстарэйшых цывілізацыяў сьвету ў ніжнім цячэньні ракі Інду, ведамая пад назовам Мохенджо Даро (Mohenjo Daro) ад галоўнага свайго асяродка. Ужо каля 3400 гадоў перад Хрыстом яна стаяла на вялікім культурным узроўні і можа быць параўнаная да падобнай цывілізацыі Сумэру ў Мэзапатаміі і з цывілізацыяй Эгіпту. Адкрыцьцё Mohenjo Daro дае асновы да дапушчэньня, што і цывілізацыя Сумэру ў Мэзапатаміі была



*Прадстаўнікі хаміта-сэміцкай расы*

творам дравідаў, тым больш, калі яна ня была ані сэміцкай, ані індаэўрапэйскай, ані каўказскай. Дравідыйскія мовы сёньня існуюць галоўным чынам у паўдзённа-ўсходнім Дакане і каля Кэляту ў Бэлюджыстане, як востраў астаўшыся з старадаўнага дравідыйскага прастору. Такім чынам група дравідаў із свае прабацькаўшчыны ў паўночна-заходняй частцы Пярэдняй Азіі праз Пэрсію завалодала паўдзённа-ўсходнім прасторам Азіі, стварыла цывілізацыйныя цэнтры і адсюль аддзейнічывала на далейшыя прасторы, на паўночную Афрыку і паўдзённую Эўропу.

Да іранска-каўказкай групы належалі старадаўныя народы, якія таксама належалі да кругу цывілізацыі сумэра-акадзкай і карысталіся кліновым пісьмом ды сядзелі ў міжрэччы Тыгру і Эўфрату (Хальды, Субары, Кашыты і Эламы), а таксама ў Малой Азіі (Пратагэты, Лыкі, Кары і Ліды). Гэтая прастора з-над верхняга Тыгру і Эўфрату лучылася беспасрэдна з Каўказам, дзе пасёньня існуюць шматлікія каўказкія мовы (Грузіны, Лазы, Мінгрэлы, Абхазы, Чаркесы, Чачэнцы, Дагестанцы, Самурцы і г. д.); лік іх пераходзіць за 50.

Іранска-каўказкая група адыграла вялікую ролю ў засяленьні Эўропы ў басэйне Міжземнага мора і стварэньні асноваў эўрапэйскіх культурных старых цэнтраў. Іхняя міграцыя ішла з Малой Азіі праз Кыпр (Cyprus), Эгэйскія астравы, Крэту да Грэцыі, Італіі, Гішпаніі, Францыі і далей на поўнач і адносіцца на 3000 г. перад Хрыстом. Яны, г. зн. іранска-каўказкія мігранты, стварылі слаўную крэтанска-эгэйскую культуру, якой найбольшае разьвіцьцё прыпадае на 2500 год перад Хрыстом. У Грэцыі каўказкія пэлазгі далі асновы вялікай будучыні гэтай краіны, так як на Апэнінскім паўабтоку таго-ж паходжаньня лігуры. Іранска-каўказкія плямёны завалодалі таксама Ібэрыйскім паўабтокам, дзе каля 3000 г. паўстае альмерыйская культура нэаліту, як напластаваньне на даўнейшую мяшаную культуру белага і чорнага насельніцтва, на так званую капсійскую культуру[6]. З культуры нэаліту разьвілася пазьней культура бронзы на гэтай жа прасторы. У сярэдняй Гішпаніі міжземнаморская і

[6] Капсійская культура была распаўсюджана ў Паўночнай Афрыцы і Усходняй Гішпаніі. Яе назоў паходзіць ад стаянкі Капсы ў сучасным Тунісе. — *Рэд.*

каўказкая група творыць т. зв. культуру званаватых чашаў, засяг якіх даходзіць на ўсходзе аж да Буга.

З мяшанай культуры хаміцкай (аб чым ніжэй) і ібэрыйска-каўказкай паўстала культура мэгаліту, характэрная ўжываньнем у будаўніцтве вялікіх каменных плітаў, шлях якой вызначаецца ад Міжзе́мнага мора праз заходнюю Эўропу аж да Ірляндыі. Асабліва характэрнымі пакажьнікамі гэтага шляху з'яўляюцца круглыя дамы і круглыя магілы (на ўзор дамоў), паховіны памёршага ў памяшканьні ў сьпячай пазыцыі. Шухардт (Carl Schuchardt) уважае, што дольмэны, мэнгіры (каменныя магілы з плітаў і вялісныя каменныя помнікі) залічыць трэба да кругу мэгалітнай культуры, творцам якой была т. зв. заходняя раса, або спалучэньне міжземнаморскіх элемэнтаў з ібэрыйскімі. Сьляды гэтай культуры знаходзім, пачынаючы ад Швэцыі, у Даніі, Паўночнай Нямеччыне, Бэльгіі, Англіі, Заходняй Францыі, Партугаліі, Гішпаніі, Мароку, Альжыры, Тунісе, Кырэнайцы /у сучаснай Лібыі. — *Рэд.*/ і Палестыне. Некаторыя ўплывы гэтай культуры выступаюць і на ўсходзе Эўропы, пайменна на Паморы, Прусах, Заходняй Крывіччыне і на Валыні ў культуры г.зв. каменных скрыняў, дзе хаваліся памёрлыя, аб чым будзе ніжэй.

З мешаніны міжземнаморскай каўказкай групы з існуючым насельніцтвам на Ібэрыйскім поўабтоку паўстаў народ ібэраў. Назоў гэты абазначаў калісьці каўказцаў над ракой Рыён (грузінаў) і як такі паўтараецца доўга ў старых крыніцах аж да Іардана (Jordanis, Jordanes) у VI ст. Сярод насельніцтва поўабтоку, відавочныя таксама ўплывы армянскія (дынарскія, аб чым ніжэй). Перш за ўсё мова сёньня-



*Жанчына старажытнай іберскай расы*

шніх баскаў, як востраў між раманскімі мовамі, выяўляе сувязь з мовамі паўночнага Каўказу. Дыялекты іберo-баскійскія праз заходнюю Францыю даходзілі да Англіі і Ірляндыі, а як дыялекты піктаў і каледонаў утрымаліся ў Шкоцыі /Шатландыі. — *Рэд.*/

Пад канец другога тысячагодзьдзя перад Хрыстом адбылася другая экспансія каўказцаў. Ва ўсходняй частцы міжземнаморскага басэйну выявілася ведамымі ў Эгіпце рухамі «марскіх народаў», а ў заходнім кірунку — у форме міграцыі этрускаў. Гэтым разам каўказцы завалодалі паўночнай Італіяй і стварылі тут свае гаспадарства (X—IX ст.), пашыраючы свае ўплывы на ўвесь Апэнінскі поўабток. У гэтым часе паўсталі этрускія дыялекты Сардыніі, а на поўначы дыялект Рэтрыі.

Каўказская група прынясла з сабой высокую земляробскую культуру, спалучаную з аселым жыцьцём і будаўніцтвам селішчаў і гарадоў. Сацыяльнай формай жыцьця быў матрыярхат. Сьляды яго сустракаем ва ўсіх краінах, занятых каўказцамі, а таксама ў Малой Азіі (Лікургіі), у Грэцыі перад прыходам гэленаў, у этрускаў, у піктаў у Шкоцыі. У баскаў (Гішпанія) утрымаўся аж да сёньня звычай, паводле якога дом пераходзіць не на найстарэйшага сына, але на найстарэйшую дачку.



*Сучасныя мужчыны каўказскай расы.*
*Злева направа: два курды, кабардынец, чачэнец*

З антрапалягічнага пункту гледжаньня каўказская раса прадстаўляе сабой тып сярэднягаросту, худашчавага твару з слаба зазначанай барадой, носам вузкім з высокай асадай, доўгагаловы з цёмнымі або чорнымі валасамі, глыбокаасаджанымі цёмнымі вачыма і бронзавай пігмэнтацыяй скуры. Гэткі тып сустракаецца і на усёй славянскай прасторы, але гэтае з'явішча зьвязанае з пазьнейшымі міграцыямі і мешанінай насельніцтва.

Другая группа, хаміцка-сэміцкая, праявіла сваю экспансію галоўным чынам на паўночную Афрыку. У той час, калі ў Эўропе высыхала мокрая тундра як апошні сьлед ледавіка і эўрапэйская прастора зьмянялася ў стэп, а потым зарастала лесам, аднача-сова плоскаўзвышша Сахары зьмянілася ў пустыню і гэтым разьдзяліла чорны кантынэнт Афрыкі ад Эўропы, — у паўночную Афрыку прыйшлі хаміты. Прыйшлі яны бяссумліву з Пярэдняй Азіі, як аб гэтым сьведчыць іх моўнае сваяцтва з сэмітамі. Таксама і з антрапалягічнага пункту гледжаньня хаміты і сэміты сабе блізкія, прадстаўляюць тып усходняй белай расы. Былі яны сярэднягаловыя брунэты, даволі высокага росту і худашчавага складу. Большыя разыходжаньні паўсталі пазьней, у сувязі са зьмяшаньнем з чорнай расай у Афрыцы.

Хаміты далі асновы цывілізацыйнага цэнтру ў Эгіпце, які доўгі час аддзейнічаў сваёй мэгалістычнай культурай і на эўрапэйскі кантынэнт; трэба думаць, што гэтыя ўплывы ішлі ня толькі праз культурныя зносіны з Эўропай, але шляхам беспасярэдняга праніканьня хаміта-сэмітаў у Эўропу, як гэта прадаўжалася і пазьней у форме арабскіх заваёваў[7].

Хаміты, як адна з сэміцкіх галінаў, мелі за сваю прабацькаўшчыну Арабію і суседнюю сірыйскую пустыню. Адсюль хаміты і сэміты, спачатку з пастырскай культураю разыходзіліся ў розных кірунках, а пайменна на поўнач у Сірыю і Мэзапатамію, на захад у Паўночную Афрыку праз Суэц ды ў цэнтральную Афрыку праз праліў Баб-эль-Мандэб, дзе далі асновы для паўстаньня Абісыніі. На поўначы, у Мэзапатаміі, яны зьнішчылі старую культуру дравідаў у Сумэры каля 3000 гадоў перад нараджэньнем Хрыста і на існуючым субстраце стварылі собскую ў Асірыі і Бабілёніі. Другую сэміцкую міграцыю тварылі амарыты, якія

[7] Раней адбылася з Афрыкі на Пірэнэі міграцыя бэрбэраў.

ў 3-м тысячагодзьдзі знаходзіліся ў Палестыне, а ў канцы гэтага тысячагодзьдзя ў Халдэі. Асырыйская мова паўстала такім чынам, як напластаваньне мовы заваявальнікаў аккадаў (сэмітаў) на каўказкі субстрат. У другім тысячагодзьдзі гэтую прастору займаюць групы заходня-сэміцкія (кананійцы і моабіты), у першым тысячагодзьдзі пашыраецца мова габрэйская, потым арамэйская і фэнікійская. Паўдзённыя сэміты (арабы) пара стагодзьдзяў перад Хрыстом канчаткова закончылі міграцыю хаміта-сэміцкую ў Абісынію, ствараючы асобную дзяржаву з абісынскай мовай.

Аддзейваньне культуры сэміцкіх народаў на народы Эўропы ў часы нэаліту і бронзы дасца таксама даказаць археалёгіяй. Сэміты вялі шырокі гандаль марскімі і рачнымі шляхамі з найбольш аддаленымі краінамі паўночнай Эўропы. У бронзавую эпоху ведамы фэнікійскі бурштыновы гандаль з Прыбалтыкай, а фэнікійскія манэты знойдзеныя ў Прусах, Польшчы, Прыбалтыцы і Крывіччыне.

Экспансія чацьвертай з вышэй названых, індаэўрапэйскай групы з Пярэдняй Азіі адносіцца да пазьнейшага часу, паймен-на да канца нэаліту і пачатку бронзы, таму прыйдзецца заняцца ёй крыху пазьней. Перш неабходна яшчэ спыніцца над экспансіяй армянскай групы (дынарская раса), вугра-фінскай і над культурнымі кругамі ўстужкавай, маляванай ды грэбеневай керамікі.



*Мужчына дынарскай расы*

Армянская група (дынарская раса) паявілася ў Эўропе праўдападобна ў палавіне нэаліту і прыйшла сюды з Пярэдняй Азіі, здаецца, праз Каўказ, займаючы прычорнаморскую паласу, басэйн Дуная і суседнія краіны, як Балканы, Карпаты, Альпы, Судэ-



*Паўзямлянкі-мазанкі людзей дынарскай культуры*

ты, Паўдзённую Польшчу, Сілезію, Багэмію і Маравію, Аўстрыю, Вугоршчыну, Швайцарыю, Паўдзённую Нямеччыну і часткова Францыю аж да Пірэнэяў. Із раскопак старых магілаў і на аснове вывучэньня існуючага насельніцтва армянскі тып характарызуецца высокім ростам, кароткагаловасцю, працяглым тварам з гарбатым носам, цёмнымі або чорнымі валасамі, цёмнымі вачыма і бронзавым колерам скуры. Найбольшае згушчэньне гэтага тыпу сустракаем на Украіне, на Балканах і ў басэйне Дуная. Нэалітычныя стаянкі дынарцаў найчасьцей выступаюць у суседзтве з насельніцтвам усходняй расы, мангалёідаў (альпэйская раса), што сьведчыць аб сужыцьці гэтых дзьвюх групаў.

Армянская група прынясла ў Эўропу, таксама як і іранскакаўказкая, земляробскую культуру і гадоўлю рагатай жывёлы, а што найважнейшае — медныя вырабы, як азнаку набліжаючайся ў Эўропу мэталёвай эпохі.

На Украіне, Балканах, у Швайцарыі, Чэхах і Польшчы знойдзеная вялікая колькасьць стаянак, якія належаць да дынарскага насельніцтва, на аснове чаго можна азначыць яго матэрыяльную і духовую культуру. Усюды маюцца сьляды аселага, земляробскага жыхарства, прытым на Украіне і Польшчы за хаты служылі зямлянкі, выкладаныя плеценымі галінкамі і мазаныя

глінай. Падобныя зямлянкі з наземнай надбудоўкай з гліны сустракаем у Баўгарыі і Сэрбіі. У Швайцарыі сустракаюцца характэрныя палікавыя асады /на возерах. — *Рэд.*/. На ўсёй прасторы, занятай дынарцамі, выступае маляваная кераміка. Гэта ёсьць гліняныя вырабы са сьпіральнымі, або круглымі арнамэнтамі, малёваныя жоўтай, чырвонай або белай фарбай на сьветлым ці цямнейшым фоне. Гэтыя самыя ўпрыгожаньні бываюць часта і не малёваныя, але выцісканыя паленчыкамі.

Аб духовай культуры сьведчыць пахавальны абрад шкілетных магілаў. Памёршыя хаваліся ў скорчанай пазыцыі каля хатаў разам з начыньнямі і каменнымі прыладамі. Магчыма, што знойдзеныя фігуркі людзей, лепленыя з гліны, мелі застасаваньне ў пахавальным абрадзе. Грамадзкае жыцьцё арганізованае было, так як і ў каўказцаў, на аснове матрыярхату.

У Крывіччыне маляваная кераміка дынарскага насельніцтва выступае на Палесьсі і ў Чарнігаўшчыне.

Каля 2300 г. перад Хрыстом паўночную Эўропу, пачынаючы ад Уральскіх гораў на ўсходзе аж да ракі Лабы /Эльбы. — *Рэд.*/ на захадзе, уключаючы Скандынавію і Данію, займаюць вугра-фінскія плямёны, належачыя да жоўтай расы. Іх паўдзённы засяг даходзіў да Палесься, у Польшчы да Сілезіі, а ў Нямеччыне да гораў Гарц (Harz).

Гэта былі людзі намадзкага тыпу, займаючыяся лоўляй звяроў і рыбы і пражываючыя ў лясох, чым вырозьніваліся ад іншых земляробскіх плямёнаў, насялаючых рэшту эўрапэйскага кантынэнту. Параўнаўчая лінгвістыка залічае вугра-фінскія плямёны да супольнай уральскай сям'і, да якой належалі самаеды і якуты. Гэтыя дзьве апошнія групы не адыгралі большай ролі, бо асталіся на ўзьбярэжжы Паўночнага акіяну.

З антрапалягічнага пункту гледжаньня вугра-фіны прадстаўляюць сабой т. зв. лапоідальны тып, характэрны невысокім ростам, кароткагаловасьцю, шырокім тварам з слаба зазначанай барадой, кароткім, тупым носам з плоскай асадай, цьвёрдымі цёмнымі або чорнымі валасамі, на верху асаджанымі цёмнымі вачыма і жаўтаватым колерам скуры.

З вугра-фінскай групы найранеей аддзяліліся вугры. Сёньняшняе расьсяленьне насельніцтва, належачага да сям'і вуграў,

складалася з дзьвюх далёка ад сябе распаложаных групаў. Усходнюю групу твораць вагулы на ўсходняй пахіласьці Уралу і осцякі ў прытоках Обу і Іртышу, у абодвых выпадках у межах паўночна-заходняй Азіі. Абодвыя гэтыя плямёны ўваходзяць клінам між далей на поўнач высунутых самаедаў і фінаў (на паўночны захад), а з поўдня мяжуюць з алтайскімі народамі.

У гістарычныя ўжо часы, зьмяшаўшыся з адным з тюркскіх плямёнаў, але ўтрымаўшыя сваю мову, частка гэтага племеня ўтварыла над сярэднім Дунаем і Цісай вугорскую або мадзярскую дзяржаву.

Фінскія плямёны падзяляюцца сёньня на розныя групы. Група пэрмская, якая з усходніх фінаў высунулася найдалей на поўнач, складаецца з зырянаў на стоках Урала і каля Ледавітага акіяну, воці між Камай і Волгай. Далей на поўдзень знаходзяцца чэрмісы і мардва. Заходнія фіны засяляюць сёньня прастору над Балтыцкім морам і возерамі Онегай, Ладагай і Ільменам. Сярод іх налічваецца дзевяць розных фінскіх моваў: суомі, карэльская, оланецкаю, людыйская, інгрыйская, вэпская, эстонская, ліўская і лапонская. Такім чынам сёньняшняя прастора пасяленьня фінаў, якіх славяне называлі чудзьдзю (чудзь), прадстаўляе сабой толькі невялікі кавалак аграмаднай тэрыторыі, імі займанай да прыходу індаэўрапэйцаў. Сьляды гэтай прасторы можна ўстанавіць на аснове археалягічных знаходак, як грэбеневай керамікі, магілаў з фінскай культурай, тапаграфічных назоваў, антрапалягічных і моўных уплываў на іншыя народы, якія пазьней занялі і засымілявалі гэтую тэрыторыю.



*Малады мужчына — старажытны фіна-угр (рэканструкцыя)*

Уплыў фінскага субстрату ў Скандынавіі моцна адбіўся на мове гэрманскіх плямёнаў. Моцны выдыховы націск на першым складзе слова, у супрацьстаўленьні да рухомага індаэўрапэйскага націску, ёсьць першай прыкметай уплыву фінскай мовы на мову гэрманскую. Далей рэдукцыя самагукаў у ненаціснёных складох прывяла да зьніку індаэўрапэйскай флексыі. Зьмены гэтыя і іншыя ў фаналёгіі сталіся прычынай апрычонасьці гэрманскай мовы ў параўнаньні да мовы славянаў і кэльтаў.

Уплыў фінскай мовы наглядаецца таксама на латыскую, курляндзкую і мазурскую мовы, што выражаецца ў так званым «цоканьні і саканьні».

З вугра-фінскімі плямёнамі археалёгія зьвязвае знаходкі кругу грэбеневай керамікі. Пад гэтым назовам разумеецца гліьнянае пасудзьдзе, прымітыўная прадукцыя з гліны, зьмяшанай з травой або іншай прымешкай, дрэннай якасьці з выціскаными прыладай, быццам грэбенем, паралельнымі арнамэнтамі, або такія ж арнамэнты, накольваныя паленчыкамі, або два гэтыя спосабы, спалучаныя разам.

Крыху пазьней ад экспансіі вугра-фінскай культуры, пад канец нэаліту, г. зн. каля 2000 г. перад Хрыстом, археалёгія сьцьвярджае новую інвазію людзей з культурай, якая называецца культурай вяровачнай керамікі. Назоў гэты паходзіць ад арнамэнту на гліняным пасудзьдзі, выціснутага вяровачкай. Разам з знаходкамі гэткага начыньня сьцьвярджаецца насельніцтва намадзкага тыпу, доўгагаловае, магілы якога знаходзяцца над рэкамі ў наносах пяску і зьмяшчаюць шкілеты ў скорчаным палажэньні, пасыпаныя чырвонай фарбай (охрай). Каля гэтых магілаў



*Узор ямачна-грэбневай керамікі*

сустракаюцца гаршкі даволі прымітыўнага вырабу, упрыгожаныя ямкамі, наколенымі вострым паленчыкам або адціскам вяровачкі.

Амаль усе сучасныя археалёгі прыпісваюць вяровачную кераміку і культуру, з ёй зьвязаную, індаэўрапэйскаму насельніцтву; і шукаюць усюды, дзе знаходзяцца сьляды гэтай культуры, сьлядоў індаэўрапэйцаў. Таму неабходна шырэй спыніцца над пытаньнем пачаткаў індаэўрапэйскіх народаў перш, чымся прыступім да разгляду археалягічнага матэрыялу адносна пытаньня Жамойдзі і Літвы.



# Глава 3
# ПЫТАНЬНЕ ІНДАЭЎРАПЭЙСКІХ НАРОДАЎ

У справе пытаньня прабацькаўшчыны індаэўрапэйскіх народаў існуюць сёньня дзьве аснаўныя тэорыі. Адна, так званая «эўрапэйская» тэорыя, прадстаўнікамі якой з'яўляюцца Hirt, Kossina, Much, Echanson, Kretschmer, Schmidt, Schuchardt, Kostrzewski, Milewski і іншыя, хоча бачыць прабацькаўшчыну індаэўрапэйцаў у сярэдняй і паўночнай Эўропе, прытым Шухардт памяшчае яе проста каля Балтыцкага мора, выходзячы з навуковага «адкрыцьця» ў канцы XIX ст. архаічнасьці жамойдзкай мовы, у некаторых элемэнтах старэйшай ад санскрыту. Schreder, Paudlers, Kerns ды іншыя азначаюць яе між Днястром і Донам; Hirt прымае шырэйшую тэрыторыю на захад, пайменна сярэдняэўрапэйскую раўніну.

Другая, так званая «індаэўрапэйская» тэорыя, памяшчае прабацькаўшчыну індаэўрапэйцаў у Пярэдняй Азіі між Індыяй і Эўропай у аколіцы Памірскага плоскаўзвышша. Да прадстаўнікоў гэтай тэорыі належаць Meer, B. Schmidt, Borkowski, Šafaryk, Arbois de Jubainville, Guenter і іншыя.

Першая тэорыя апіраецца галоўным чынам на знаходкі вяровачнай керамічнай культуры з насельніцтвам нардычнага тыпу, характэрнай антрапалягічнай рысы для індаэўрапэйцаў.

У зьвязку з памяшчэньнем прабацькаўшчыны індаэўрапэйцаў у Эўропе, паўстала ў прыхільнікаў гэтай тэорыі незвычайна запутаная і цёмная справа: якім чынам магла вытварыцца апрычоная раса індаэўрапэйцаў, названая нардычнай, рэзка вырозьніваючаяся ад насельніцтва з іншай матэрыяльнай і духовай культурай?

Характэрныя прыкметы для нардычнай расы падаюцца згодна ўсімі антрапалёгамі: худашчавы высокі рост цела, у сярэднім 1,75 м вышыні, доўгагаловасьць, твар працяглы з выразна зазначанай барадой, вузкі і доўгі нос з высокай насадай; доўгія канцавіны і доўгія пальцы, тулава стройнае і сымэтрычнае; мяккія і ясныя (блёнд) валасы; глыбока асаджаныя сінія вочы, ружавата-белы колер скуры, што пацьвярджаюць найстарэйшыя гістарычныя крыніцы.

Reche, Hentschel, Montelius, Kossina, Werth і іншыя прэгісторыкі хочуць бачыць краманьёнскую і арыняксую расы за субстрат для вытварэньня шляхам скрыжаваньня з іншымі белымі расамі для нардычнай, паходнай расы. Milewski, Czekanowski, Kern і іншыя ўважаюць нардычную расу за вытвар мешаніны паўночнага белага субстрату з элемэнтамі жоўтымі палеаазіяцкімі. Усе гэтыя тэорыі ня маюць глыбейшай абгрунтаванасьці і фактычна з'яўляюцца штучнымі надбудоўкамі прынятай тэзы, што індаэўрапэйцы не прыйшлі з іншага кантынэнту ў Эўропу, але паўсталі на месцы, прытым розныя вучоныя ад тых ці іншых з'явішчаў памяшчаюць іх прабацькаўшчыну ў



*Узор вяровачнай керамікі*

розных мясцох (Schuchardt у Сярэдняй Нямеччыне, Kern — у прычорнаморскіх стэпах; Hirt — у паўночнанямецка-крывіцкай раўніне, Benders — у Прыбалтыцы і г. д.).

Тэорыя аб эўрапэйскай прабацькаўшчыне індаэўрапэйцаў паўстала галоўным чынам на аснове ўстаноўленых і гісторыяй пацьверджаных сьлядоў паходу гэленаў і італаў з поўначы на поўдзень у басэйн Міжземнага мора і Малую Азію, аб чым будзе гутарка ніжэй. Тут аднак маем дачыненьне з пазьнейшым з'явішчам, на аснове чаго нельга рабіць высноваў, быццам індаэўрапэйцы, як апрычоная моўная і расавая група, вытварыліся ў Эўропе. Пярэчаць гэтаму і параўнаўчая лінгвістыка і археалёгія.



*Пачатак рассяленьня індаеўрапейцаў у Еўропе (паводле Э. Загарульскага)*

Параўнаўчая лінгвістыка адносіць рашчапленьне супольнай праіндаэўрапэйскай мовы на групы kentum і satem (ад перамены мяккіх задняязычных k', g' у пярэдняязычныя «с», «з» у групе сатэм і ў цьвёрдыя задняязычныя «k» і «g» — у групе кентум, санскр. сьатам, лац. цэнтум — кентум) перад 3000 г. да нараджэньня Хрыста. А ўстаноўленыя найстарэйшыя археалягічныя сьляды індаэўрапэйцаў у Эўропе з характэрнай вяровачнай культурай адносяцца да 2000 г. перад Хрыстом, гэта ёсьць да пе-

ралому нэалітнай і мэгалічнай пары. У гэтым самым амаль што часе ішла экспансія індаэўрапэйцаў у Азіі.

Да групы сатэм належаць мовы: гіндуская, пэрская, армянская, албанская, скіфская, сармацкая, жамойдзкая і славянская. Да групы кентум: тахарская, грэцкая, лацінская, кэльцкая, гэрманская, тракская /фракійская. — *Рэд.*/ і ілірыйская. Рашчапленьне гэтай апошняй наступіла ў пачатку мэталёвай эпохі, пайменна з хвілінай паяўленьня медзі, час якой у старых цэнтрах цывілізацыі ў Эгіпце і Мэзапатаміі прыпадае на 3000 перад Хрыстом. Аб гэтым сьведчаць супольныя назовы гэтага мэталю ў гіндусаў, іранцаў, італаў і гэрманаў.

Раней адкалолася ад праіндаэўрапэйцаў група кентум і экспансія яе пайшла ў дзьвюх кірунках: на поўнач і на захад, а цераз Каўказ у Эўропу. Паўночны кірунак выявіўся ў сёньня неіснуючай мове тахараў, на ўсход ад Кітая. Мова гэтая была зусім блізкая да мовы кэльтаў. У заходнім кірунку пайшла група грэка-італа-тракска-ілірыйска-кэльта-гэрманская, прыносячы ў Эўропу вяровачную культуру.

У той самы час група сатэм праявіла сваю экспансію галоўным чынам на паўдзённы ўсход, завалодваючы Індыю, Іран і Армэнію ды Малую Азію. Пазьней, у III пэрыяд бронзы, славянская група адсюль праз Дарданэлы пойдзе ў Эўропу ў Дунайскі і Балтыйскі басэйны. Іншыя народы з гэтай самай групы, скіфы і сарма-



*Моўныя групы «кентум» і «сатум»*




*Старажытныя ілірыйцы (рэканструкцыя)*

ты, увайшлі ў прычорнаморскі стэп праз Каўказ ужо на вачох цывілізаваных гэленаў і італаў.

Якія тады бліжэйшыя элемэнты вяровачнай культуры групы кентум? Гэты матэрыял будзе нам патрэбны пры разглядзе нашай галоўнай тэмы.

З начыняў, ужываных у вяровачнай культуры, перш за ўсё вылічыць трэба звычайныя збанкі ўшатыя, далей кубкі звычайныя і шырокія чашы, як бы папярэджаньне пазьнейшых грэцкіх кратэраў, і вялікія кулістыя з малым горлам амфары, далей звычайныя міскі да штодзённага хатняга ўжытку. Разнастайная форма гэтай пасуды залежная была ад рознага яе прызначэньня. Чашы замест вухаў мелі найчасьцей угары гузаватыя налепні, часам маленькія вушкі. Міскі таксама мелі гэткія налепні каля верхняга берагу. Вяровачнае ўпрыгожаньне выступае часта з выцісканым або рытым узорам.

З прыладаў сустракаюцца сякеркі, сякеры з вялікім абухам (уплыў прафінскай культуры), нажы, пілкі і насадкі да стрэлаў. З косьці былі робленыя шылы і прылады да выгладжваньня каменя. Да барацьбы ўжываныя былі лукі, але звычайнай збрвраяй былі сякеры, чаканы і копіі з шырокай насадкай. Каменная зброя выраблялася на месцы, або прывозілася з далейшых мясцовасьцяў, дзе быў лепшы матэрыял, пайменна адборны

чорны крэмень з Галіччыны і Валыні, адкуль вывозілася яго ў Прыбалтыку і на Захад.

Улюбляным матарыялам да вырабу прадметаў упрыгожаньня быў бурштын і косьць, з чаго рабіліся брошкі, пацеркі і г. д. Як упрыгожаньне ўжываліся таксама іклы розных зьвяроў, сярод якіх устаноўлена іклы сьвіні, аленя і сабакі. Далей на поўдні сустракаюцца таксама пацеркі з медзі. Ва ўпрыгожаньні наглядаецца частковы ўплыў мэгалітнай культуры, як напрыклад вісячыя прычэпкі з бурштыну. У пазьнейшым часе вяровачнай кэрамікі на Украіне сустракаюцца фаянсовыя пацеркі, імпартаваныя з Эгіпту. Аб сувязях з Ірляндыяй сьведчаць залатыя кольчыкі тамтэйшага вырабу. З'яўляюцца апрача названых мэталяў, як сродка ўпрыгожаньня, таксама серабро і бронза заходняй прадукцыі.

Што да спосабу жыцьця першых індаэўрапэйцаў групы кентум у Эўропе, то можна ўстанавіць наступнае: на поўначы, у Крывіччыне, Прыбалтыцы, Польшчы і Паўночнай Нямеччыне земляробства было слаба разьвітае. Насельніцтва вяровачнай культуры найчасьцей сялілася над воднымі шляхамі на пяшчаных выдмах, што сьведчыць, што жыло яно з рыбалоўства, паляўніцтва і гандлю.

Ведамая была таксама гадоўля хатняй жывёлы і земляробства. Асабліва ў паўдзённай прасторы вяровачнай культуры на лепшых землях разьвітае было земляробства і жывёлагадоўля. Апрача сьвіней і рагатай жывёлы сустракаецца конь пярэдняазіяцкі, што таксама ёсьць доказам на паходжаньне адтуль людзей вяровачнай культуры.

Духовую культуру гэтых людзей можна наглядаць на аснове пахаваль-



*Старажытны кельт (рэшткі, знойдзеныя ў дрыгве)*

нага абраду. Большасьць магілаў прадстаўляюць сабой ямы з шкілетамі ў скорчанай пазыцыі, часта з сьлядамі охры (чырвонай фарбы) як сымбалям зьвярынай крыві, літай у магілу на ахвяру памёршаму. Сустракаюцца таксама магілы, выкладаныя ў сярэдзіне каменнымі плітамі (у злоцкай культуры) і з рознымі начыннямі, у якія кладзеная была праўдападобна ежа. У некаторых магілах маюцца сьляды спаленых зьвяроў, здаецца, у часе пахавальнай стравы (трызны).

Міма сьлядоў земляробскай культуры ў «вяровачнікаў» (збожжа яны маглі атрымаць ад чыста земляробскага насельніцтва, пасяліўшагася ў Эўропе раней), трэба сцьвердзіць як у матэрыяльнай, так і духовай іх культуры намадзкі характар. Калі б індаэўрапэйцы былі аселым, земляробскім народам, як гэтага хочуць некаторыя аўтары, немагчымым было б вытлумачыць іх вялікай экспансіі ва ўсіх кірунках, дзе існавалі багатыя цывілізацыйныя цэнтры раней існуючага земляробскага насельніцтва.

Маторам, папіхаваючым намадаў да экспансіі ва ўсіх адрэзках гісторыі, з'яўляецца, з аднаго боку, іх нутраная арганізацыя, абапёртая на патрыярхаце, дзе ўся ўлада належыць да мужчыны, як праваднiка ў змаганьні за здабыцьцё сродкаў, патрэбных да жыцьця і ваенных паходаў, у супрацьстаўленьні да матрыярхату земляробскіх плямёнаў, дзе жанчына, як аснаўная вытворчая сіла адыгрывае першую ролю. З другога боку прыцягваючай сілай, як сьвятло для начных матылёў, з'яўляюцца для намадаў багатыя цэнтры з высокай культурай. Такімі цэнтрамі былі ў Азіі старая земляробская і ўрбаністычная культура дравідаў над Індам і ў Мэзапатаміі, старая культура ў Кітаі; у Афрыцы ў Эгіпце, у Эўропе на Кыпры, Крэце, у Грэцыі, Францыі, Гішпаніі, Брытаніі, на Апэнінскім і Скандынаўскім поўабтоках. Такімі намадамі былі хаміта-сэміты, індаэўрапэйцы, алтайскія народы. Ва ўсіх вядучую ролю ў іх заваявальнай экспансіі адыграў конь.

У дачыненьні да першай групы індаэўрапэйцаў на эўрапэйскім кантынэнце гэта можна наглядаць аж надта выразна ўжо хутка пасьля іх прыходу ў сярэднюю Эўропу. Ужо каля 2000 г. перад Хрыстом індаэўрапэйскае племя люві-гэтытаў прабіла-

ся з Балканскага поўабтоку праз Босфар і Дарданэлы ў Малую Азію. Інвазія адбылася ў дзьвюх фазах, перш пляменаў люві, а потым гэтытаў. Гэтыя апошнія, магутнейшыя, стварылі вялікую дзяржаву з цэнтрам у Кападоцыі, прынялі мэзапатамскую цывілізацыю з кліновым пісьмом і вялі рухлівы гандаль з Эгіптам.

Няшмат была пазьнейшая інвазія грэцкіх ахеяў, якія на поўабтоку і на эгейскіх востравах завалодалі каўказцаў (яфэітаў), стаячых на высокім цывілізацыйным узроўні. Яны ўжо ў XIII ст. перад Хрыстом занялі сярэднюю Грэцыю і Пэлапанэз, творачы тут на грунце існуючай культуры і на ўзор Крэты так званую мікэнскую культуру. Каля 1400 г. перад Хрыстом ахеі завалодалі Крэтай, каля 1200 г. збурылі Трою на паўночным пабярэжжы Малой Азіі. За імі пайшлі іншыя плямёны з поўначы. У Малую Азію пранікаюць тракскія фрыгі, якія каля 1200 г. зьнішчылі дзяржаву гэтытаў.

У наступным стагодзьдзі іншае грэцкае племя доры (дарыйцы. — *Рэд.*) завалодвае Грэцыяй да Пэлапанэзу і пабярэжжа Малой Азіі.




***Зона паселішчаў кельтаў у 1 і 2-м тыс. да Хрыста***

Зусім іншы, чыста гандлёвы і калянізацыйны характар, маюць пазьнейшыя з VII—VI ст. асады грэкаў на пабярэжжы Чорнага мора і на паўдзённым берагу Францыі. Гэта ўжо пазьнейшае з'явішча, калі намадзкія гэлены на базе старой культуры вытварылі собскую, як сынтэз існуючай і імі прынесенай, і сталіся аселым цывілізаваным народам.

На поўнач ад гэленаў (грэкаў) знаходзіліся тракі /фракійцы. — *Рэд.*/, таксама індаэўрапэйскае племя. Тракскія назовы чорнаморскіх рэкаў, як Дон, Дняпро, Стыр, Днестр, Пырэт (Прут), Істрос (Дунай), Карпаты і Татры паказваюць шлях пасоўваньня іх са ўсходу на захад і поўдзень. У VII ст. тракскія кімэры з-над Чорнага мора пайшлі сьледам сваіх папярэднікаў у Малую Азію і зьнішчылі дзяржаву фрыгаў у сярэдняй і паўночна-заходняй частцы поўабтоку. Там жа на каўказскім субстраце тракі далі асновы для армянскай мовы.

Сярод іншых індаэўрапэйцаў найдалей высунутай галінай на захад у Эўропе была група італа-кэльцкая. У параўнаўчай лінгвістыцы прыняты погляд, што гэтая група пад канец 3-га тысячагодзьдзя тварыла моўную еднасьць, што прыпадае на палавіну нэаліту. На тэрыторыі Эўропы выступае ўжо апрычонасьць мовы італаў і кэльтаў.



*Печ для абпалу посуддзя з гліны (рэканструкцыя)*

Латыны ўжо каля 2000 г. перад Хрыстом знаходзіліся над Падам, адкуль пранікалі да цэнтральнай Італіі, у краіну лігураў, за латынамі пайшлі умбры і оскі, якія між 1700 і 1500 гг. занялі паўночную Італію. Аднак жа поўную перамену становішча правялі этрускі, якія ў X—IX стст. накінулі сваю ўладу і мову латынам і умбрам. Аднак у VII ст. латыны здолелі завалодаць сярэдняй Італіяй і далі асновы для Рымскай дзяржавы.

Наступнай індаэўрапэйскай групай, што сваю экспансію скіравала на поўдзень, былі ілірыйцы. Ужо ў XII ст. перад Хрыстом яны знаходзіліся на паўночным пабярэжжы Адрыятыцкага мора каля вусьця Падуі /Padova — рака, да якой 25 км на поўдзень ад Венецыі; там знаходзіцца горад Падуя. — *Рэд.*/. Ілірыйскія дыялекты тварылі пераходны памост да паўдзённых оска-умбрыйскіх. У XI ст. перад Хрыстом ілірыйцы скіраваліся на Балканы і гэтым спрычыніліся да міграцыі тракаў і гэленскіх дораў. Ілірыйцы занялі тады паўночна-заходнюю частку Балканаў, сёньняшнюю Югаславію і Албанію, і вялі далей намадзка-пастырскі спосаб жыцьця. Частка балканскіх ілірыйцаў — япыгі — пранікнулі цераз праліў Отранто ў Апулію, а паўночная галіна гэтай групы між 900 і 400 гг. перад Хрыстом у сёньняшняй Аўстрыі стварыла т. зв. гальстацкую культуру жалеза.

Ілірыйскія плямёны з часам у межах Рымскай імпэрыі зраманізаваліся, а сьляды іх мовы існуюць у некаторых геаграфічных назовах і ў албанскай мове, якая прадстаўляе сабой напластаваньне розных моваў, як каўказкай, ілірыйскай, лацінскай, турэцкай, славянскай і грэцкай.

Астаецца яшчэ разгледзець дзьве іншыя групы з сям'і кентум: кэльцкую і гэрманскую.

Найдаўнейшая экспансія кэльтаў, здаецца, ішла на поўнач. Там выдзеліліся канчаткова гойдэлі (гэлы. — *Рэд.*) каля 1000 г. перад Хрыстом і занялі Брытанію, дзе знаходзіліся найстарэйшыя капальні цыны[8]. Наступная міграцыя кэльтаў ішла на захад і на поўдзень, на Пірэнэйскі поўабток і да Міжземнага мора. У VI ст. перад Хрыстом сутыкаліся яны з грэкамі ў Марсыліі, Антыполісе і іншых грэцкіх калёніях на паўночным пабярэжжы Лігурыйскага мора. Крыху раней, бо ў VII ст. перад Хрыстом пачалася адваротная экспансія кэльтаў з захаду на ўсход, тым разам выкліканая жаданьнем завалодаць славянскай сярэдняэўрапэйскай культурай (т. зв. лужыцкай). У гэтым часе частка іх высадзілася ў Брытаніі, адпіхаючы гойдэляў /гэлаў. — *Рэд.*/ да Ірляндыі.

Ва ўсходнім кірунку занялі яны Бэльгію, далей накіравалі свой паход супраць Рымскай дзяржавы і занялі даліну ракі

[8] Цяпер замест слова «цына» ўжываюць «волава». — *Рэд.*

Падуі, а ў 388 годзе зьбурылі Рым. Наступна разам з скіфамі разьбілі славянаў у Панонії, Паўдзённай Нямеччыне і дайшлі да Віслы і Днястра. Назовы Багэмія (ад бояў), Галіччына (ад галаў) ёсьць астаткамі гэтай кэльцкай экспансіі на ўсход. У кірунку паўдзённым кэльты ў III ст. перад Хрыстом апанавалі Макэдонію і Грэцыю ды з адсюль перакінуліся ў Малую Азію, дзе стварылі дзяржаву Галатыя[9].

Якія былі шляхі экспансіі гэрманаў з сярэдняй Эўропы ў канцы нэаліту?

Гэрманская група праявіла сваю экспансію на поўнач, у Скандынавію. Чым жа можна выясьніць тое з'явішча, што ў той час, калі ўсе намадзкія індаэўрапэйскія групы імкнуліся да за-




*Галацыя (Galatia) – старажытная дзяржава ў Малай Азіі*

[9] Галацыя, або Галятыя (Galatia) — дзяржава ў цэнтральнай частцы Малай Азіі, якая існавала прыблізна з 277 па 183 гг. перад Р.Х. Пазней, з 104 г. перад Р.Х. па 25 г. пасля Р.Х. зноў была вольнай дзяржавай з цэнтрам у Анкіры (сучасная Анкара). — *Рэд.*

валоданьня земляробскага насельніцтва з багатай культурай, гэрманы выбралі далёкую поўнач. Як ужо раней было сказана ў нарысе пра пасьляледавіковы пэрыяд, клімат у Скандынавіі прадстаўляўся інакш чымся сёньня. У той час панавала значнае пацяпленьне, што дало магчымасьць буйнаму росту расьліннасьці і лісьцястым дрэвам, характэрным для цёплага клімату (клёны, букі, таполі, каштаны і іншыя), а Балтыцкае мора прадстаўляла сабой закрытае возера з салодкай вадой.

Вось гэтыя кліматычныя ўмовы і з гэтым зьвязаныя прыродныя багацьці цёплага вільготнага клімату былі прычынай таго, што сюды, пачынаючы ад мэзаліту, прыходзіла земляробскае насельніцтва і тут тварыла асяродкі земляробскай культуры. У Швэцыі і Даніі знойдзеныя сьляды земляробскай культуры з застасаваньнем плуга з часоў першага пэрыяду нэаліту. Мэгалітная культура нэаліту ёсьць доказам, што сюды сягала міграцыя з Атлянтыцкага пабярэжжа. Таксама расы жывёлы з археалягічных раскопак пацьвярджаюць прыход сюды насельніцтва з Міжземнаморскага басэйну.

Немалую ролю згуляла тут і фінскае насельніцтва на засяленьне краіны. Нічога дзіўнага, што Скандынавія ў той час была ведамай як багатая земляробская краіна і сталася прыцягваючай сілай для намадаў-гэрманаў.

Паводля Монтэліуса[10] гэрманы ўжо каля 2000 г. перад Хрыстом знаходзіліся ў Скандынавіі і Даніі, сягаючы на поўдні да Лабы (займаючы сучасны Шлезвіг-Гольштэйн). Найстарэйшы чэрап, знойдзены ў Швэцыі з часоў нэаліту каля Стангэнäс, належыць да нардыцкай расы з прымешкамі краманьёнскай расы. Таксама тапаграфічныя назовы пацьвярджаюць старадаўнасьць сядзеўшых там гэрманаў. Дзякуючы гэтай засядзеласьці гэрманаў у Скандынавіі, змаглі яны засыміляваць існуючае насельніцтва, успрыняць іх мэгалітную культуру як вышэйшую над вяровачнай, сьляды якой хутка заціраюцца. Падобнае з'явішча заіснавала ў кэльтаў. З хвілінай завалоданьня насельніцтвам з земляробскай культурай, кэльты на гэтым субстраце вытварылі сынтэтычную новую культуру, якая

[10] Оскар Монтэліус (Montelius; 1843—1921) — выдатны шведзкі археолаг. — *Рэд.*

спалучала элементы раней існуючых культураў з элемэнтамі, характэрнымі для кэльтаў, аб чым будзе гутарка ніжэй.

Пахавальны абрад гэрманаў у Скандынавіі быў перш за ўсё звязаны з мэгалітнай культурай, гэта зн. хаваліся памёршыя ў дальмэнах і каменных скрынях. Спальваньне памёршых адносіцца ўжо да пазьнейшага часу, калі гэрманцы занялі славянскую прастору з гэткай культурай. Schuchardt, як дасьледчык гэтага пытаньня, сьцьвярджае з усёй станоўкасьцю.

Далейшая экспансія гэрманаў на поўдзень і захад мела свае прычыны ізноў галоўным чынам у кліматычных пераменах Скандынавіі. Пайменна на пераломе эпохі бронзы і жалеза ў Скандынавіі, Даніі і паўночнай Нямеччыне наступіла вялікае пагоршаньне клімату. Запанаваньне дрэннага жыцьця між 750—300 гг. перад Хрыстом змусіла гэрманскія плямёны шукаць новых прастораў. Каля 1000 году перад Хрыстом гэрманцы не сягалі далей як да лініі Вэзер (Veser) і Бодэнталь (Bodenthal) у Гарцы; у VII ст. яны даходзілі да ніжняга Рэйну, а пасьля разгрому лужыцкай культуры (славянаў) каля 400 г. перад Хр. — да лініі Дрэздэна, мяжуючы на гэтай лініі з кэльтамі. У апошніх стагодзьдзях перад Хрыстом, каля 100 году, яны адціскаюць кэльтаў з заходняй і сярэдняй Нямеччыны і пашыраюцца да ракі Майн. Шлях гэтага змаганьня гэрманаў з кэльтамі вызначаецца замкамі і ўмацаванымі пунктамі. Коратка перад пачаткам нашай эры гэрманцы асягнулі Багэмію і Маравы, перамагаючы канчаткова кэльтаў, а ў першых стагодзьдзях пасьля Хрыста штурмуюць граніцы Рымскай імпэрыі, разгром якой наступіў у V ст. пасьля Хрыста. Каля 449 году англасаксы высаджваюцца ў Англіі.

Адно з гэрманскіх плямёнаў готы (гуты, гутоны, готонэс) у II ст. пасьля Хрыста з Памора і Прусаў, дзе былі пранікнулі ў апошніх стагодзьдзях перад Хрыстом, пераняслíся на сучасную Украіну, дзе стварылі сваю дзяржаву, разьбітую гунамі ў 375 годзе пасьля Хрыста[11]. Падзяліўшыся наступна на дзьве групы — остраготаў і візыготаў — яны займаюць сьпярша Балканскі поўабток, Італію, Паўдзённую Францыю, а наступна Гішпанію ў першай палавіне V ст. пасьля Хрыста. Іншае гэрманскае племя

[11] Аўтар мае на ўвазе готскую дзяржаву Германарыка. — *Рэд.*




*Арэал вэнедаў*

вандалы (згэрманізаваныя славяне) у гэтым самым часе даходзяць да Тунісу, дзе твораць самастойную дзяржаву ў Паўночнай Афрыцы.

Такім чынам экспансія гэрманскіх плямёнаў разьлілася шырокім вылевам на поўдзень і захад і праявіла вялікую пружкасьць і здольнасьць у арганізаваньні дзяржаўных арганізмаў з рознымі культурамі, характэрнымі для заваёванага субстрату. Адсюль велізарная моўная і культурная дыфэрэнцыяцыя народаў і плямёнаў, залічаных сёньня да гэрманскай групы.

Дасюль мы разгледзелі ў кароткім аглядзе, што сабой прадстаўляла Эўропа ад ледавіковай эпохі да прыходу індаэўрапэйцаў групы кентум, якія былі людзі і якая была іх матэрыяльная і духовая культура, каб лепш зразумець разгляд таго матэрыялу, які датычыць пытаньня засяленьня Прыбалтыкі

ад найдаўнейшых часоў. У гэткім шырэйшым аспэкце будзем і далей разглядаць паасобныя з'явішчы, якія пасрэдна ці беспасрэдна зьвязаны з нашай галоўнай тэмай.

### Сьляды чалавека ў Прыбалтыцы

Найстарэйшыя сьляды чалавека на тэрыторыі Жамойдзі і ў басэйне Балтыцкага мора наагул адносяцца да нэаліту (3500—1800 г. да Хрыста). У 1934 і 1937 гадох у Жамойдзі ў дзьвюх мясцох былі знойдзеныя астаткі чалавечых косьцяў і дзьве каменныя сякеры з нэалітнай эпохі.

Першая знаходка — у Грынкішках каля Кейданаў, другая ў Курмічох каля Крэтынгі. У гэтай апошняй раскопцы шкілет ляжаў у скорчанай пазыцыі і ў сьпячым выглядзе: ляжаў на правым баку і трымаў руку пад галавой. Абедзьве знаходкі мелі сьляды вяровачнай кэрамічнай культуры.

Вялікая колькасьць старых магілаў з нэаліту знойдзена ў басэйне ніжняга Нёмана ў Шварцорт (Schwarzort), Ланкупах, Лаўкнах каля Лабева (Labiau) і Віскаўтах (Wiskiauten) каля Фішхгаўсэн (Fischhausen). Падобных магілаў выяўлена ва Усходніх Прусах, галоўным чынам уздоўж рэкаў, каля 30.

Энгэль (C. Engel) залічае зь іх толькі дзьве да грэбеневай кэрамічнай культуры, рэшту адносіць да кругу вяровачнай культуры. Большасьць памёршых была пахована ў скорчанай пазыцыі (сьпячай) на правым баку, трымаючы руку пад галавой. У раскопках знойдзеныя каменныя



*Старажытныя германцы*

сякеры, глінянае начыньне са сьлядамі вяровачных адціскаў, іголкі з костачак і каменныя ножыкі.

Як бачым, з часоў нэаліту маем у Прыбалтыцы сьляды прадстаўнікоў дзьвюх аддзельных культураў: грэбеневай і вяровачнай.

Талько-Ґрынцэвіч (Talko-Hryncewicz) падае антрапалягічнае апісаньне дзьвюх шкілетаў, знойдзеных у Зэбен (Zeben) каля Шчэціна, паходзячыя з канца нэаліту. Чэрапы з Зэбэн былі моцнага складу зь вялікімі надвачнымі нарасьлямі, сярэдня- і доўгагаловыя з выстаючымі патыліцамі і добра разросшымі лініямі да прычэпу мускуляў. Падобны шкілет і скорчаны спосаб паховінаў знойдзены нават з канца бронзавай эпохі ў Viskauten (павет Fischhausen) у Прусах. Шкілеты грэбеневай культуры з Sorgensee каля Riesenberg, павет Rosenberg і з Hospitaldorf (павет Stugm, Прусы), а таксама з Вішнева каля Слоніма мелі чэрапы кароткагаловыя і ляжалі выпраставаныя наўзнак, прытым археалягічны матэрыял сьведчыць аб рыбалоўчым спосабе жыцьця насельніцтва пры адсутнасьці зброі.

Усё даказвае, што прадстаўнікамі грэбеневай культуры кароткагаловыя людзі былі фінскага паходжаньня, што таксама пацьвярджаюць найстарэйшыя тапаграфічныя назовы на гэтай прасторы, як Нёман, Няміга, Ака, Дзьвіна, возеры Свакшта, Піква, Пааскша, Рая, Соса і інш.

Другая група насельніцтва прадстаўляе сабой, бясспрэчна і згодна з поглядамі амаль усіх вучоных, індаэўрапэйцаў, якія сваёй паўночнай ґалінай займалі басэйн Балтыцкага мора і вялі гандаль бур-



*Старажытныя готы*

штынам з пярэдняй Азіяй. Таксама і на тэрыторыі Крывіччыны з канца нэаліту ўздоўж рэк Дняпра, Беразіны, Прыпяці, Сожа і Нёмана знойдзена некалькі соцен стаянак з вяровачнай культурай і намадзкім насельніцтвам, сярод якіх у вёсцы Печкуры




*Арэалы гоцка-гепідскай і чарняхоўскай культур*
*(Паводле М. Гімбутас)*

каля Смаленска і ў Крывіне сярод іншага матэрыялу знойдзеныя бурштыновыя ўпрыгожаньні.

Ці можна залічыць гэтае індаэўрапэйскае насельніцтва з вяровачнай культурай у Прыбалтыцы да жамойдзкай групы? На гэта няма ніякіх доказаў. Наадварот, усе доказы гэтаму пярэчаць. Па-першае, жамойдзкая група з моўнага пункту гледжаньня належыць да групы сатэм (satam), і некаторы час тварыла разам з славянамі супольную групу, адсюль немагчыма, каб яна паявілася ў Прыбалтыцы разам з групай кентум. Па-другое, як аб гэтым будзе яшчэ гутарка, да V стагодзьдзя пасьля Хрыста у Прыбалтыцы не знаходзім жамойдзкіх сьлядоў; яны з'яўляюцца ў V ст. пасьля Хрыста як самастойная культура, якая перетрывала ў нязьменным выглядзе аж да гістарычных часоў.

Такім чынам вяровачную культуру, якая займае прастору ад Каўказу і Волгі на ўсходзе да Рэйну на захадзе, ад Чорнага мора на поўдні да Балтыцкага на поўначы, трэба прыпісаць групе кентум, якая ў канцы нэаліту прадстаўляла сабой яшчэ адналітую культурную цэласьць, а дыфэрэнцыяцыя якой наступіла з



*Старажытныя гуны (рэканструкцыя)*

хвілінай заваладаньня краінаў з вышэйшай земляробскай і урбаністычнай культурай.

Індаэўрапэйская група кентум, здаецца, доўга не сядзела ва ўсходняй частцы Эўропы, гэта значыць на прасторы Крывіччыны і Прыбалтыцы, а гэта таму, бо ўжо каля 2000 году мы бачым галоўныя паходы тракаў у Малую Азію, гэленаў на Эгейскія астравы, Пэлапанэз і на Крэту, італаў на Апэнінскі поўабток, ілірыйцаў на Балканы, кэльтаў на сённяшнія Францыю і Брытанію, гэрманаў на Скандынавію.

І з гаспадарчага пункту гледжаньня не было тут спрыяльных умоваў для далейшага заседжаньня, бо гэтая прастора паросшая пераважна лясамі, а фінскае насельніцтва, якое жыло ў гэтых лясох, знаходзілася на прымітыўным культурным узроўні, земляробства мела слаба разьвітае ды займалася лоўляй зьвяроў, рыбаў і зьбіраньнем лясных прадуктаў. Прыцягаючай сілай для індаэўрапэйцаў былі земляробскія культуры на поўдні, захадзе і поўначы Эўропы, куды яны і скіравалі свае паходы.

Прыблізна 700 год пазьней, у III бронзавым пэрыядзе (1300 г. перад Хрыстом) прастору, звольненую групай кентум ва ўсходняй і сярэдняй Эўропе, займаюць славяне. Прыбалтыка гэтым разам становіцца славянскім абшарам. Таму неабходна прысьвяціць больш месца справе славянскай прасторы і славянскай матэрыяльнай і духовай культуры.



# Глава 4
# БРОНЗАВАЯ ЭПОХА Ў ЭЎРОПЕ

Бронзавая эпоха ў Эўропе, падобна як і нэалітычная, прыйшла пазьней у параўнаньні да разьвіцьця чалавечай культуры ў Азіі і Афрыцы. Як ужо было сказана раней, каля 3000 году перад Хрыстом культурныя цэнтры Мэзапатаміі і Эгіпту знялі медзь, як першы мэталь да вырабу — побач каменя і гліны — прадметаў хатняга ўжытку і ваеннай справы. Найстарэйшыя капальні медзі знойдзены ў Эгіпце, якія былі ў эксплятацыі на пачатку 3-га тысячагодзьдзя перад Хрыстом (3-я і 4-я дынастыя), але само веданьне медзі аднесьці трэба яшчэ да ранейшых часоў. Гэткія самыя старыя капальні медзі ведамыя і ў Мэзапатаміі з часоў 4-га тысячагодзьдзя перад Хрыстом. У канцы 4-га тысячагодзьдзя перад Хрыстом гэты мэталь быў ведамы і на востраве Кыпр. Ад назову гэтага востраву, здаецца, і паходзіць сам назоў медзі ў групе кентум (лац. aes cuprium).

Медзь ведамая была таксама каўказцам (яфэітам) і дынарцам (армэнам), у стаянках якіх сустракаюцца медныя пасудзіны нэалітнай пары. Яфэіты бясспрэчна занесьлі каля 3000 г. перад Хрыстом веданьне медзі з басэйну Міжземнага мора ў Гішпанію, дзе існавалі старадаўныя капальні медзі, у Англію, Францыю і Скандынавію. Прытым Англія адыграла асабліва важную ролю ў мэталёвай эпосе. Пайменна ў Англіі існавалі найстарэй-




*Арэал лужыцкай культуры*

шыя ў Эўропе капальні цыны, якія сягаюць прыблізна 2000 г. перад Хрыстом. Сплаў 1/10 цыны з медзяй даў пачатак новаму мэталю — бронзе, які ўвёў пераварот у дасюлешняй матэрыяльнай культуры. Бронза як мэталь даволі цьвёрды, паслужыў галоўным матэрыялам да вырабу зброі і іншых прадметаў, дасюль робленых з каменя.

Медзь і бронза сталіся галоўнымі мэталямі, якія хутка распаўсюдзіліся ва ўсёй заходняй і паўночнай Эўропе. У сярэдняй Эўропе (у Вугоршчыне) адкрытыя былі таксама багатыя залежы медзі, якія ўзбагацілі засяг гэтага мэталю.

У краінах усходняй Эўропы ня было капальняў медзі на месцы, таму тут далей утрымалася нэалітная эпоха, хоць само веданьне медзі і бронзы не было чужым, і скарыстоўваліся гэтыя мэталі як прадмет упрыгожаньня.

Само вынаходзтва бронзы трэба запісаць таксама на карысьць цывілізацыі ў Эгіпце і Малой Азіі, дзе найстарэйшыя вырабы з бронзы сягаюць 3-га тысягодзьдзя перад Хрыстом. Трэба было аднак даволі доўгага часу, каб у паўдзённай і сярэдняй Эўропе наступіла новая эпоха, бо сталася гэта толькі каля 1800 г.

перад Хрыстом, калі індаэўрапэйцы завалодалі існуючымі культурамі і на іх грунце стварылі знакамітую культуру бронзы.

Пасьля заваладаньня Крэты і старой эгэйскай культуры між 1400 і 1250 гг. гэлены стварылі слаўныя палацы ў Кносе ды іншых мясцовасьцях Крэты, вялізарных памераў і перапоўненыя мастацкімі вырабамі з золата і бронзы і прыгожай размаляванай керамікі. На самым поўабтоку гэтыя самыя гэлены на існуючым культурным субстраце вытварылі слаўную мікэнскую культуру, спалучаную з дарагімі мэталямі, золатам, серабром і бронзай. Апрача харомаў на ўзвышшах, моцна ўфартыфікаваных, характэрныя для гэтай культуры дамавіны з вялікіх каменьняў, прысыпаных зямлёй. Высока разьвітай была тэхніка вырабу бронзавых мячоў і залатых чашаў. На сувязь з Прыбалтыкай сьведчаць знаходкі бурштыну[12].

Уплывы гэленскай бронзавай культуры з 2-га тысячагодзьдзя сягалі да Італіі, Сыцыліі, Францыі, Гішпаніі і Скандынавіі.

У Гішпаніі гэтую культуру кэльты хутка зьмянілі на культуру жалеза. Найдаўжэй утрымалася яна ў Італіі. З мэталёвых вырабаў характэрныя бронзавыя фібулы да вопраткі, зробленыя з аднаго кавалка дроту. Земляробскі характар гэтай культуры найлепш паказваюць наскальныя малюнкі ў Лігурыі з пачатку бронзавай эпохі, дзе побач валоў паказаныя плугі з упражам і іншыя сцэны.







*Попельніцы лужыцкай культуры (з Польшчы)*

[12] У «Іліядзе» Гамэра ўспамінаецца толькі цына (волава), аб бурштыне няма зацемкі, адсюль Karl Muehlenhoff робіць няправільны выснаў, быццам гандаль бурштынам пачаўся каля 1300 г. перад Хрыстом.

Цесную сувязь земляробскай культуры бронзы Італіі назіраем у Паўдзённай Швайцарыі і Паўдзённай Францыі. Заходняя Францыя і Англія злучаныя былі падабенствам культуры кэльтаў, якая побач бронзавых вырабаў характэрная дамавінамі, будованымі з каменьня ўнутры ўзгоркаў, часта ў выглядзе паўкруглых скляпоў.

Выдатна прадстаўляецца разьвіцьцё бронзавай культуры ў Скандынавіі, вельмі добра вывучанай. На грунце старой мэгалітнай культуры нэаліту гэрманы стварылі багатую культуру бронзы. Пачатак яе сягае 2-га тысячагодзьдзя перад Хрыстом. Сярод мэталёвых вырабаў вялікую ролю адыгрывалі прадметы ўпрыгожаньня як фібулы, бранзалеты, шпількі, нашыйнікі, і знакамітая зброя як мячы, сякеры, чаканы і насадкі да кап'я. Знойдзеныя таксама часткі ваўнянай вопраткі. Наскальныя малюнкі ў Паўдзённай Швэцыі ілюструюць сцэны земляробскія, марскія, ваенныя і культавыя. Вырабы з бронзы выконваліся на месцы і стаялі на высокім узроўні.



*Помнікі лужыцкай культуры*

Так як і ў іншых народаў групы кентум, у гэрманаў у эпосе бронзы пануюць целапахавальныя магілы.

У сярэдняй Эўропе, на прасторы суседняй з італьскімі плямёнамі, ва Усходняй Францыі, Паўночнай Швайцарыі і Паў-

дзённай Нямеччыне выступае ілірыйская культура бронзы, характэрная бронзавымі шпількамі і зашчэпкамі, нашыйнікамі і наплечнікамі ды мячамі з пазьнейшага часу. У кераміцы пануе вырэзваны арнамэнт.

У паўдзённа-ўсходняй частцы Эўропы, на прасторы сёньняшняй Вугоршчыны і Румыніі выступае бронзавая тракская культура, багатая прыгожасьцю формы і ўзорамі. Дзякуючы эксплятацыі медзі на месцы, вельмі шматлікія медныя знаходкі як мячы, чаканы і ўпрыгожаньне. Багатая таксама кераміка, творачая некалькі аддзельных групаў.

***

Мы перш коратка разгледзелі і падкрэсьлілі найважнейшыя элемэнты разьвіцьця бронзавай культуры групы кентум. Але каля 1300 перад Хрыстом з'яўляецца ў сярэдняй і ўсходняй Эўропе новая культура, розная ад усіх суседніх, хоць таксама бронзавая, ведамая пад назовам лужыцкай культуры, якая належыць да новай індаэўрапэйскай групы — славянскай.

Што сабой прадстаўляе лужыцкая культура і якія яе істотныя элемэнты, на аснове якіх можам залічыць яе да твору славянаў? На гэта адкажам на аснове археалягічных, гістарычных і лінгвістычных дадзеных.

Сам назоў — лужыцкая культура — паходзіць, падобна як іншыя назовы ў археалёгіі ад месца першых знаходак. Дзеля таго што найстарэйшыя і найбагацейшыя знаходкі мелі месца ў Лужыцкай вобласці (у Нямэччыне, навакол сучасных Дрэздэна і Котбуса. — *Рэд.*), адсюль і назоў. У сярэдняй Эўропе абдымае яна час ад 1300 да 400 гг. перад Хрыстом і сягае ад Салі (Заале) і Лабы (Эльбы) на захадзе да Дняпра на Усходзе, ад Балтыцкага мора на поўначы да Дунаю на поўдні ды адсюль пранікае ў Панонію, Мэзію і Тракію. На гэтай вялікай прасторы выступае некалькі рэгіянальных культурных групаў, якія аднак у істотных элемэнтах ня розьняцца між сабой і твораць адну цэласьць.

Дзеля характарыстыкі лужыцкай культуры трэба падаць аб вельмі характэрнай, істотнай і паўсюднай прыкмеце, рэзка вырозьніваючайся ад элемэнтаў духовай культуры іншых эўрапэйскіх народаў, пайменна аб звычаю паленьня памёршых.

Дасюль у Эўропе ва ўсіх культурных кругох часоў палеаліту, нэаліту і бронзы архэалёгія ня мела прыкладаў паленьня памёршых. Звычай гэты прыпадае на III пэрыяд бронзы, найменна з хвілінай прыходу славянаў у Эўропу. З вонкавага выгляду целапальныя магілы славянаў прадстаўляюць сабой два тыпы: плоскія магілы і курганы. Гэтыя апошнія характэрныя для ўсходняй і прыбалтыцкай часткі славяншчыны. У сярэдняй Эўропе пераважаюць зборныя магільнікі з плоскімі магіламі[13].

У часе ад 1935 да 1951 гг. праведзеныя былі раскопкі вялікага магільніка лужыцкай культуры ў Чарнкове (Czarnkow) у Польшчы, дзе дасьледавана 214 целапальных магілаў. Ва ўсіх выпадках памёршыя былі спаленыя, а іх косьці зложаныя ў попельніцы. У некаторых выпадках сьцьверджаны паверхныя паховіны. Глыбіня магілы ад 50 да 70 цм. Далейшая характэрная прыкмета магілаў лужыцкай культуры — гэта каменныя кругі і абкладаньне магілаў каменьнямі ў форме крушні. У некаторых выпадках попельніцы пакрываліся міскамі ў выглядзе клёшаў. У попельніцы складаліся спаленыя косьці, старанна ачышчаныя і найчасьцей у анатамічным парадку. Часта выступаюць у магіле падвойныя ўрны з касьцьмі дзьвюх памёршых, праўдападобна мужыка і жонкі[14].

Сярод попельніцаў вырозніваюцца два віды: падвойнастужкаватыя з вострым або закругленым заломам і вазаватыя з выдзеленай шыйкай. Часамі попельніцы стаўляліся на каменнай пліце.

Побач попельніцаў у магілах лужыцкай культуры знаходзіліся розныя пасудзіны, праўдападобна з ежай. Лік дадатковых пасудзінаў розны, ад 6 да 20 і больш у залежнасьці ад сацыяльнага становішча памёршага[15]. Спосаб стаўляньня пасудзінаў найчасьцей кругом попельніцы, але сустракаюцца выпадкі ў

[13] Амаль усе справаздачы з раскопак магілаў лужыцкай культуры аднагодна сьцьвярджаюць, што попельніцы былі прыкрытыя міскамі (H. Busse адносна раскопак у Woltersdorf, M. Turnmeley und G. Kossina адносна магільніка ў Wilanowiec (павет Poznań); H. Schumann і A. Mieck адносна магільніка ў Oderberg-Bralitz; L.J. Łuka адносна магільніка ў Чарнкове і г. д.

[14] У Чарнкове на 214 дасьледаваных магілаў было 140 з адной попельніцай, 28 з дзьвюма, 8 з трыма, адна з чатырма і адна з пяцьцю попельніцамі. У Woltersdorf (павет Nieder-Barnim) было 66 магілаў з адной попельніцай, 6 з трыма і 2 з чатырма попельніцамі.

[15] Вельмі рэдкія выпадкі, каб целапальная магіла ня мела дадатковых пасудзінаў.

іншай форме, напрыклад у радох або ў розных мясцох магілы. Пасудзіны робленыя з гліны, добра выпаленай, пераважна міскі, кубкі, гаршкі, чашы, амфоры, чарпакі, яйкаватыя пасудзіны і іншыя[16]. Арнамэнтацыя пасудзінаў тыпова славянская, як арнамэнт плястычны ў выглядзе налепняў рознай формы, ямачкаваньне, абручаватае ўглыбленьне, скосныя і простыя ўглыбленьні, арнамэнт ялінкавы, гэамэтрычны[17].

Вельмі частым звычаем, сьцьверджаным у магілах лужыцкай культуры, ёсьць адварочваньне пасудзінаў да гары дном, прыпамінаючы звычай, пануючы ў Крывіччыне — выліваньня стравы на магілу ў часе Дзядоў. Сьцьверджаны далей звычай ламаньня розных прадметаў, адбіваньня вухаў у гаршкох і іншых пасудзінах, прабіваньня дна, праўдападобна з мэтай вызваленьня душы і скіраваньня яе ў сонечную дарогу.

З іншых характэрных прыкметаў лужыцкай культуры назавем некаторыя бронзавыя ўпрыгожаньні. Сюды адносяцца шпількі з галоўкай падвойна-стужкаватай, або ў выглядзе макаўкі, або з папярэчнымі зубкамі ніжэй галоўкі. На галоўках шпіляк часта знаходзіцца рыскавы арнамэнт. Далей бронзавыя падвязкі ў выглядзе скручаных дроцікаў (спіраляў), кольцаў з бронзавага дроту і трубачак. Кольчыкі і пярсьцёнкі выкананыя таксама з бронзавага дроту. На бранзалэтах выступае рыскавы або гэамэтрычны арнамэнт. Прадметы ўпрыгожаньня клаліся ў попельніцы, а іншыя прадметы, як зброя, прадметы хатняй гаспадаркі, земляробскія, рыбалоўчыя і паляўнічыя часткова ламаліся і кідаліся ў магілу.

Ведамыя таксама залатыя ўпрыгожаньні, сярод якіх на ўвагу заслугоўвае багатая знаходка лужыцкага скарбу ў Лужыцах. Тэхніка вырабу тая самая што ў бронзавых упрыгожаньнях. Усе амаль зробленыя з спіральнага дроту. Сустракаюцца і

[16] Кераміка лужыцкай культуры характэрная ня толькі сваёй формай, арнамэнтацыяй, але і тэхнікай выкананьня. Гліна часта мяшаная была з пяском, а паверху пасудзіна пакрывалася тонкім слоем лепшай глінкі для гладкасьці і бліскучасьці. Прымешка пяску спрыяла лепшай сушцы і вытрываласьці ў агні. Усе пасудзіны робленыя рукой, ганчарскага кружка не было. Ён характэрны для кэльцкай керамікі.

[17] Геаметрычны ўзор належыць да найбольш распаўсюджаных узораў лужыцкай культуры. Выхадным пунктам да гэамэтрычнай арнамэнтацыі быў трыкутнікавы ўзор. Старэйшым выдаецца ялінкавы ўзор, як простае прадстаўленьне расьліннага арнамэнту. Ялінкавы арнамэнт належыць, побач гэамэтрычнага, да народных арнамэнтаў Крывіччыны.

імпартаваныя ўпрыгожаньні з Эгіпту, Тракіі і іншых краінаў, што сьведчыць аб шырокім гандлі з іншымі краінамі.

Гарады і асады лужыцкай культуры ў супрацьстаўленьні да іншых індаэўрапэйскіх групаў, дзе камень быў аснаўным матэрыялам, будаваліся з дзерава, той самай архітэктуры, якая выступае ў славянаў у гістарычныя часы.

У IV—V пэрыядах эпохі бронзы лужыцкая культура трывае без істотных пераменаў. Выступае толькі большае багацьце формаў. Попельніцы сустракаюцца з вушкамі і бяз вушкаў, часта ўпрыгожаныя малюнкамі. Іншае пасудзьдзе багатае ў разнастайнасьць формы, як міскі, гаршкі, збанкі, каўшы, чашы, вазы аж да знакамітых амфораў, напамінаючыя грэцкія. У кожным магільніку знойдзеныя гліняныя цацкі, як бразголкі /русск. погремушки. — *Рэд.*/, столікі, скрыначкі, рогі, мініятурнае пасудзьдзе і іншае[18]. Сярод прыладзьдзя выступаюць сякеры шырокія ў астрыю, мячы, нажы, сярпы, брытвы, кляшчы, кручкі з дроту да лоўлі рыбы, пячаткі да адцісканьня ўзораў.

У V пэрыядзе бронзы сустракаюцца некаторыя адхіленьні ў пахавальным абрадзе, пайменна на магільніках целапальных у некаторых магілах адсутнічаюць попельніцы, а спаленыя косьці зложаныя ў кучу, або накрытыя пасудзінай, найчасьцей міскай, або параскіданыя.

Іншыя элемэнты абраду ня зьмененыя. Трэба думаць, што на гэтую зьмену ў пахавальным абрадзе меў уплыў асымілёваны неславянскі субстрат.

Лужыцкая культура мела земляробскі характар. Маюцца сьляды шырокай жывёлагадоўлі і земляапрацоўкі пры дапамозе сохаў, ведамыя былі жорны і ганчарскія печы да выпальваньня глінянага пасудзьдзя. У сацыяльным жыцьці ўсюды маем сьляды патрыярхальнай сыстэмы (сьмерць мужчыны як прычына сьмерці жанчыны), а шматлікія замчышчы і ўмацаваныя асады ды магілы целапахавальныя з іншай культурай сьведчаць, што славяне, як і іншыя індаэўрапэйцы, тварылі пануючую верхавіну над сядзеўшым раней насельніцтвам.

---

[18] Мініятурныя пасудзіны маюць выгляд і арнамэнтацыю такую самую, як і звычайныя. Цацкі знойдзеныя ва ўсіх раскопках.

Сьляды лужыцкай культуры зьнікаюць на захад ад Віслы між V а II ст. перад Хрыстом. Адсюль нямецкая навука старалася адмовіць ёй славянскі характар, на той аснове, што ад пачатку IV ст. перад Хрыстом да IV ст. пасьля Хрыста існуе 800-гадовы перарыў і няма цягласці гэтай культуры на захад ад Віслы. Адмаўляючы ёй славянскасьць, нямецкая навука апынулася ў тупіку, бо прыкметы лужыцкай культуры рэзка выдзяляюцца ад культураў усіх іншых індаэўрапэйскіх народаў у Эўропе.

Варожа настаўленая да славянскасьці нямецкая навука рабіла спробы прыпісаць лужыцкую культуру ілірыйцам[19]. Што ў канцовым пэрыядзе перад 400 г. перад Хрыстом у сярэдняй Эўропе ілірыйскія ўплывы былі немалыя, гэтаму нельга запярэчыць. З гэтага яшчэ нічога не вынікае для разьвязкі этнічнай прыналежнасьці лужыцкай культуры. У такі самы спосаб можна было б даказаць, што гальштацкая культура была італьскай або грэцкай, бо адтуль ішлі вялікія ўплывы да ілірыйцаў. Гэтага аднак ніхто не даказвае, бо гэта зьмяніла б навуковыя пошукі ў звычайнаю фантазію, абапёртую на неістотных з'явішчах.

Гэткай фантазіяй ёсьць прыпісваньне лужыцкай культуры ілірыйцам. На гэта староньнікі ілірыйскасьці лужыцкай культуры ня маюць ніякіх паважнейшых аргумантаў. Некалькі тапаграфічных назоваў на прасторы лужыцкай культуры быццам ілірыйскага паходжання ня ёсьць здавальняючым доказам, тым больш, што яны могуць паходзіць з часу перад прыходам славянаў, калі група кентум, а ў тым ліку і ілірыйцы, займала прастору лужыцкай культуры ў сярэдняй Эўропе. Зусім магчыма, што ілірыйцы адсюль на пачатку бронзавай эпохі перасунуліся на поўдзень. Гэткіх індаэўрапэйскіх назоваў групы кентум знойдзем вялікую колькасьць на прасторы Крывіччыны, Польшчы, Прыбалтыкі, Чэхаславаччыны, якія паходзяць з дaславянскага пэрыяду[20].

---

[19] Ілірыйцам прыпісвае лужыцкую культуру ведамы нямецкі гісторык Густаў Коссінна (1858—1931) і ягоная школа (G. Kossinna. Die Indogermanen, 1921).

[20] Напрыклад, Днестр, Дняпро, Драва, Лаба, Лупа, Ніда, Ніса, Нотэць, Одра, Ольза, Піна, Палтава, Прут, Прыпяць, Прэгола, Сква, Скрва, Сцінава і г. д. залічыць можна да розных моваў групы кентум, як гэрманскай, кэльцкай, тракскай і ілірыйскай.

Зьніканьне ў канцовым (гальштацкім) пэрыядзе курганоў і распаўсюджаньне зборных плоскіх магільнікаў у паўночнай прасторы абсягу гэтай культуры, мэгалітныя ўплывы ў выглядзе скрынковых магілаў і попельніцаў з выабражэньнем твару памёршага (у паморскай культуры) ды 800 гадоў перарыву гэтай культуры ані не пярэчыць яе славянскасьці.

Рэгіяналізм і дыфэрэнцыяцыя кожнай культуры ёсьць неадлучным з'явішчам аддзейніваньня мясцовых культураў субстрату і гэта наглядаем ва ўсіх народаў. Расходзіцца тут аб галоўныя і істотныя, а не другарадныя і пабочныя элемэнты. Такім істотным элемэнтам, злучаючым заходнюю і ўсходнюю прастору засягу славянаў у адну цэласьць, ёсьць целапальны абрад, спалучаны з славянскай керамікай, арнамэнтацыяй і архітэктурай.

800-гадовы перарыў лужыцкай культуры на захад ад Віслы ня ёсьць абсалютна ніякім доказам супраць славянскасьці гэтай культуры. Ён яшчэ падмацоўвае яе славянскасьць. Па-першае, ніякага перарыву лужыцкай культуры не было на ўсход ад Віслы, і яна амаль у чыстай форме, без дамешак культуры субстрату,ператрывала да гістарычных часоў, а ў пару паваротнай хвалі славянства на захад (IV—V ст. пасьля Хрыста) сталася далейшым прадаўжэньнем старой культуры. Па-другое, самае паняцьце «перарыў» не так прадстаўляецца, як яго хоча прадставіць нямецкая навука.

Заняпад лужыцкай культуры на захад ад Віслы ў IV ст. перад Хрыстом наступіў з прычыны інвазіі кэльтаў і гэрманаў на славянскую тэрыторыю, аб чым была мова раней, і міграцыі славянаў на ўсход. Аднак недарэчнасьцю было б прымаць тэзу[21], што ўсе славяне выэміґравалі на ўсход і пакінулі «пустую» тэрыторыю наезьнікам. Міграцыя датычыла пануючай верхавіны і ваеншчыны. Пасьля кэльцка-гэрманскай навалы у IV ст. перад Хрыстом архэалёгія не знаходзіць на славянамі займанай прасторы адналітай лужыцкай культуры, але мяшаныя формы,

[21] У пэўнай меры прызнаюць гэты пастулят сучасныя польскія аўтары, як Sulimirski, Milewski, Lerh-Spławiński і іншыя, стаўляючы іншы абсурд, быццам Польшча была прабацькаўшчынай славянства.

прычым целапальная славянская культура становіцца субстратам для наезьнікаў, пад уплывам якой прымаюцца цяпер некаторыя яе формы, як і сам целапальны звычай у выніку асыміляцыі славянскага элемэнту.

Славянскасьць лужыцкай культуры сьцьвярджаюць, побач археалёгіі, лінгвістыка і гістарычныя весткі.

Паявілася яна ў Эўропе, так як і славяне, прыблізна на 700 год пазьней ад групы кентум у III пэрыядзе бронзы (каля 1300 г. перад Хрыстом). Калі шлях прыходу «вяровачнікаў» групы кентум мы высьледжваем са ўсходу, ад Каўказу[22], то шлях прыходу славянаў вёў ад Малой Азіі цераз Басфор і Дарданэлы ў Тракію, Мэзію, Панонію і ў сярэднюю Эўропу да Салі (Заале) і Лабы (Эльбы) ды на паўночны ўсход уздоўж Чорнага мора ў басэйны рэк Днястра, Буга, Прыпяці, Дняпра, Беразіны, Нёмана і Заходняй Дзьвіны.

Страбон (Strabo) перадае старую вестку, што ў часе траянскіх войнаў (што пагаджаецца з часам паўстаньня лужыцкай культуры), жыў у Пафлагоніі (Малая Азія) слаўны народ гэнэтаў, якога кароль Палямон (Palamones) успамінаецца ў Гамэра[23]. Гэтыя гэнэты мелі пасля сьмерці свайго валадара, як перадае пераказ, перасяліцца ў Тракію, а адтуль у паўночную Італію. Яшчэ старэйшыя весткі знаходзім у Гэрадота:

> Людзі, што жывуць па тым баку Істру (Дунаю), называюцца Сігінна і носяць мэдыйскую вопратку; сьмешныя ёсьць іхнія коні з доўгімі на пяць пальцаў валасамі і малыя так, што нельга на іх езьдзіць, затое хуткія ў бегу, дзеля чаго ўжываюць іх жыхары да запрэжкі. Іх межы цягнуцца да Гэнэтаў на Адрыятыку; яны запэўніваюць, што паходзяць з Мэдыі, як гэта магло стацца, не магу даць вытлумачэньня[24].

---

[22] Каля Майкопа была знойдзена багатая стаянка вяровачнай культуры. Магіла была больш за 12 м вышыні, у ёй ляжаў скорчаны шкілет, абсыпаны охрай, побач яго ў нагах другі шкілет, здаецца нявольніка. Пры шкілеце ляжалі прадметы з медзі, серабра і золата: дзьве сярэбраныя вазы з малюнкамі зьвяроў і краявіда Каўказкіх гораў, медная сякерка мэзапатамскага вырабу і іншае.

[23] Грэцкі аўтар Страбон (63 до н.э. — 23 н.э.) напісаў «Геаграфію» у 17 кнігах, якая захавалася да нашых часоў. Пафлагонія знаходзілася на паўночным (чорнаморскім) беразе Малой Азіі, паміж Віфініяй, Галатыяй і Понтам. Найбольш вядомы горад — Сінопа (сучасны Сіноп). — *Рэд.*

[24] Характэрнай прыкметай, што кідалася ў вочы грэкам (Герадот): у славянаў, як у мэдаў, пэрсаў, скіфаў і іншых народаў Малой і Пярэдняй Азіі , былі нагавіцы (грэкі і рымляне не насілі нагавіцаў). Пракоп Цэзарэйскі пры апісаньні славянаў і антаў падкрэсьліў, што адны і другія насілі нагавіцы.

У іншым месцы Гэрадот, апісваючы Тракію, між тракскім насельніцтвам у Мэзіі, паміж Гэмусам (Hemus) і Істрам над Чорным морам, памяшчае крывічоў (Κροβυζοι). «Цераз Тракію, піша Гэрадот, і краіну крывічоў працякаюць Атырыс і Ноэс і Артанэс і ўліваюцца ў Істэр»[25].

У Гэрадота знаходзім таксама весткі ў апісе Скіфіі аб вудзінах, нэўрах, андрафагах і іншых плямёнах, якія бяссумліву залічыць трэба да славянаў, аб чым будзе мова ў другой частцы гэтай працы. Такім чынам весткі Гэрадота з V ст. перад Хрыстом з аднаго боку пацьвярджаюць кірунак, з якога прыйшлі славяне ў Эўропу, а з другога паказваюць іх шырокую прастору ў сярэдняй і ўсходняй Эўропе ды перасоўваньне славянаў пад напорам ворагаў[26].

Найбольш пашыраным назовам на абазначэньне славянаў у старадаўныя часы як для чудзкіх (фінскіх) плямёнаў, так і для індаэўрапэйцаў групы кентум быў назоў вэнды ў разнаякай форме: Venety, Vinety, Venedy, Venty, Henety, Anty, Vannes, Winitha, Winetes і г. д., праўдападобна зьвязаныя з назовам «вада»[27].

Сучасная лінгвістыка поўнасьцю пацьвярджае вывады вучонага Шафарыка (P. Safaryk; 1795—1861) з прошлага стагодзьдзя, што ўсюды, дзе маем дачыненньне з вэнэдамі, пад гэтым назовам трэба разумець славянаў. Гэтыя вывады выдатна падмацоўвае і

[25] Звестку аб крывічох у Тракіі знаходзім у шматлікіх крыніцах антычных аўтараў. Пталемэй памяшчае крывічоў у ніжняй Мэзіі пры Чорным моры, а Стэфан з Бізанцыі з паўдзённага боку Дунаю. Пазьней, у X ст. пасьля Хр., імпэратар Канстанцін Парфірагэнет успамінае аб крывічох як аб славянскім племені, плаціўшым даніну русам у Кіеве.

[26] Гэтая вестка Гэрадота, здаецца, зьвязана з першай фазай міграцыі славянаў з поўдня на поўнач і на ўсход пасьля нападу скіфаў на славянаў з прыдунайскага басэйну. Паход Дарыя на скіфаў адбыўся ў 512 г. перад Хр. Адно пакаленьне перад гэтым паходам пераносіць час міграцыі нурцаў (нэўраў) на VI ст. перад Хр., якраз на час скіфскай навалы ў прыдунайскі басэйн, аб чым сьведчаць архэалягічныя знаходкі скіфскіх стаянак, магілаў і зброі ў Панонії. Багэміі, Маравіі, Лужыцах, сягаючы на поўначы да Бэрліна і Познаня. Скіфы нанесьлі цяжкі ўдар славянам і іхняй культуры, але заняпад яе наступіў у выніку кэльцка-гэрманскай навалы 300 год пазьней.

[27] Нідэрле (Niederle) пробаваў вывесьці назоў вэнды ад кэльцкай мовы, у якой «vinda» абазначае «белы», выходзячы з меркаваньня, што славяне вырозьніваліся яснасьцю валасоў і скуры. Навейшыя антрапалягічныя доказы поўнасьцю пярэчаць гэтаму меркаваньню, паводля якіх кэльты і славяне ня розьніліся расава, бо адны і другія належалі да нардыцкай расы.

«Вада» ў праславянскай мове мела насавы гук і вымаўлялася як «venda». «Vendoł» (wędoł) — яма ад вады, выбоіна; «wąwóz» у польскай мове — вадзяны роў, «węda», «wędka» — вуда, прылада да лоўлі ў вадзе, «wędrować» (вандраваць) — езьдзіць па вадзе (ням. «вандэрн» узятае ад славянаў). Лацінскае «unda» — хваля (вады). Такім чынам «ванды», «вэнды», «ванны», «вудзіны» і іншыя падобнага тыпу назовы абазначаюць «водных людзей», як іх называлі суседзі. Археалягічныя раскопкі поўнасьцю пацьвярджаюць, што славяне сяліліся ўздоўж сплаўных рэкаў, азёраў і марскога пабярэжжа.




*Рассяленне славян у рымскі час (II—IV стст.) паводле В. В. Сядова*

археалёгія, знаходзячы ў раёнах, дзе выступаюць тапаграфічныя назовы з кораням Vin- Ven- Van- сьляды славянскай целапальнай культуры.

Аб самастойнай культуры і апрычонай мове вэнэтаў (нададрыятыцкіх і надатлантыцкіх) здавалі сабе справу старыя пісьменьнікі. Палібій адрыятыцкіх вэнэтаў выводзіў з Пафлагоніі ці Мэдыі і падкрэсьліваў, што гэта «gens vetustissima in Italia et alia a Gallis utentis lingua». Паводля Плініюса іх мова прадстаўляла для рымлянаў асаблівую цяжкасьць, што абазначае, што яна была рознай і ад кэльтаў, і ад італяў[28]. Гэта сама сьцьвярджае Гэрадот, гаворачы аб мове вудзінаў і андрафагаў у дачыненьні да акружаючых плямёнаў.

[28] Юлі Цэсар у апісаньні надатлантыцкіх вэнэдаў («Гальская вайна»), што дзеялі на Каталёнскім пабярэжжы, успамінае, што яны мужнасьцю перавышалі гэрманаў і мелі вылучнае панаваньне на моры, шматкольскасную вадаплаўную сілу ды ў сваіх руках увесь гандаль з брытанскімі вастравамі. Цэсар перамог іх, спаліў іхні флот ды зьняволіў. Галоўны іхні горад быў Gesoriacum (Гезоріакум). Страбон уважае іх за племя, з якога паходзілі і нададрыятыцкія вэнэты. Бяз ніякага абаснаваньня Апіян (а раней мімаходам Гэрадот) залічае і адрыятыцкіх вэнэтаў да ілірыйцаў, чаму пярэчаць усе іншыя дадзеныя.

З лінгвістычнага пункту гледжаньня важным доказам славянскасьці прасторы ў басэйне Дуная ды паказальнікам шляху, па якім пасоўваліся славяне з Малой Азіі, ёсьць тапаграфічныя назовы, ведамыя перад новай экспансіяй славянаў у V ст. пасьля Хрыста[29].

Аб дунайскім паходжаньні славянаў успамінаюць таксама Нестар, Длугаш, Кадлубак, Богухвал. Тацыт у апісаньні Гэрманіі называе лужычанаў і памяшчае іх між маркаманамі і гатонамі, гэта ёсьць на прасторы сёньняшніх Лужыцаў і адрозьнівае іх ад гэрманскіх пляменаў. Глядзі таксама вестку Priscosa аб насельніцтве над Цісай у часе сьмерці Атылы ў 448 г. пасьля Хрыста, якое давала яму напітак — мёд (medum locorum incolae vocant).

*а) Дарданэлы*

Арса (Αρσα), сёньня Rasa. Арсэна (Αρσενα) сёньня Rasina; параўнай назовы на славянскай прасторы: Rasa, Rasienica, Rasina, Raška, Орша.

Балесіна (Βαλλεσινα), сёньня Bulacana. Бэрзана (Βερσανα) перакручаны назоў Беражана.

Bylazora. У Пракопа гэта Бэлазора.

Клесвэсціта (Κλεσβεστιτα), назоў узгор'я. Пар. славянскі «клест» — лес.

Гэрман (Γερμαν ), сёньня Cerven.

Мэдэка (Μεδεκα), сёньня Мэдока.

Міларэка (Μιλλαρηκα) — Miłareka.

Скопя (Σκοπις), сёньня Skopje. Пар. Скоплье — возера ў Босьніі, Скопін у Крывіччыне.

Сцрына, сёньня Sofija. Пар. у Польшчы Skrzynne, Skrzyszew; у нас Крынкі, Скрыльэва ад кораня кры-ю, адсюль крыніца.

Сэрэтос (Σερετος), пар. Сэрэч, Сэрвэч.

Вэтэрына (Βεδεριανα), у сярэдніх вякох Wetren. Пар. Veterka, Veternica, Veternik у Славакіі і Баўгарыі.

Вэлас (Βελας), сёньня Veles. Пар. у нас Валасьніца, Vels у Чэхаў, Velesnia ў Краацыі, ад «волас».

[29] Дакладны аналіз славянскіх назоваў глядзі ў Шафарыка. Ніжэй падаём толькі найбольш характэрныя і бяссумніўна славянскія.

*b) Тракія*

Бэнніка (Βεννικα), сёньня Bansko, ад «баня».

Bessi (Βεσσι), племя ў Тракіі, ад Біэсы. Пар. «бес» — чорт, злосны, зацяты. Аналёгія ў люты — лютычы.

Calybe, перастаўка — Кабылье.

Koralli — племя ў Тракіі. Пар. Гуралі (Górali) у Польшчы.

Долёнкі (Δολονκοι), племя ў Тракіі. Doloncae у Плініюса. Пар. Дольенцы, племя ў заходніх славян.

Лабутца, сёньня Labica на рацэ Laba; пар. рака Лаба, Лабіца.

Травос (Τραυος) рэчка ў Тракіі; пар. Trava рэчка каля Любэкі, Травэн — возера ў Баўгарыі.

Трыбалі (Τριβαλλοι), племя ў Тракіі і Ілірыі. Пар. «трывалы» (грэцк. «б» — лацін. «в»).

Ulpiana (Υλπιανοι). Павінна быць лупіана; пар. Лепель.

Zernae, Zirinia, сёньня Cernec, ад «чорны» (Чэрны).

Кровыці, крывіцы (Κροβυζοι).

*c) Македонія*

Бабас (Βαβας), сёньня Бабасэва.

Krivicina, возера ў Македоніі.

Лабая (Λαβαια) на рацэ Лаб. Пар. Лаба, Палабы.

*d) Мэзія*[30]

Банэс (Βανες), сёньня Banica, ад «баня».

Каліс (Καλις), пар. Kalisz у Польшчы.

Conisko, пар. Konin у Польшчы.

Грыбо (Γριβο), сёньня Greben, ад «грыб».

Naissus, Nisus, Nisos, сёньня Niš на рацэ Niša. Пар. Nisa ў Чэхах.

Serdika, сёньня Sredec. Пар. Sredec у Польшчы, Сэрэд у Крывіччыне, Sredec — возера ў Вугоршчыне.

Вэтза (Βετζα), ад веча. Далей вялікая колькасьць назоваў тыпу Vindelici, Vindenis, Vindibona, Venda, Vendin, Venostes.

[30] Мэзія — рымская правінцыя з 27 г. да н.э.. Займала зямлю паміж ніжэйшым Дунаем і Балканскімі гарамі. Вядомыя гарады — Нікапаль і Марцыянпаль. — *Рэд.*

*e) Дакія*[31]

Bersovia, Bersobis; у сярэднявеччы Berza, сёньня Berzava — ад «бераг»; пар. Берастaвіца, Беразіна і інш.

Aucha, Vacha, сёньня Vah. Пар. Вага, Важка, Вака.

Tsierna, запісана ў 157 годзе. Напіс астаўся на камені: «Valerius Felix miles coh. IV stationis TSIERNEN», ад «чорна».

*f) Далмацыя*[32]

Dalmatae, племя. Пар. у Дытмара: «nos Theutonice Delementi vocamus, Slavi autem Glomazi appellant».

Grabaci, племя. Пар. Грабава, Грабоўшчына, Грабаўцы.

Labeatis, возера. Назоў перакручаны, павінна быць Balotis, ад «балота».

Lusinum, пар. Лужа, Лужычане.

Mucaris, Mucra, Μοκριστικ, Mocrum, ад «мокры».

Naro, Narus, Narona? Naresi, рэчка, мясцовасьць і племя ў Далмацыі. Сёньня Naretva, Norin. Пар. Neuroi ў Гэрадота, Норцы, Нэрэта, Нарва, Нара, Нур, Нурэц у Крывіччыне, ад «нур» — зямля. Пар. пануры.




*Рымская правінцыя Дакія ў 106 г.*

Oseriates, племя. Пар. Азёры, Азярко, Азераны.

Rhizinium, Rhizus, Rhisinum. Сёньня Risno. Пар. Rzeszów (Жешув), Рэснік, Ржэў.

Salona, Salon, Salonae, сёньня Solin. Пар. Солін, Салёнка на нашай тэрыторыі.

[31] Рымская правінцыя з 106 году н.э., якая займала большую частку сучаснай Румыніі. — *Рэд.*

[32] Далмацыя — рымская правінцыя з I ст. н.э. на паўночным беразе Адрыятыцкага мора, зараз тэрыторыя Харватыі і Чарнагорыі. — *Рэд.*

## g) Панонія

Балёе, Balea, Belicka. Сёньня Bela, ад «белае».

Basante, рэчка і мясцовасьць у Панонії; сёньня Bosut. Пар. Базіт прыток Дняпра, праўдападобна ад «базант» /расейскі «фазан» — *Рэд./.*

Бэбіі-горы — горы ў Панонії, знач. Бабіягоры. Пар. Babahory між Македоніяй і Ілірыяй, Babia Góra (Баб'я гура) у Польшчы.

Budalia, ад «будоўля».



*Далмацыя*

Katari, племя ў Панонії, сёньня акруга Catari. Пар. Катары — племя ў заходніх славянаў, Котра прытока Нёмана.

Drasus, Dravus, Dravis, Drava — рэчка ў Панонії. Пар. Drava ў заходніх славянаў, Dravica ў Чэхах, Надравія ў Прусах, ад «дрэва» (драва).

Granna, Hran, сёньня — Hranovnica. Пар. Граніца, Гран, Гранічна.

Pelso, возера ў Панонії. Паходзіць ад «плесо» — возера ў праславянскай мове. Пар. Пліса, Плешчэва, Пелеса.

Savus, Saos, Savios, рэчка. Сёньня Sava.



*Паннонія ў I—II стст.*

Scaplico, ад Скапліца. Пар. Капліца, Скоплішча у Крывіччыне.

Serbinum, Sorbinon, ад «сэрбы».

Sogora — Загора. Параўнай загаране.

Stravianae, сёньня руіны. Пар. Strava — рэчка ў Польшчы, Stravicova — возера ў Вугоршчыне.

Vilca, рэчка. Сёньня Vuka, ад «воўчая».

Virbas, рэчка ў Панонii; сёньня Virbas, ад «вярба».

***h) Ілірыя***

Bora, Borea, ад «бор».

Dolebia, Dolebon, Dulebia. — Дулебы ў Нэстара.

Drinus, Drenos, дзьве рэчкі ў Ілірыі. Сёньня Drina. Пар. Drina ў Чэхах.

Lissus (у Палібія), ад «лес».

Sorba, пар. сорбы, сэрбы.

*i) Норыкум*[33]

Brigobanus на рацэ Breg, ад «бераг».

Salassi, племя ў Норыкум. Пар. Залессе.

Параўнай вялікую колькасьць у Норыкуме старых назоваў тыпу Vindelici, Vindenis, Vindimiola, якімі кэльты называлі славянаў.

Norikum, сам назоў краіны. Пар. норцы, Нара, Нарва, Нурэц і інш. Глядзі ў «Повести временных лет»:

> От сіх жэ 70 і 2 языку бысти язык словенеск, от племені афэтова нарцы, ежэ сути словене.

*j) Вэнэцыя*

Lacus Venetus, возера Вэнэцкае.

Clunia — ад «клуня».

Brigani, племя ў Рэтрыі. Пар. беражане, племя ў заходніх славянаў.

Cernetani, племя, ад «чорны».

Plavis, рэчка ў Вэнэцыі. Сёньня Plave. Пар. Pława ў заходніх славянаў, возера Плава ў Крывіччыне.

Pola. Сёньня таксама Pola.

Ravenna — ад «раўніна».

Tergeste, Torgium. Сёньня Triest, ад «торг», «торжышча».

Retria, племя на поўнач ад Вэнэцыі. Пар. Retra — сталіца люцічаў, ратары — племя люцічаў. Праўдападобна назоў славянскага племя паходзіць ад земляробства. Пар. «ратар», «ратай» — земляроб.

***

Аб істотнай прыкмеце славянскай духовай культуры, паймена спальваньні памёршых, маем шмат гістарычных вестак з розных крыніцаў, якія поўнасьцю згаджаюцца з археалягічным матэрыялам. У «Повести временных лет» чытаем:

> Аще кто умраше твораху тризну над им, и посем твораху краду велику и вложаху на краду мертвеца, сожжаху и посем, вобравше кости, вложаху в судину малу, и поставляху на столпене путех еже творать вятичи и ныне.

---

[33] Норыкум, альбо Норык — рымская правінцыя з 15 году н.э., якая знаходзілася паміж Дравай і Дунаем. Тут мясцілася кэльцкае племя таўрыскі. — *Рэд.*

Больш падробныя апісаньні звычаю паленьня памёршых даюць у IX—X стст. пасьля Хрыста арабскія падарожнікі Масудзі, Ібн Рустэ і Ібн Фадлан. Гэты апошні быў навочным сьведкам гэткіх паховінаў. У скарочаньні ягонае апісаньне прадстаўляецца наступна:

Пасьля сьмерці аднаго славянскага баяра, ягоную маёмасьць падзялілі на тры часткі: адну для ягонага роду, другую — на багатую пахавальную вопратку, трэйцюю — на хмельныя напіткі. Памёршага спачатку палажылі ў дамавіну з дахам на 10 дзён, пакуль не закончылася падрыхтоўка вопраткі. Дамавіна знаходзілася на вялікай лодцы. Наступна пыталіся ў служанак памёршага, хто хоча зь ім памерці. Тая, якая раз згодзіцца на сьмерць, ня можа адказацца і знаходзіцца пад аховай.

У міжчасе адбываліся гульні і п'янствы. Калі надышоў дзень, калі баяр і ягоная жонка мелі быць пахаваныя і спаленыя, уцягнулі лодку на падрыхтаваныя бярвеньні і абклалі яе дравамі. Памёршага вынясьлі з дамавіны на ношах, высланых вышыванымі ручнікамі і дыванамі, апранулі яго ў дарагую вопратку, на галаву надзелі собалевую шапку. Памёршы ад холаду быў шчарнеўшы, але не зьмяніўся. Яго пасадзілі ў шаляш, высланы мяккай матэрыяй і падушкамі ды аблажылі ежай, напіткамі і зёламі. Перш забілі сабаку, два валы, пеўня і курыцу, а ўканцы была задушана жонка памёршага і усё разам спалена. Урэшце на месцы, дзе стаяў вадаплаў, на папялішчы, насыпалі круглы курган, пасярэдзіне ўкапалі вялікі стоўп з напісам імені памёршага і пануючага князя.

Апісаньне Ібн Фадланам паховінаў баяра знаходзіць шматлікія аналёгіі ў курганох на славянскай прасторы. Так напрыклад у знакамітай Чорнай магіле ў Чарнігаве /вышыня 11 м, пэрыметр 125 м; канец X ст. — *Рэд.*/ было знойдзенае папялішча 35 цм таўшчынёй і 11 м у дыямэтры, а ў ім сьляды вялікай дамавіны з саламянай страхой. У кургане былі астаткі трох чалавек, баяра ці князя, маладога воіна і жанчыны. Магчыма, што ўсе былі сваякамі. Трупы мужчынаў былі паложаныя ў дамавіне

ў поўнай вайсковай вопратцы; кругом іх знаходзілася іх зброя, у нагах князя былі паложаныя два асядланыя і закелзаныя коні. Каля жанчыны былі прадметы сельскай гаспадаркі, карова ці бык. У галовах памёршых стаялі вёдры. У насыпе кургана знойдзены астаткі ежы і розныя прадметы, як шоламы, кальчугі, бронзавы бажок і туравыя рогі ў сярэбранай аправе.

Ведамыя і шматлікія бедныя курганы простага насельніцтва. Аб гэтым таксама кажа Ібн Фадлан: для беднага чалавека робяць маленькі вадаплаў, кладуць памёршага ў сярэдзіну і спальваюць. Сутнасьць пахавальнага абраду астаецца аднак тая самая: памёршы адыходзіў у магілу разам з прадметамі, зьвязанымі з ягоным бытам, якія разам спальваліся. Сэнс паленьня памёршых Ібн Фадлан падае ў такіх словах:

> Вы арабы ёсьць дурны народ, казаў яму перакладчык на пытаньне, чаму паляць памёршага, вы бярэце таго, хто найбольш дарагі і паважаны сярод людзей і закопываеце яго ў зямлю, дзе яго сточаць і зьядуць казяўкі і чарвякі. Мы аднак спальваем яго, так што ён ідзе ў рай неадкладна і без затрымкі.

Як бачым, сутнасьць гэтай філязофіі заключаецца ў тым, што памёршы не перастае жыць у другім сьвеце, толькі гэтае жыцьцё духовай натуры, нематэрыяльнае. Таму цераз зьнішчэньне матэрыі вызваляецца дух, які проста ідзе ў сонечнае жыцьцё. Яно мае ўсе падабенствы да матэрыяльнага, таму спальваюцца разам найбліжэйшыя асобы, ежа, прадметы, зьвяры і зброя. Веручы, што душа памёршага накіроўваецца ў далёкае падарожжа ў сонечны сьвет, клалі яго ў лодку, або сані, як сымбаль язды, якія спальвалі разам з іншымі рэчамі.

Спальваньне выяўляла таксама сымбаль сонца, куды вандраваў памёршы; сонечнай сымболікай можна выясьніць і звычай абкладаньня кургаНоў адным ці больш кругамі каменьняў.

Пры паховінах ладзіліся стравы (трызны). Яшчэ Катлярэўскі пісаў, што трызна была ўрачыстым разьвітаньнем з памёршым і мела характар вайсковага змаганьня, гульні ці бойкі. Сабалеўскі даказваў, што словам «трызна» абазначалася змаганьне: конь

быў і сымбалем сьмерці і сымбалем заходзячага і ўсходзячага бога-сонца[34].

Зусім гэткія самыя звычаі і вераньні знаходзім у Прусах, у басэйне Нёмана і Дзьвіны. Вульфстан (Wulfstan) з IX ст. пасьля Р.Х., які езьдзіў у Прусы, так апісвае целапальны звычай:

> Ёсьць звычай у эстаў, што, калі хто памрэ, ляжыць неспалены ў хаце пры сваякох і прыяцелях, часам нават два месяцы ў залежнасьці ад таго, хто памрэ, ці князь ці іншыя асобы. Чым большае багацьце памёршага, тым даўжэй ляжыць, бывае, што нават паўгоду пройдзе, пакуль яго спаляць, а ў гэтым часе адбываюцца выпіўкі і гульні аж да дня ягонага спаленьня.
>
> У гэтым часе зьбіраюцца людзі ў розных мясцох у залежнасьці ад суадносін да памёршага, у пяці або шасьці пунктах ды найбліжэйшыя на двары памёршага. Мужчыны на найлепшых конях ладзяць заганьні, хто першы даскочыць да маёмасьці памёршага, паложанай на 5 або 6 міляў. Той, хто мае найлепшага каня, здабывае першы найбольшы ўдзел. І так адзін за другім, пакуль усе не дабягуць. Тады вяртаюцца кажны сваёй дарогай і затрымоўваюць сабе дабычу. Калі разьдзеляць маёмасьць памёршага, тады выносяць яго і спальваюць разам са зброяй і адзеньнем. Вельмі часта ўся маёмасьць памёршага гіне, калі яго доўгі час не спальваюць, бо ягоны маёнтак расцягваюць нават чужыя людзі.
>
> Далей ёсьць іншы звычай, што знойдзеныя косьці памёршага чалавека, адкуль ён ня быў бы, мусяць быць спаленыя а хто знойдзе неспаленую костку чалавека павінен яе аддаць свайму пану. Далей маюць яны спосаб, якім чынам атрымліваць холад, дзеля чаго могуць ляжаць так доўга памёршыя і не раскладаюцца[35].

І так бачым на аснове археалягічных і гістарычных дадзеных, што з хвілінай паяўленьня ў Эўропе славянаў-вэнэдаў з'яўляюцца целапальныя магілы, якія неадлучныя ад славянаў аж да XV ст. пасьля нараджэньня Хрыста.

---

[34] Іван Катлярэўскі (1769—1838) — украінскі пісьменнік і этнограф. Аляксей Сабалеўскі (1857—1929) — расійскі лінгвіст, даследнік славянскіх рукапісаў.

[35] Гэты Вульфстан (Wulfstan) па загаду ангельскага караля Альфрэда Вялікага здзейсніў плаванне ў землі прусаў паміж 871 і 890 гг. Портам адпраўлення быў Хэдэбі ў паўднёва-ўсходняй частцы Ютландыі. Прусаў тады звалі эстамі (паводле Тацыта — эсціямі). — *Рэд.*

Целапальны звычай вяжацца з культам сонца і агню, і апрача славянаў выступае ў групе Хінду (Hindu). Як бачым, аб чым яшчэ будзе гутарка, з хвілінай толькі заваладаньня славянскай прасторы іншымі народамі і пераняцьця славянскай культуры разам з асыміляцыяй насельніцтва — целапальны звычай распаўсюджваецца сярод заваявальнікаў. Найраней гэта сталася ў Паўночнай Італіі ў выніку заваладаньня і асыміляцыі адрыятыцкіх вэнэтаў каля VIII—VII стст. перад Р.Х., а значна пазьней, толькі ў апошнім латэнскім пэрыядзе (III—II стст. перад Р.Х.) сярод кэльтаў і гэрманаў — у выніку заваладаньня сярэдняй Эўропы з славянскай лужыцкай культурай.

Падобнае з'явішча мы наглядаем сярод плямёнаў неславянскага паходжаньня, якія былі заваладаныя славянамі і потым аславянізаваныя. Спачатку яны ўспрымаюць менш істотныя славянскія формы пры паховінах памёршых, як абкладаньне курганоў каменнымі кругамі, але захоўваюць яшчэ целапахавальны звычай. Зразумелая, ведама, рэч, што немагчымы рэзкі пераход у рэлігійных паняцьцях ад звычаю цялапахаваньня да спальваньня, нават пры пераняцьці мовы і матэрыяльнай культуры ад пануючага народу. Гэта можна наглядаць у гістарычныя часы: калі было ўведзенае хрысьціянства, то доўгі яшчэ час панаваў стары звычай паленьня памёршых, пры старых паганскіх абрадах.

Такім чынам целапахавальныя курганы з усімі іншымі славянскімі элемэнтамі трэба лічыць за паходзячыя ад аславянізованага насельніцтва, якое ў гэтых курганох пакінула таксама сьляды сваёй першабытнай культуры. Бяручы пад увагу, што кажны індаэўрапэйскі народ у сваім разьвіцьці ўключыў у свой склад шмат іншарасавага, моўнага і культурнага элемэнту — дык целапахавальныя курганы з славянскімі элемэнтамі бронзавай і жалезнай пораў на прасторы, занятай славянамі, можна ўлічыць да славянскага культурнага кругу, як паказьнік росту славянскага этнічнага прастору. У выніку поўнай асыміляцыі наступіць і зьмена самага абраду: з целапахавальнага на целапальны, што наглядна можна бачыць у раёне Балтыцкага мора.

Найстарэйшы целапальны курган з III пэрыяду эпохі бронзы (каля 1250 г. перад Хр.) раскопаны ў вёсцы Петары каля Мар'ямполю. У кургане была попельніца славянскага тыпу і адломак сякеры. Аб канструкцыі кургана нічога ня ведама.

З пазьнейшага бронзавага пэрыяду паходзіць прыгожы курган з Курмачоў каля Крэтынгі. Курган мае круглую форму 1,25 м вышыні, 13 м абсягу, абложаны трыма каменнымі кругамі. Пасярэдзіне каменных кругоў была зробленая каменная плошча, на якой знаходзіўся шкілет, паходзячы прыблізна з 500 г. перад Хр. Першы круг быў зроблены з вялікіх каменьняў, другі з яшчэ большых, а трэйці з каменьняў сярэдняй велічыні на адлегласьці 1 м камень ад каменя. Апрача шкілету, пасярэдзіне каменных кругоў знойдзена 6 попельніцаў ад целапальнага абраду. Попельніцы былі абложаныя каменьмі і тварылі наслаеньне кургана ды праўдападобна паходзілі з пазьнейшага часу чымся шкілет. Шкілет быў жанчыны і ўпрыгожаны нагалоўнымі прадметамі, сярод якіх характэрныя славянскага тыпу сьпіралі і сьпіральныя бронзавыя брошкі.

Зусім падобныя курганы выступаюць у Прусах і ў басэйне ніжняга Нёмана з III—IV пэрыяду бронзы. Курганы маюць круглую форму, у сярэдзіне якіх знаходзіцца каменная плошча, абложаная двума і трыма каменнымі кругамі. На каменнай плошчы або ў каменнай крушні знаходзяцца попельніцы. Лік іх разнаякі ад адной да 18, як напрыклад у кургане каля Рэнтаў (Rentau). Попельніцы паходзяць з розных часоў і твораць напластаваньне так як мы бачылі ў курганох лужыцкай культуры. Гэткага тыпу курганы знойдзеныя ў Эгліэн-Ніцклау (Eglien-Nicklau) каля Мэмэля, у Варшкэн і Пэркокэ (Warschken, Perkoke, павет Fischhausen).

Засяг целапальных кургаyоў на паўдні ад усходніх Прусаў не абдымае Мазуршчыны (Мазоўша), што згаджаецца з весткамі Пталемэя аб знаходжаньні на гэтай прасторы фінскага насельніцтва[36]. На заходнім узьбярэжжы Балтыцкага мора цела-

[36] Пталемэй памяшчаў у гэтым раёне фінаў. Аб фінскім субстраце ў Мазоўшчыне гавораць лінгвістыка і антрапалёгія. З'яву т. зв. «мазурэньня» з моўнага пункту гледжаньня даследавалі Мілеўскі (Milewski) і Лер-Сплавіньскі (Lehr-Spławiński).

пальныя магілы сягаюць да Любэка (Lubeck), але маюць выгляд ямавы (культура ямавых целапальных магілаў) ды выступаюць сярод вялікай колькасьці плоскіх целапахавальных магілаў.

Ва ўсходнім кірунку ад Прусаў (ад Нёмана) засяг целапальных курганоў ахапляе басэйн Дзьвіны і прадаўжаецца ўздоўж балтыцкага пабярэжжа аж да Норскага заліву. Час іх паўстаньня адносіцца да III і IV пэрыяду бронзы. Ранейшыя курганы маюць целапахавальны зьмест, пазьнейшыя — целапальныя. Так напр. у Рэзьне, 18 км на ўсход ад Рыгі, знойдзены вялізны курган з 1300—1100 г. перад Р.Х. з 310 шкілетамі. Памёршыя ляжалі наўзнак выпраставаныя, галовамі да сярэдзіны кургану. Курган гэты належыць праўдападобна да фінскага насельніцтва. Аб гэтым сьведчыць прымітыўная кераміка з сьлядамі грэбеневай арнамэнтацыі. З крыху пазьнейшага часу (1100—900) ужо выступаюць круглыя, славянскага тыпу курганы з каменнымі



*Горн, каб плавіць бронзу (рэканструкцыя паводле раскопак у Летуве)*

кругамі і целапальнымі попельніцамі. У курганох знойдзены розныя прадметы ўпрыгожаньня, як кольчыкі, бранзалеты, нашыйнікі і зброя. Гэткія курганы раскопаныя ў Латвіі ў раёне Ціравы, Яўны і Рэзны на захад каля Рыгі.




*Курган у Курмачах (Курмайчай) на захадзе Летувы*

На гэтай прасторы славяне ў бронзавую эпоху, як і ў пазьнейшыя часы, не тварылі зьлітнай масы, насяляючай выключна яе, але тварылі пануючую верхавіну над субстратным фінскім насельніцтвам. Астаткі гэтага насельніцтва, як куры, лівы і эсты, утрымаліся да гістарычных часоў[37].

Цікава падкрэсьліць далейшы паўночны засяг целапальных курганоў. У Латвіі каля Тальсі быў раскопаны курган, у якім попельніцы былі абложаныя каменным кругом у выглядзе лодкі[38]. На жаль адсутнічае іншы архэалягічны матэрыял. Гэткага тыпу целапальныя курганы з пазьнейшага пэрыяду бронзы знойдзеныя на востравах Bornholm, Gotland, Oeland і

[37] Найстарэйшыя гістарычныя крыніцы знаходзяць на ўсходнім пабярэжжы Балтыцкага мора названыя ў тэксце плямёны. Паводля скандынаўскай Hervarar-sagi каля 675 г. пасьля Хр. швэцкі кароль Івар заваяваў Курляндыю, Эстляндыю і іншыя акругі. З 853 г. пасьля Р.Х. у апісе Рымбэрта (Vita Sancti Anscarii, scriptores Rerum Germanicarum in usum scholarum) знаходзім назоў «cori» на абазначэньня кураў. Паводля Рымбэрта ў Курляндыі было 5 акругаў, розных між сабой, што пацьвярджаюць гістарычныя весткі з XIII ст., з якіх частка носіць славянскія назовы: Wanenia, Winda, Wandowe (Bandowe), Kretynha. Дакумант з 1253 г. (падзел тэрыторыі між нямецкімі ордэнамі) называе наступныя курскія мясцовасьці: Ceclis, Megowe, Dowsare, Pilsaten і «terra inter Scrunden et Semigalliam».

З гэтых вестак вынікае, што куры і лівы сядзелі глыбей на поўдні ад Балтыцкага мора і рачных водных шляхоў, занятых вэндамі. Гэтую прастору яны занялі ў V—VI стст. пасьля Р.Х., калі славяне ў аснаўной масе перасунуліся на захад.

Паводля Мортэнсэна астаткі кураў у XIII ст. займаліся паляўніцтвам у раёнах Pilsaten, Megowa, Dowsare і Ceclis. Змяшаньне кураў з вэндамі, так як нямецка-кэльцкіх плямёнаў у сярэдняй Эўропе, было прычынай, што славянская целапальная культура ўтрымалася тут аж да прыняцьця хрысьціянства.

[38] Штурмс (E. Sturms) неабаснавана ўважае гэтыя курганы («Teufelsgräber») за сьлед скандынаўскай калянізацыі Прыбалтыкі.

Сярэдняй Швэцыі. Старыя гэаграфічныя назовы пацьвярджаюць існаваньне ў гэтых раёнах вэнэцкага насельніцтва[39].

У паўдзённым напрамку ад Прыбалтыкі на асаблівую ўвагу заслугоўвае прастора «яцьвягаў», або «судіноі» Пталемэя, залічаная шматлікімі гісторыкамі да жамойдзкага («балцкага») этнічнага пляменнага абсягу[40].




*Курган у Рантау (Rantau) поруч Фішхаузена (Fischausen)*

Да гэтай прасторы залічаецца Сувальшчына, Беласточчына і Падляшша. У бронзавай эпохе не знаходзім тут ніякіх іншых, толькі славянскія сьляды. Характэрным з'явішчам для названай прасторы ёсьць абкладаньне попельніцаў вялікай колькасьцю каменьняў (крушняў), што мы бачылі пры раскопках лужыцкай культуры ў паўночным яе абсягу, як напрыклад у Чарнкове, Познані, Коніне і іншых мясцовасьцях. Энгэль (C. Engel) залічае каменныя курганы Сувальшчыны і Беласточчыны (Steinheufengraeber) да культурнага кругу, супольнага для Усходніх Прусаў (Ostmasurische kulturgruppe), якой абсяг падае на захадзе — да Мазурскіх азёраў, на поўдні да Шпірдзінзээ (Spirdinsee), на ўсходзе і паўдзённым усходзе — Сувальшчыну і Гарадзеншчыну.

[39] Vänas — горад над ракой Vindel у сярэдняй Швэцыі, возера Venían, возеры Venne, Vändo на востраве Эланд (Oeland), Venersberg над возерам Вэнер (Vener) у Швэцыі.

[40] Аб яцьвягах будзе яшчэ гутарка ў далейшых разьдзелах. Тут закранаю гэтае пытаньне з археалягічнага пункту гледжаньня ў эпоху бронзы, каб даказаць памылковасьць цьверджаньня «штандартных» поглядаў, быццам іх прастора належыць да «балцкага» абсягу (гэта значыць да супольнай групы; прусаў, жамойдаў і латышоў). Яцьвягі (лацінскі назоў «язычэс») ёсьць сармацкім племенем, перш качуючым у прычарнаморскіх стэпах, пасьля перанёсшымся на Цісу і Дунай і наязджаючым на Рымскую імпэрыю ды ўрэшце пасьля заваяваньня Дакіі Траянам, перасяліўшымся на нашую тэрыторыю між Бугам і Нёманам.

Далей Энгель, вывучыўшы пахавальныя звычаі названай культурнай групы, бачыць іх сваяцтва з пахавальнымі звычаямі на прасторы Крывіччыны. З бронзавай эпохі даследаваны быў целапальны курган у вёсцы Петарах каля Мар'ямполя, які даў гэткі самы матэрыял, як і раскопкі курганоў з жалезнай эпохі аж да гістарычных часоў.







*Курган і кераміка з магільніка III—II стст. да Хр. у Самбіі (Прусія)*

Сьляды яцьвягаў знаходзім у старэйшым жалезным пэрыядзе (між 1—400 гг. пасьля Хрыста) у вялізных курганох, як у Казароўшчыне каля Ашмян і Ясудове каля Аўгустова, ад эпохі жалеза аж да гістарычных часоў, аб чым ніжэй.

Сьлядоў жамойдзкай пахавальнай культуры ня знойдзена зусім у Сувальшчыне, Гарадзеншчыне і Беласточчыне ані ў Рэушэндорфе, Растолтах, Кутаве і іншых мясцовасцях, што поўнасьцю згаджаецца з гістарычнымі весткамі; такім чынам аб яцьвягах у эпоху бронзы на нашай тэрыторыі ня можа быць гутаркі.

Падобна як адсутнічаюць усякія сьляды яцьвягаў у эпоху бронзы ў заходняй Крывіччыне, ня знойдзена таксама з гэтай пары ніякіх сьлядоў латыска-жамойдзкага племя ані на тэрыторыі Усходніх Прусаў, ані ў Жамойдзі, Латвіі і ўсяго пабярэжжа Балтыцкага мора аж да Фіндляндыі.

Магілы, характэрныя для латыска-жамойдзкай групы з элемэнтамі матэрыяльнай і духовай іхняй культуры ў эпоху

бронзы знаходзім не ў Прыбалтыцы, але ў вадазборах Акі і Камы. У канцы бронзавай эпохі і пачатку жалезнай, жамойда-латыскія сьляды выступаюць далей на поўначы, у аколіцы Вялікіх Лукаў і Ржэва, у вадазборах Ловаці, Вазузы і Касплі. На гэтай прасторы існуе па сёньняшні дзень вялікая колькасьць назоваў жамойдзкага паходжаньня[41].

Першы Гэрадот сьцьвярджае жамойда-латыскае племя ў гэтым раёне, называючы яго мэлянхлёнамі (чорнавопраткаўцамі) з самабытнай мовай і культурай, розьнай ад суседзяў, і памяшчаючы яго на ўсход ад андрафагаў (людаедаў) і на поўнач ад каралеўскіх скіфаў між Дняпром і Донам.




*Каменныя курганы у Ясудаве*
*(поруч Аўгустава)*

[41] Болва, Вардова, Вор'я, Вэдрына, Гобза, Дрыса, Жыздра, Зуджа, Кшэня, Локня, Мажайск, Нэруса, Пона, Протва, Свапа, Сураж, Сэлён, Чэрпэсы, Шаці і інш.



*Старажытнасьці з кургана ў Бірцы поруч Стакгольма*

***

Абагульняючы вышэй сказанае, што датычыць эпохі бронзы ва ўсходняй Эўропе і Прыбалтыцы, трэба сьцьвердзіць наступнае:

1. Славяне з целапальнай культурай займалі прастору ў вадазборах Дняпра, Беразіны, Прыпяці, Бугу, Днястра, Нёмана, Заходняй Дзьвіны. Усходнія Прусы, усё пабярэжжа Балтыцкага мора ад Травы (Травемюндэ) да Нарскага заліву /расей. Нарвский залив. — *Рэд.*) ды славянскія вострава знаходзіліся ў Сярэдняй Швэцыі, на Эландзе, Готландзе, Барнгольме і іншых абтоках Балтыцкага мора.
2. На гэтай прасторы славяне выступаюць як пануючая група над старым індаэўрапэізаваным (групай кентум)



*Пахаваньне ваяра ў труне, выдзеўбанай з цэлага дрэва. III—II стст. да ХР. (магільнік Віекау, Земланд, Прусы)*

насельніцтвам і фінскім у паўночнай і паўночна-ўсходняй Прыбалтыцы, якое падлягала паступовай славянізацыі.

3. Час прыходу славянаў на названую прастору супадае з часам прыходу славянаў у Эўропу і датуецца III пэрыядам бронзы (1300—1100 гг. перад Нар. Хр.), прытым паўночна-ўсходняе пасоўваньне ўздоўж Балтыцкага мора наступіла крыху пазьней, займенна ў чацьвертым пэрыядзе бронзы (між 1100 і 900 гг. перад Нар. Хр.). На гэтай прасторы было густое фінскае насельніцтва.
4. На працягу ўсяе бронзавай эпохі (1800—500 гг. перад Нар. Хр.) на ўсёй Прыбалтыцы, уключаючы сюды Усходнія Прусы і тэрыторыю, пазьней займаную яцьвягамі, не знаходзім ніякага сьледу групы жамойда-латыскай, якая была ў ранейшых пэрыядах бронзы ў вадазборах рэк Акі і Камы, у аколіцах Арла, Курска і Варонежа, а ў канцы бронзы і на пачатку эпохі жалеза перасунулася на поўнач у раён Вялікіх Лукаў і Ржэва, даходзячы на захадзе да Нэвеля.

Рух жамойда-латыскай групы на поўнач праўдападобна быў выкліканы скіфскай навалай у VII ст. перад Нар. Хр. і паходам Дарыя на Скіфаў (512 г. перад Нар. Хр.). Трэба аднак думаць, што ня ўсё жамойда-латыскае племя перасунулася на поўнач, і што яно ў пазьнейшым працэсе разьвіцьця славянскай прасторы было асымілёванае і аславянізованае.



# Глава 5
# ЖАЛЕЗНАЯ ЭПОХА

Пераварот у гісторыі матэрыяльнай культуры ўсяго сьвету прынясло застасаваньне жалеза. Без яго, здаецца, цяжка было б гутарыць аб матэрыяльнай культуры сьвету.

У параўнаньні да раней ведамых мэталяў жалеза, як тэхнічны сродак і матэрыял да вырабу прыладзьдзя і зброі, паяўляецца даволі позна. Перш за ўсё трэба адрозьніць дзьве рэчы: веданьне жалеза і ягонае застасаваньне. Веданьне жалеза адносіцца да ранейшых часоў, паймення найдаўнейшыя жалезныя прадметы з мэтэорнага жалеза сягаюць 4-га тысячагодзьдзя перад Р.Х. у Эгіпце і Мэзапатаміі. Сплаўліваньне жалеза з мясцовых жалезных рудаў было ведамае ў пачатках 3-га тысячагодзьдзя перад Р.Х. і то ў Мэзапатаміі, дзе маюцца гэтага сьляды. Аднак распаўсюджаньне жалеза ішло вельмі памалу, а гэта з прычыны няўмеласьці яго загартоўваньня. Негартованае жалеза было мякчэйшае ад бронзы. Дзеля таго, а таксама дзеля няведаньня багацейшых яго залежаў, у першых часох свайго застасаваньня жалеза побач золата служыла да вырабу прадметаў упрыгожаньня.

Пераварот наступіў з хвілінай вынаходкі тэхнікі апрацоўкі жалеза і адкрыцьця багатых залежаў у зямлі. Перш гэта наступіла ў пярэдняй Азіі і паўночнай Афрыцы. У XIV і XIII стст. перад Р.Х. жалеза шырока было распаўсюджанае ў Асырыі, Малой Азіі,

Сырыі і Эгіпце. Ад гэтага часу можна гутарыць аб эпохе жалеза ў гэтых краінах. У Грэцыі перавага жалеза над бронзай пачынаецца пад канец 2-га тысячагодзьдзя перад Р.Х., у Італіі каля 1000 году перад Р.Х. З гэтых краінаў распаўсюджваецца яно ў сярэдняй і паўночнай Эўропе.

У сярэдняй Эўропе раньні жалезны пэрыяд пачынаецца на пачатку 1-га тысячагодзьдзя (каля 900 г.) у форме так званай гальштацкай жалезнай культуры.

На прасторы лужыцкай культуры распаўсюджаньне жалеза наступае яшчэ пазьней, прыблізна каля 600 г. перад Р.Х., а ва ўсходняй Эўропе — каля 500 г. перад Р.Х.[42].

У той час, калі ў сярэдняй і ўсходняй Эўропе пачынаецца эпоха жалеза, у Грэцыі была ўжо матэрыяльная і духовая культура на высокім узроўні. У VI ст. перад Р.Х. у Грэцыі паўстае і разьвіваецца пісьменнасьць[43]. Крыніцай для паўстаньня грэцкага альфабэту было ўпрошчанае сэмітамі (жыдамі і фэнікійцамі) эгіпецкае пісьмо, дзякуючы якому Гомэр і Гэсіёд твораць асновы слаўнай гэленскай літаратуры. Разам з разьвіцьцём цывілізацыі зьмяняецца ў Грэцыі і грамадзкая структура. Старая індаэўрапэйская сыстэма пануючых і падуладных, рыцараў і нявольнікаў на грунце сялянска-земляробскай гаспадаркі зьмяняецца на зурбанізаваную рамесьніцка-гандлёвую гаспадарку з новай грамадзкай сыстэмай. Сталася гэта ў выніку асыміляцыі мясцовага насельніцтва і зьліцьця старой і гэленскай культуры пры застасаваньні жалеза як магутнага сродка да разьвіцьця рамесьніцтва і гандлю. Месца ранейшага патрыярхальнага каралеўства займаюць цяпер рэспублікі, кіраваныя арыстакратыяй (не рыцарамі з паходжаньня, але найбагацейшымі), або адзінкамі (тыранамі), што апіраліся на масе, або ўрэшце воляй большасьці ў форме дэмакратычнай сыстэмы, якой клясычным прыкладам з'яўляецца дэмакратыя Атэнаў /Афін. — *Рэд.*/.

У гэтым самым часе разьвіваецца грэцкая калянізацыя ў дзьвюх напрамках: на захад і поўнач. Ужо не падбоямі, як у бронзавай эпохе за часоў рыцарскіх, але праз гандлёвыя зно-

---

[42] З гэтага часу паходзіць знаходка горнаў для выташкі жалеза ў вёсцы Палыковічы каля Магілёва.

[43] У раскопках у Кносе на Крыце знойдзеныя гліняныя таблічкі з напісамі, якія адносяцца да старой перадмікэнскай культуры, дасюль аднак непрачытаныя.




*Антычныя гарады на паўночным беразе Чорнага мора*

сіны з іншымі народамі, творыцца сетка грэцкіх асадаў-гаспадарстваў.

Так у VI ст. перад Р.Х. паўстаюць грэцкія калёніі ў Паўдзённай Італіі і на Сыцыліі, ды на пабярэжжы Лігурскага мора пры вусьці Роны, у Марсыліі /сучасны Марсэль. — *Рэд.*/.

Паўночны кірунак экспансіі грэкаў у гэтым самым часе прадстаўляе пабярэжжа Чорнага мора, дзе творыцца сетка грэцкіх гандлёвых асяродкаў, як найстарэйшая Ольвія пры ўйсьці Днестара, далей Тырас /на заходнім беразе Днестра. — *Рэд.*/, Пантыкапэя (сёньня Керч) на Крыме, таксама Тэадозія, Німфэя, Кімэрык /на заходнім схіле гары Опук, на беразе Керчанскай затокі. — *Рэд.*/, Кітэя, Акра Тырытака, Мірмікія і Партэнія.

На каўказкім берагу: Апатурыён, Ахілеон, Горгіна, Гэрмонаса, Дыоскурыя /сеньня Сухумі. — *Рэд.*/, Кіпа, Корокондама /каля Тамані. — *Рэд.*/, Патрэон, Таматарха, Тмутаракань, Фанагорыя (каля сучаснага пасёлка Сеннае на Таманскім паўабтоку).

У V стагодзьдзі перад Р.Х. з гэтых грэцкіх гандлёвых асяродкаў паўстала Баспорская дзяржава.

Гэтыя грэцкія калёніі адыгралі вялікую ролю ў пашырэньні гэленскай культуры далёка па-за межы сваёй бацькаўшчыны. Такім чынам грэкі былі носьбітамі культуры вышэйшай ступені, як раней Пярэдняя і Малая Азія ды Эгіпет. Дзякуючы гэленскай цывілізацыі, маем, з аднаго боку першыя весткі аб славянах і іншых народах, насяляючых сярэднюю і паўночную Эўропу, а з другога — культурную сілу, уздымаючую іншыя краіны з земляробска-намадзкага ўзроўня да вышэйшых культураў.

Дзякуючы гэтым культурным і гандлёвым уплывам на Адрыятыку найраней разьвілася ілірыйская культура ў Гальштаце каля Зальцбурга (у сёньняшняй Аўстрыі), як новы асяродак, прамянюючы на сярэднюю і паўночную Эўропу. Гэтая прастора была заселеная мяшаным насельніцтвам славянскім і ілірыйскім[44], адсюль славяне былі другім народам, побач ілірыйцаў, узьняўшымся на вышэйшую ступень цывілізацыі пры застасаваньні жалеза як новага сродка поступу.




*Баспорская дзяржава*

[44] У раскопках у Hallstatt знойдзена некалькі тысячаў целапальных магілаў побач вялікай колькасьці магілаў з шкілетамі.



*Жалезныя прадметы гальштацкай культуры*

Галоўным прадметам экспарту гальштацкай культуры была соль, якая разыходзілася ва ўсіх кірунках. Сюды з поўдня і з поўначы прыязджалі купцы з сваімі таварамі ўзамен за соль. Такім чынам Гальштат стаўся месцам сутыку розных народаў і іх культураў. Таму і мясцовыя гальштацкія вырабы з бронзы і жалеза маглі тут раней пачацца і асягнуць высокага ўзроўню тэхнічнай апрацоўкі. Сюды належаць знакамітыя жалезныя мячы і іншыя часткі ўзбраеньня, багатыя ўпрыгожаньні з бронзавай бляхі і бронзавая пасуда. Ня менш стройнай ёсьць і кераміка, часта пацягненая графітам, як у лужыцкай культуры, з выцісканымі і размалёванымі ўзорамі. Сьляды ўплыву гальштацкай культуры абдымаюць прастору Чэхаў, Польшчы і сягаюць да Балтыцкага мора, ахапляючы Крывіччыну (характэрныя з бронзавай бляхі бранзалеты, наплечнікі, нашыйнікі і іншае ўпрыгожаньне з бронзы).

Немалую ролю побач гальштацкай солі ў вымене культурных вартасьцяў адыграў славянскі гандаль бурштынам, як ранейшы кэльцкі гандаль цынай. Адзіным месцам у Эўропе, дзе знаходзіўся гэты каштоўны мінэрал, як прадмет упрыгожаньня і рэлігійнага культу ў Азіі (да кадзілаў і літургічных упрыгожаньняў), было пабярэжжа Балтыцкага мора, заселенае славянамі. Археалягічныя раскопкі, што праўда, сьцьвярджаюць наяўнасьць бурштыновых упрыгожаньняў у канцы нэаліту ў магілах і стаянках групы kentum, але шырокае гандлёвае яго распаўсюджаньне ў Міжземнаморскім басэйне і Азіі належыць да пазьнейшых славянскіх часоў.

«Іліяда», найстарэйшы грэцкі літаратурны твор /канец IX ст. перад Р.Х. — *Рэд.*/, успамінае толькі цыну /волава. — *Рэд.*/ як цэнны мэталь, упрыгожваючы зброю; аб бурштыне не знаходзім ніякай зацемкі. У «Одысэі» /сярэдзіна VIII ст. перад Р.Х. — *Рэд.*/, у ранейшых яе частках ужо гаворыцца аб бурштыне як аб вартасным фэнікійскім гандлёвым тавары, які атрымлівалі фэнікійцы з поўначы. Калі верыць Хыгісу (Hygis), бурштын успамінае таксама ў сваіх творах грэцкі паэт Гэсіёд (750—700), зусім ужо напэўна грэкі атрымліваюць гэты мінэрал з паўночнай Эўропы ў часы Эсхіла, Сафокла і Эурыпіда, што сьцьвярджае Гэрадот.



*Старажытныя ўпрыгожваньні з бурштыну*

У часы заснаваньня грэцкіх калёніяў гандаль бурштынам з грэкамі вялі адрыятыцкія і лігурыйскія вэ-

неты, аб чым маем зацемкі ў Эсхіла і Эўрыпіда[45]. Не можа быць ніякага сумнення, што грэцкія прычорнаморскія калёніі былі другой базай для гандлю бурштынам са славянамі. Пшэворскі (Przeworski) падае, што ў пячэрах на востраўку Берэзань каля старадаўняй грэцкай асады Ольвіі знойдзеныя пацеркі з бурштыну. З другога боку знаходзім у Польшчы, Крывіччыне і Прыбалтыцы фэнікійскія, грэцкія і рымскія манэты, прадметы ўпрыгожаньня, пасуду з бронзы і гліны, прыладзьдзе, прадметы культу і зброю[46].

Важнасьць гэтага гандлю пацьвярджаюць дзьве ведамыя экспэдыцыі на Балтыцкае мора, прадпрынятыя грэкамі і рымлянамі. Найменна ў 320 г. перад Р.Х. грэкі высылаюць першую экспэдыцыю пад кіраўніцтвам Пытэаса /Піфоса. — *Рэд.*/ з Марсыліі[47]. А ў 54—55 г. пасьля Р.Х. па загаду Нэрона быў высланы рымскі жаўнер з Карнутуі (ў Панοніі) у Усходнія Прусы дзеля распазнаньня бурштыновай краіны.

Такім чынам гандаль бурштыном (янтаром) побач іншых тавараў, як воску, мёду, скураў, гародніны, збожжа, даваў магчымасьці сутыку славянаў з іншымі народамі і ўспрыманьня чужых вышэйшых культурных дасягненьняў. Грэкі і рымляне адыгралі тут вялікую цывілізацыйную ролю, асабліва ў часе так званага Рымскага пэрыяду.

Разьвіцьцё матэрыяльнай культуры славянаў у сярэдняй Эўропе было прычынай нападаў з аднаго боку скіфаў, а з другога кэльтаў.

Скіфы, індаэўрапэйскі народ іранскага паходжаньня, належалі да большай групы плямёнаў, якія называліся сакамі і жылі

[45] Шафарык (Šafarik) даказвае, што грэкі ведалі з вусных пераказаў, што бурштын паходзіць ад вэнэтаў, але дзе ён знаходзіўся, ня мелі дакладнага ўяўленьня. Таму Эсхіл (525—426 перад Р.Х.) і Эўрыпід (480—406 перад Р.Х.) плютаюць Эрыдан (Erydanos, праўдападобна рака Прэгола ў Прусах) з Ронай, што ўпадае ў Лігурыйскае мора.

Біліньскі (Biliński) пад Эрыданам хоча бачыць Віслу. Ён жа дае матэрыял, што бурштын знойдзены ў акадзкіх трунах у Мэзапатаміі з 3-га тысячагодзьдзя перад Р.Х. Памяшаньне рэкаў Эрыдануса з Ронай і недакладная вестка, дзе знаходзіцца бурштын у Эсхыла і Эўрыпіда ды ў іншых аўтараў (Perecydes, Scylax, Timaeus, Diodor, Polibios) зусім не выключае гандлю гэтым мінэралам адрыятыцкімі вэнэтамі ды лужычанамі на захадзе.

[46] Б.Д. Греков. Киевская Русь. М., 1949, с. 434: «Самым западным пунктом восточной торговли был остров Готланд на Балтийском море. На этом острове и на шведском берегу найдено 24 000 цельных монет і 14 000 обломков».

[47] Pytheas (Піфос), выехаўшы з Марсыліі, падарожнічаў Атлянтыцкім пабярэжжам Заходняй Эўропы, распазнаючы важнейшыя і зьвязаныя з грэцкім гандлем і вытворчасьцю асяродкі, як Ібэрыйскі поўабток, арморыйскія вэнэды, Брытанія, Туля (Ісляндыя), Скандынавія і ў канцы бурштыновае пабярэжжа Балтыцкага мора.

ў Туркестане. Сакі і скіфы ў сваёй экспансіі ў Пярэдняй Азіі занялі Іран і Пэрсію. У 612 годзе перад Р.Х. яны напалі на Неніву (Ніневія. — *Рэд.*), сталіцу 'Асырыі, і збурылі яе дашчэнтна. Потым скіфы напалі на Малую Азію і на Сірыю, даходзячы да Палестыны. Паводля Гэрадота скіфы 28 гадоў валодалі Малой Азіяй і Сірыяй. Пасьля яны павярнулі назад і праз Каўказ напалі на прычорнаморскіх кімэраў, пакарылі іх і між Донам і Дняпром стварылі сваю базу выпадаў на далейшыя прасторы сярэдняй Эўропы.



Хоць самі яны былі тыповымі намадамі і разбойніцтва лічылі сваім галоўным заняткам, то аднак у паходах на культурныя народы ў Пярэдняй і Малой Азіі ўспрынялі шмат што з дасягненьняў гэтых народаў і ўзбагацілі сваю ваенную тэхніку, а разам з гэтым і сваю собскую культуру.



*Старажытныя скіфы (рэканструкцыі)*

Скіфская культура ў Прычорнаморскім басэйне была сынтэзай існуючай тракскай культуры (з немалымі грэцкімі ўплывамі) і собскай, прынесенай з Пярэдняй Азіі. Характэрным для яе ёсьць багацьце ў дарагія мэталі і высокая тэхнічная апрацоўка. Слаўныя ёсць скіфскія, мастацка выканчаныя, залатыя і сярэбраныя пасудзіны з гравюрамі абразкоў

з жыцьця скіфаў, як вазы, збанкі, кубкі, вёдры, прадметы ўпрыгожаньня. Характэрныя таксама бранзовыя катлы на пустой ножцы. Стылізованыя фігуры зьвяроў былі тыповымі матывамі ў мастацтве скіфаў.

У скіфскіх знаходках на ўвагу заслугоўваюць зброя (кароткія абасечныя мячы, насадкі да стрэлаў і копіяў, баёвыя чаканы), конская вупраж і вазы. Гліняныя вырабы ў супрацьстаўленьні да мэталёвых былі простыя і прымітыўныя. Духовую іх культуру характарызуюць вялізныя целапахавальныя курганы. На іх неабходна і трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу, бо яны характэрныя для аднародных з скіфамі сарматаў і (сармацкіх) яцьвягаў, што пазьней з'явяцца на тэрыторыі Крывіччыны.

Скіфскія курганы асаблівыя як сваім вонкавым выглядам, так і пабудовай. Навонкі — гэта вялізныя насыпы да 3 мэтраў вышыні, прадаўгаватыя да 20 м у абсягу. Паводля сваёй пабудовы прадстаўляюць унутры прастакутную яму, 2—2,50 м глыбінёй і да 5 м даўжынёю, вылажаную і прыкрытую дрэвам у выглядзе жыльля. У сярэдзіне гэткага пахавальнага дому знаходзілася дамавіна з памёршым і ўсякае прыладзьдзе ды каштоўнасьці. Пахавальнае жыльлё было часта прыкрытае слоем гліны, каменьмі і пяском. Сустракаюцца таксама курганы з падземнымі праходамі і ўкопамі. У гэткіх магілах разам з памёршым скіфскім князем пахаваныя ягоныя слугі і стада коняў.

Скіфы ў сваіх рабаўнічых нападах праявілі вялізарны размах, сягаючы далёка па-за межы сваёй выхаднай базы. У кароткім часе ў Азіі яны былі пострахам для Ірану, Паміру і Індыі, у Эўропе ваенныя сьляды скіфаў сягаюць Паноніі, Лабы, Одры (аколіц Бэрліна), Памор'я і Варты[48]. Прыцягваючай сілай скіфскіх нападаў у сярэдняй Эўропе была лужыцкая культура, пасьля зьнішчэньня культуры тракаў у прычорнаморскім басэйне.

Скіфская навала мела аднак пераходны характар, бо праходзіла звычайна хутка і не пакідала па сабе трывалых сьлядоў. Толькі тыя аселыя народы, якія жылі бліжэй качэўнікаў

---

[48] У раскопках у Біскупіне знойдзеныя скіфскія стрэлы, убітыя ў браму гарадзішча; у Вэттэрсфэльдэ каля Берліна знойдзены багаты курган скіфскага князя. Сьляды гэтыя частыя ў раскопках лужыцкай культуры ў Лужыцах, у Польшчы і Дунайскім басэйне з канца гальштацкай пары. Дзякуючы сваёй экспансіі, скіфы багата запісаныя ў грэцкай і рымскай гістарычнай літаратуры. Глядзі: В.В. Латышев, Известия древних писателей о Скифии и Кавказе. Вестник древней истории, Москва, 1947, 1948, 1949.

(намадаў), былі ў доўгай ад іх залежнасьці, але і ў гэтым выпадку карысталіся яны большай незалежнасьцяй, чымся плямёны, падуладныя вышэй зарганізаваным дзяржавам у сярэдняй і заходняй Эўропе.

Тэрытарыяльны абсяг скіфаў найлепш паказваюць скіфскія магілы. Яны займаюць прычорнаморскую прастору ад Каўказу да Падолля і Волыня на захадзе. На поўначы ахапляюць Палтаўскую, Харкаўскую, Хэрсонскую і частку Кіеўскай акругоў. На тэрыторыі Крывіччыны не сустракаюцца скіфскія магілы, але падобныя да іх сармацкія і яцьвязкія[49].

На аснове археалягічных матэрыялаў Бабрынскага, Асоўскага і Быдлоўскага ў Кіеўшчыне; Самаквасава, Мазаракава і Огнева ў Палтаўшчыне былі дасьледаваныя 42 скіфскія шкілеты, апісаныя Багданавым, Каўрайскім, Нікольскім, Талько-Грынцэвічам і Сталыгвай. Аб фізычным складзе скіфаў можна сказаць наступнае: былі высокага росту (мужчыны 175 цм; жанчыны 156 цм). Чэрапы ў Кіеўшчыне сярэдняга́ловыя, у Палтаўшчы-



*Скіфская залатая бранзалетка IV ст. да н. э. з кургана Куль-Оба (у Крыму)*

[49] Паводля вывадаў Сулімірскага (T. Sulimirski), абаснованых на скіфскіх знаходках, скіфскія напады дасягалі на захадзе Маравы, Аўстрыі, Штырыі, Карынтыі, Баварыі і нават Францыі (знаходка ў Хален-сур Сонэ) і гэтым падобныя да засягу нападаў вуграў з IX ст. нашай эры. Гэтым можна вытлумачыць скіфскія ўплывы на раньняе кельцкае мастацтва. Даўжэй скіфскія ўплывы ўтрымаліся, паводля Сулімірскага, ва ўсходняй частцы лужыцкай прасторы, што ён тлумачыць залежнасьцю ад скіфаў.

У старой гістарычнай літаратуры, пачынаючы ад Гэрадота аж да гістарычных амаль часоў славяншчыны, пад паняцьцем Скіфіі разумеецца вялізная прастора ад Карпатаў і Віслы на ўсход да Волгі і далей. Назоў гэты мае выключна гэаграфічнае значэньне, але ніякага палітычнага, а тым больш этнічнага. Можна гутарыць толькі аб гандлёвых і культурных зносінах і дачыненьнях скіфаў наназванай прасторы. Засяг магілаў скіфаў ёсьць найлепшым доказам займанай імі беспасрэдна прасторы.

не — доўгагаловыя. Падобна характэрызуюць скіфаў, як індаэўрапэйцаў, і малюнкі на скіфскіх вазах і пасудзьдзі, і гэтым канчальна зьбіваюць старую тэорыю аб мангольскім іхнім паходжаньні, абаснаваную на рэляцыях Гэрадота і Гіпакрата.

Храналягічна напады скіфаў на лужыцкую культуру папярадзілі рухі кэльтаў на ўсход. Яны спрычыніліся да аслабленьня славянскай сілы, выклікалі вялікія перасяленьні славянскіх пляменаў з наддунайскага басэйну і далі прадумовы да экспансіі кэльтаў. Археалягічны матэрыял у гэтым сэнсе пацьвярджае гістарычныя весткі. Найбольшы разрост скіфскіх уплываў прыпадае на час каля 500 г. перад Нар. Хр. Сто год пазьней, калі пачынаецца кэльцкая хвала на ўсход, наглядаецца заняпад скіфскіх сьлядоў.



*Скіфская срэбная ваза з кургана Чартамлык (канец IV ст. да н.э.)*

Кэльты, асягнуўшы ў VI ст. перад Нар. Хр. пабярэжжа Лігурыйскага мора, увайшлі ў беспасрэдны кантакт з грэцкімі калёніямі ў Марсыліі і Антыполісе, а разам з гэтым і з гэленскай культурай. Шпарка разьвілася сярод іх культура жалеза, тым больш, што прастора імі займаная (Галія-Францыя) ад найдаўнейшых часоў была добра заселеная з багатай міжземнаморскай культурай. Існавала ў іх разьвітая палітычная і грамадзкая арганізацыя, апёртая на гарадох і апорных пунктах (dunum), сьляды якіх сустракаюцца ў густой сетцы ад Атлантыкі да Дунаю. Побач іх знаходзіліся прыгарады з разьвітым рамесьніцтвам і гандлям.

Кэльцкая культура жалеза знайшла сваё найвыдатнейшае адбіцьцё ў г. зв. латэнскай культуры. Назоў гэты паходзіць ад кэльцкай вайсковай асады Ля Тэнэ (La Tene), на возеры Нэўхатэль

у Швайцарыі. Вырабы гэтай культуры вырозьніваюцца высокай тэхнікай, перавышаючай іншыя асяродкі. Мэталёвыя прадметы, як зброя, земляробскія снадзіва, маляваная кераміка, робленая на ганчарскім кружку, мэталёвае пасудзьдзе, характэрнае прыгожай арнамэнтыкай, выбіванай або вытраўлянай квасамі.

Часта сустракаюцца прадметы з жалеза і бронзы, вылажаныя эмаліяй. Поступ у тэхніцы прадстаўляюць таксама кэльцкія жорны з дзьвюх круглых каменьняў (адзін рухомы) у параўнаньні да раней ведамай ступы.

Кэльцкая арнамэнтыка вырозьніваецца собскім стылем. Улюбленым узорам былі зарысоўкі галоваў чалавека і зьвяроў у спалучэньні з расьлінным павоем. Сустракаем гэтую арнамэнтыку як кэльцкую спадчыну у Ірляндыі і Брытаніі. Далей характэрныя ваенныя кэльцкія вазы, падобныя да апісаных Гомэрам у «Іліядзе» і «Одысэі», якія часта знаходзяцца ў кэльцкіх магілах.

Ня менш асаблівыя кэльцкія мячы, доўгія з закругленым канцом ды жалезнай похвай, упрыгожанай багатай арнамэнтацыяй, далей ножніцы, малаткі, напільнікі, абцугі /расей. «клещи». — *Рэд.*/, шпоры, насадкі да стрэлаў і г. д. Прадметы ўпрыгожаньня, найчасьцей жалезныя і бранзовыя з выціснаным узорам, як фібулы, бранзалеткі, нашыйнікі, зашчэпкі, пацеркі, ланцужкі і іншыя.

Кэльты, падобна як і іншыя народы групы кентум, хавалі памёршых неспаленымі ў ямных магілах, у якіх клалі разам з памёршым ягоную вопратку, зброю, вазы, коней і іншае. Час разьвіцьця латэнскай культуры прыпадае на IV—II стагодзьдзі перад Хрыстом, якраз на час найбольшай ваеннай экспансіі кэльтаў на ўсход і поўдзень і зьнішчэньня лужыцкай культуры.



*Скіфская кібітка*
*(гліняная дзіцячая цацка з кургана Куль-Оба)*

З гістарычных крыніц ведаем, што кэльты каля 388 г. перад Хрыстом пачалі

свой паход на славянскую тэрыторыю[50]. У хуткім часе яны занялі Панонію, Лужыцы, Чэхію і Маравію, далей Сілезію, Польшчу, Украіну амаль да Дону. На поўдні Тракію, Мэзію, Дарданэлы і Малую Азію. Пад націскам кэльтаў пачалася міграцыя славянаў на ўсход. Далёкім рэхам яе ёсьць пераказы першых славянскіх хронікаў[51]. Археалягічным доказам гэтай міграцыі славянаў з'яўляецца перавага шкілетных магілаў кэльцкага паходжаньня на ўсёй імі займанай прасторы і заняпад целапальнай лужыцкай культуры[52].

Было б аднак памылковым дапушчэньне, што пад ціскам кэльтаў (і часткова гэрманаў з поўначы) выэміґравала ўсё славянскае насельніцтва з сярэдняй Эўропы. Такога з'явішча нельга дапусьціць, хоць Куэне паклікаецца на аналёгію да эміграцыі ўсяго нямецкага насельніцтва ў часе вандровак народаў з прасторы між Одрай і Лабай і заняцьце яе славянамі[53]. Аналёгія гэтая ня мае ніякага навуковага значэньня. Па-першае, славяне ў III—V ст. перад Нар. Хр. не занялі зусім пустой тэрыторыі між Одрай (Одэрам) і Лабай (Эльбай), але заселеную, аб чым сьведчаць розныя матэрыяльныя і духовыя культуры археалягічных раскопкаў; па-другое, як археалёгія, так і гісторыя дае нам матэрыялу, на аснове якога вынікае, што славянскае насельніцтва далей засяляла тэрыторыю лужыцкай культуры.

Археалягічным доказам ёсьць існаваньне ў сярэдняй Эўропе і пасьля кэльцкай навалы целапальнага абраду ў чыста славянскім выглядзе з славянскай керамікай, прадметамі ўпрыгожаньня, прыладзьдзем. Існуючы славянскі субстрат быў прычынай культурных пераменаў у кэльцкай і гэрманскай культуры на за-

---

[50] Калі Аляксандар Македонскі ў 336 г. перад Хр. ішоў на Тракію і вяртаўся цераз сёньняшнюю Сэрбію і Македонію, нечакана з'явіўся ў лягер грэкаў прадстаўнік ад кэльтаў. Гэта абазначае, што кэльты заваладалі славянскай тэрыторыяй ў сярэдняй Эўропе перад гэтай датай. Аб баях кэльтаў з славянамі сьведчаць славянскія абаронныя ўмацаваньні з IV ст. перад Нар. Хр. у Лужыцах, скіраваныя на поўдзень.

[51] Гл. «Повесть временных лет» (Лаврентьев. список), М., 1950, с. 11: «Волхом (Влахом) бо нашедшем на словени на дунайския, и сядшем в них і насилашчем им, словени же ови пришедше седоша на Висле»...

[52] Пры тым трэба падкрэсьліць пануючы дуалізм: магілы шкілетныя належаць да арыстакратыі, багата ўладжаныя і з багатымі рэчамі; у магілах целапальных пахаваныя простыя людзі і гэтыя магілы значна бяднейшыя.

[53] Нямецкія аўтары Куэне і Вале (Kuehne, E. Wahle) уважаюць лужыцкую культуру за твор ілірыйцаў, якія мелі поўнасьцю выэміграваць пад ціскам кэльтаў і гэрманаў між 500 і 400 г. перад Хрыстом на поўдзень. Памылковасьць гэтага цьверджаньня на аснове археалягічнага матэрыялу даказаў Сулімірскі.



*Тыповыя прадметы латэнскай культуры*

нятых прасторах. Старая мэгалітная культура эпохі бронзы, характэрная для гэрманаў, уступае месца мяшанай культуры гэтак званых «ямных паховінаў», дзе наглядаем з аднаго боку сьляды старой лужыцкай і мэгалітнай культураў. Славянскі субстрат у дачыненьні да кэльтаў спрычыніўся да вытварэньня культурных пераменаў ня менш характэрных, як гэта сталася на прасторы, занятай гэрманскімі плямёнамі (на поўначы).

Звычай устаўляньня ў магілу шматлікіх прыставак і ламаньня рэчаў несумненна паказвае на старую лужыцкую культуру. Лужыцкая культура мела ўплыў на будаўніцтва кэльцкіх гарадзішчаў пасьля 400 г. перад Нар. Хр. на занятай тэрыторыі. Далей славянскія элемэнты знаходзім у мясцовай вытворчасьці розных прадметаў, пасудзьдзя і прыладзьдзя. Дуалізм дзьвюх розных культураў у этнічным паняцьці трывае да гістарычных часоў з той прыкметай, што чым бліжэй да рымскага пэрыяду

(I—II стст. нашай эры), славянскія элемэнты штораз больш распльіваюцца ў кэльцка-гэрманскай культуры, якая фактычна прымае формы новай, сынтэтычнай, лужыцка-кэльцка-гэрманскай культуры. Маем тут дачыненьня са з'явішчам паступовай асыміляцыі і дэнацыяналізацыі славянаў.

З скупых гістарычных вестак аб наяўнасьці славянскага насельніцтва на тэрыторыі лужыцкай культуры, міма больш 600-гадовага чужога панаваньня падаю некаторыя. Яшчэ на 100 год перад заняцьцем Балканаў славянамі ў выніку паваротнай славянскай хвалі (у VI ст.) у 448 годзе пасьля Хрыста быў высланы ад бізантыйскага цэзара Прыскос (Pryskos) на чале пасольства да Атылы, правадыра гунаў, што меў сваю гасподу над Цісай на пагранічча Паноніі. Прыскос спыніўся ў адной вёсцы, дзе, як сам апісвае, еў аўсяны хлеб і піў мёд (Μεδος), так называлі напітак тамтэйшыя жыхары.

Апісваючы прастору Паноніі ў сувязі із сьмерцяй Атылы, Іардан (Jordanes, Иордан) падкрэсьлівае, што жылі там розныя народы:

Ab Daciae et Pannoniae provinciis, in quibus tunc Huni cum diversis subditis nationibus insidebant, egrediens Atilla...

Што гэта былі за «diversae nationes» /розныя народы/ можна мець ўяўленьне з іншага месца Іардана, дзе ён піша, што насельніцтва на пахаванні Атылы ладзіла «страву» (трызну) — слова, узятае ад тамтэйшага насельніцтва: «genus cibi, quod vulgo struva dicitur».



*Пахаванне ямнай культуры*

Такім чынам з вестак Прыскаса і Іардана вынікае, што ў басэйне сярэдняга Дунаю было мяшанае насельніцтва, сярод якога, як сьведчаць чыста славянскія назовы «мёд» і «страва», жылі славяне. Далей на поўнач ад Дунаю, у сярэдняй Эўропе, маем дачыненьня з падобным з'явішчам. Паўль Дыякон (які памёр у 799 г.), апісваючы падзеі лангабардаў, перадае гістарычны пераказ, што лангабарды між 380 і 487 годам пасьля Хрыста ў часе перасоўваньня нямецкіх плямёнаў на сваім шляху ў сярэдняй Эўропе праходзілі праз краіну антаў і вандаў, славянскасьць якіх пацьвярджаецца тапаграфічнай номэнклятурай. Пад назовамі антаў і вандаў Дыякон ня мог разумець пазьней прыбылага славянства, інакш не пісаў бы: «ner annos aliqyod possedisse, quae nos arbitram possumus esse vocabula...», а значыць гэтая вестка адносіцца да старога славянскага насельніцтва ў сярэдняй Нямеччыне.



*Гарадзішча лужыцкай культуры на Біскупінскам возеры каля Пазнані*

Да славянскага насельніцтва трэба залічыць гэрулаў, сядзеўшых у паўночнай частцы дунайскага басэйну, якіх падробна апісвае Пракоп з Цэзарэі[54]. Дзеля важнасьці гэтай зацемкі падаю яе ў крывіцкім перакладзе:

> Я хачу цяпер расказаць, што такое за племя Гэрулы і адкуль яны прыйшлі як саюзьнікі рымлянаў. Яны жылі на той бок ракі Істра (Дуная), з паўночнай стараны, і вызнавалі вялікі лік багоў, яны ўважалі годным складаць ім нават людзкія ахвяры. Многія іх законы і звычаі зусім не падобныя на законы і звычаі іншых людзей. У іх ня прынята старацца прадоўжыць жыцьцё старцаў

[54] У расійскім варыянце гэта Пракоп Кесарыйскі (каля 497 — пасля 562), дарадца візантыйскага палкаводца Велісарыя. Удзельнічаў у паходах супраць персаў, вандалаў і остготаў. У 553 г. скончыў складанне кнігі «Войны» у 8 частках. — Рэд.

або хваравітых, але як толькі на каго прыйшла старасьць або немач, ён абавязкава павінен быў прасіць сваіх сваякоў магчыма хутчэй вылучыць яго з ліку (жывых) людзей. Тады ягоныя сваякі, залажыўшы вялікую і высокую горбу дроў і палажыўшы гэтага чалавека на самы яе верх, пасылаюць да яго аднаго з гэрулаў, толькі ня родзіча, узброенага нажом. Як толькі забойца вяртаўся да родзічаў памёршага, яны зараз жа падпальвалі ўсю кучу дроў, пачынаючы з нізу. Калі лом згасьне, яны, сабраўшы косьці, неадкладна закопваюць іх у зямлю. Пасьля сьмерці якога-колечы гэрула, калі ягоная жонка хоча выявіць свае высокія пачуцьці і дастойнасьць ды здабыць сабе вечную славу, павінна пасьля кароткага часу задушыцца пры магіле свайго мужа. Калі яна гэтага ня зробіць, сьцягае на сябе ганьбу і выключэньне з сям'і родзічаў. Гэткія былі звычаі гэрулаў у старыне.

Аб узбраеньні і славянскай тактыцы гэрулаў піша Іардан. З апісаньня Пракопа з Цэзарэі ведама, што пасьля перамогі лангабардаў над гэруламі, племя гэтае часткова перайшло на службу Юстыніяна, цэзара Усходня-Рымскай імпэрыі, а часткова перасялілася на поўнач, асеўшы каля Бальтыцкага мора, ды ўрэшце частка іх пасялілася аж у Ісляндыі. Дацкая хроніка ўжо пайменна называе гэрулаў славянамі, пацьвярджаючы гэтым вышэй пададзеную характарыстыку Пракопа і Ярданэса.

Мы такім чынам спыніліся крыху даўжэй над пытаньнем культурных уплываў і славянскай міграцыі пад напорам перш скіфаў, а пасьля кэльтаў і гэрманаў у так званы грэцкі пэрыяд (жалезная пара перад нараджэннем Хрыста), каб магчы зразумець некаторыя культурныя перамены і чужыя ўплывы на тэрыторыі Крывіччыны і Прыбалтыкі з гэтага часу. Бяз гэткага высьненьня трудна было б зразумець пазьнейшыя архэалягічныя знаходкі, напрыклад з ямнай культурай, культурай скрынкавых магілаў і іншымі адхіленьнямі ад старой славянскай культуры. Адначасова мы закранулі істотныя мамэнты з прагісторыі славяншчыны, якія наводзілі і наводзяць шмат путаніцы ў літаратуры на гэтую тэму.



# Глава 6
# ЖАЛЕЗНАЯ ПАРА Ў ПРЫБАЛТЫЦЫ

З раньняй жалезнай пары (500 год да н.э. — 1 год н.э.) у Жамойдзі знойдзеныя курганы ў Курмачох каля Крэтынгі і ў Велікушках каля Зарасаў. У Курмачох адкрыта два курганы з каменнымі кругамі. У абодвых курганох была вялікая кольчасьць каменьняў: у адным 39,5 кубічных метраў, у другім 10,4. У першым попельніцы із спаленымі касьцямі былі пастаўленыя паміж каменьняў, у другім між попельніцамі знаходзіўся вялікі камень, а на ім навалена шмат меншых каменьняў, сярод якіх было расьцярушанае вугольле ад целапальнага абраду.

Абодвыя курганы, а асабліва другі, паказваюць уплывы мэгалітнай і дольмэнавай культураў і паходзяць: першы — з пачатку жалезнай пары, другі — з крыху пазьнейшага часу. Таксама і кераміка курганоў з славянскімі элемэнтамі адносіцца да гэтага часу.

Ва Усходніх Прусах і ў басэйне ніжняга Нёмана знойдзена таксама з ранняй жалезнай пары шмат целапальных курганоў з попельніцамі, з якіх курган у Мішэйках каля Мэмеля зусім блізкі паводле сваёй будовы да кургана ў Курмачох.

У замкавай гары каля Велікушкаў (павет Зарасы) была раскопаная ў 1933 г. вельмі цікавая магіла з шкілетным зьместам. У яме ў выглядзе ключа ляжалі два шкілеты, адзін наўзнак, другі глы-

бока скорчаны на каленках. Пад галовамі кажнага шкілету быў падложаны камень, а ў яме выяўлены кавалкі вугольля і іржы, сьляды охры (чырвонай фарбы), жалезных зашчэпак і згніўшай вопраткі. Пры адным шкілеце быў кручок да лоўлі рыбы і касьцяное шыла. Каля другога шкілету — гліняная пасудзіна.

Залічыць гэтыя шкілеты да жамойдзкага насельніцтва раньняй жалезнай пары няма ніякіх асноваў. Ніякія характэрныя рысы пахавальнага абраду і знойдзеных рэчаў на гэта не паказваюць. Гэтая магіла прыпамінае курган з Вішкяўтаў з II пэрыяду бронзы і сьведчыць аб астатках індаэўрапэйскага насельніцтва групы «кентум» і зьняволенага фінскага насельніцтва.

У заходняй Жамойдзі, у акрузе Крэтынгі, знаходзіцца шмат нізкіх кургановў, пакрытых каменьмі або пяском, якія аднак яшчэ ня былі дасьледаваныя. Гэткія курганы знаходзяцца ў Будрах, Лаўкзэміс, Медшаркэ, Науёках, Палаўцы, Шаўклях, Шыляле, Славейрах, Шлікцінах, Дактарах, Клібях, Клянелях, Квецах, Падварах, Паюдупах, Тынкелях, Жыбінках, Таўзах і Мачуках. У некаторых курганох пасьля зьняцьця каменьняў знойдзены сьляды вугольля, праўдападобна ад целапальнага абраду.

Першыя плоскія шкілетныя магілы жамойдзкага тыпу з часоў II ст. перад Хрыстом сустракаюцца не на жамойдзкай прасторы, але ў Зэмгалах, у сёньняшняй Латвіі. Матарыял аб іх даюць раскопкі з 1932 г. у вёсцы Сктрыкі (павет Вентспілс). Апрача гэтых падобныя магілы былі знойдзеныя ў Ерцені (Jercen) каля Екабпілса на выспе ракі Дзьвіны, дзе з 48 магілаў 14 былі целапальныя, 34 шкілетныя, і ў Зедоне каля Баўскэ (шкілетныя і целапальныя магілы). Неабходна пры гэтым зацеміць, што целапальныя курганы нічым ня розьняцца ад такіх жа на крывіцкай тэрыторыі, а гэткія назовы, як Вэнтспілс, Крэслаукас, Крэву, рака Вэнта, Віндава і шмат іншых пацьвярджаюць, што гэтая тэрыторыя ў часе прыходу жамойда-латышоў была славянскай, у крывіцкім валоданьні.

Як з гэтага мы бачым, на тэрыторыі Прыбалтыкі а таксама і ў Крывіччыне ў раньнюю жалезную пару не зайшлі ніякія большыя зьмены ў насельніцтве і матэрыяльнай ды духовай культуры. Целапальныя курганы славянскага паходжаньня далей займаюць Усходнія Прусы, Жамойдзь, Латвію і Эстонію. Сярод

славянскага насельніцтва заўважаюцца толькі ў раёне ніжняй Дзьвіны першыя сьляды пранікавьня жамойда-латыскай, а лепш кажучы, латыскай групы ў фінскі (у крывіцкім валоданьні) субстрат.

Далейшае перасоўваньне жамойдаў на захад на прастору сёньняшняй Жамойдзі можам амаль з дакладнасьцю наглядаць у першых стагодзьдзях пасьля Нар. Хрыста.

У канцы II ст. пасьля Хрыста. наглядаем вялікія перамены на жамойдзкай тэрыторыі: зьнікаюць амаль зусім целапальныя курганы, а іх месца займаюць шкілетныя, плоскія, чатырохкутныя ямнага тыпу магілы з трунамі з бярвеньняў і характэрнымі дадаткамі. У аколіцы Крэтынгі, Таўрагаў, Тэльшай, дзе раней знаходзіліся целапальныя курганы, маем цяпер выключна жамойдзскія магілы. Гэтае самае з'явішча наглядаецца ў сярэдняй Жамойдзі, у аколіцах Коўна і Панявежа.

У заходняй Жамойдзі былі праведзеныя раскопкі ў наступных мясцовасьцях: Курмачы[55], Дазьдзінінкі, Рак'еста, Рудзічы, Сенкі, Вогучы, Моцкічы, Нікелі, Папілі, Паўлічы і Райны.

Усе магілы аднаго тыпу: плоскія і шкілетныя. Асабліва характэрным з'яўляецца для гэтых магілаў зборнасьць у выглядзе магільнікаў: магіла пры магіле, радамі і ў парадку, прытым адна ад другой аддзеленая брукам з каменьняў, часам ад 40 × 50 да вялікіх 60 × 80 цм. Форма магілы чатырохкутная і плоская, прытым над берагамі магілы выстаюць каменьне на 10—30 цм.

Апрача Жамойдзі гэткага тыпу магілы знаходзім у Курляндыі і Паўдзённай Эстоніі з першых стагодзьдзяў пасьля Хр.[56] Некаторыя падабенствы існуюць паміж жамойдзкімі гэткага тыпу магіламі і плоскімі магіламі з каменным абрамаваньнем у Швэцыі, званых «Domarringarna». Арнэ (J. Arne) уважае, што яны паўсталі пад уплывам целапальных курганоў з каменнымі кругамі, славянскага паходжаньня.

[55] Раскопкі праводзіліся ў 1940 г. Знойдзена 24 шкілеты.

[56] Латышы першапачаткова з раёну Нэвеля пасоўваліся правым берагам Дзьвіны і займалі паўдзённую частку сёньняшняй Эстоніі. Рух іх на захад адбыўся значна пазьней у 6—8 ст. пасьля Нар. Хр.

Жамойды праўдападобна тварылі самастойную экспансыўную групу з раёну Мажайска (іх мова вольная ад фінскага субстрату) і пасоўваліся ўздоўж Дзьвіны да Друі, а далей перайшлі на левы бераг гэтай ракі да Свенцянаў і адсюль перайшлі на сёньняшнюю жамойдзкую тэрыторыю.




*Курган у Курмачах (Курмайчяй)*

У жамойдзкіх магілах памёршыя былі пахаваныя ў трунах: у кажнай магіле сьцьверджаны сьляды дзерава і бронзавыя ўпрыгожаньні дамавіны, або выразныя адціскі калодаў, у якіх выдоўбываліся дамавіны. Калоды найчасьцей дубовыя, але сустракаюцца таксама з сасны, а нават з дошак. Шкілеты ў аснаўным згніўшыя і распаўшыся. Толькі з некаторых сьлядоў можна ўстанавіць, што памёршых клалі наўзнак, галавой на паўночны захад. Шматлікія астаткі шкілетаў маюць сьляды скорчанасьці, што мела сваю прычыну ў цеснасьці дамавіны. Рукі зложаныя на грудзёх, ногі выпраставаныя.

Памёршыя былі добра адзетыя і пахаваныя з розным упрыгожаньнем. У магілу клаліся таксама рэчы хатняга ўжытку і зброя. У галовах памёршага стаўлялася мініятуровая пасудзіна 3—10 цм вышыні. Рэчы знаходзяцца ў кажнай магіле бяз розьніцы ці гэта шкілет мужчыны, жанчыны ці дзіцяці. Магілы без дадаткаў вельмі рэдкія. У магілах мужчынаў знаходзім часта зброю, якая паложаная з боку або з верху галавы. Да зброі належаць копіі, нажы, сякеры, шчыты. У жаночых магілах знаходзяцца прадметы ўпрыгожаньня, верацёны, шылы, іголкі, паложаныя ў галовах. У некаторых магілах сустракаюцца каробкі з бярозавай кары, у якія клаліся прадметы ўпрыгожаньня і ма-

неты рымскага паходжаньня. Гэткія каробкі ставіліся таксама ў галовах.

У Курмачох у аднэй магіле знойдзена аж чатыры шкілеты з усімі вышэй апісанымі дадаткамі. На магільніку ў Лазьдзінінках выкапаны быў шкілет каня, які ляжаў таксама галавой у паўночна-заходнім кірунку і меў у зубах келзала.

У сярэдняй Жамойдзі ў аколіцах Коўна і Паняважа знаходзім у аснаўным гэткую самую культуру з адхіленьнямі неістотнага характару, праўдападобна пад уплывам фінскага субстрату. Тут дасьледаваныя былі магілы ў Эйгулях, Саргэнах, Сэрэдзюсе, Вэршвах і Упыце[57].

У магільніку ў Саргэнах і Вэршвах маецца адхіленьне ад заходня-жамойдзкага кірунку палажэньня памёршых: мужчыны ляжалі галовамі на захад, жанчыны на ўсход. Памёршыя былі паложаныя выпраставаныя наўзнак, ногі ў адных магілах выпраставаныя, у іншых заложаныя адна на другую. Таксама рукі: найчасьцей зложаныя на грудзях, але сустракаюцца магілы, дзе адна рука выпраставаная, а другая зложаная на грудзях. Памёршыя хаваліся, падобна як у заходняй частцы, у дамавінах з бярвеньняў, аб чым сьведчыць сьціснутае палажэньне шкілетаў і сьляды дзерава ды адціскі бярвеньняў.




*Жамойдзкія магілы з трупапакладаньнем (II—III стст.)*

Пад дамавіну клалася каменьне, два ў галовах, два пасярэдзіне і два ў нагах, праўдападобна для падпоры калоды. Аб гэтым сьведчыць пахіласьць да нутра каменьняў. Сустракаюцца таксама побач бярвеньняў дамавіны з дошак (у Вэршвах, Сэрэдзюсе і Упытах).

[57] Кулікаўскас праводзіў раскопкі ў 1938 г.



*Упрыгожваньні жамойдзкіх жанчын (па знаходках у магільніках)*

Падобна як у заходняй Жамойдзі, у магілу клаліся розныя прадметы, пераважна ўпрыгожаньне і прадметы хатняга ўжытку. Зброя выступае вельмі рэдка, што паказвае на адсутнасьць ваеншчыны. Характэрным ёсьць з'явішча, чым далей на захад, тым больш сустракаем зброі ў жамойдзкіх магілах, чым далей на ўсход — выступае рэдка. Гэта паказвае таксама на заходні кірунак пасоўваньня жамойдаў у II—IV стст. пасьля Хрыста.

Рэчы клаліся ў галовах, але сустракаюцца магілы, дзе рэчы паложаныя ў розных месцах: каля галавы, шыі, боку, або ў нагах. Зброя заўсёды ў галовах. Шматлікае прыладзьдзе сельскай гаспадаркі, як сярпы, нажы, шылы знаходзяцца ў магілах мужчынаў і жанчынаў, што сьведчыць аб земляробскім характары насельніцтва.

Амаль ва ўсіх магільніках сустракаюцца магілы з больш як адным шкілетам. Найстарэйшая гэткая магіла з II ст. пасьля Хр. знойдзеная ў Саргэнах, дзе пахаваныя былі два мужчыны галовамі на паўночны захад, кажны ў аддзельнай дамавіне. У Упытах знойдзена некалькі падвойных пахаваньняў: мужчыны і жанчыны, дарослага і дзіцяці, дзьвюх дзяцей. Пры дзецях не было ніякіх рэчаў. Усе былі пахованыя ў аддзельных дамавінах. Час гэтых магілаў сягае IV ст. пасьля Хр. Гэтыя калектыўныя магілы з жамойдзкіх магільнікаў нічога ня маюць супольнага з славянскім звычаем сьмерці жанчыны пры паховінах мужа. Тут у адной магіле знаходзім двое дзяцей, дарослага і дзіця, дзьвюх мужчынаў, што хутчэй сьведчыць аб прыпадковай ці адначасовай сьмерці больш як адной асобы ў сям'і.

Дасюль мы спыніліся над раскопкамі ў заходняй і сярэдняй Жамойдзі, абмежаванай на захадзе Нёманам, на поўначы морам, а на поўдні ракой Невяжай. Істотных разыходжаньняў у пахавальным абрадзе мы не знайшлі. Час магілаў і галоўныя элемэнты матэрыяльнай і духовай культуры тыя самыя. У заходняй частцы накладаецца большая колькасьць зброі, што абазначае большую канцэнтрацыю жамойдзкай ваеншчыны.



*Жамойдзкая жанчына (рэканструкцыя)*

Большыя розьніцы выступаюць у паўночнай Жамойдзі ў аколіцах Біржаў, Панявежа, Расейнаў, Рокішкаў і Шаўляў з часу старэйшай жалезнай пары (II—IV стст.). Тут былі праведзеныя раскопкі ў наступных мясцовасьцях: Купрыль, Пакальнішкі, Рынкелі, Сандраўсішкі, Кукшы, Пілякальнісы, Вайнікі, Гібачы, Лінкачы, Павекі, Вісдзергі і ў іншых мясцовасьцях.

Характэрныя тут ня плоскія целапахавальныя магілы жамойдзкага тыпу, але целапахавальныя курганы, падобныя да крывіцкіх кургаоў. Курганы гэтыя маюць выгляд круглы, ад 0,5 да 1 м вышыні, ад 4 да 13 м у разрэзе, абложаныя каменнымі кругамі. Ранейшыя курганы маюць прыгожыя і дакладныя кругі, пазьнейшыя ня так акуратныя. У некаторых курганох каменныя кругі маюць прорву, быццам уваход. Падобныя кругі з прорваю часта сустракаюцца ў курганох ва Усходніх Прусах у аколіцы Самлянд з V—VI стагодзьдзя пасьля Хрыста.

Далей трэба зьвярнуць увагу на калектыўны характар гэтых кургаоў: у адным кургане знаходзіцца два, тры, чатыры, а нават 8 памёршых у розных мясцох кургана. Найстарэйшая дамавіна звычайна знаходзіцца пасярэдзіне кургана. Наступныя ў розных мясцох і вышыні кургана. Усе памёршыя праўдападобна належалі да адной сям'і, прытым сярэдні шкілет — галавы сям'і. Так напрыклад у кургане ў Сандраўсішках знойдзена 7 шкілетаў. Найранейшы ляжаў у сярэдзіне кургана 90 цм глыбінёй, наступныя знаходзіліся крыху вышэй, якіх 55 цм ад паверхні кургана. Сярэдні шкілет вырозьніваўся вялікай колькасьцю знойдзеных пры ім рэчаў, пераважна ўпрыгожаньняў. Пры ім была таксама жалезная сякера. З 7 памёршых 3 было мужчынаў, 2 жанчыны і двое дзяцей.

Падобныя калектыўныя курганы з падобнай культурай сустракаюцца і ў Латвіі ў басэйне Дзьвіны. Моора (H. Moora) не зусім згаджаецца з поглядам, што сярэдні шкілет належыць да галавы сям'і, бо ў некаторых курганох сярэдні шкілет ёсьць жаночага роду. Здараюцца таксама калектыўныя курганы, дзе ў сярэдзіне знаходзіўся шкілет мужчыны і жанчыны з аднаго часу.

У латышскіх калектыўных курганох у розных напластаваньнях маюцца сьляды целапальнага абраду.

Кірунак палажэньня памёршых не аднолькавы: найчасьцей галавой на захад або на поўнач. Здараюцца і на ўсход (напр. у

Павіеках). Аднак у адным кургане захованы адзін кірунак. Ва ўсіх курганох памёршыя ляжалі наўзнак з выпраставанымі нагамі. Палажэнне рук рознае. Найчасьцей рукі зложаныя на грудзёх (у жанчынаў заўсёды), часамі мужчыны маюць праву руку падложаную пад галаву (напр. у курганох у Вісдэрках, Гібачох, Рынкшэлях).

Падобна як у плоскіх жамойдзкіх магілах у галовах і нагах шкілетаў паложаныя па два каменьні, праўдападобна дзеля падпоры бярвеннай дамавіны. Хоць выразных сьлядоў дамавіны ня знойдзена, усё аднак прамаўляе за гэтым. У адным кургане ў Рынкшэлях косьці шкілету так былі скорчаныя, што ніяк нельга гэтага вытлумачыць інакш, як цеснай дамавінай. У кургане ў Слаце (Slatē; Латвія) адзін шкілет нават быў акручаны бярозавай карой. Каменьні пад шкілетамі выступаюць таксама і ў курганох у Латвіі.

Звычай стаўляньня рэчаў у кургане гэткі самы, як у сярэдняй Жамойдзі гэтага часу. Пры шкілетах мужчынаў знаходзім упрыгожаньне і некаторае снадзіва.

Зброя сустракаецца рэдка. Пры шкілетах жанчын упрыгожаньне і прылады жаночай працы (ножніцы, верацёны, іголкі). Не перасцерагалася азначанае месца на стаўляньне рэчаў.

Зьвярнуць яшчэ трэба ўвагу на некаторыя курганы паўночнай Жамойдзі, дзе былі знойдзеныя шкілеты ў сядзячым палажэньні. Так напрыклад у адным кургане ў Купрах сярод 3 знойдзеных шкілетаў адзін быў у сядзячым палажэньні. Ён сядзеў на камені, ногі скіраваныя на паўночны захад, у левай руцэ трымаў калок. Другі выпадак меўся ў кургане ў Рагіненах: шкілет быў таксама ў сядзячым палажэньні, трымаючы руку ў губе. Аб падобным выпадку ўспамінае Тышкевіч (K. Tyszkiewicz) на магільніку ў Кернаве на рацэ Вяльлі.



*Каменная скрыня з попельніцай з кургана ў Мішэйках*

Адначасова трэба падкрэсьліць, што ў паўночнай Жамойдзі і Латвіі гэтыя целапахавальныя курганы зьнікаюць у V—VI стст. пасля Хрыста, а іх месца займаюць плоскія целапахавальныя магілы жамойдзкага тыпу.

Паўстае пытаньне, якая прычына выклікала розніцу ў пахавальным абрадзе між прасторай Латвіі (сёньняшняй Латгаліі) і паўночнай Жамойдзі з аднаго боку, а сярэдняй і заходняй Жамойдзі з другога.

Розьніца гэтая відавочная. Там выступаюць вялікія магільнікі з плоскімі чатырохкутнымі абрамаванымі каменьнямі ямнымі магіламі, тут круглыя насыпаныя і з каменнымі кругамі курганы, у большасьці выпадкаў індывідуальныя або зьмяшчаючыя памёршых адной сям'і. Там палажэньне памёршых (асабліва ў заходняй Жамойдзі) у аднолькавым кірунку пры азначаным звычаі ўкладаньня канцавінаў, стаўляньні рэчаў, прытым мініятурная пасудзіна ў галовах мела абрадавае значаньне; тут трудна ўстанавіць гэткі парадак. Злучае адно істотнае: целапахаваньне. Прычына культурнай розьніцы між гэтымі акругамі ляжыць не ў этнічнай розьніцы насельніцтва, але зьвязана з дзяржаўна-палітычнымі мамэнтамі.

У другім стагодзьдзі пасьля Хрыста распачалася вялікая міграцыя насельніцтва Эўропы, аб чым будзе дакладней яшчэ гутарка ў асобным разьдзеле. У гэтай вялікай міграцыі прымалі ўдзел і славяне, сядзеўшыя ў раёне Балтыцкага мора. Як паказваюць раскопкі ў Жамойдзі, першымі ў гэтай міграцыі былі волаты (II ст.), якіх яшчэ Пталемэй памяшчаў між Дзьвіной і Нёманам. У канцы II ст. пасьля Хрыста волаты-люцічы з гэтай прасторы перасунуліся ў глыб Усходніх Прусаў і Памора, дзе з III—IV стст. пасьля Хрыста наглядаецца згушчэньне целапальных кurганоў. Іх месца занялі жамойды. Яны праўдападобна тварылі асобную групу (не латыска-жамойдзкую), бо іх магілы ў заходняй Жамойдзі (у перадавой частцы племеня) прадстаўляюць сабой чыстую культурную форму, бяз большых чужых уплываў у супрацьстаўленьні да латыскіх магілаў з гэтага часу.

Інакш крыху прадстаўляецца справа ў басэйне заходняй Дзьвіны. Славяне займалі гэты басэйн і пабярэжжа мора ад III — IV пэрыяду бронзы аж да V ст. пасьля Хр. — гэта значыць каля




*Перасяленьне ва Ўсходняй Прыбалтыцы ў III—IV стст.*

1500 г. У другім ст. перад Хр. пачынаюць пранікаць сюды латышы з раёну /ракі/ Ловаці і сяліцца між фінскага субстрату (кураў, ліваў і інш.). Фінскі субстрат стаўся прычынай дыфэрэнцыяцыі латыскай мовы ад жамойдзкай, раней супольнай.

Ёсьць асновы думаць, што латышы раней былі пад славянскай (крывіцкай) гэгэмоніяй у раёне вадазбору Ловаці, на адным з водных шляхоў у Скандынавію, дзе пачаўся працэс славянізацыі латышоў. Гэты працэс выразна адбіўся галоўным чынам на пераменах пахавальнага абраду з ямных магілаў у целапахавальныя курганы, засяг якіх даходзіць на ўсходзе да Валдайскага ўзвышша[58]. Закончыўся ён поўнай славянізацыяй

[58] Паводле А. Спіцына на пераломе IV—V стст. пасьля Хр. пачынаюць зьнікаць целапахавальныя магілы з жамойдзкім матэрыялам у водазборах Акі і Камы. У V—VI стст. выступаюць там ужо целапальныя курганы. Гэта абазначае, што аснаўная маса латыска-жамойдзкай групы ў гэтым часе перасунулася над Балтыцкае мора, а рэшта ўлілася ў славянскую масу, якая ў гэтым часе займала названую прастору.

прыблізна ў VIII—IX стст. пасьля Хр., так што латышы як адзельная этнічная гзупа ўтрымаліся толькі ў раёне ніжняй Дзьвіны, дзе наступіла славянская міграцыя ў V ст. пасьля Хрыста.

У V ст. пасьля Хрыста славянская міграцыя асягнула найбольшы свой размах між Віслай і Дняпром. Ад гэтага часу славяне ў вялікім выраі ідуць на поўдзень, штурмуюць Бізантыйскую Імпэрыю і на захадзе пераходзяць Лабу (Эльбу), ды высаджваюцца нават на Брытыйскіх астравах. Найбольш актыўнай групай у гэтай міграцыі ўздоўж Балтыцкага мора на захад былі волаты-лютычы, якія ў аснаўным пакінулі басэйн ніжняй Дзьвіны і ўсходняе пабярэжжа Балтыцкага мора, устрымоўваючы гэтым і працэс славянізацыі падуладных плямёнаў. Раскопкі гэта поўнасьцю пацьвярджаюць: у VI стагодзьдзі пасьля Хрыста зьнікаюць курганы на вышэй азначанай прасторы і выступаюць амаль вылучна целапахавальныя плоскія магілы жамойдзкага тыпу.

Такім чынам ад VI ст. усходняя частка Прыбалтыкі сталася ўжо не славянскай краінай, але заселенай рознымі фінскімі і латыска-жамойдзкімі плямёнамі, плаціўшымі крывічам толькі даніну (Tributpflichtig), аб чым маем гістарычную вестку ў Генрыка Латыша[59]. З хвілінай адыходу славянаў мусілі зьнікнуць і курганы як славянская з'ява, на карысьць чыста жамойдзкай культуры, бо спынены быў сам працэс (яшчэ незакончаны) славянізацыі /жамойдаў/.

Што дзеецца ў старэйшую жалезную пару (1—400 гг.) на ўсход ад ракі Нявяжы, а таксама ў Віленшчыне, Горадзеншчыне, Сувалшчыне і Усходніх Прусах, на што так заяўляюць свае прэтэнзіі сённяшнія жамойды?

Пачнем ад Ковеншчыны і Віленшчыны. На гэтай прасторы амаль непадзельна ад найдаўнейшых часоў (III пэрыяд бронзы) аж да прыняцьця хрысьціянства пануе адна культура — целапальных курганоў. Мы толькі што зацемілі, што ў V—VI стст. пасьля Хрыста зьнікаюць курганы з прасторы ад Нёмана да

[59] Генрых Латышскі, «Хроніка Лівоніі» (1227 г.): «Названы сьвятар (Meinardt), атрымаўшы дазвол на шырэньне хрысьціянства ад караля плоцэкскага (полацкага) Вольдэмара, якому паганскія Лівы плацілі даніну, і разам з гэтым падарак ад яго, узяўся рупна да Божай справы і, пашыраючы хрысьціянства сярод Ліваў, збудаваў сьвятыню ў вёсцы Ікэсколе».

Дзьвіны, і ад Балтыцкага мора да рэкаў Нявяжы і Святой (Швэнта). На паўдзённы ўсход ад гэтых рэкаў наадварот курганы ня толькі ня зьнікаюць, але целапахавальныя пераходзяць у целапальныя. Гэта адносіцца і да Латгаліі.

У Ковеншчыне і Віленшчыне раскопкі былі праведзеныя ў розных гадох і абдымаюць вялікую колькасць кургаnоў з розных мясцовасьцяў ад найдаўнейшых гістарычных часоў. Да старэйшага жалезнага пэрыяду залічаюцца курганы ў Паконісах (пав. Коўна), у Маргох (пав. Эйшышкі), у Начы, у Мержанах (пав. Сьвянцяны), Зэйменах (пав. Свір), Мігонах (пав. Трокі), Канюхох (пав. Уцера), Кэрнаве (пав. Укмерга) і ў Свіры.

Дасьледаваныя курганы ў сваёй большасьці маюць целапальны матэрыял з усімі элемэнтамі крывіцкіх целапальных кургаnоў.

Шкілетныя курганы побач целапальных знойдзеныя ў Канюхох і Межанах каля Сьвянцянаў. У Межанах раскопана і дасьледавана 7 кургаnоў з целапахавальным матарыялам. Курганы



*Пахавальны абрад старажытных славян: спаленьне нябожчыка ў лодцы*

мелі трайныя каменныя кругі. Вышыня гэтых курганоў была ад 0,5 да 0,95 м, шырыня ад 7 да 12 м. Амаль ва ўсіх курганох ляжалі па два шкілеты (мужчына і жанчына, два мужчыны, дзьве жанчыны). Ці шкілеты паходзяць з аднаго часу, нельга на аснове ўсіх прызнакаў дакладна ўстанавіць. Яны знаходзяцца на такой самай глыбіні, але ў асобных ямах ды ў розных мясцох кургана. Памёршыя ляжалі не на зямлі, але ў ямах, глыбінёй прыблізна на 60 цм. Кірунак усіх памёршых галовамі на захад. Шкілеты зусім рассыпаўшыся, але можна ўстанавіць, што ляжалі наўзнак з выпраставанымі канцавінамі. Аб магчымых дамавінах можна судзіць на аснове арганічных астаткаў і бронзавых упрыгожаньняў дамавіны.

Пры мужчынах знаходзілася зброя і ўпрыгожаньне ды рознае снадзіва, пры жанчынах — упрыгожаньне і прыладзьдзе хатняй гаспадаркі. Памёршыя былі пахаваныя ў багатай вопратцы з рознымі ўпрыгожаньнямі з бронзы. Пры мужчынах больш зброі, чымся ў курганох з паўночнай Жамойдзі і Латвіі. Тут сустракаем копіі, шчыты, ваенныя сякеры, нажы і іншае.

Шкілетныя курганы з Мержанаў і Канюхоў (пав. Уцена) паходзяць з канца IV ст. пасьля Хр. Яны ў аснаўным падобныя да курганоў у Зэмгалах і зьмяшчаюць, як і там, элемэнты жамойдзкай і славянскай культураў. Гэта сьведчыць, што ў раёне Уцены і Сьвянцянаў у IV—V стст. пасьля Хрыста пранікала жамойдзкае насельніцтва, якое ўжо ў VI ст. пасьля Хр. аслявянізавалася. Ловмянскі (Łowmiański) зусім трапна заўважыў, што рака Нявяжа не тварыла рэзкай мяжы між Жамойдзяй і Літвой, але галоўную мяжу, абапал якой знаходзіліся кліны мяшанага насельніцтва.

Такім чынам у пэрыядзе між нараджэннем Хрыста і V ст. пазьней на паўдзённы ўсход ад Нявяжы і Святой, г. зн. у Ковеншчыне і Віленшчыне выступае славянская культура цэлапальных курганоў, так як і ў ранейшых пэрыядах, а невялікія астраўкі жамойдзкага насельніцтва ў раёне Уцены і Сьвянцянаў знаходзяцца пад дзеяньнем славянізацыі і ўспрыманьня крывіцкай культуры. З гэтага часу паходзяць сьляды крывіцкага гарадзішча на Крывой гары ў Вільні.

Падобнае з'явішча прадстаўляе прастора Горадзеншчыны, Лідчыны, Беласточчыны, Сувальшчыны і Усходніх Прусаў. На гэтай прасторы да V ст. пасьля Хр. нідзе ня знойдзена целапахавальных магілаў жамойдзкага тыпу, або з элемэнтамі гэтай культуры. Як правіла выступаюць курганы целапальныя з вялікай колькасьцю каменьняў унутры ў выглядзе крушні, як гэта мы бачылі ў паўночным засягу лужыцкай культуры (уплыў мэгалітнай культуры). Сярод пераважаючай колькасьці целапальных кургаю ў сустракаюцца тут таксама і целапахавальныя, але не жамойдзкага паходжаньня. Прыгледзімся бліжэй дв гэтых курганах.

а) Шкілетныя курганы. Шкілетныя курганы з часу да V ст. пасьля Хр. былі дасьледаваныя ў Дзельніцы каля Мар'ямполя, у Плацічне (пав. Сувалкі), Рэўшэндорф (пав. Лык), Растолты (пав. Беласток), Кутаве над Нарвай і іншых.

У Дзельніцы каля Мар'ямполя раскопаныя былі Пузынасам і Кулікоўскім у 1938 г. каменныя курганы з шкілетамі. На жаль шкілеты былі так зьнішчаныя, што нельга было нічога канкрэтнага ўстанавіць, апрача часу паўстаўня гэтых курганоў з канца старэйшага жалезнага пэрыяду.

У Плацічне (пав. Сувалкі) быў раскопаны ў 1941 г. плоскі каменны курган з двума шкілетамі. Пры шкілетах знойдзена нашыйнік, чатыры наплечныя бронзавыя бляшкі, чатыры бранзалеты, бронзавы пояс з асярэбранымі пліткамі і кольцамі ды чалавечымі фігуркамі. Упрыгожаньні носяць сьляды гальштацкай культуры.

Зьнішчаныя шкілеты не далі магчымасьці ўстанавіць дэталяў пахавальнага абраду.

У іншых мясцовасьцях, як Рэўшэндорф (Reuschendorf), Бардлова, Растолты, Кутаве каменныя курганы невысокія ў выглядзе крушні, сярод каменьняў, у яме знаходзіцца шкілет з выпраставанымі канцавінамі і паложаны ґалавой на захад. Пры шкілетах прадметы гэткія самыя, як і ў целапальных курганох з сьлядамі гальштацкай і кэльцкай культураў, маем тут чыненне з працэсам славянізацыі старога фінскага субстрату, характэрнага для так званай мазурскай культуры.

Куды багацей (у большым ліку) на азначанай прасторы выступаюць курганы з целапальным абрадам. Дасюль былі раскопаныя гэткія курганы з часу да V ст. пасьля Хр. у мясцовасьцях: Плацічна (пав. Сувалкі), Рачкі (пав. Сувалкі), Баргалова каля Аўгустова, Юдзікі, Казароўка, Грыневічы (пав. Бельск) і ў тым жа павеце ў Рэпніках, Паўлах, Крыўцы, Котлаўцы, Ласінцы, Асаўцы, Жывой вадзе.

Курганы заўсёды перапоўненыя каменьнямі. Пераважаюць калектыўныя курганы як у маладзейшым, так і ў старэйшым жалезным пэрыядзе, з той толькі розьніцай, што ў старэйшым пэрыядзе курганы маюць плоскі выгляд.

У адным кургане сустракаюцца некалькі (да васьмі) попельніцаў. У Рачках попельніцы знаходзіліся ў круглых, неглыбокіх ямах (уплыў ямных паховінаў позняй лужыцкай пары). Такі самы спосаб паховінаў знойдзены ў Баргалове і Жодзішках. Спаленыя косьці зложаныя былі ў анатомным парадку ў попельніцах, прыкрытых пакрыўкамі. Попельніцы маюць выгляд агульнаславянскіх з бронзавай эпохі.

Сустракаюцца таксама і паховіны бяз попельніцаў. Так напрыклад у кургане ў Баргалове спаленыя косьці знаходзіліся ў яме, а жаночыя ў попельніцы. Тое самае ў Козараўцы каля Драгічына, пры гэтым зацемім, што на попельніцы былі паложаныя два кап'і і шчыт. У попельніцы была місачка з касьцямі. Крыху далей, у гэтай самай яме былі спаленыя астаткі чалавека бяз попельніцы. На спаленых касьцях ляжалі два жалезныя нажы і асёлка да асрэньня. Тут былі пахаваныя два мужчыны.

У кургане ў Бутаве (пав. Бельск) у сярэдзіне быў знойдзены шкілет і побач астаткі ад целапаленьня. Язджэвскі (K. Jażdżewski), які дасьледаваў гэтыя курганы, перакананы, што спаленыя косьці належаць да мужчыны, а шкілет да нявольніцы. Пры шкілеце знойдзены грэбень. У Рачках пад целапальным курганом знаходзіўся шкілет каня[60].

[60] Пры паховінах рыцара ў часе целапальнага абраду зьнішчаліся ўсе ягоныя рэчы і прыналежная зброя з канём. Конь быў спальваны, або закопваны ў яме, перад гэтым перамучаны яздой. Асабліва шматлікія конскія магілы побач целапальных паховінаў маюцца ва Усходніх Прусах, дзе была канцэнтрацыя славянскай ваеншчыны. У Прусах гэты звычай быў шырока практыкованы ў часе інвазіі нямецкага ордэну крыжаносцаў (сярэдзіна XIII ст.).

## Яцьвяскія курганы

На асаблівую ўвагу заслугоўваюць курганы яцьвягаў, якія знаходзяцца на крывіцкай тэрыторыі між Усходнімі Прусамі ў вадазборах рэкаў Нарвы і Буга, сягаючы на поўдні да Валыні, а на ўсходзе даходзяць да Нёмана і Зэльвянкі.

Архэалягічны матэрыял з гэтых курганоў поўнасьцю зьбівае беспадстаўнасць прыпісваньня яцьвягам т. зв. «балцкага» паходжаньня, гэта значыць расавую і моўную прыналежнасьць да латышска-жамойдзкай групы. На жаль гэты погляд так укараніўся ў сучасную гістарычную літаратуру, што мэханічнае яго паўтарэньне знойдзем ва ўсіх амаль аўтараў на розных мовах. Усю гэтую фантазію разьвейвае аналіз архэалягічнага, антрапалягічнага і моўнага матэрыялу пры сухіх і агульных гістарычных вестках.

Яцьвяскія курганы на тэрыторыі Крывіччыны выступаюць ад III—IV стст. пасьля Хр. і аж да гістарычных часоў. Гэткія курганы былі дасьледаваныя ў Рэўшэндорфе, Растолтах (пав. Беласток), Кутаве, Рэпніках, Паўлах, Крыўцы, Котлаўцы, Ласінцы, Драгічыне, Жарнаўцы, Попаве і іншых мясцовасьцях.

Курганы прадстаўляюць сабой вялізныя насыпы каменьня, пяску і гліны ад 15 да 20 м у разрэзе, 2,5 м вышыні, /яны/ ужо навонкі вырозніваюцца ад славянскіх курганоў. У кургане ў Растолтах знаходзілася яма 2,35 м глыбінёй, 5 м даўжыни і на 3 м шырыні, над якой скляпеньне было зробленае з дзерава, пакрытае слоем гліны. Памёршы быў няспалены. Падобныя курганы з шкілетным зьместам дасьледаваныя былі ў названых вышэй мясцовасьцях.

Пры шкілетах знойдзены прадметы ўпрыгожаньня як кольцы, пацеркі са шкла і гліны рознафарбныя (уплыў прыдунайскай культуры), на пальцах пярсьцёнкі з бронзы, часта крučаныя з дроту, жалезныя нажы і насадкі да стрэлаў, эмальованыя бляшкі (кэльцкага паходжаньня), астаткі вопраткі з тоўстага брунатнага сукна, сьляды цёмных валасоў.

З курганоў гэтых Копэрніцкі (Kopernicki) дасьледаваў 15 шкілетаў. Сярэдні рост даволі высокі — 172 цм. Чэрапы невялікіх разьмераў доўгагаловыя. У жаночых чэрапах выразьней вы-

ступаюць нарасьлі на лобе і цемі, цемя сплясчанае, зад галавы карацейшы і шырэйшы ад мужчынскіх, інакш кажучы, чэрапы жанчынаў сярэднягаловыя з нахілам да кароткагаловасьці (55 % і 44 %). Рост жанчынаў ніжэйшы ад мужчынаў — 164 цм. Мужчыны прадстаўляюць іранскі тып з цёмнай пігмэнтацыяй, аб гэтым сьведчаць астаткі цёмных валасоў, жанчыны — мяшаны тып, характэрны для славянскага насельніцтва Горадзеншчыны і Беласточчыны.

Яцьвяскія курганы як сваёй пабудовай, так і матэрыяльнай ды духовай культурай належаць да скіфска-сармацкага культурнага кругу і гэтым пацьвярджаюць гістарычныя весткі аб сармацкім паходжаньні яцьвягаў.

Адначасова трэба зацеміць, што яцьвяскія курганы не выступаюць самастойна, гэта значыць не займаюць акрэсьленай



*Каменныя магілы яцьвягаў*

тэрыторыі вылучна, але твораць даволі рэдкія астраўкі між курганоў славянскага паходжаньня, што таксама пацьвярджае іхні намадзкі спосаб жыцьця сярод крывіцкага насельніцтва.

Такім чынам зусім неабаснаванай ёсьць цьверджаньне аб яцьвяскай «тэрыторыі», краіне яцьвягаў ды прыпісваньне ім тым больш пляменнага адзінства з прусамі ці жамойдамі. Яцьвягі былі каротка трывалай і чыста намадзкай з'явай сармацкай групы і таму не маглі адыграць большай палітычнай ці культурнай ролі на чужой, заселенай тэрыторыі, і хутка паддаліся працэсу асыміляцыі і славянізацыі. У X—XIII стагодзьдзях пасьля Хр. занікаюць амаль зусім характэрныя яцьвяскія курганы, а на ўсёй прасторы, прыпісванай яцьвягам, пануюць амаль выключна курганы з целапальнай культурай.

*Як раней ужо было падкрэсьлена, навейшыя вывучэньні пытаньня паходжаньня скіфаў і сарматаў даказваюць памылковасьць цьверджаньня (у дадзеным выпадку і Талько-Грынцэвіча) аб урала-алтайскім ці мангольскім паходжаньні скіфа-сармацкай групы. Па сваёй мове /скіфы і сарматы/ належалі да індаэўрапэйскай групы сатэм, а паводля расавага складу прастаўлялі іранскі тып з вялікім працэнтам нардыцкай расы (37 %).*

Сам назоў яцьвягі ёсьць сармацкага паходжаньня ад jacyges / ἀζιγες / Пталемэй памяшчае іх сталую сялібу, адкуль яны потым перасунуліся на захад, над Азоўскім морам і называе іх Jacyges Sarmatikos, адрозьніваючы ад Jacyges Metanastos, або язычаў-перасяленцаў, што знаходзіліся між Дунаем і Цісай у кліне між рымскай Панoніяй і Дакіяй. Назоў «перасяленцы» паказвае на заходнюю міграцыю яцьвягаў знад Азоўскага мора, якая праўдападобна адбылася ў I ст. перад Хр., пасьля таго, як між 60—55 г. геты разбурылі грэцкую калёнію над Днястром Ольвію. Паяўленьне яцьвягаў над Дунаем сьцьвярджае Овідый, будучы ў тым часе на выгнаньні; далей Тацыт і Пліній.

Марцэл называе іх Sarmatae Luginantes — сарматамі-пагранічнікамі. Ваннус, правадыр маркаманаў, у барацьбе з падуладнымі плямёнамі карыстаўся яцвяскай конніцай. За панаваньне Марка Аўрэлія (166—172, 177—180 гг.) яцьвягі нападаюць на рымскую тэрыторыю на пагранічы між Цісай і Дунаем.

Толькі зімой 171/172 г. удалося рымлянам аднесьці перамогу над яцьвягамі і маркаманамі.

У пазьнейшым часе, г. зн. у V ст. пасля Хр. яцьвягі бяруць удзел разам з гэрманскімі плямёнамі ў паходах на Рымскую Імпэрыю, а іхнія правадыры Beugo і Babai займаюць Singidunumis (Белград). Жылі яны на вазох, падобна як скіфы і вырозьніваліся мэдыйскай чорнай вопраткай. Адзначаліся ваяўнічасьцю.

Пталемэй называе іх наступныя гарады (з ранейшым славянскім насельніцтвам): Uscenum, Borinanum, Abinta, Trissum, Parka, Kandanum, Pessum і Patissum. Здаецца ў IV ст. пасьля Хр. пад націскам готаў, а наступна гунаў, якія занялі Панонію і ранейшую прастору, дзе былі яцьвягі над Цісай, яны, перайшоўшы Карпаты, пасяліліся ў верхнім Днястры і Бугу (Холмшчына), а потым перасоўваліся па Бугу на крывіцкую тэрыторыю ды ва Усходнія Прусы. З гэтага часу паходзяць яцьвяскія курганы, аб якіх была гутарка раней.

Некаторыя аўтары залічаюць «Sudinoi» Пталемэя, сядзеўшых у Сувальшчыне, да яцьвягаў. На гэта няма ніякага абаснаваньня. Пталемэй выразна памяшчае Jacyges над Азоўскім морам і між Дунаем — Цісай. Паўдзённы кірунак прыходу яцьвягаў паказваюць апрача архэалёгічных раскопак пазьнейшыя весткі.

Ад X да XIII стст. яцьвягі былі вялікай пагрозай для кіеўскай Русі і для Польшчы на паўдні ў верхнім бегу рэкаў Буг, Прут і Днестар. Кіеўскія князі (Уладзімір, 983 г.; Яраслаў, 1038 г.; Яраслаў сын Сьвятаполка, 1113 г.; Даніла Галіцкі, 1256 г.) вядуць заўзятыя войны з яцьвягамі не ў Горадзеншчыне, Сувальшчыне і Беласточчыне, але на паграніччы Галіччыны і Валыні (Холмшчына, дзе сёньня жывуць лемкі).

Уладзімір у 983 г., паводля «Повести временных лет», «победи ятвягы, и взя землю их». Паход кіеўскіх князёў ніколі не даходзіў да Берасьця, а змаганне галоўным чынам з Польшчай ішло за Чэрвенскія гарады (Уладзімір, Сьвятаполк і Яраслаў). Толькі галіцкі князь Даніла ў 1256 г. у сваім паходзе на яцьвягаў пакарыў іх і завалодаў Драгічынам. У гэтым часе яцьвягі ўжо былі далей на поўначы. Іх адціснула татарская навала, якая ў 1241 г. зраўняла з зямлёй Галіччыну, Паўдзённую Польшчу ды Холмшчыну. Яцьвягі перад татарамі ўцяклі на Літву (Крывіччыну)

і перайшлі на службу Вялікага Князя Літоўскага. Астаўшыхся яцьвягаў і іх правадыра Комата разьбіў у 1264 г. польскі кароль Балеслаў V на мяжы Падляшша і Любліна. Канчаткова ў гэтай старой прасторы перасяліўшыхся намадаў зьнішчыў польскі кароль Лешак (1279—1288).

У цяжкіх баёх, як дапаможнікі Літвы, з нямецкім ордэнам Крыжаносцаў яцьвягі настолькі страцілі сваю сілу, што пасьля паражэньня ў 1283 г. пад Мірунскам зышлі з палітычнай арэны і на працягу наступных стагодзьдзяў поўнасьцю аславянізаваліся. За часы Мацея з Мяхова (пам. 1523) і Кромэра (пам. 1589) існавалі толькі невялікія астаткі гэтага племені на тэрыторыі Крывіччыны. Т. Нарбут сьцьвярджае, што ў аколіцы Скідля на левым берагу Пелясы і Котры, у ягоныя часы (1835 г.) жылі нашчадкі яцьвягаў, званыя акалічным насельніцтвам «ядвеж» і вырозьніваліся цёмнай пігмэнтацыяй скуры і валасоў, чорнай вопраткай і звычаямі ад крывіцкага насельніцтва, хоць ужо гутарылі па-крывіцку з чужым акцэнтам. Аб іх собскай мове маем весткі ў Кромэра: «Feruntur adhuc tenues quaedam eorum reliquiae superesse in Litvania et Russia, diversa prorsus a Slavis et Litvania lingua utentes».

Путаніцу ўвялі Кадлубак (Kadlubak), Богухвал (Boguchwał) і Длугаш (Długosz), якія не адрознівалі бліжэй яцьвягаў, як самастойнае племя, але бачылі толькі аб'яднаныя



*Інвентар з яцьвяжскага пахаваньня: баявая сякера, часткі стрэмя, спражкі*

злучэньні яцьвягаў, літвы і прусаў, нападаючыя на Польшчу, і таму прыпісвалі ўсім тыя самыя прыкметы. Кадлубак яцьвягаў называе полексяне (Pollexiani) і ўважае за готаў: «Sunt Pollexiani Getharum sive Prussorum genus». За готаў уважае іх і Богухвал.

Аб месцы побыту яцьвягаў сьведчаць некаторыя геаграфічныя назовы: у Вугоршчыне — Jaszsag, Jazygia, Jasz; у Галіччыне вёскі Ядвенкі, Ятвінгі; у Холмшчыне Ятвеск; у Крывіччыне — возера Яцьвезь, вёскі Яцьвязь, Язьвіны і падобныя (каля Ляхавічаў, Драгічына, Аўгустова і інш.). Сустракаюцца па сёньняшні дзень некаторыя іншыя назовы, праўдападобна яцьвяскага паходжаньня, як Індура, Скідаль, Пігасы, Талалайкі, Юндзіловічы, Жэльва, Жэльвянка, Ятра, Ярутычы і іншыя.

У крыніцах з 1260, 1268 і іншых гадоў успамінаюцца прозьвішчы яцьвяскіх правадыроў, як Nebiast, Warw, Stekint, Aikab, Jundził, Komath і іншыя. Апошні яцьвяскі князь (правадыр) Скумант разам з Літвой вёў заўзятыя змаганьні з Нямецкім ордэнам і быў пераможаны ў 1283 г. Можна думаць, што імёны тыпу Скірмант, Доўмант, Ясмант — яцьвяскага паходжаньня.



# Глава 7
# СЯРЭДНЯЯ ЖАЛЕЗНАЯ ПАРА (400–800 гг.)

І так мы прагледзелі пэрыяд, трываючы больш 1500 год і ахапляючы эпоху бронзы і жалеза аж да часу вялікіх міграцыяў народаў у Эўропе, спалучаных з разваламі Рымскай Імпэрыі. На аснове археалягічнага матэрыялу мы ўстанавілі, што ўсю Прыбалтыку на працягу азначанага часу займалі славяне; жамойда-латышская група перасунулася сюды ў жалезную пару: у II стагодзьдзі перад Хрыстом латышы былі ўжо ў басэйне ніжняй Дзьвіны, а першыя сьляды жамойдаў знаходзім прыблізна на 400 год пазьней, у II ст. пасьля Хрыста на прасторы сёньняшняй Жамойдзі.

Адначасова мы падкрэсьлілі пачатак міграцыі славянаў з раёну Балтыцкага мора на захад, якая пачалася ў канцы II ст. пасьля Хр. На пераломе V—VI стст. яна прыняла найбольшы свой размах і гэтым спрычынілася да некаторых далейшых пераменаў этнічных суадносінаў у Прыбалтыцы, галоўным чынам ва Усходніх Прусах, куды (да рэкаў Прэгола і Анграпа) часткова перасялілася жамойдзкая група, пашыраючы сваю прастору на захад. Таму неабходна шырэй кінуць вокам на вялікую славянскую міграцыю і на культурныя перамены, як вынік гэтай міграцыі.

Славянская міграцыя і вялікая экспансія на захад і поўдзень ня ёсьць самастойным з'явішчам, але хутчэй вынікам, з аднаго боку, руху нямецкіх пляменаў з поўначы на поўдзень і штурмуючых раскладаючыюся Рымскую Імпэрыю, а з другога боку — руху азіяцкіх народаў (гунаў, баўгараў, авараў) у Дунайскі басэйн. Славяне выкарысталі гэтыя спрыяльныя ўмовы дзеля здабыцьця і заняцьця сваёй собскай прасторы, на якой сядзелі больш тысячы гадоў да кэльцкай навалы і памяць аб якой не загінула міма 500-гадовай яе страты. Не прыпадковым з'яўляецца таму імкненьне славянаў завалодаць сярэдняй Эўропай, Дунайскім басэйнам, Балканамі, Венэцыяй, усім пабярэжжам Балтыцкага мора ды нават рэстаўраваць свае страты на Брытыйскіх астравах і на Атлантыцкім пабярэжжы.

Пасьля кэльцкай навалы і зьнішчэньня старой лужыцкай культуры сялібай вольнага славянства сталася прастора між Віслай і Дняпром, верхнім Днястром і Балтыцкім морам.

Маем нямала доказаў як архэалягічных, так і гістарычных, з часу гэтай канцэнтрацыі вольнай славяншчыны, галоўным чынам на тэрыторыі Крывіччыны.

Побач шматлікіх целапальных курганоў, аб чым ніжэй, дасьледаваныя былі і гарадзішчы з часу між I—V стст. пасьля Хрыста. Назавем з іх некаторыя. У цэнтральнай частцы Крывіччыны ведамае гарадзішча ў вёсцы Банцароўшчына (Менскі павет). Яно было паложанае на высокім берагу ракі Свіслач, акружанае з трох бакоў валамі да 2,5 м вышыні і равамі. Культурны слой гарадышча даходзіў да 1,5 м таўшчыні, што сьведчыць аб існаваньні жыцьця ў ім на працягу стагодзьдзяў. Асаблівасьцю культурнага слоя былі каменныя стаянкі з астаткамі сьлядоў рознага рамясла як ганчарства, кавальства (жалезныя сярпы), прадметаў упрыгожаньня з бронзы, хатняй гаспадаркі — з косьці, а што найважнейшае — шмат жалезнага жужлю, што паказвае на сплаўку жалеза.

Падобныя гарадзішчы з I—V стст. былі дасьледаваныя ў вёсцы Загорцы, на рацэ Ловаці, у вёсцы Аздзятычы на рацэ Беразіне каля Барысава, на Барсучай Горцы на правым берагу Дняпра каля Магілёва. Ва ўсіх сьцьверджана абаронныя валы і

драўляна-зямная будоўля, унутры каменныя стаянкі з сьлядамі рознага рамясла і сплаўліваньня жалеза з балотністых рудаў.

Аснаўным матэрыялам для пабудовы гарадоў славяне ўжывалі дзерава і таму ў шматлікіх выпадках няведамыя іх сьляды. Аб гэткіх драўляных гарадох у славянаў успамінае Гэрадот, «Повесть временных лет», Ібн-Фадлан, Масудзі (Al Masudi), Дытмар (Ditmar), Адам Брэменскі (Adam Bremensis), Саксон Граматык (Saxo Grammaticus), Гельмонд (Helmond), Эбон (Ebon), Герборт (Herbort), Ота Бамбэргскі (Otto von Bamberg) і іншыя.

Гэаграф Баварскі з IX ст. пасьля Хрыста называе некаторыя плямёны, сядзеўшыя на тэрыторыі вольнага славянства, падаючы лік іх гарадоў: Glopeani — 400 гарадоў, Chozirozi — 250, Zabrozi — 212, Thadesi — 200, Vuillerozi — 180, Aturezani — 104, Lendizi — 98, Znetalici — 74 і гэтак далей[61].

Не прыпадкова ў скандынаўскіх сагах гэтая прастора называецца «Гардарыка», гэта значыць краіна гарадоў. А калі пачатны летапісец /Нестар/ пачынае складаць сваю канцэпцыю аб пачатку Кіеўскага гаспадарства, ён называе гарады быццам раздадзеныя Рурыкам «мужам сваім», дадаючы, што гэтыя гарады —




*Пра-славяны ў I стагоддзі*

[61] Сучасныя даследчыкі лічаць, што абсалютная большасць так званых «гарадоў» гэта былі воласці, альбо паселішчы, якія мелі навакол сябе агароджу з бярвеньняў (палісад, востракол). — *Рэд.*

старыя населеныя пункты. У X ст. гарады тварылі палітычныя цэнтры і таму летапісец не інакш думае, як іх катэгорыямі. Ад назоваў гарадоў /ён/ называе і падуладнае насельніцтва, а ў дагаворы з грэкамі ў 907 г. дае пералік не пляменаў, але гарадоў — палітычных цэнтраў, называючы Кіеў, Чарнігаў, Пераяслаў, Полацак, Растоў, Любэч і «прочая грады».

На гэта, каб гарады сталіся цэнтрамі палітычнага жыцьця, муселі мець за сабой багатую ў стагодзьдзі мінуўшчыну.

Рыбакоў паказвае ў сваёй працы (1948 г.), што ўздоўж Падняпроўя каля вялікіх пасёлкаў — вялікія магільнікі па 1000




*Шляхі экспансіі славянаў у VI—VII стст. (Паводле М. Гімбутас)*

і больш курганоў, сягаючыя IV ст. пасьля Хр., што даказвае даўняе іх існаваньне з шматлікім насельніцтвам. Прадпрынятыя Раўдонікасам у 1935—1947 гг. раскопкі ў Ладаге далі незвычайна цікавы матэрыял аб «крывіцкасьці» (даслоўна) гэтага гораду з незвычайна багатым культурным матэрыялам, які на акраінах, дзе былі праводжаныя раскопкі, сягае VII ст. пасьля Хрыста. Далейшыя і старэйшыя слаі яшчэ недасьледаваныя. Да гэткіх старых і слаўных гарадоў з багатай урбаністычнай культурай належыць і Смаленск. У Смаленску налічваецца найбольшы ў сьвеце лік курганоў[62]. Паводля Арціхоўскага[63] лік іх даходзіць да 3862 курганоў. Макоўскі[64] налічвае каля 5000.

Пачатыя Ляўданскім раскопкі Полацка і Віцебска сьцьвярджаюць багатую ўрбаністычную культуру ўжо ў VII—VIII ст. пасьля Хр. Падобныя дадзеныя даюць раскопкі Чарнігава і Кіева[65].

Другім важным паказьнікам існаваньня гарадоў на нашай тэрыторыі перад міграцыяй на захад і поўдзень ёсць гэаграфічныя назовы мясцовасьцяў, заснаваных прыбыўшым славянствам на занятай тэрыторыі і адбіваючых традыцыю ранейшага часу. Назавем некаторыя: Smalenskija, Smaland, цяпер Schmalkaden на рацэ Kalde ў заходняй частцы Цюрынгскага лесу; Kijeu (Кіеў), Racibor, Muscuua (Масква) у дакумантах з 1170 і 1012 гг. у заходніх славянаў; Hamel (Гомэль), Ilmenau (Ільмень), Kletzke (Клецак), Klinken (Клінцы), Kritzow (Крычаў), Lubz (Любча), Luckau (Луцак), Mir, Minsk, Pleskau (Полацак), Rastow (Растоў), Tarnow, Thurow (Тураў), Turau (Тураў), Volyn, Wolin — гарады заходніх славянаў.

Нямала падобных назоваў знойдзем у паўдзённай славяншчыне, як напрыклад распаўсюджаныя на нашай тэрыторыі назовы: Буда (каля Магілёва), Будзічы (там жа), Будка каля Палтавы; у цэнтральнай Крывіччыне: Буда, Буды, Будаева, Будавічы, Будакі, Будвішкі, Будзеневічы, Будзішча, Будкова, Будніца і г. д. У Польшчы сустракаем 178 гэткіх назоваў як Buda, Budy, Budki,

[62] Тут В. Пануцэвіч мае на ўвазе славутае Гнёздава каля Смаленску. Але большасць гэтых курганоў пакінулі скандынавы (вікінгі, варагі). Стары Смаленск (сучаснае Гнёздава) — гэта тыповы «вік» вікінгаў. — *Рэд.*

[63] А. У. Арцыхоўскі (1902—1978) — расейскі археолаг. — *Рэд.*

[64] Д. П. Макоўскі — аўтар кнігі «Смоленское княжество», выданай у 1948 г. — *Рэд.*

[65] Аляксандар Ляўданскі (1893—1937) — беларускі археолаг. Глядзі яго артыкулы з 1930—32 гг. — *Рэд.*

Budne; у Галіцыі больш за 50. У заходняй славяншчыне рака Buda, названая ў дакумэнце з 965 г.; у Дытмара пад 937 годам горад Будзічы, Будзішча, Будзец (каля ракі Saale), далей Budusin — сталіца мільчанаў, Budenstede (1116 г.).

У Багэміі такіх назоваў маем 8; у Вугоршчыне 30 з слаўным горадам Budzin; у Баўгарыі і Сэрбіі таксама шмат гэткіх назоваў. Budiml — сталіца Герцэгавіны. Ня менш распаўсюджанымі назовамі ў нас і ў заходніх славянаў ёсьць тыпу Волатава, як напрыклад Волатава і Волаты каля Смаленска, Волатава каля Магілёва і Пскова, Волатава каля Ноўгараду і Уладзіміра, Валатыня каля Горадні і Арла, Валатоўка каля Віцебска і г. д. Параўнай у заходніх славянаў: Weletkow, Welecin, Wohledow, Welzenwude, Welsen, Wilten і г. д. Тыпу Марава: Мараўск — замак і горад у Севершчыне, Morewa — замак на Жамойдзі, Морэва каля Ноўгараду, Marava ў Чэхах.

Нямала шырокай сеткай рассеяныя назовы тыпу Крывічы, характэрныя для крывіцкай прасторы; параўнай Krzywice, Krzywiczki ў Польшчы; Крывіцэ ў Галіччыне; Крывічынцы, Крывічы (Вялікія і Малыя), Крывін, Крывлін, Крывчыкі — на Валыні; Kryvita ў Сэрбіі; Крывічы ў Македоніі; Cräweitzen, Kräweitzen, Crewtzer, Criwitz, Crivese, Crivitze, Krivitz, Krevese, Krevitz, Krewicz і г. д. у заходніх славянаў. Шырока распаўсюджаныя таксама назовы ад племя дзераўляне, як Drevendorf, Drevin, Drewitz, асабліва ў Гановэршчыне і Лінэнбургу.



*Варыянт абарончага вала славянскіх гарадзішчаў*

Мы закранулі мімаходам гэтае пытаньне, каб паказаць, што выхаднай прасторай для вялікай міграцыйнай хвалі славянства на пераломе сярэдняй жалез-



*Славянскае гарадзішча поруч сучаснай вёскі Екімаўцы (Малдова), якое існавала ў IX—XI стст. Яго спалілі пячанэгі*

най пары была ў аснаўным Крывіччына і Прыбалтыка, як месца вольнага славянства. Мы падкрэсьлілі — вольнага, бо на захад ад Бугу і Віслы існавалі славяне, страціўшыя ад часоў кэльцкай навалы сваю незалежнасьць, зьмяшаныя з рознымі прыбылымі плямёнамі — кэльцкімі і нямецкімі, тракскімі і скіфа-сармацкімі. Мы падкрэсьліваем гэта і таму, каб даказаць беспадстаўнасьць сучасных польскіх гісторыкаў (Kostrzewski 1946, Sulimirski 1947, Lehr-Splawiński 1947, Czekanowski 1948, Tymieniecki 1951) і часткова ўкраінскіх (Шчэрбакіўскі, Грушэўскі), тэндэнцыйна перакручваючых факты і за ўсякую цану памяшчаючых т. зв. «прабацькаўшчыну славянаў» на тэрыторыі Польшчы ці Украіны. Гэтаму пярэчаць як археалягічныя, так і гістарычныя дадзеныя.

Ведамы сучасны польскі гісторык Кастшэўскі (Kostrzewski) ня мог выйсьці з бруднага становішча, сьцьвярджаючы, што «на спрадвечна польскіх землях ведаем нешматлікія прыклады абраду целапальнага на паўднёвых і паўднёва-ўсходніх ускраінах

тагачаснага рэгіёна польскіх плямёнаў, менавіта ў заходнім Падкарпацці, у Сандамірскім, Люблінскім ваяводствах і ў Белавежскай пушчы. Яшчэ радзей сустракаюцца целапальныя пахаванні на Памор'е і ў Вялікай Польшчы, на Мазоўшы і ў Сілезіі».



*Варыянт абарончага вала славянскіх гарадзішчаў*

Археалёгія сьцьвярджае: на тэрыторыі Польшчы з часу Рымскай эпохі, гэта значыць перад міграцыяй славянаў, /былі/ даволі вялікія культурныя і гаспадарчыя ўплывы рымскага паходжаньня, якія ішлі шляхам з-над Адрыятыку праз Карнунтум /Карынцію. — *Рэд.*/ або Віндабону (Вену) да Балтыцкага пабярэжжа. Іншыя важнейшыя рымскія шляхі ішлі ўздоўж Віслы, Сану і Бугу.

На гэтых шляхох знойдзеныя прадметы рымскага імпорту, як бронзавае пасудзьдзе італіянскай прадукцыі, прадметы ўпрыгожаньня, рымская кераміка, шкляныя вырабы, рознае снадзіва, прадметы культу, манэты[66]. Па гэтых жа шляхох пранікалі ў Польшчу розныя плямёны, як кэльцкія пэўкіны і бастарны, скіры і гіры, тракскія геты (якія каля 48 г. перад Хр. вызваліліся ад кэльтаў), а таксама нямецкія, як бургунды, омбры, готы, вандалы, свэвы (швабы) і іншыя.

Найлепш відаць этнічныя перамены на тэрыторыі Польшчы на аснове пахавальнага абраду. Ужо ў латэнскім пэрыядзе занікае целапальны звычай у Сілезіі і паяўляецца кэльцкі

[66] Маеўскі акрэсліў лік знойдзеных рымскіх манэт на 15 тысяч.

звычай паховінаў, што сьведчыць аб заняцьці гэтай прасторы кэльтамі. Адсюль пранікаюць шкілетныя магілы кэльцкага тыпу да Велікай Польшчы і Куяваў. Целапальныя курганы выступаюць тут вельмі рэдка. У паўночнай частцы Польшчы ў гэтым часе выступаюць шкілетныя магілы мэгалітнага тыпу готскага паходжаньня.

Інакш справа прадстаўляецца па ўсходнім баку сярэдняй Віслы, у раёне Белавежскай пушчы, дзе пераважаюць целапальныя курганы з каменнымі кругамі.

Таксама расавы склад насельніцтва Польшчы паказвае згушчэньне нардычнага тыпу ў кліне між Бугам і Дрвэнцай (Drwęcaj) у Плоцкай акрузе. Паўдзённа-заходняя частка Польшчы, ахапляючая Сілезію, Карпаты і Малапольшчу па Пиліцу і Сан характэрная вялікім працэнтам лапонаідальнай расы з вялікай прымесьсю армэнаідальнай. Праўда, на поўначы ад Піліцы існуе клін нардычны, які Чэканоўскі (Czekanowski) разглядае як астаЛасьць готаў, якія часткова засталіся ў Вялікай Польшчы. Усё гэта даказвае, што тэрыторыя Польшчы пасьля заняпаду лужыцкай культуры сталася прасторай, куды пранікалі розныя плямёны з поўдня і паўдзённага ўсходу, а дзеля таго, што Панонія і Дакія былі рымскімі правінцыямі — гэтым і тлумачыцца культурны ўплыў з поўдня, запачаткаваны раней кэльтамі.



*Паўзямлянка — жыльлё старажытных славянаў (рэканструкцыя)*

Вольнае славянства міма шырокага гандлю з Бізанцыяй, Скандынавіяй, Англіяй, з Надволжскімі і Закаўказкімі народамі тварыла сваю собскую культуру, якая знайшла сваё выяўленьне




*Раньнія паселішчы славянаў у Нямеччыне (Паводле М. Гімбутас)*

пасьля выраю на захад і поўдзень, запісаная ў заходніх і бізантыйскіх аўтараў ды скандынаўскіх сагах. Яна праяўлялася ў славянаў уласьцівай дэмакратычнай арганізацыяй грамадзка-палітычнага жыцьця, у собскім будаўніцтве, мастацтве, рэлігіі і пісьменнасьці.

Першымі ў заходняй міграцыі былі прыбалтыцкія славяне — волаты-лютычы /верагодна, Пануцэвіч мае на ўвазе так званых «волінцаў». — *Рэд.*/. За часоў Пталемэя яны яшчэ знаходзіліся на Балтыцкім пабярэжжы на ўсход ад Нёмана. З хвілінай адыходу готаў на поўдзень (180—215 гг.) у Дакію і Прычорнамор'е пачалася вандроўка нямецкіх плямёнаў у кірунку Дунаю і межаў Рымскай дзяржавы. За готамі ішлі вандалы, бургунды, руті, лангабарды і іншыя[67]. А ў адкрытую прастору на Паморы і між Одрай і Лабай улілася хваля ўсходняга вольнага славянства, якая, заняўшы старую славянскую тэрыторыю, ачысьціла яе ад нямецкага насельніцтва між II—IV стст. і ўжо аж да X ст. супрацьстаяла нямецкаму паваротнаму ціску. Аб гэтым выразна піша Пракоп з Цэзарэі.

На пачатку V ст. пасьля Хр. волаты разам з саксонамі высадзіліся ў Брытаніі. Ананімная «Chronika de Trajecto et Holland» падае пад годам 416: «Saxones cum Slavis profecti sunt in Britaniam», дзе па сёньня існуе Вільтуншыр (Wiltunshire) з горадам Вільтун (сёньня Wilton). У VI—VII стст. /яны/ былі ў Нідэрляндах, а горад Утрэхт раней называўся Вільтенбург (Wiltenburg)[68].

Другім кірункам пашырэньня ўсходнеславянскага прастору была сёньняшняя Украіна. У II ст. пасьля Хр. каля Маёціс /Азоўскага мора. — *Рэд.*/ і ў Чорнаморскім басэйне яшчэ знаходзіліся сармацкія плямёны: яцьвягі над Азоўскім морам, далей аланы і роксаланы ды тракскія кімэрыйцы. На пераломе II і III стст. новай эры сюды сталі пранікаць гэрманскія плямёны готы і вандалы ад вусьця Дунаю, дзе знаходзілася гоцкая дзяржава. Яна была пэрыфэрыйнай у адносінах да Рымскай Імпэрыі і міма «легэнды аб Гэрманарыку», запісанай у Іардана (быццам між 350—

[67] Пракоп падае, што вандалы, спыненыя гунамі, засталіся пры Азоўскім моры (Maiotis).

[68] Шафарык дапускае, што Само, валадар лужыцкай дзяржавы (623—658 гг.) паходзіў з славянскай Галяндыі. Адрозненьне Slavi ад Wilti і Welatabi паказвае на розныя славянскія плямёны, якія бралі ўдзел у гэтых міграцыях.

375 гг. заваяваў гэты слаўны гоцкі кароль усе народы, насяляючыя Гэрманію і Скіфію) не абдымала шырэйшай прасторы[69]. Іардан пісаў аб гэтых падзеях 200 год пазьней і перадаў хутчэй адну з скандынаўскіх легэндаў аб слаўных правадырох, якія могуць быць зраўнаныя хіба толькі з Аляксандрам Македонскім. Ніякія іншыя крыніцы гэтага не пацьвярджаюць. Да Балтыцкага мора не сягалі нават гуны, якія разьбілі готаў. На ўвагу заслугоўвае вестка Іардана аб славянах, і аб тым, што ў IV ст. анты, з якімі готы вялі змаганьне, знаходзіліся ў суседзтве Чорнага мора[70].

У іншым месцы піша Іардан, што пасьля сьмерці Гэрманарыка і пасьля адыходу на захад візыготаў, остраготы асталіся пад уладай гунаў. Нашчадак Гэрманарыка Вінітар /Амал Вінітар — сын Германарыка. — *Рэд.*/, хочучы адзначыцца і вызваліцца ад гунаў, прадпрыняў паход у краіну антаў. У першай сутычцы быў пабіты, але ў далейшых бітвах перамог антаў, забіўшы караля антаў Боза /Буса. — *Рэд.*/ з ягонымі сынамі і 70 князёў (прыбіў іх да крыжоў для пастраху насельніцтва). Хутка анты вызваліліся ад готаў, а ў 100 год пазьней разам з іншымі славянскімі злучэньнямі стануцца пострахам для Усходняй Рымскай Імпэрыі. Славянізацыя розных моўных і расавых плямёнаў ад-

---

[69] Паводле Іардана, Гэрманарык меў заваяваць наступныя народы: Golthones, Lythas, Thiudos, Inaunxes, Vasina, Broncas, Mercus, Mordeus, Sremniseaus Rocas, Tadzaus, Athaul, Navego, Bubegenas, Coldas. Калі «легэндарны» паход Гэрманарыка прыняць за праўду, то з тэксту Іардана вынікае, што готы завалодалі прасторай між Дняпром і Донам далёка на поўнач у глыб фінскіх плямёнаў.

Golthones — гэта голядзь, жамойдзкае *племя* (*галінчюс — дужы, магутны*), якое найраней перасунулася на захад (пад канец II ст. пасьля Хр.), а астаткі якога знаходзіліся каля Смаленска. У рукапісу чытаем пад 1147 г.: «а ко Святославу прісла Юрій, повеле ему Смоленьскую волость воеваті; і шэд Святослав і взя люді голядзь, верх Поротве».

Lythas (Lettas) — гэта *лотва, сядзеўшая ў аснаўным у вадазборы* Ловаці. Назоў гэтай ракі паходзіць ад «Лотвы» (Ловать — перастаўка зычнага, як напр. хартавы — харват), а Палата праўдападобна была пагранічнай ракой.

Thiudos — бяссумліву чудзь, сядзеўшая каля Чудзкага возера — фінскае племя. Гэткімі ёсьць Vasina — *вэсь*, Mereus — *меря*, Mordeus — мардва, Sremniseaus — чэрэмісы. Іншыя назовы цяжка ўтоесаміць, але ў кожным выпадку яны адносяцца да фінскіх плямёнаў.

Сярод іх няма ніводнага славянскага, але Іардан кажа, што Гэрманарык хоць меў вялікі супраціў з боку вэнэдаў, антаў, славянаў, здолеў іх часова падпарадкаваць сваёй *уладзе*, ад *якой яны вызваліліся* па ягонай сьмерці.

[70] Назоў «анты» сустракаем апрача Іардана ў Пракопа з Цэзарэі; у Маўрыцага Стратэгікона; у Паўла Дыякона. Ён з'яўляецца фактычна парафразай «ванты», як «венэты» і «энэты». Пракоп ня бачыць ніякай розьніцы між славянамі і антамі ў выглядзе, мове, *рэлігіі і звычаях* і кажа: «калісьці нават імя ў славянаў і антаў было адно і тое самае. У старыне абодва гэтыя плямёны называліся «спорамі»... Яны жывуць, займаючы вялікую частку берагу Істра, на той бок ракі». Шафарык на гэтай аснове ўважае, што старым супольным назовам усіх славянаў было імя «сорбы», «сэрбы», што абазначае «сваяк», аднаго паходжаньня, як «крывіч» — адной крыві. Паходным ад гэтага ёсьць наш «сябра».

бывалася аднак на правапабярэжнай Украіне: задняпроўскія стэпы цэлымі стагодзьдзямі будуць прыпынішчам розных азіяцкіх народаў.

Трэйцім кірункам паходу славянаў была прастора між Віслай і Лабай у сярэднім і верхнім цячэньні. Гэтая міграцыя адбылася крыху пазьней, бо пад канец V ст. пасьля Хрыста рух славянскіх і гэрманскіх плямёнаў на поўдзень быў спынены вялікімі паходамі азіяцкіх народаў у басэйн Дуная. Першымі ў гэтым часе былі гуны, якія ў 375 г. разьбілі готаў каля Чорнага мора і завалодалі хутка ўсім Дунайскім басэйнам, даходзячы ў заходнім кірунку да праліву Кале (Calais), Мілану і Вероны, у паўдзённым — да Македоніі. Перш за ўсё яны на некаторы час перасяклі шлях міграцыі нямецкіх плямёнаў на паўдзённы за-




*Гарады ў Польшчы напрыканцы I тысячагоддзя.*
*(Паводле З. Курнатоўскай)*

хад, пакуль ня былі разьбітыя аб'яднанымі сіламі нямецкіх пляменаў на Каталаўнскіх палях у 451 г.

Славяне ў гэтым часе яшчэ знаходзіліся на поўнач ад Карпатаў, прынамсі аб іх паўдзённых паходах ня маем ніякіх вестак. Аміан Марцэлін (Ammianus Marcellinus; каля 330 — каля 400 гг.) сучасьнік навалы гунаў, які даў знакамітую іх характарыстыку, аб славянах зусім не ўспамінае[71].

Няма таксама ніякіх вестак аб славянах у басэйне Дуная (разумееццa — славянскай ваеншчыны) і ў грэцкага гісторыка

---

[71] Гуны (Хун-ну) — азіяцкае племя, якое на пачатку IV ст. пасьля Хр. пачало свае ваяўнічыя паходы на захад і поўдзень. У паўдзённым напрамку каля 318 г. яны зьнішчылі паўночную Кітайскую дзяржаву Вэй. У заходнім — каля 375 г. асягнулі Азоўскае мора, дзе разьбілі сармацкіх аланаў і яцьвягаў, масу іх выразаўшы, а рэшту прылучыўшы да сябе. У гэтым жа годзе разьбілі дзяржаву готаў і вандалаў, а гоцкі кароль Гэрманарык з роспачы кінуўся на свой меч.

Характарыстыку гунаў падаю ў скарочаннам перакладзе: «Племя Гунаў, аб якіх вельмі мала вестак у старых аўтараў, качуе за Мэотыйскім балотам /Азоўскім морам/ у кірунку Ледавітага акіяна і пераходзіць у сваёй дзікасьці ўсякую меру.

Дзеля таго, што пры нараджэньні хлопча яму глыбока зрэзваюць шчокі вострым прыладзьдзем, каб гэтым спыніць своечасовае вырастаньне валосься, на рубцаватых нарэзах не растуць валасы, дык яны да старасьці ня маюць барадаў... Склад цела ў іх мускулісты і крэпкі, шыі тоўстыя, начварны і страшны іх выгляд, так што іх можна прыняць за двуногіх зьвяроў... Пры так дзікім выглядзе ў іх чалавечага ўяўленьня яны так зацьвярдзелыя, што не адчуваюць патрэбы агню, ані ежы, адпаведнай да смаку чалавека; яны ядуць карэньні дзікіх траваў і поўсырое мяса ўсякай жывёлы, якое яны кладуць на сьпіны конскія пад свае бёдры, каб яно крыху прыпрэла. Ніколі яны не хаваюцца ў якія-колечы будыніны, але, наадварот, іх унікаюць... Яны качуюць у горах і лясох, з маленства прывыкаюць да холаду, голаду і прагі...

Няма ў іх розніцы паміж штодзённай і сьвяточнай вопраткай; раз надзетая кашуля шэрага колеру здымаецца або зьмяняецца іншай не раней, як яна зусім распадзецца ў лахмоцьце. На галаве яны носяць крывыя шапкі, свае аброслыя валосьсем ногі прыкрываюць казінымі скурамі; абутак, які яны робяць не ўжываючы ніякіх калодак, перашкаджае ім у паходцы. Дзеля гэтага яны дрэнныя пешаходы і не надаюцца да пешага змаганьня, затое яны проста парослыя да сваіх коняў, выносьлівых, але няўклюжых на выгляд, і часта седзячы на іх на жаночы спосаб, выконваюць свае звычайныя заняткі. Дзень і ноч праводзяць яны на конях, займаюцца купляй і прадажай, ядуць і п'юць і, схіліўшыся на крутую шыю каня, засынаюць і сьпяць так цьвёрда, што нават відзяць сны. Калі прыходзіцца ім праводзіць нарады ў важных справах, то і нарады яны праводзяць, седзячы на конях... ,

У бой яны кідаюцца кліновай шыхтай, падносячы пры гэтым страшны закрываючы крык. Лёгкія і рухавыя, яны часам сумысьля рассейваюцца і, не творачы баёвай лініі, нападуць то тут, то там, наносячы страшныя забойствы. Маланкава пасоўваюцца наперад, і не здаралася бачыць, каб яны нападалі на ўмацаваньні, або рабавалі табар ворага... Вядуць бой, засыпаючы непрыяцеля здалёку стрэламі з касьцянымі астрыямі, а сутыкнуўшыся ў ручны бой з непрыяцелем, б'юцца з нячуванай адвагай мячамі і, ухіляючыся самі ад удару, накідаюць на ворага аркан, каб ня даць яму магчымасьці ўсядзець на кані або ўцячы пяшком.

Ніхто з іх не арэ ды ніколі не дакрануўся сахі. Без акрэсьленага месца жыхарства, бяз дамоў, законаў ці ўстаноўленых формаў жыцьця яны качуюць, як вечныя ўцекачы, з вазамі, у якіх адбываецца штодзённае жыцьцё; там жанкі ткуць ім бедную вопратку, зьбліжаюцца з мужамі, родзяць, выхоўваюць дзяцей да старэйшага веку.

Калі няма вайны, яны вераломныя, няўстойчывыя, лёгка паддаюцца кожнаму, хто адкрывае ім новыя надзеі, ва ўсім упэўненыя ў сваёй дзікай ярасьці... Як быццам неразумная жывёла, яны няведаюць, што чэснае, а што нячэснае, ненадзейныя ў слове і цёмныя, незьвязаныя пашанай да ніякай рэлігіі, або веры, пламянеюць і дзікай жаднасьцю да золата, да таго вераломныя і скорыя на гнеў, што іншы раз у той самы дзень пакідаюць сваіх саюзьнікаў без усякага падбухторваньня і бяз усякага пасрэдніцтва зноў міракцца».

V ст. Прыскоса, які асабіста падарожнічаў да гасподы Атылы ў 448 г., распаложанай над /ракой/ Цісай. З гэтага вынікае, што славянская ваеншчына ў V стагодзьдзі пасьля Хр. ня мела сутыку з Рымскай Імпэрыяй.

Перамога над гунамі нямецкіх плямёнаў адкрыла ім далейшы шлях на захад і поўдзень, а з другога боку дала магчымасьць славянам, у выніку гэтага руху, перасунуцца ў сярэднюю Эўропу між Одрай, Лабай і Заале.

У першую чаргу на пераломе V і VI стст. пасьля Хр. была занятая тэрыторыя Польшчы на захад ад Віслы, Сілезія і Чэхаславаччына, а ў палавіне VI ст. прастора да Лабы і Заале, творачы прадумовы да заняцьця Балканскага поўабтоку.

Аб тым, што прастора, вышэй названая, была занятая ўсходнім славянствам не раней VI ст. пасьля Хрыста сьведчаць, побач гістарычных вестак, археалягічныя раскопкі гарадзішчаў, сялібаў і магільнікаў, праведзеныя на тэрыторыі Польшчы, Чэхіі, Сілезіі і лужыцкіх сэрбаў[72].

Славянскае асадніцтва на тэрыторыі Польшчы на захад ад Віслы, як гэта сьцьвярджае археалёгія, не сягае ранейшага часу як VII ст. пасьля Хр. Рост гарадзішчаў і асадаў славянскага тыпу паводля Каваленкі (Kowalenko, глядзі карту) прыпадае на час між VII—IX стст. пасля Хрыста. З гэтым згодныя ўсе сучасныя польскія гісторыкі. Гэта самае можна сказаць аб Малой Польшчы і Сілезіі. Аб асадніцтве Малой Польшчы Гэнсель (W. Hensel) гэтак піша:

> Трэба сказаць, што адносна гэтага раёна /мы/ не маем паведамленняў крыніц, якія сведчаць аб існаванні тут гарадоў раней IX стагодзьдзя пасля Хр., як гэта вядома аб іншых славянскіх землях... Несумнеўна старым горадам, які бярэ пачатак у часах да X ст. быў Кракаў. Верагодна, старой была легендарная Вісьліца, магчыма таксама і Тынец. Раскопкі, якія праводзіліся дагэтуль у Малой Польшчы, не растлумачылі гэтай праблемы.

[72] Пліній, Тацыт і Пталемэй аднадушна памяшчаюць на захад ад Віслы гэрманска-кэльцкія плямёны, і як пануючыя толькі над Лабай (паміж нямецкімі плямёнамі) — лужычанаў. Бургунды, якія сядзелі над Вартай выэмігравалі на захад у першай палове V ст. пасьля Хр. Рух швабаў і лангабардаў з прасторы між Одрай, Лабай, Багэміяй і Маравай прыпадае на другую палавіну VI ст., што абазначае, што славяне да VI ст. не маглі займаць названай прасторы.

У Сілезіі праведзеныя шырокія археалягічныя пошукі раньняга славянскага асадніцтва даюць матэрыял не ранейшы V—VII стагодзьдзяў. Найстарэйшы матэрыял даюць раскопкі ў Немчы (IV—V стст.), дзе знойдзена славянская кераміка і ганчарны варштат ды сьляды абароннага муру з хворасту, аблепленага глінай. Ці гэтая асада ёсьць славянскага паходжаньня ідзець спрэчка між нямецкімі і польскімі дасьледчыкамі. Хутчэй за ўсё гэтая асада была збудованая немцамі, як сьведчыць самы назоў «Немча», сьведчаньне Дытмара і недалёка дасьледаваны магільнік, які змяшчаў шкілетныя магілы. Багацейшы славянскі матэрыял знойдзены ў гарадзішчах у Дзеціне (Dziecin), Попчыцах (Popcycy) і Гостыні (Gostyn), але ён сягае VII ст. пасьля Хрыста.

Не ранейшыя ёсьць найстарэйшыя гарадзішчы і асады на тэрыторыі Багэміі і Маравы, дзе найстарэйшае гарадзішча Wogastisburg успамінаецца ў 632 г. у сувязі з перамогай Само над франкамі.

Зразумелая рэч, што час міграцыі славянаў на гэтую прастору ёсьць крыху ранейшы, чымся сьляды гарадзішчаў і асадаў, якія паўставалі пасьля заняцьця і апанаваньня тэрыторыі, як апоры перад непрыяцелем і сялібы собскай улады. V—VI стст. было парой збройных міграцыяў без акрэсьленай стабільнасьці. Таму пачатак славянізацыі Польшчы і далейшых заходніх прастораў трэба аднесьці на канец V і пачатак VI стагодзьдзя.

І апошняй славянскай хваляй была збройная міграцыя на Балканы. Яна пачалася каля 527 г. калі славяне пачалі пераходзіць Дунай разам з аварамі і баўгарамі ды нападаць на тэрыторыю Усходня-Рымскай імпэрыі.

У кароткім часе паявілася шматкольказнае славянскае насельніцтва ў Ніжняй Мэзіі, у раёне паміж Ніжнім Дунаем і Гэмусам[73]. Іншыя славянскія плямёны праніклі ў Тракію і Македонію. Археалягічныя пошукі, праведзеныя ў раёне прытоку Дуная Віда, выявілі цэлы рад умацаваньняў, разбураных штурмам славянаў у VI ст., /што/ вымоўна пацьвярджае весткі бізантыйскіх аўтараў. Славяне і авары ня толькі шмат разоў аблягалі Тэсалёніку і ня толькі трымалі пад небясьпекай здабыцьця

[73] Гемус (Hemus) — рака на поўдзень ад Варны, якая ўпадае ў Чорнае мора. — *Рэд.*

ў 628 г. Канстанцінопаль, але фармальна залілі ўвесь Балканскі поўабток[74]. Сталася гэта пад канец панаваньня імпэратара Іраклія (641 г.), калі Балканы ад Дуная да Пэлёпанэса ўключна былі занятыя славянамі. Аб пасяліўшыхся некаторых славянскіх плямёнах у Македоніі маем весткі ў бізантыйскіх гісторыкаў. На захад ад Тэсалёнікаў жылі сагудаты, рынхіны, другавіты; на ўсход — стрымоны, ваюніты, на рэчцы Места — смаляне. У цэнтральнай Македоніі, у акрузе Охрыды, Манастыра і Прылепа знаходзіліся пасёлкі бэражанаў (бэрзітаў).

Тэсалёніка, як востраў сярод славянскага мора, была бізантыйскім горадам, тым ня менш на яе вуліцах чуваць было славянскую мову.

Славянскія пасёлкі пранікалі далёка ў глыб Грэцыі аж да Пэлёпанэса. Мілінгі і езерыты, засяляўшыя склоны Тайгэта на прасторы старадаўнай Спарты, запісаліся стойкай барацьбой за сваю незалежнасьць у гісторыі Бізантыі.





*Старажытныя кіяўляны: прастачыны і шляхетныя (рэканструкцыя)*

[74] Тэсалёніка, альбо Фесалонікі, гэта горад Салонікі ў сучаснай Грэцыі. — *Рэд.*

У 623 г. славяне з'явіліся на востраве Крыт; хутка яны пранікі на Эўбэю, Фасос, Самафракію. У VII ст. славянская міграцыя дасягнула Малую Азію, дзе ў Бітыніі паўстала славянская калёнія. У VII—VIII стст. лік славянаў у Малой Азіі выдатна павялічыўся ў выніку перасяленчай акцыі, праводжанай імпэратарамі, пасьля адваяваньня назад той ці іншай акругі, занятай славянамі. На месца славянаў пасяляліся плямёны з Малой Азіі. Так, імпэратарам Юстыніянам II /гаспадарыў у 685—695 і 705—711 гг. — *Рэд.*/ была перанесеная з Македоніі ў Малую Азію вялікая калёнія славянаў, утварыўшая асобную акругу (фэму) Опсік.

Канстанцінам V (741—775 гг.) былі перасеrange у Тракію калёніі сірыйцаў і армянаў. Гэткую палітыку праводзіў і імпэратар Нікіфар I (802—811 гг.).

У канцы VII ст. у ніжнім цячэньні Дуная сфармавалася Баўгарская дзяржава. Баўгары яшчэ раней разам з славянамі вялі напады на Бізантыйскую імпэрыю, творачы з імі ваенны саюз. Нічога дзіўнага, што баўгары не маглі ўтрымацца як этнічная група сярод славянскага мора і ў IX—X стст. застаўся ўжо толькі стары назоў у выніку іхняй славянізацыі.

Падобнымі славянскімі саюзнікамі былі і авары (обры), якія каля 557 г. перайшлі Волгу і ў Прычорнаморскім басэйне сутыкаліся з славянамі. Каля 563 г. яны разьбілі, што праўда, дулебаў; і змусілі некаторыя іншыя плямёны да платы даніны, ды потым выпаўнілі Дунайскі басэйн, але ня здолелі накінуць свае ўлады славянам. Мэандэр Бізантыйскі наглядна апісвае самапачуцьцё славянаў у гэтым часе адносна авараў, якіх Бізантыйская дзяржава хацела выкарыстаць як дапаможную сілу супраць славянаў:

> Яшчэ не нарадзіўся той на сьвеце, мелі сказаць славянскія правадыры аварам, і не жыве пад сонцам, хто змог бы пакарыць і сабе падпарадкаваць нашу сілу. Не чужынцы нашай зямлёй, але мы чужой прывыклі валодаць.

Зразумелая рэч, апорышчам для славянскай міграцыі было славянскае старое насельніцтва, сядзеўшае на займанай прасторы. Яно ўзмацавала прыбылую хвалю і дало магчымасьць падпарадкаваць славянам іншамоўнае чужое насельніцтва.

Калі возьмем VIII—IX стст. для рэтраспэктыўнай мэтоды, то ў Баварскага Географа (глядзі дадатак. — *Рэд.*) паасобныя славянскія плямёны на занятай тэрыторыі лікам сваіх гарадоў (лепш кажучы воласьцяў — civitates) не прадстаўлялі так вялікай сілы, каб маглі заняць і сабе падпарадкаваць ды цэлымі стагодзьдзямі ўтрымаць чужую тэрыторыю.

Так напрыклад на тэрыторыі Багэміі і лужычанаў, дзе найраней паўстала пасьля славянскай міграцыі дзяржава Само ў выніку перамогі над аварамі і якая ў 630 г. аднесла знакамітую перамогу пад Вагасцісбургам над франкамі; дзе ў 830 г. паўстала Вялікая Мараўская дзяржава[75] — «Баварскі географ» налічвае толькі 15 воласьцяў («Betheimere in qua sunt civitates XV»), а ў лужычанаў — 30. Падобнае з'явішча наглядаем і ў Сілезіі: «Slenzane habent civitates XV, Dadosedani civitates XX, Opolini civitates XX, Golensini civitates V».

Магутнейшымі былі бодрычы і волаты (вільцы): «Nortabtrezi ubi regio in qua sunt civitates XCV (53), per duces suos partitae, Vuilci in qua civitates XCV (95 «сівітатіс») et regiones IIII (4 сівітатіс)».

Калі б прыйшоўшыя славяне ня мелі славянскага субстрату, спаткаў бы іх лёс, падобны да таго, які спаткаў баўгараў. Падобны лёс дэнацыяналізацыі спаткаў і славянаў на чужой тэрыторыі з чужым субстратам, як гэта сталася ў Галяндыі, Брытаніі, Грэцыі, Дакіі і іншых краінах.

Вышэйсказанае пацьвярджаюць весткі бізантыйскіх пісьменьнікаў, апісваючыя славянскія паходы на Балканы. Пракоп з Цэзарэі, апісваючы бойку са славянамі каля Адрыянаполя між іншым кажа:

> Разьдзяліўшыся на тры часткі, барбары (славяне) спрычынілі па ўсёй Эўропе нячуваныя ліхалецьці, рабуючы мясцовасьці ня проста нападамі, але зімуючы там, як бы ў собскай зямлі, не баючыся ворага.
>
> На трэйці год пасьля сьмерці імпэратара Юстыніяна, за панаваньня імпэратара Тывэрыя, вышаў пракляты народ славянаў

[75] Само — славянскі князь, які заснаваў першую вядомую ў гісторыі дзяржаву заходніх славянаў. У 623 г. узначаліў паўстанне славянаў супраць авараў і быў выбраны князем. У 631 г. пабіў аб'яднанае войска франкаў, алеманаў і лангабардаў. Гаспадарыў да сваёй смерці ў 658 г.

Вялікая Мараўская дзяржава існавала з 830 да 907 гг. У ёй гаспадарылі князі Маймір I (830—846 гг.), Расціслаў (846—870), Святаполк (870—894), Маймір II (894—907). Была разбураная мадзярамі і франкамі. — *Рэд.*

і прайшоў усю Эладу, акругі Тэсалёнікі і усю Тракію. Яны захапілі мноства гарадоў і ўмацаваньняў, спустошылі, спалілі, паланілі і падпарадкавалі сабе краіну і пасяліліся ў ёй свабодна, бяз страху, быццам у сваёй собскай.

Вялізарная прастора рымскіх земляў была спустошаная; сыплючыся, быццам з рэшата, яны (славяне) нападалі на ўсе мясцовасьці аж да «Доўгіх сьценаў» і на вачох усіх правялі вялікае насільле[76].

Калі возьмем далей пад увагу, што славянскія плямёны завалодалі ў кароткім часе вялізарнай эўрапэйскай прасторай, прытым не пакінулі сваёй выхаднай тэрыторыі бязлюднай, дык паўстае пытаньне, скуль магла ўзяцца ў славянаў так велізарная сіла? Так напрыклад у часе аблогі Тэсалёнікі грэцкі пісьменьнік, удзельнік абароны гэтага гораду, перадае ўражаньне абложаных, якія бачылі ў нападаючых 100-тысячную сілу. Ён сам, хоць і не адстойвае гэтага ліку, падкрэсьлівае надзвычайна вялікую сілу славянаў[77]. Імпэратар Юстыніян, перамогшы славянаў каля Тэсалёнікі (680 г.), калі перасяліў іх у Малую Азію, набраў з іх 30.000 чалавек /у сваё войска/[78].

Гэткая велізарная колькасьць войска славянаў была магчымай праз далучэньне да яго ўсяго раней паняволенага славянства.

У выніку славянскай міграцыі наступілі культурныя перамены, на тэрыторыі імі занятай. Яна была заселеная ня толькі паняволеным славянствам, але рознымі чужымі плямёнамі з рознай матэрыяльнай і духовай культурай. Пад дзеяньнем субстрату тварылася культурная сынтэза, у якую ўваходзіла існуючая мясцовая культура і прынесеная славянская.

---

[76] «Доўгія сьцены» — абаронны мур кругом Канстанцінопаля, пабудаваны імпэратарам Тэодоцыям III (715—716 гг.) супраць славянскіх нападаў.

[77] «Гэта была самая большая армія з тых, якія існавалі ў нашую пару; дзеля таго, што сярод іх некаторыя налічвалі больш за 100.000 цяжка ўзброеных мужчынаў, іншыя — крыху меншы лік, яшчэ іншыя — шмат больш; таму што сутнасьць не магла быць спраўджаная з прычыны іх шматколькаснасьці, то думкі наглядальнікаў разыходзіліся. Мы бачылі ў ёй новую армію Ксеркса або этыёпаў і лівійцаў, атакуючых калісьці юдыйцаў. Мы чулі, што рэкі і крыніцы высыхалі там, дзе яны распалажыліся табарамі, і што ўся зямля была, як сказана ў прароцтвэ, падобная да даліны спусташэньня».

[78] Тут аўтар крыху памыляецца. На самой справе гэту перамогу атрымаў імпэратар Канстанцін IV, які гаспадарыў у 668—685 гг. — *Рэд.*

Асабліва вялікі ўплыў на культурныя перамены мелі багатыя рымская і грэцкая культуры. Гэта знайшло сваё выдатнае выяўленьне перш за ўсё ў ваеннай тэхніцы і будаўніцтве.

Яшчэ Тацыт падкрэсьліваў, што вэнэды «добрыя пешаходы» і карыстаюцца шчытамі. Падобна характарызуе гэрулаў Іардан. Дакладна даведваемся аб узбраеньні славянаў ад бізантыйскіх пісьменьнікаў. Не насілі ніякай цяжкай зброі, ні панцыраў, ні шаломаў. Да бою ішлі лёгка адзетыя з двума копіямі, шчытом і лукам[79].



*Заходнія славяны (рэканструкцыя)*

Цяпер ад азіяцкіх народаў, у першую чаргу ад гунаў, авараў, а потым мадзяраў прынялі каня як свайго баёвага спадарожніка. Ад гэтага часу ў славянскіх магілах знаходзім побач баёвага рыштунку конскія шкілеты з баёвай упражжу. Стрэлы цяпер затручаныя ядам. Пры аблозе гарадоў славяне цяпер ужываюць балісты, рухомыя вежы і машыны, кідаючыя агонь, ведамыя ра-

[79] Гэткую зброю знаходзім у славянскіх курганох побач кароткіх мячоў, нажоў і чаканаў. Псеўда-Маўрыкі ў «Strategicon» піша: «Кожны (славянін) узброены двума невялікімі копіямі, некаторыя маюць такжа шчыты, моцныя, але цяжка пераносныя. Яны карыстаюцца таксама драўлянымі лукамі і невялікімі стрэламі, намочанымі адмысловым для стрэлаў ядам».

ней грэкам і рымлянам. Захоўваюць толькі сваю собскую ваенную тактыку, як праяву сваёй псыхікі.

Здабытая тэрыторыя з урбаністычнай культурай дала асновы для разьвіцьця славянскіх гарадоў. Гэтым можна вытлумачыць характэрную з'яву, што археалягічныя пошукі заснаваньня больших славянскіх гарадоў як асяродкаў гандлёвага, рамесьніцкага і палітычнага жыцьця сягаюць не далей VII ст. пасьля Хр., а дапушчэньне Недэрле, што найстарэйшыя гарадзішчы ў Багэміі і Лужыцы заснаваны ў VI ст. пасьля Хр. як абаронныя пункты перад аварамі, не знайшло археалягічнага пацьверджаньня. Ранейшыя гарадзішчы на тэрыторыі Крывіччыны, аб якіх была гутарка вышэй, мелі толькі зародышы гэтай урбаністычнай культуры і рэзка выдзяляюцца ад гарадоў, якія сталі разрастацца пачынаючы ад VII ст. пасьля Хрыста.



*Заходнія славяны (рэканструкцыя)*

Для барбараў на поўначы, піша зусім правільна Жульян (C. Julian), паняцьце гораду-дзяржавы (поліс, сівітас) было ва ўсім гэтым пэрыядзе чужым. Не інакш было ў найвышэй стоячых у гэтым сэнсе кельтаў, міма нават вялікіх умацаваных гарадоў і тарговых прыгарадзьдзяў (глядзі ў Цэзара). Усюды там пануючай сыстэмай быў пляменны лад, розны ад рымскага і

грэцкага, дзе «civitas», «polis» творыць асяродак гаспадарча-грамадзкага і палітычнага жыцьця.

Ад VII ст. разрастаецца Полацак, Смаленск, Ладага, Тураў, Пскоў, Чарнігаў і іншыя гарады на выхаднай тэрыторыі славянства, засноўваюцца гарады ў Прусах (Трусо), у заходніх лютычаў (Рэтра, Волін, Анкона), у Чэхіі (Дзевін, Братыслава, Левы Градец, Градчын), у лужыцкіх сорбаў (Будзішын) і г. д.

Раскопкі гарадзішчаў і асадаў у лютычаў, Польшчы, Сілезіі, Багэміі і Славаччыне паказваюць спалучэньне ў тэхніцы пабудовы гарадзішчаў дзьвюх элемэнтаў: славянскага (абаронныя валы з драўлянай канструкцыяй) і рымска-кельцкага (каменны фронт, разьмяшчэньне брамаў, плян забудаванняў).

Спалучэньне гэтых дзьвюх элемэнтаў відавочнае таксама ў кераміцы, пасудзьдзі, снадзівах і іншых прадметах матэрыяльнай культуры.

Няменьшыя перамены наступілі ў славянскай псыхіцы і духовай культуры. Дакладна апісанае славянская натура ў бізантыйскіх крыніцах поўнасьцю згаджаецца з апісаньнем характару заходніх славянаў, ва Усходніх Прусах, Польшчы, Крывіччыне, Русі і якая ў аснаўным блізкая да характару сёньняшніх Крывічоў[80].

Лясныя прасторы, у якіх доўгі час жылі славяне, глыбока адбіліся на іх духовай культуры. Галоўные элемэнты яе —

---

[80] «Стратэгікон» Псеўда-Маўрыкія (пачатак VII ст.): «Плямёны славянаў і антаў аднолькавыя паводля свайго вобразу жыцьця, паводля сваіх прыродных нахілаў, сваёй любові да свабоды; іх ніякім спосабам нельга падпарадкаваць няволі або чужой дзяржаве. Яны шматколькасныя, вынослівыя, лёгка пераносяць сьпёку, холад, дождж, галіту, нестачу ў ежы. Да прыходзячых да іх чужакоў яны адносяцца ласкава, ахоўваюць іх у выпадку патрэбы, так што, калі б выявілася, што чужынец пацярпеў крыўду ад прыняўшага яго, то іншыя прасьледуюць віноўніка, уважаючы за свой абавязак гонару памсьціць крыўду чужынца. Знаходзячыяся ў іх у палоне не трымаюцца ў няволъніцтве, як у іншых плямёнах, праз неабмежаваны час, але вызначаецца ім акрэсьлены тэрмін, пасьля якога могуць яны або вярнуцца за ўстаноўлены выкуп да сваіх, або астацца там, як людзі вольныя...

Змагацца з сваімі ворагамі яны любяць у мясцох, парослых густым лесам, у цясьнінах, на абрывах. З вынікам для сябе карыстаюцца засадамі, хітрыкамі, днём і ноччу стасуючы шматлікія розныя спосабы...

Не маючы над сабой валадара і сваручыся міжсобку, яны не прызнаюць баёвай шыхты і ня здольныя змагацца ў рэгулярнай бойцы на адкрытых і роўных прасторах. Калі і здарыцца, што яны адважаццаісьці ў бой, то перш яны памалу з вялікім гоманам пасоўваюцца наперад усе разам і, калі ворагі спалохаюцца іх крыку і замітусяцца, тады яны мужна наступаюць; у праціўным выпадку кідаюцца наўцёкі, ня прабуючы выпрабаваць сваіх сілаў у беспасрэднай сутычцы. Пад аховай лясоў, або ў цясьнінах умеюць біцца выдатна. Часта носную здабычу яны кідаюць, як быццам з прычыны мітусьні, і ўцякаюць у лясы, а потым, калі наступаючыя хапаюць яе, яны нападаюць і наносяць непрыяцелю шкоду».

гэта прывязанасьць да свабоды, нецярпеньне ўлады над сабой, вялікія маральныя якасьці, як сямейная любоў, гуманнасьць да іншых, гасьціннасьць, пашана чужых сьвятасьцяў, любоў прыроды і мастацтва, паэтыцкая настроенасьць і задумчывасьць, спалучаная з ідэйнасьцю.

Усё гэта было спрыяльным мамэнтам, што славяне не паддаваліся лёгка ўплывам чужой духовай культуры, хутчэй пераймаючы тэхнічныя дасягненьні. Гэтым можна вытлумачыць вялікі супраціў славянаў супраць накіданага хрысьціянства ў заходніх славянаў[81], у Прусах і Літве, а таксама найбольшую адпорнасьць у параўнаньні да іншых народаў на дэнацыяналізацыю[82].

Адпорнасьць славянскай натуры, вялікі кансэрватызм старых традыцыяў дае магчымасьць лёгка выдзеліць славянаў ад іншых этнічных групаў, стаўшыхся субстратам на прасторы занятай славянамі.

На жаль, многія дасьледнікі славяншчыны не ўзялі пад увагу разграніченьня гэтых дзьвюх элемэнтаў, матэрыяльнай і духовай культуры, пры ацэне этнічнай прыналежнасьці археалягічных знаходак[83]. Найчасьцей матэрыял матэрыяльнай культуры ёсьць асновай для вывадаў аб этнічнай прыналежнасьці, а дзеля таго, што гэты матэрыял сустракаецца пры наяўнасьці розных духовых культураў, дык ідзе гутарка аб «пераменах» духовай культуры пад дзеяньнем «плыняў», або моды данага часу. У адносінах да славянаў гэтага ніяк нельга прымяніць. Нават пасьля прыняцьця хрысьціянства аж да XVIII ст. утрымоўваліся старыя звычаі амаль ва ўсіх славянскіх краінах, а ў Крывіччыне праіснавалі да сёньняшніх дзён[84].

Тыповым паказьнікам гэтай трываласьці славянскай духовай культуры ёсьць пахавальны абрад. З хвілінай заняцьця славянамі

---

[81] У Польшчы хрысьціянства было накіданае сілаю. Пасьля Балеслава Храбрага (гаспадарыў у 992—1025 гг.), які вядомы таксама як Балеслаў Зверскі, адбылася сапраўдная рэвалюцыя супраць хрысьціянства, якую у 1034—1038 гг. узначальваў нейкі Маслаў.

[82] Аб гэтым можа сьведчыць гісторыя заходніх славянаў, якія міма жорсткай германізацыі першрывалі да сёньняшніх дзён (сэрбы лужыцкія). Яшчэ ў XVIII ст. славянская мова існавала ў Усходніх Прусах і Гановэры.

[83] Напрыклад Tymienicki, Niederle, Milewski, Lehr-Spławiński, Kostrzewski, Czekanowski.

[84] «Дзяды», закляцьці, замовы, *калядныя*, *вялікодныя*, вясельныя, жніўныя, пасеўныя і іншыя звычаі і абрады.

старой славянскай прасторы ў выніку паваротнай міграцы лік целапальных курганоў выдатна павялічваецца. «Археалёгія паказвае на існаваньне мноства папялішчаў на ўсёй славянскай тэрыторыі, пачынаючы ад IV—V стст. пасьля Хр.», сьцьвярджае выдатны дасьледнік славяншчыны Недэрле. Аб звычаі целапаленьня ўзаходніх славянаў маем весткі ад Баніфацыя (Bonifacius); у палякаў — ад Дытмара (Dithmar) і Гала (Gallus Anonymus); у прусаў — ад Вульфстана (Wulfstan), Генрыка Латыша (Heinrich von Lettland), Дусбурга (Dusburg) і Кадлубка (Kadlubek), у крыжаноскім пакце з прусамі з 1249 г. Адносна балканскіх славянаў маем гэткія весткі ў ананімнага бізантыйскага гісторыка з 626 г. У X ст. Масудзі пацьвярджае спальваньне памёршых у сэрбаў[85].




Побач целапальных славянскіх курганоў археалёгія знаходзіць на прасторы, занятай славянамі між V—VIII стст. пасьля Хрыста, вялікую колькасць шкілетных магілаў з рознымі культурамі. Тут трэба мець на ўвазе два тыпы гэтых магілаў.

Адныя зусім рэзка выдзяляюцца ад славянскіх і залічыць іх трэба да розных плямёнаў неславянскага паходжаньня, якія сталіся субстратам для славянства. Сюды аднесьці трэба ў першую чаргу намадаў (гунаў, авараў, баўгараў і мадзяраў); далей кельцкія плямёны, як бастарны ці пэўкіны, валохі (volcae), нэмэты (праўдападобна адсюль паходзіць назоў немцы), амбро-

[85] І гэты звычай найдаўжэй утрымаўся ў *Крывіччыне*.

ны, коціны, таўрыскі, галаты і іншыя; тракскія плямёны як гэты, мэзы, македонцы, эпіроты, кімэры; сармацкія — аланы, раксаланы, яцьвягі (jazyges); часткова гэрманскія як астаткі готаў, вандалаў, інгэвонаў, іставонаў і іншых. Гэты рознаплямення і моўны субстрат на працягу наступных стагодзьдзяў аславянізаваўся і спрычыніўся да этнічнай і моўнай, а таксама расавай дыфэрэнцыяцыі славянаў ды паўстаньня паасобных славянскіх народаў у выніку вытварэньня палітычнай незалежнасьці.

Другі тып шкілетных магілаў мае ўсе прыкметы славянскага паходжаньня і іх трэба залічыць, асабліва з VII—XI стст. на паўдзённай славянскай тэрыторыі да славянскага культурнага кругу. Сталася гэта не пад уплывам існуючага субстрату і ягонай целапахавальнай культуры, але пад уплывам хрысьціянства.

Пачаткі хрысціянізацыі славянаў пачаліся раней, чымся прынятыя афіцыяльныя даты для паасобных краінаў. Пачатны летапіс /Нестара/ перадае народны пераказ, што апосталы Павал і Андрэй навучалі сярод славянаў: Павал у Маравах сярод старых славянаў: «ту бо есьць Илюрик, его же доходил апостол Павел, ту бо беша словене первое», Андрэй сярод усходніх славянаў. Гэты пераказ знаходзіць сваё падмацаваньне ў царкоўных пісьменьнікаў IV—V стст. У Еўсэвія Цэзарыйскага (пам. 340 г.) запісана, што вучні Езуса Хрыста разышліся пашыраць Эвангэліе і што Скіфія прыпала Андрэю. У Эухэрыя Ліёнскага (пам. 449 г.) таксама гутарка аб тым, што «Андрэй змякчыў скіфаў словам Божым». Аб гэтым успамінае Эпітані з Кіпру (VI ст.), што Андрэй быў у скіфаў.

Такім чынам хрысьціянізацыя ішла двума рුсламі з Рыму і Бізантыі ужо з першых стагодзьдзяў пасьля Хрыста. Грэкі, бяссумліву, імкнуліся пашырыць хрысьціянства сярод сваіх суседзяў. У Ніжняй Мэзіі, у горадзе Томі, ужо існавала біскупская катэдра пры Дыяклеціяне (гаспадарыў у 284—305 гг.). Пры вусьці Днястра знаходзілася хрысьціянская калёнія Тыра ды іншыя /гарады/.

/Імпэратар/ Канстанцін Парфырагэніт (X ст.) паведамляе, што за ягоных часоў на ніжнім Дняпры існавалі разваліны шасьці гарадоў, у якіх захаваліся астаткі разбураных цэркваў і

высечаныя на каменях крыжы. Іншыя царкоўныя пісьменьнікі III—V стагодзьдзяў, як Тэртуліян, Анастазі Александрыйскі, Ян Залатавусны, Гэранім уважаюць Скіфію за краіну, дзе хрысьціянства было пашыранае: «Халады Скіфіі палаюць жарам веры» (Гэранім).

Аб тым, што Скіфія ў той час была занятая славянамі (улічамі, дулебамі, ціверцамі, палянамі), мы спыняліся раней пры разглядзе міграцыі славянаў у Прычорнаморскі басэйн. Няма сумліву, што хрысьціянства пашыралася на гэтыя плямёны задоўга да Уладзіміра, быццам увёўшага яго (988 г.) у Кіеўскай Русі. Больш за сто гадоў раней, у 866 г. /бізантыйскі/ патрыярх Фоці пісаў, што Русь зьмяніла нячыстую паганскую веру на чыстую і непадзельную хрысьціянскую.

Рымская форма хрысьціянства пашыралася сярод заходняга славянства пачынаючы ад V ст. у выніку хрысьціянізацыі



Вялікая Маравія

нямецкіх пляменаў: аляманаў, баяраў і турынгаў, заняўшых старую славянскую тэрыторыю. Ужо за часоў Клёдвіка I /гаспадарыў у 481—511 гг. — *Рэд.*/ існавалі біскупствы ў Аугсбургу (Augusta Vindelicorum), Хуры (Chury) у Рэтрыі, Віндонісе ў паўночнай Швайцарыі, у Пасаве і Зальцбургу, адкуль ішла хрысціянізацыя славянскіх Карантанаў (Карынтаў) на тэрыторыі сёньняшняй Аўстрыі. Крааты былі ахрышчаныя яшчэ раней (каля 670—680 гг.). Асабліва вострыя формы насільля прыняло хрысьціянства, праводжанае Карлам Вялікім і яго наступнікамі на славянскай тэрыторыі, заваёванай франкамі. Так, у канцы VIII ст. пачалася хрысьціянізацыя мараваў, чэхаў, лужычанаў і люцічаў.

Сербаў прымусіў ахрысьціцца бізантыйскі імпэратар Іракліус (гаспадарыў у 610—641 гг.). А калі /яны/ адпалі ад Бізантыйскай дзяржавы і вярнуліся да старой славянскай веры, былі зноў змушаныя да хрысьціянства за часоў /імпэратара/ Базыля I (867—886 гг.). Славянаў у Баўгарыі ахрысьціў князь Барыс у 864 г., аднак тут хрысьціянства існавала /яшчэ/ раней.

Такім чынам частка шкілетных магілаў з матэрыяльнай славянскай культурай на тэрыторыі, дзе шырылася хрысьціянства, трэба залічыць да славянскай этнічнай групы, якія ў нічым не пярэчаць аснаўной славянскай культуры — целапаленьню. Хрысьціянства прастаўляла сабой ня моду, не культуру субстрату, але тварыла новую філязофію жыцьця, новую рэлігію.

Было б аднак абсурдальным, як гэта робіць Цэгак-Галубовічава (H. Cehak-Holubowiczowa), на аснове славянскіх (хрысьціянскіх) шкілетных магілаў рабіць высnаў, што гэткія магілы (а не целапальныя) наагул тыповыя для славянаў.

Гэта ёсьць ведамая памылка, калі на аснове малой часткі, прытым амежаванай часам пашырэньня хрысьціянства, робіцца вывад аб цэласьці. Яны стануцца тыповымі для славянаў /тады/, калі хрысьціянства пранікне ў глыб славянскіх краінаў, але ў ніякім выпадку ў пэрыядзе між VI—X стст.

***

I так мы пераглядзелі важны пэрыяд у гісторыі славянства, ягоную вялікую паваротную міграцыю і некаторыя культурныя перамены як яе вынік у часе між 400—800 гадамі пасьля Хры-




*Міграцыя волатаў-люцічаў на захад*

ста. Астаецца яшчэ спыніцца над пытаньнямі, якія перамены наступілі ў Прыбалтыцы ў гэтым часе.

Перш разгледзім фактычны матэрыял, каб не рабіць неабаснаваных высноваў.

З часу між 400—800 гг. пасьля Хрыста маюцца раскопкі з вёсак: Анкштакі, Лазьдзінінкі, Наргелі, Ракіты, Рудзічы, Тубусы і Скоманты, Язьдзічы і Вогучы у заходняй Жамойдзі[86].

[86] Раскопкі праводзілі ў 1935—40 гг. П. Баленіёнас і Пузінас. Яны знайшлі 762 шкілетных магілаў і 2 целапальныя курганы.

Раскопкі не даюць новага матэрыялу ў параўнаньні да папярэдняй пары. Усе магілы чатырохкутныя, плоскія і шкілетныя. Магіла ляжыць каля магілы, якія разам твораць вялікія магільнікі. Кажная магіла, як раней, абложаная каменьнямі, не ў выглядзе кругу, але чатырохкутніка; на рагох магільніка закопаныя вялікія камені. Як і раней, памёршых хаваюць у дамавінах з бярвеньняў, пераважна дубовых. Напрыклад у Лазьдзінінках сьляды калоды былі вельмі выразныя. Даўжыня дамавіны 2,40 м, шырыня ў галовах 0,70 м, нагах 0,50 м, вышыня 0,18 м. Бакі дамавіны круглыя.

Палажэньне рэчаў у магіле такое самае як раней: зброя і прыладзьдзе кладуцца пераважна ў галовах. З прыладзьдзя найчасьцей сустракаюцца косы, нажы, асёлкі, сякеры, шылы, іголкі, верацёны, бязьмены. Таксама ў галовах стаўлялася мініятурная пасудзіна. Часта здараецца скураная або з бярозавай кары каробачка з рознымі ўпрыгожаньнямі. Да зброі належаць келзалы, шпоры, сякеры, копіі. У Ракіце ў адной магіле быў пахованы чалавек і конь, але тут былі знойдзеныя сьляды вугольля і попелу ад пахавальнага абраду.

Як бачым між 400—800 гадамі пасьля Хр. у заходняй Жамойдзі сядзелі далей жамойды з той самай культурай, як 200 гадоў раней. Сьляды целапальнай культуры належаць да незвычайна рэдкіх, што сьведчыць, што славянскага элемэнту там амаль што не было.

У гэтым самым часе не наглядаецца істотных пераменаў і ў сярэдняй Жамойдзі. У Эйгулях, Вэршвах, Вайцікунах, Мельдзіках, Упіце, Дэгэсах, Вабальнінках, Панявежуках, Сэрэджусе, Бержах, Драўсціне, Пашушвах, Мельдзінах, Яснай Горцы, Венсляўшках, Гібачох, Юніках, Лепорах, Манюшах, Шаўлях, Паклібаках, Шуконах, Пажэрысе і іншых мясцовасьцях, дзе былі праведзеныя раскопкі, выступаюць шкілетныя магілы, такія самыя, як раней. Палажэньне шкілетаў і рэчаў бяз зьменаў. Паховіны адбываліся ў дамавінах з бярвеньняў, што пацьвярджаюць выразныя сьляды ў Вэршвах, Мельдзінах і Вайцікунах (Вайцюнішках).

На ўсход ад ракі Нявяжы маем і ў гэтым пэрыядзе рэзкую мяжу іншай культуры, а пайменна крывіцкай. Тут выступаюць амаль адналіта целапальныя курганы, дасьледаваныя ў Памусе

(павет Аліта); у Ашмянскім павеце ў Алёшы, Маркінятах, Смаргонях, Багатай, Міцканцах, Вершочцы, Версоцы, Вільканцах; у Ковенскім павеце ў Давайнонах; у Свірскім павеце ў Чорнай Лужы, Гусках, Пільвінах, Панізох, Засьвіры, Жэлядзі; у Сьвенцянскім павеце ў Рымшанцах, Воўкалаце, Выгалянятах; у Троцкім павеце — у Ворлішках; у Укмерскім павеце — у Куронах, Варонах, Пашылях; у Віленскім павеце — у Грабёлях, Кармазінах, Пакрадлах, Жэлядзі, Варапнішках.

Шкілетныя курганы знойдзеныя толькі ў Скініках павету Зарасай, Парышчах, Варапнішках, Пакрадлах — Віленскага павету; у Дукштах і Антасарах Сьвянцянскага павету.

Яны прадстаўляюць сабой нявысокія насыпы ад 35 да 75 цм вышыні, каля 8 м у дыямэтры, абложаныя кругамі з каменяў. У кургане таксама знаходзяцца камені. Шкілеты пахаваныя ў ямах ад 75 цм да 1,50 м глыбокіх, галовамі на захад. Спосаб укладаньня рэчаў амаль гэткі, як у курганох з целапахавальным матэрыялам з ранейшага пэрыяду ў Межонах. У прынцыпе ў адным кургане — адзін шкілет. У адным выпадку знойдзеныя 3 шкілеты, пахаваныя на той самай вышыні кургана (у Антасарах).

У кургане ў Скініках каменны круг быў некамплетны, а шкілет знаходзіўся ў яме 50 цм глыбіні. Па правым баку шкілету блізка плячукоў знаходзілася зброя: два кап'я, за галавой нож, каля бядра — шчыт і каля правай нагі — сякера.

На асаблівую ўвагу заслугоўвае курган № 1 у Антасарах, даючы асновы залічыць яго паводля сваёй будовы і нутранога зьместу да яцьвяскага паходжаньня. Курган паходзіць з V ст. пасьля Хр. Навонкі прадстаўляў вялікі насып пяску, гліны і каменьняў. У паўдзённай частцы кургана знаходзілася вылажаная каменнымі плітамі яма, ад 75 цм да 1,50 м глыбіні і ад 2,50 да 3 м шырыні, у якой знаходзіўся шкілет каня, паложаны галавой на захад. Шкілет каня меў выгляд скорчаны, ногі і галава схілены да сябе, чэрап прабіты. Каля конскага шкілету знойдзеныя астаткі косьцяў мужчыны.

Вельмі цікава прадстаўляюцца зьмены ў пахавальным абрадзе на самым пагранічны Крывіччыны і Жамойдзі (рака Няважа).

Калі ў папярэднім пэрыядзе выступалі тут у некаторых мясцовасьцях целапахавальныя курганы з мяшанымі элемэнтамі жамойда-славянскімі, то, пачынаючы ад VI—VII стст. пасьля Хр. у гэтых мясцовасьцях выступаюць целапальныя курганы.

Дасьледаваныя тут былі курганныя магільнікі ў Вэршвах, Эгулях і Паманцінках Укмэрскага павету. Гэта былі невялікія курганы з ямай у выглядзе міскі 50 на 30 цм велічынёй, 30 цм глыбіні, а часамі толькі 5—10 цм (на старых жамойдзкіх магільніках). Косьці старанна ачышчаныя з попелу, зложаныя бяз попельніцы ў ямачцы, якая напамінае форму міскі. Памёршыя былі спаленыя разам з прадметамі ўпрыгожаньня. На спаленых косьцях знаходзіліся розныя рэчы, як нажы, зброя (коп'і, сякеры) і іншыя.

З гэтага відаць, што жамойды ў сярэдняй жалезнай пары ня толькі што не пашырылі свайго этнічнага прастору на паўдзённы ўсход ад ракі Нявяжы, але наадварот — існуючыя між Нявяжай і Сьвятой (Швентай) жамойдзкія астраўкі ад VI—VII стст. пераймаюць поўнасьцю крывіцкую культуру (працэс славянізацыі) і пакідаюць свой стары звычай целапахавальнага абраду на целапальны, творачы сынтэзу жамойдзкай і крывіцкай культураў, у выніку чаго паўстаюць своеасаблівыя целапальныя магілы на ранейшых шкілетных магільніках.

Зусім адваротнае з'явішча наглядаецца ў паўночнай Жамойдзі, у аколіцах Біржаў, Панявежа, Расенаў, Рокішкаў і Шаўляў. Пачынаючы ад VI ст. пасля Хр., зьнікаюць тут апісаныя намі раней курганы, а іх месца займаюць плоскія шкілетныя магілы латышскага тыпу[87]. Падобнае з'явішча выступае і ў Латвіі.

З гэтага часу сустракаюцца зусім рэдкія курганы ранейшага тыпу, прытым маюць яны ўсе прызнакі заняпаду; малыя (5—6 м у разрэзе) і нявысокія. Каменныя кругі шмат меншыя, як сам курган. Напрыклад, дасьледаваныя Шнорэ (E. Snore) курганы ў Ляйсокені мелі каменны круг у дыямэтры 10 м, калі дыямэтр кургана меў 20 м. Каменьне ў кругу найчасьцей паложанае неакуратна.

[87] З крыніцаў з 1255, 1257, 1261 гг. вынікае, што латышскае племя сёлаў займала прастору Жамойдзі (сёньняшняй) да лініі Уцена — Шведасай на поўдні, а на ўсходзе даходзіла да Дзьвінска, на поўначы да аколіцаў Рыгі.

Такім чынам археалягічныя раскопкі даюць становчы матэрыял, што між 400—800 гг. пасьля Хрыста славяне ў аснаўным выэміґравалі з пабярэжнай паласы Балтыцкага мора на паўночны ўсход ад Нёмана ў заходнім кірунку, а іх месца занялі латышы і жамойды. Міграцыя славян аднак не датычыла паўдзённа-ўсходняй прасторы ад лініі Коўна — Панявежа — Кукенойс — Пскоў, дзе Крывічы ўтрымоўваюцца аж да гістарычных часоў, прытым сьцьвярджаецца тут цьвёрды працэс славянізацыі элемэнтаў некрывіцкага паходжаньня.

Апрача вышэй апісаных зьменаў у паласе Балтыцкага мора на ўсход ад ніжняга Нёмана славянская міграцыя на захад была прычынай некаторых этнічных зьменаў і на тэрыторыі Усходніх Прусаў між Нёманам і Прэголай: у VI ст. пасьля Хр. сюды пасунуліся жамойды. Зусім магчыма, што перадавым жамойдзкім племем была голядзь (Galindas), якое за часоў Пталемэя знаходзілася між Нёманам (Chronos) і Дзьвіной (Rudon), а ў VI ст. ужо было на захад ад Нёмана[88].

Дзеля важнасьці гэтага пытаньня неабходна бліжэй разгледзець этнічны склад насельніцтва Усходніх Прусаў ад найдаўнейшых часоў, каб пазбыцца ўсякіх сумліваў у пэрыядзе між 400—1000 гг. пасьля Хрыста і адхіліць традыцыйныя тэорыі, быццам існавала прускае племя — адна з галінаў жамойда-латышскай групы.

[88] Частка гэтага племені астаўшыся была ў аколіцах Смаленска, адкуль прыйшлі жамойды, аб чым была гутарка раней. Вестку Пталемэя аб «Галіндаі і Судзінаі» шматлікія гісторыкі мэханічна спалучылі з Дусбургам, які падае пляменны падзел Прусіі і між іншымі пляменамі называе «Galindiam» і «Sudowiam».

# Частка II

# СЬВЕДЧАНЬНІ ГІСТАРЫЧНЫХ КРЫНІЦ



## Глава 8
## УСХОДНІЯ ПРУСЫ Ў ПЭРЫЯД СЛАВЯНСКАЙ МІГРАЦЫІ ДА IX СТАГОДЗЬДЗЯ

Пачнём ад высьненьняў назоваў гэтай прасторы. Як ужо мы раней падкрэсьлівалі, прастора Усходніх Прусаў была адзіным месцам у Эўропе, дзе знаходзіўся бурштын у натуральным стане, выкіданы Балтыцкім морам на бераг. Дзякуючы гандлю бурштынам пранікалі найстарэйшыя весткі да цывілізаваных народаў у басэйне Міжземнага мора і Малой Азіі аб гэтай тэрыторыі. У грэкаў ад часоў Гыгіса (Hygis), а магчыма ранейшых, існаваў вусны пераказ, што электрон (бурштын) паходзіць з краіны венэтаў, дзе Эрыдан уліваецца ў Паўночны акіян. Ня маючы бліжэйшых вестак аб гэтай краіне венэтаў над Балтыцкім морам, Эсхіл і Эўрыпід памылкова злучаюць месца знаходжаньня бурштыну з венэтамі, сядзеўшымі на ўзьбярэжжы Лігурскага і

Адрыятыцкага мораў, а Эрыдан (Прэголу) плютаюць з Роданам (Ронай), што ўліваецца ў Лігурскае мора[89].

Разьвязка грэцкага пераказу наступіла ў IV ст. перад Хр., калі Аляксандар Македонскі ў сваім вялікім паходзе разьбіў фэнікійцаў, заўладаў Тырам і ўзалежніў ад сябе Марсылію пры вусьці Родана (Роны), тады праўдападобна выявілася памылковасьць цьверджаньня грэцкіх пісьменьнікаў і паўстала патрэба разьведаньня паўночных краінаў, а ў тым ліку і бурштыновага пабярэжжа.

Разьведку гэтую правёў Піфей (Pytheos) з Марсыліі у 320 г. перад Хр. На аснове прывезеных беспасрэдных вестак, грэкі і рымляне маглі мець лепшае ўяўленьне аб Балтыцкім пабярэжжы. У рэляцыі Плінія на паўдзённым пабярэжжы Балтыцкага мора пры ўліцьці Віслы Піфей знайшоў гутонаў, гэрманскае племя, ведамае пад назовам готы, а на ўсход ад іх, на адлегласьці аднадзённага падарожжа /па мору/ запраўднае бурштыновае пабярэжжа, якое называлася Ванному[90].

Разглядаючы розныя крыніцы, з якіх браў весткі, Пліній перадае розныя варыянты гэтага назову, як Abalum, Baltiam, Basiliam, Oserictam. Усе яны не пярэчаць сабе, але пакрываюцца. Найстарэйшы Vannoma ёсьць фінскага паходжаньня і абазначае краіну вэнедаў. Назовы Abalus, Baltia і Basilia (у грэцкай вымове Avalus, Valtia і Vasilia) ёсьць рознымі парафразамі славянскага слова «волаты», якія займалі пабярэжжа Балтыцкага мора[91]. Гэта станоўча сьцьвярджае Пталемэй, называючы ад сядзеўшых там венэдаў і самае мора «Venedikos kolpos», а як суседаў венэдаў на ўсход ад Нёмана — волатаў «veltai».

[89] Важным доказам утрымліваньня грэкамі гандлю з Балтыцкім пабярэжжам з'яўляюцца археалягічныя знаходкі. Так у 1833 г. каля Быдгашчы (Польшча) знойдзена 37 грэцкіх манэтаў з VI і V ст. перад Хр. Далей у 1822 г. у целапальным кургане каля Рыгі знойдзеныя дзьве бронзавыя фігуркі (статуэткі) грэцкага паходжаньня і іншыя грэцкія вырабы побач сярэбраных манэтаў з Тасос і Сыракузаў і адна медная манэта Дэметрыя Паліяркета.

[90] Глядзі таксама ў скандынаўскіх сагах аб «ванах», краіне «Vanland» і г. д. Фіны цяпер Расею называюць Vannoma (ma — краіна, напр. Suoma — Фінляндыя, Muroma — краіна муромаў).

[91] Сам назоў Балтыцкае мора ёсьць лацінскай парафразай слова волатаў — Valticum mare, «мора волатаў» і паходзіць з VI—VIII ст. пасьля Хр., калі волаты ўвайшлі ў гісторыю гэрманскіх народаў як магутнае славянскае племя. Аб замене «в» у «б» пры слове «волаты» глядзі ў Ібрагіма Якуба з X ст. «Ababa», «Walinbaba» ў абазначэньні волатаў. «Banthaib» у значэньні «Vanthaib» — краіна вантаў у Паўлы Дыякона (Pauli Diaconi).

Гэты славянскі назоў вымоўна пацьвярджае Эінгарт (Einhart) з IX ст. пасьля Хр. пры апісаньні прусаў: «aliae diversae nationes sclavi et Aisti, interquos vel praecipui sunt, quibus tunc a rege bellum inferebatur, Weletabi».

Ня менш вымоўным доказам старой прасторы волатаў ёсьць вялізная колькасьць гэаграфічных назоваў у паўночнай частцы Крывіччыны і басэйне Балтыцкага мора, аб чым часткова гутарка была раней. У прускіх дакумантах з канца XIII стагодзьдзя часта выступае імя Велот (Welot). Тут у акрузе Фрыдлянд (Friedland) па сёньняшні дзень утрымаліся назовы дзьвюх вёсак — Вільтэн (Wilten). У саге пра Вількіна (Wilkina Saga), што з часоў князя Уладзіміра (X ст.), Прусы называюцца Вількінлянд (Wilkinaland), які мяжуе з Рузілянд (Ruziland), дзе знаходзіцца горад Вількінаборг (Wilkinaborg), /тутэйшы/ народ называецца «вількен» (wilken), а Балтыцкае мора — Wildamor[92].

«Osericta» цара Мітрыдата, як гэта сьцьвярджае сам Пліній, ёсьць гэрманскага паходжаньня: так скандынаўцы называлі ўсходніх суседзяў[93].

З нямецкіх крыніцаў паходзілі і пазьнейшыя весткі ў рымскіх пісьменьнікаў. Ведама, што за /часы імпэратара/ Нэрона ў 54—55 годзе пасьля Хр. быў высланы з Карнутыі (Панонія) рымскі жаўнер з заданьнем выведаць венэцкую прастору над Балтыцкім морам і прывесьці адтуль бурштын для Нэрона на ўпрыгожаньне цэсарскай трыбуны ў Калізэі. Жаўнер прывёз ня толькі бурштын, але, што найважнейшае, весткі, сьцьверджаныя на месцы або пачутыя ад нямецкіх плямёнаў. На аснове гэтых інфармацый Пліній мог напісаць аб насельніцтве Балтыцкага пабярэжжа: «Quidam haec habitari ad Vistulam usque fluvium a Sarmatis, Venedis, Sciris, Hirris tradunt»[94].

[92] Волаты ў нямецкіх плямёнаў мелі рознае абазначэньне з прычыны цяжкасьці вымовы гэтага слова, як Wilten, Wilken, Wilzi, Wilta, Welsi, Walza, Walca, Vulzi і г. д. Што яны абазначалі волатаў мы давалі часткова вышэй паводле адпаведных крыніц, тут яшчэ: Саксон Граматык (Saxo Grammaticus) пад 952 годам: «Welatabi, qui et Wilzi dicuntur»; Notkerus Lebeo (памёр у 1022 г.): «Vuelitabi, die in Germania sizzent, tie wir Vuilze heizen».

[93] Osericta паходзіць ад старагэрманскага «Osti» (усход) і «rikta» (народ). Yungling-saga і Heimskringla-saga прускае пабярэжжа Балтыцкага мора называюць Osterike.

[94] Сарматыя (Sarmatis) тут у значэньні гэаграфічным: грэкі і рымляне падзялялі Эўропу на дзьве часткі: на захад ад Віслы — Germania, на ўсход — Sarmatia. Скіраў (Sciris) і Гіраў (Hirris) нямецкая навука ўсімі спосабамі стараецца залічыць да гэрманскіх плямёнаў. Скіры і Гіры — гэта славянскія назовы ў гэрманска-лацінскай вымове і абазначаюць першых жыхароў над Шчарай, — так называлася галоўная рака ў Прусах, сёньня Прэгола. Глядзі яшчэ аналягічную вестку ў Тацыта (Germania) аб лужыцкім племені Harri, пры-



*Агульная схема міграцыі славянаў*

Тацыт, які прысьвяціў апісаньню прусаў цэлы разьдзел /у кнізе «Германія». — *Рэд.*/, браў свае весткі ад нямецкіх плямёнаў, якім празначыў шмат месца. Весткі гэтыя, як падобныя пераказы, маюць шмат недакладнасьцяў, тым ня менш заслугоўваюць на ўвагу. Вось жа Тацыт, падобна як Мітрыдат, называе жыхароў Прусіі — «эсторум гентэс». За Тацытам пайшлі іншыя пісьменьнікі і летапісцы, так што гэты назоў утрымаўся да X ст. пасля Хр. і быў заменены назовам «прусы». Сутнасьць гэтага назову найлепш насьвятляе Мюленгоф (Mühlenhof), выводзячы яго з гэрманскай мовы на абазначэньне ўсходніх народаў (Aesti) канечна не сядзеўшых на тэрыторыі сёньняшніх Прусаў:

> Што назва, якая ў Тацыта паводле найлепш пацьверджанага сьведчаньня гучала як эсты (Aesti)...

Што «aestiorum gentes» Тацыта абазначала «ўсходнія плямёны», узятае ад гэрманаў, наглядна бачым у караля ангельскага Альфрэда ў апісаньні падарожжа Вульфстана (IX ст.). Аналізуючы справаздачу Вульфстана, Мюленгоф на гэта таксама зьвярнуў увагу:

> Тады такім жа чынам была яшчэ раз неправільна зразуметая нардычная форма назвы і замест правільнага ў англа-саксонскім Aeste, хутчэй цалкам адпавядаючы саксонска-нямецкаму Osti,

чым Тацыт падкрэсьлівае, што яны «coarguunt lingua non esse Germanos» («мова, на якой размаўлялі, ня была германскай»).

яна пераходзіць у англа-саксонскае Este ці Estas гэтак жа як старанардычная назва Eistland у англа-саксонскае Eastland у перададзеным мараплаўцам Вульфстанам паведамленні пра наведаныя ім краіну і народ.

Гэтая гэрманская традыцыя фактычна трымалася аж да сёньняшніх дзён, паводля якой усе ўсходнія ад немцаў народы называюцца «Osten».

Вельмі праўдападобна, што старагэрманскім назовам «aeste» называлі готы мясцовае славянскае насельніцтва на тэрыторыі сёньняшніх Прусаў, над якім /яны/ мелі некаторы час уладу. Рэхам гэтых суадносін і ёсьць ліст (з VI ст.) ад эстаў да Тэадорыка (готскага), валадара рымскага, пісанага на лаціне, у якім жыхары бурштыновага пабярэжжа называюць сябе аславянізовай формай «haesti» (зам. «aesti» Тацыта), значыць імям, пад якім яны былі ведамыя готам.

Яшчэ за часоў Карла Вялікага ўжываецца гэты назоў «aisti», але штораз выразьней пад ім падразумяваецца славянаў. Так напрыклад Эйнгарт піша:

> Даны ж і свеоны, якіх мы называем нарманамі трымаюць і паўночнае ўзбярэжжа і астравы ля яго. Паўднёвае ўзбярэжжа насяляюць склавы і айсты і розныя іншыя народы, між якіх бадай галоўнымі з'яўляюцца велетабы, з якімі кароль у той час вёў вайну.

Што гэты назоў не абазначаў акрэсьленай этнічнай групы, сьведчыць таксама яго перасоўваньне далей на ўсход, на Курляндыю і фінскія плямёны, пачынаючы ад IX ст. І так швэцкі летапісец Таргнюр (Thorgnyr) піша, што Эйрык Эймундсон (Erik Eymundsson), кароль з Упсалы (памёр у 885 г.) «lagdi undir sik Finnland oc Kyriale, Eysland oc Curland». Саксон Граматык, данскі летапісец, гэтыя назовы пацьвярджае:

> Павёў слаўную моладзь па сэмбійскую і эстонскую здабычу... Дашчэнту зруйнаваў каралеўствы showy кураў, сэмбаў і эстаў.[95].

Апрача «Venedia» і «aesti», сустракаюцца ў некаторых крыніцах іншыя назовы гэтай прасторы, як «vity», «Vitland», «sembi», «Semland», Гутоны, Готы.

[95] Сёньняшнія эсты (эстонцы), племя фінскага паходжаньня, сябе называюць «маарагвас».

Першай зацемкай аб «вітах» здаецца зацемка ў Іардана аб «відзіварах». Іардан памяшчае сваіх відзівараў на тэрыторыі, дзе раней сядзелі готы, г. зн. пры ўліцьці Віслы ў Балтыцкае мора, падкрэсьліваючы «вядома, што яны з розных народаў і, калі былі сабраныя ў адно прыстанішча, утварылі племя». Поўнасьцю пацьвярджае зацемку Іардана Вульфстан, падарожнік ва Усходнія Прусы:

> Вісла вельмі вялікая рака, і яна адзьдзяляе Вітлянд (зямля вітаў), які належыць эстам, а Вісла выцякае з зямлі Вэнедаў (Веонадлянд) і ўпадае ў Эстмэрэ.

Славянскасьць вітаў выразна сьцьвярджае Географ Равэнскі (Anonymus Geographus Ravennas)[96]:

> Так у абшары сёмай гадзіны ночы ёсць радзіма скіфаў, адкуль паходзіць род склавінаў. Але і віты і хімабы выйшлі з іх.




*Рассяленьне балтаў да 1200 г.*

Слова «vit» — славянскага паходжаньня і абазначае «валадар». Ведамы галоўны бог у Арконе, сталіцы славянаў на востраве Ругіі, называўся Сьветавіт — валадар сьвету, якому нават жыхары Даніі слалі падарункі, а паводля Гельмольда (Helmold; 1125—пасля 1177) астаўся ён і пасля ўвядзеньня хрысьціянства пад назовам святога Віта.

Саксон Граматык апавядае, што на гэтым востраве жыхары паважалі Ругэвіта, валадара Ругіі, бога вайны; Праравіта — валадара права, Турвіта — валадара сілы. У сяньняшнім Гавель-

[96] Назоў «віты» датычыў і заходніх славянаў (волатаў — люцічаў — бодрычаў). Ня трэба блытаць вітаў з вікынгамі скандынаўскага паходжаньня, інакш званымі нарманамі.

бэргу (Havelberg), што ў паўночнай Нямеччыне, стаяў калісьці вобраз бога люцічаў — Гэравіта або Яравіта, валадара вайны (увасабленне ярасьці — мужнасьці. — *Рэд.*).

Назоў «vit» адносіўся ня толькі да багоў, але і да пануючых, як да валадароў. Астаткамі яго /з'яўляюцца словы/ — «vici» (валадарскі загад да ваеннага паходу), «viciaź» — рыцар, «павет» — тэрыторыя ранейшых вітаў[97].



*Старажытныя жамойды (рэканструкцыя)*

Пацьвярджаюць таксама гэты назоў і геаграфічныя назовы на ўсёй славянскай тэрыторыі[98] ды імёны асобаў[99]. Безумоўна і плямённы назоў «вяцічы» бярэ пачатак ад гэтага назову, прыйшоўшы з-над Балтыцкага мора, аб чым успамінае Нэстар, памылкова выводзячы іх ад легэндарнага Вяткі, што меў прыйсьці «ад ляхаў»[100].

Другі назоў Самбія (Sembia) утрымаўся як назоў поўтоку пры вусьці Прэголы — Samland. Гэты назоў у скандынаўскіх крыніцах часта выступае ад V стагодзьдзя пасьля Хрыста. Ён ня мае станоўчага абазначэньня адной акрэсьленай тэрыторыі: раз абазначае сёньняшнюю Самляндыю, іншы раз усю Прусію.

---

[97] Сюды аднесьці трэба і слова «завет» у значаньні нормаў валадара, «веча» — сход у валадара. Фіны па сёньняшні дзень называюць Латвію, дзе да XIII ст. валадарамі былі крывічы, — Vidumaa (зямля вітаў).

98 У заходніх славянаў: Weitin, Witt, Wittenberg, Wittenburg, Wittfeitzen, Wittorf, Wittow, Wittstock, Witz, Witzeeze, Witzin, Vitenburg і інш.; Vidlansdorf у Прусах. Дытмар аб племені заходніх славян ветнічы: «qua satellites habitant, dicti sclavonicae Vethenici». У Крывіччыне: -Вітбеск (Віцебск), Віцьба, Вітунічы, Віткоўшчына, Свіцязь. У Польшчы — Вітолін, Вітошыцэ; Вітоша — гара на Балканах.

[99] Напрыклад: Віт, Віцень, Вітаўт, Віткун, Віткоўскі, Вітар, Вітос, Земавіт.

[100] Б.А. Рыбакоў праводзіць крытыку летапіснага тэксту аб «ляшскім» паходжаньні вяцічаў і радзімічаў, сьцьвярджаючы, што гэтая вестка належыць да тыповых вестак, характэрных для многіх сярэднявечных летапісаў, выводзіўшых найчасьцей назовы плямёнаў ад імёнаў людзей, што ёсьць толькі домыслам летапісца. Аналягічна летапіснае тлумачэньне аб назовах акругаў у Прусіі паводля Хронікі Хрыстыяна.

Якога паходжаньня гэты назоў і што ён абазначае? Вельмі праўдападобна, што ён лета-жамойдзкага паходжаньня і абазначае жэймаў[101], пранікнуўшых у раён між Шэшупай, Пісай і Прэголай каля V стагодзьдзя. Дзеля таго, што скандынаўскія напады на тэрыторыю паўдзённага пабярэжжа Балтыцкага мора найчасьцей мелі пірацкі характар[102] і не сягалі ў глыб тэрыторыі, дык і назовы скандынаўскіх сагаў маюць пэрыфэрыйны характар, гэта значыць, што яны абазначаюць акругі каля Балтыцкага пабярэжжа[103]. Такім чынам і назоў скандынаўскіх летапісаў «Sembia», «Semland» фактычна адносіўся да пабярэжнай прасторы, які і ўтрымаўся ў гістарычных часох як назоў аднае з правінцыяў Прусаў[104]. Як бачым з гэтых летапісаў, ён ня меў станоўчага характару на абазначэньне ўсёй прасторы прусаў, хутчэй часткі гэтай краіны, бо ён паясьняецца шырэйшым назовам «Прусія» (Prussia).

Назовы «гутоны», «готы» і падобныя на абазначэньне тэрыторыі сяньняшніх Прусаў сустракаюцца ў польскіх крыніцах як спадчына па «готах», сядзеўшых у заходняй частцы Прусаў у II ст. пасьля Хрыста[105]. Як ведаем, яны ўжо там былі ў

---

[101] Zeme (лацін.), žemė (жамойд.) значыць «зямля», «краіна». Ад гэтага слова паўсталі пляменныя назовы Зэмгалы і Жэмайты (зэмгалы, магчыма, як мяжуючыя з жэмайтамі). Зэмгалы ад V ст. пасля Хр. займалі левае Прыдзьвіньне ад Дзьвінска да Курляндыі, углыбляючыся на захад да ракі Невяжы, жэмайты (жамойды) у гэтым часе перайшлі ніжні Нёман і пранікнулі прыморскай паласой амаль да Прэголы (рака гэта раней называлася Шчара, цяпер «пагранічная», ад «галас» — мяжа.

Мімаходам зацемім, што цяперашнія тлумачэньні жамойдзкіх аўтараў (за імі і іншых), быццам «Žemajtia» ёсьць толькі тапаграфічныя абазначэньнем ніжэй паложанай тэрыторыі (ад «Žemas» — нізкі, нізінны) у супрацьстаўленьні да «Aukštaita» — terra superior («aukštas» — вышэйшы) ёсьць палітычнай камбінацыяй, каб апраўдаць прысабечаны назоў «Літва». Жэмайты ці у сёньняшняй вымове жамойды — гэта быў назоў этнічны племені ад «Žemė», а не ад «Žemas» і абазначаў усюды, на нізінах і ўзвышшах, гэтае племя. Ягонае глыбейшае значэньне месьціцца ў сёньняшнім паняцьці «einheimische» («краёўцы», «тутэйшыя»).

[102] Скандынаўская сага апавядае, што ў V ст. пасьля Хр. скандынаўскі правадыр Старкадэр, у саюзе з славянскім князем Вінам, рабіў паходы ў глыб Прыбалтыкі супраць кураў, жэймаў, зэмгалаў ды іншых народаў.

[103] Глядзі Yhgling Saga, Heimskringla Saga аб паходзе Ярмерыкса, караля Галлянда, супраць славянаў, жэймаў, кураў і іншых усходніх пляменаў, у канцы V ст. пасьля Хр. Археалягічныя досьледы ў Самландзе (Прусы) сьцьвярджаюць масавае паяўленьне жамойдзкіх плоскіх магілаў у V ст. пасля Хр., ды зніканьне ранейшых курганоў.

[104] Ва ўсіх скандынаўскіх сагах ідзе гутарка выключна аб пабярэжных краінах, як Windland, Sembia, Curland, Semigalia, Karelia, Biarmia. Іншыя далейшыя краіны акрэсьліваюцца агульным назовам «Ansturlaned» (Ostland), «orientales nations», «plures terras» і г. п. Аднак жа скандынаўскія сагі /былі/ запісаныя ў XI—XIII ст. пасьля Хр., калі ўжо распаўсюдзіўся назоў «Прусы» (Прусія) як гэаграфічнае абазначэньня сёньня ведамай тэрыторыі.

[105] На нагробніку польскага караля Балеслава Храбрага напісана: Tu possedisti — velut athleta Christi — regnum Slavorum — Gothorum seu Polonorum.






*Славянскія магільныя курганы*

часе падарожжы Піфея, інакш кажучы, займалі гэтую славянскую прастору больш 500 год; нічога дзіўнага, што гэты назоў замацаваўся на некаторы даўжэйшы пэрыяд нават пасьля адыходу готаў на поўдзень.

Адыход готаў з Прусаў у II ст. пасьля Хр. побач гістарычных вестак пацьвярджаюць і археалягічныя дадзеныя, пайменна на пераломе II і III стст. зьнікаюць у Прусах іхнія магілы, плоскія, шкілетныя з элемэнтамі мэгалітнай культуры. Іх месца да ракі Прэголы займаюць зноў славянскія курганы, а ў Самландзе (Самбіі), Натангіі і акрузе Мемэль — жамойдзкія магілы.

І апошнім назовам, які ўтрымаўся па сёньняшні дзень, ёсьць Прусы. Паявіўся ён даволі позна, бо ў канцы X ст. пасьля Хрыста. Найстарэйшымі крыніцамі, дзе выступае гэты назоў у форме «bruzze», «bruc», з'яўляюцца была Папы /рымскага/ Ёанна XV да польскага караля Мешка I і /яго жонкі каралевы/ Оды з 990 г.[106], /а таксама/ весткі Ібрагіма Якуба з гэтага самага часу[107].

[106] «Гэтак жа ў іншым томе з часоў Папы Яна XV ...як чытаем там, надалі святому Пятру цалкам адну дзяржаву, якая называецца скінэзга з усімі прыналежнасьцямі ў гэтых межах, гэтак як яна пачынаецца з аднаго боку ўздоўж мора, ідзе мяжою Прусіі аж да месца...»

[107] Жыд Ібрагім-Ібн-Якабсон (у запісках араба Аба Обэйд-Абдаллы-аль-Бакры, пам. 1094 г.) называе краіну на поўнач ад дзяржавы Мешка — Bruz, на ўсход — Rus. Bruz, здаецца, ён адносіць да Самланду, бо кажа: «яны жывуць над морам і маюць асобную мову,

У XI ст. гэты назоў шырока распаўсюджаны амаль ва ўсіх крыніцах, спачатку як паясьненьне да Сэмбя[108], потым як самастойны назоў[109]. У польскіх крыніцах ён выступае побач Gothi, Gethae[110]. Цяперашнія жамойты гэтаксама называюць крывічоў — gudas, gudija, /крывіцкую/ мову — gudiškas.

***

Адкуль мог узяцца гэты новы назоў, зусім няведамы ў IX і на пачатку X ст. пасьля Хрыста[111]? Войт (Voight) падкрэсьлівае, што ён прыйшоў праз польскія рэляцыі на захад. Прыпадкова з'явіцца ён ня мог нават і сярод палякаў, летапісы якіх з XII—XIV стст. карыстаюцца ў супрацьстаўленьні да гэтага цьверджаньня назовам геты (готы) у дачыненьні да разгляданай тэрыторыі. У другой палавіне X ст. пасьля Хр. мусілі адбыцца важныя палітычныя перамены на старой бурштыновай прасторы, якія выявіліся і ў назове краіны і ў суседзкіх дачыненьнях.

Пачынаючы ад Тацыта на працягу сямі стагодзьдзяў да Вульфстана гэтая краіна вяла спакойнае жыцьцё, аб людзях яе ішлі чуткі, што гэта «pacatum hominum gens» (Іардан), ці як пісаў Адам Брэмэнскі: «Sembi vel Prutzci hominum humanissimi», часта нападаныя скандынаўскімі піратамі. Раптам у палавіне X стагодзьдзя тут паўстаў пераварот: краіна сталася небясьпечным табарам ваеншчыны, гняздом дзікасьці, барбараў і выпадовай базай для ваенных паходаў галоўным чынам на Польшчу і суседнія краіны. Частыя напады на Польшчу далі думку Баleславу, польскаму каралю, у паразумленьні з нямецкім імпэратарам Атонам III спрабаваць навярнуць іх на хрысьціянства і гэтым спосабам уключыць іх у сваю сфэру ўплываў. З гэтай мэтай былі высланыя сьв. Адальбэрт і Бруно, аднак абодвыя згінулі, забітыя

якой не разумеюць суседзі. Яны ведамыя з сваёй мужнасьці, бо на іх нападаюць з захаду на вадаплавах русы (дацкія піраты)». Падобныя весткі мы бачым у Адама Брэмэнскага і Саксона Граматыка.

[108] Ад Адама Брэмэнскага гэты назоў узяў Helmold, перадаючы яго як Pruzi, Prusii.

[109] Дытмар Мерзебурскі пісаў аб сьмерці сьв. Бруно: «Тады калі ён прапаведваў на памежжы памянёнага краю Прусіі і Русі, яму спачатку перашкаджалі (мясцовыя) насельнікі... Marian Scotus (1006 г.): «Біскуп Бруно выцерпеўшы ад прусаў шмат катаваньняў»...

[110] Boguchwał: «А нейкія готы ці прусы найпрыязьнейшыя да Балеслава, але найнягоднейшыя здраднікі падкупленыя грашамі прусаў, [сцьвярджалі], што павядуць праз гэтыя мясціны адборныя адзьдзелы племені лехітаў».. Kadłubek: «Ён праславіўся вайсковай доблесьцю, якою паддаў сваёй уладзе Памеранію, Прусію, Русь, Маравію, Багемію» (...) і шмат іншых аўтараў..

[111] Вульфстану, які асабіста наведаў Прусы ў IX ст., гэты назоў быў няведамы.

прускай ваеншчынай. Хутка быў арганізаваны Балеславам першы крыжовы паход на гэты слаўны із сваёй спакойнасьці народ. Год пазьней (1016 г.) гэткі паход правёў дацкі кароль Кнуд Вялікі[112].





*Славянскае хрысціянскае пахаваньне*

Наступныя стагодзьдзі — гэта безупынныя войны Польшчы з прусамі, небясьпека якіх была прычынай у першай палове XIII ст. арганізаваць спэцыяльныя крыжовыя паходы пад кіраўніцтвам Нямецкага ордэну крыжаносцаў.

Вось гэты палітычна-мілітарны патэнцыял на прасторы даўнейшых «эстаў» быў прычынай і пачатку новага назову «прусы». Такім чынам пытаньне паходжаньня гэтага назову неразьдзельна зьвязанае з паходжаньнем ваеннай канцэнтрацыі на тэрыторыі Прусіі. Адкуль яна магла ўзяцца, якія яе былі прычыны? Адказу на гэта трэба шукаць у падзеях у заходняй славяншчыне.

Заходнія славяне, якія складаліся з шматлікіх пляменаў, вышаўшых з тэрыторыі Крывіччыны і Прыбалтыкі, між III і V ст. пасьля Хрыста завалодалі аграмаднай прасторай між Одрай і Лабай, сягаючы на захадзе ракі Заале, на паўночным захадзе да Шлезьвіга і Фленсбурга. Прынята падзяляць іх на два палітычныя ўгрупаваньні (зьвязы).

[112] Кнут Вялікі (англ. Canute the Great, дат. Knut, або Knud den Storee) (994—1035) — сын караля Даніі Свена, які заваяваў усходнюю і цэнтральную Англію (памёр у 1014). З 1017 г. Кнут — кароль Англіі, з 1019 таксама кароль Даніі, з 1028 таксама кароль Нарвегіі. У 1016 г. ён яшчэ не быў каралём, але ж меў добрае войска. — *Рэд.*

Першы гэткі саюз тварылі бодрычы, варны, вугры (вагры), палабы, дзераўляне, смаленцы і ліны. Дзеля вядучай ролі бодрычаў у гэтым саюзе называюць яго Бодрыцкім саюзам. Да другога саюзу, так званага саюзу Волатаў або Люцічаў належалі: хіжане, чэраспенцы, доленцы, ратары, пружане, марычаны, стодараны, дашаны, спрэвы і іншыя. Першы саюз ахапляў славянаў, сядзеўшых на поўначы па абодвых баках Лабы ў сёньняшняй акрузе Holstein і на захад ад Лабы ў сёньняшніх акругах Hannover — Lueneburg. Другі саюз — між Одрай, Саксоніяй і Лабай.

Першыя гістарычныя весткі аб Бодрычах і Люцічах маем з канца XIII ст. пасьля Хрыста. Тады ў войнах франкаў з саксамі бодрычы і сербы становяцца на баку франкаў (караля Пепіна «Кароткага»), люцічы на баку саксаў. Карл Вялікі, пашыраючы сваю дзяржаву на ўсход, увайшоў у кантакт з славянамі, пачаўшы пэрыяд жорсткіх войнаў немцаў з славянамі, якія трывалі ажна да XIII ст. У 772 годзе, закончыўшы пераможна вайну з саксамі, ён пачаў ціск на Бодрычаў, якія былі ягонымі саюзьнікамі. Падпарадкаваўшы іх сваёй уладзе ў 789 г. перайшоў з войскам Лабу і пры падтрымцы бодрычаў і сербаў (лужыцкіх) зруйнаваў краіну Люцічаў. У 798 і 799 гг. зноў ідзе вайной супраць плямёнаў, званых агульным імям Люцічы. Разграміўшы саксаў, Карл Вялікі ў 805 г. нападае на сербаў і чэхаў, каб гэтым аслабіць Люцічаў, з якімі гэныя былі ў саюзе.



*Славянскае хрысціянскае пахаваньне*










*Прускія магілы: з попельніцай (VI ст.) і шкілетная (XIII ст.)*

Міма аднесеных перамогаў у паасобных бітвах, Карл Вялікі яшчэ ня мог зьняволіць заходніх славянаў і прымушаны быў у 807 г. шукаць кампрамісу, устанавіўшы т. зв. «славянскую мяжу». Супакой трываў толькі некалькі гадоў. Пасьля сьмерці Карла Вялікага пачаўся далейшы «Drang nach Osten», тым больш нешчасьлівы для славянаў, бо цяпер выступаюць супраць іх аб'яднаныя сілы франкаў і саксаў. Дзевятае стагодзьдзе перапоўненае заўзятымі змаганьнямі з розным шчасьцем для абедзьвюх старон: славяне некалькі разоў былі прымушаны да прыняцьця хрысьціянства, але ў спрыяльных хвілінах хапалі за зброю і вагульных паўстаньнях вызваляліся з нямецкай залежнасьці, бароначы сваёй зямлі і веры сваіх продкаў.

Дзесятае стагодзьдзе прынясло сумныя часы для заходніх славянаў, асабліва пачынаючы ад Генрыка I[113].

Паход супраць славянаў ён пачаў у 921 г. але бяз

[113] Генрык I (876—936) — першы кароль з саксонскай дынастыі. Гаспадарыў у 919—936 гг. — *Рэд.*




*Мячы з прускіх магільнікаў (паводле Ул. Кулакова)*



*Дзіды і тапары з прускіх магільнікаў (паводле Ул. Кулакова)*

посьпеху. У наступным годзе пабудаваў бург Мейсэн і ўварваўся ў краіну мільчанаў, якіх пасьля разбурэньня Любузны прымусіў да даніны. Наступна, заключыўшы з мадзярамі перамір'е на 9 год, умацаваў граніцы і прыгатаваўся да атакі пляменаў Люціцкага саюзу. Атаку правёў у 927 годзе, уварваўшыся ў краіну стадаранаў і пружанаў, зьнішчыў іх сталіцу Бранібор

(Brandenburg) і правёў велізарныя спусташэньні. Накінуўшы даніну, вярнуўся ў краіну гламацоў і адтуль напаў на Багэмію, прымусіўшы таксама да даніны. Гэта быў толькі пачатак. У гэтым самым годзе /Генрык/ скіраваў ізноў свае ваенныя сілы супраць пружанаў, ратараў, бодрычаў, далмачоў і іншых плямёнаў і прымусіў да платы даніны ў вялізнай вышыні, заснаваўшы ў краіне пружанаў, стадаранаў і суседніх так званыя «новыя маркі» (neue mark).

Славяне не хацелі плаціць даніны і прымаць хрысьціянства і ў 930 годзе схапіліся за зброю і напалі за Лабай на горад Wallisleben, зьнішчыўшы аколіцы, аднак былі разьбітыя каля Ланкіні (сёньня Lenzen).

Тады Гэнрык I павярнуў сваю зброю супраць бодрычаў і, правёўшы страшэнныя спусташэньні, прымусіў іх князя да прыняцьця хрысціянства. Апошнім паходам Гэнрыка I на заходніх славянаў быў паход на ўкранаў, суседзяў стадаранаў, пружанаў і марачанаў у 935 г., якіх таксама падбіў і прымусіў да даніны.

Як бачым, у першай палове X ст. наступіў цяжкі пэрыяд нямецкай агрэсыі супраць люцічаў. Немцы ўтварылі на пагранічны ваенныя акругі (маркі), пабудавалі шматлікія апорныя пункты (бургі) ды агнём і мячом прымушалі славянаў да хрысьціянства і цяжкай даніны. Наступнік Генрыка I, ягоны сын Атон I Вялікі /гаспадарыў у 936—973 гг. — *Рэд.*/ праводзіў далей палітыку прыгнёту і тэрору адносна славянаў. Дзеля таго, што пружане, стадаране[114], украны, спрэвы і іншыя плямёны групы Люцічаў межавалі з саксамі, беспасрэдны нямецкі ўдар быў накіроўваны супроць іх.

Але ўсе яны яшчэ мужна супрацьстаўляліся нямецкаму наступу і баранілі сваёй зямлі. У 939 г. выбухла ўсеагульнае паўстаньне Люцічаў і Бодрычаў. Тады маркграф Гэрон (Gero; з 937 да сваёй сьмерці ў 965 г. узначальваў вялікую «марку» па сярэдняй Лабе і па Заале. — *Рэд.*) запрасіў 30 славянскіх князёў на банкет, быццам для наладжаньня супакою, і ўсіх, за выключэньнем аднаго, падступна забіў. У адказ на гэтая мардэрства паўсталі пружане і стадаране, а з імі і іншыя плямёны, у выніку чаго нем-

[114] Стадаране інакш называліся гавелянамі і гэруламі. Dithmar: Stoderania, quae Hevellum dicitur. Annales Quedlingburgenses: Ztodaraniam, quam vulgo Heveldum vocant.

цы былі адкінуты аж за Лабу.

Аднак гэтая перамога была вельмі кароткатрывалай, бо на дапамогу маркграфу Гэрону пасьпяшыў Атон ды выкарыстана была здрада славянскага князя Тугуміра.

Славяне ізноў былі падаўленыя нямецкім наступам. У 954 г. /яны/ яшчэ спрабуюць вызваліцца, выкарыстаўшы нямецка-вугорскую вайну, але ў 955 г. Атон і Гэрон, вярнуўшыся з вугорскага паходу, наносяць страшэнны ўдар славянам на рацэ Дожы, дзе згінуў іх правадыр Стойгнеў і вялізны лік палонных быў выразаны, а рэшта вольнага славянства, перш за ўсё пружане, стадаране і ўкраны прымушаныя былі да ўцёкаў. У два гады пазьней былі разьбітыя ратары. Астаткі пружанаў і стадаранаў вялі змаганьне да 960 г., але былі падаўленыя і прымушаныя да прыняцьця хрысьціянства і пабудовы касьцёлаў.







*Каменныя стоды славянаў з верхняга Днястра (па М. Гімбутас) і прусаў (паводле Ул. Кулакова)*

У канцы X ст. (у 983 г.) люцічы і бодрычы паднялі яшчэ раз агульнае паўстаньне, нападаючы на Гамбург, Гавельбэрг і Брандэнбург і вырэзваючы ўсюды немцаў, але крывавая бойка на рацэ Тонгэр не прынясла перамогі славянам. У 986 годзе, калі гаспадарыў /малалетні/ Атон III, /немцы/ зноў здабылі краіну стадаранаў і ўжо нямецкая перавага ўтрымалася да поўнай ліквідацыі заходняга славянства ў XIII ст.

Мы мімаходам кінулі вокам на крывавае змаганьне заходніх славянаў у X ст. з нямецкай навалай, каб паказаць дзьве рэчы:

Па-першае, нямецкі наступ у X ст., у першую чаргу на люцічаў, змушаў плямёны гэтага саюзу да міграцыі славянаў на ўсход, да сваёй, так сказаць, базы ва Усходніх Прусах. Што гэткая міграцыя была, няма ніякага сумліву. Гэта пацьвярджае Гэльмольд, архэалягічныя досьледы і першапачатковае ўтоесамленьне Прусаў з Люцічамі і Літвой[115].

У канцы X ст. пачынаецца тут тварыцца мілітарнае вогнішча, якое ў XI—XII стст. папоўніцца ўзрастаючымі прыплывамі вольнай славяншчыны з захаду, што з аднаго боку створыць мілітарную сілу Прусаў і дасьць асновы да вытварэння Літвы.

---

[115] Annales Quedlinburgenses: «Сьвяты Бруно, празваны Баніфацыем, арцыбіскуп і манах ў 11 год свайго навяртання быў абезгалоўлены...(1009 г.)». Крыніца гэта, сучасная да сьмерці сьв. Бруно, першы раз ужывае слова Літва, у значэнні Прусы.

Іншыя крыніцы гавораць выразна, што згінуў Бруно на паграніччы Прусіі і Русі. Dithmar: «Тады на памежжы памянёнага краю (Прусіі) і Русі». Marianus Scotus (1008 г.): «Біскуп Бруно выцерпеўшы ад прусаў шмат катаваньняў...» Chron. Magdeb.: «на памежжы краёў Русі і Літвы прыняў мучаніцкую сьмерць». Analista Saxo: «на памежжы Русі і Літвы».

Што тут ня можа быць гутаркі аб пазьней ведамай тэрыторыі Літвы, сьведчаць гэткія доказы:

а) Балеслаў Храбры пасылаў пасланцоў у Прусы, каб выкупіць цела замучаных апосталаў (Бруно і яго супрацоўнікаў);

б) Паводле ўмовы з крыжакамі прусы забавязаны былі ў 1249 г. у Варміі між іншым пабудаваць касьцёл у Браўнсбэргу, праўдападобна ў чэсьць сьв. Бруно.

в) Adamus schol.: «Палякі, якія з бакоў маюць: з гэтага прусаў, з таго — багемаў, з усходу русаў» (не Літву). Adam Bremensus: «Затым распасьціраецца найшырэйшая зямля палякаў, мяжа якіх, як кажуць, прылягае да каралеўства Русь».

Глядзі запіскі аб Польшчы і славянах Ібрагім Ібн Якуба, дзе таксама падаецца, што на ўсход ад /дзяржавы караля/ Мешка жывуць русы, а на поўнач — прусы. Да палавіны XI ст. ня маем ніякіх вестак, пацьвярджаючых існаваньне Літвы як мяжуючай з Польшчай на ўсход ад яе. У гэтым часе канцэнтрацыя славянскай ваеншчыны знаходзілася ў Прусах і часткова ў Прыбалтыцы на ўсход ад ніжняга Нёмана. Аб гэтым маем дастаткова вестак у польскіх і папскіх крыніцах.

Пачынаючы ад Мешка I ідзе заўзятае змаганьне Польшчы з Прусамі. Напрыклад, паход Балеслава I Храбрага на Прусы ў 1015 г.; змаганьне Балеслава II з Прусамі; змаганне Уладыслава Гэрмана (1091 г.); далейшае змаганьне з Прусамі і Паморамі ў 1092, 1093 і 1096 гг. Цікава адзначыць, што ў гэтым часе саюзьнікамі прусаў былі з аднаго боку паморы, а з другога крывічы (Rutheni ў крыніцах). Прыблізна ў канцы XII — пачатку XIII ст. паяўляецца новае ваеннае вогнішча ў вадазборы Нёмана — Літва.

Па-другое, славянская паваротная міграцыя была прычынай паўстаньня назову Прусы.

Brus, Bruzze, Pruzzen, Pruzzi, Prussia, Borussia, Pruthenia і г. п. назовы ёсьць парафразай славянскага племені «пружаны», якое перад X ст. знаходзілася ў аколіцах Гавэльбэрга над ракой Гавэль (Havel) між глінянамі і стадаранамі або гэруламі, потым перасунуўшыся на Памора[116]. Гэограф Баварскі з VIII ст. падае, што гэта было адно з сільнейшых плямёнаў: «Prissani habent civitatem LXX». «Bruzi plus est undique quam de enisa ad Rhenum».

У выніку нямецкага наступу частка гэтага племя ў X ст. перасунулася ў старую бурштыновую краіну, даючы гэтым новы назоў. Усе іншыя тлумачэньні не вытрымліваюць навуковай крытыкі[117].

---

[116] Некаторыя геаграфічныя назовы на Паморы як сьлед пружанаў-прусаў: Brusy каля возера Karsin; Pritzwald каля Валгосьці (Volhosc); Pritzenow, Pruchten і Barth пры Бартаўскай бухце, там жа рака Barthe (барты — адно з плямёнаў у Прусах); Prisanewitz каля Ростаку. У акрузе Brandenburg: Pruss — рэчка на карце 1827 (павет Rehbeck), там жа вёска Prüss; Prüsa — рэчка ў павеце Clenze; Prüss — рэчка каля Мёгэнбурга (Mueggenburg); Prussen каля Лабы.

[117] а) Быццам існавала прускае племя з групы жамойда-латышскай. Супроць гэтага ўсе нашыя дасюлешнія доказы.

б) Быццам ад мітычнага караля Boreas, што прыйшоў з Скандынавіі. Сюды адносіцца легэнда Хронікі Хрыстыяна аб скандынаўскім паходжаньні Bruteno, які быў сьвятаром, а Wudawutto каралём; легэнда Длугаша аб лацінскім паходжаньні прускіх князёў, якія ў часе пунійскай вайны нібыта былі выгнаныя з сваёй бацькаўшчыны і выэміґравалі далёка на поўнач.

в) Фрыдрых Вялікі ў сваіх успамінах піша: «Der Name Borusia, woraus man Preussen gemacht hat, heisst nahe bei der Russe. Die Russe ist ein Arm des Memels». Значыць быццам краіна «По-Русь» /ёсць/ пагранічная да ракі Рось. Гэткае тлумачэньне абаснованае на падабенстве словаў Prussia і Russia, прытым Prussia і Pruthenі паўстала пад дзеяньнем фанэтыкі другога Russia і Rutheni — значыць адпадае, бо паўстала пазьней. Прусы зусім не абазначалі краіны па рацэ Росі, бо ахаплялі шырэйшую прастору. Глядзі дакумант з 1245 г. папскага пасла Вільгэльма з Мадэны: «Curonia seu Curlandia cum sit pars Prucie»... Падобна і ў булы Папы Інацэнта IV.

Nielsen падае зацемку з геаграфіі Вальдэмара з пачатку XIII ст., дзе пад «terras Pruziae» разумеецца «Littovia, Curland et Semgallen». Шафарык выводзіць назоў Прусы ад «Βορουσκοι» Пталемэя, памешчаных каля Рыпэйскага ўзвышша, а паводля Шафарыка дзе сёньня мястэчка Бароўск на рацэ Протве ў раёне Калугі. Адтуль мелі б у IX—X ст. перасяліцца ў сёньняшнюю Прусію. На гэтым жа стаіць Erasmus Stella (De Borussiae antiquitatis).

Leo (Historia Prussorum) пераносіць вандроўку барускаў у Прусію ў 523—550 гг., таксама і Cromer (Historia Polonorum). Аднак аб гэтых барусках ад часу Пталемэя і іх вандроўцы на захад няма абсалютна ніякіх вестак, гэткае цьверджаньня ёсьць выключна фантазіяй названых аўтараў. Ня менш фантастычным домыслам ёсьць цьверджаньня (Adolf Rogge), быццам назоў Прусы паходзіць ад галоўнага бога Пяруна (Prun), якога выабражэньне знаходзілася на ваенных сьцягох прусаў. Пярун быў галоўным богам усіх славянаў і вера прусаў ня творыць тут спэцыфічнай з'явы, каб галоўная бажышча было асновай для назову насельніцтва, тым больш што і ягоная фанэтыка не падходзіць. Хутчэй гэтае слова паходзіць ад «пружны», значыць «крэпкі»; як «бодрычы» ад «бодры», як «волаты» ад «волат» — «асілак, магутны», як «люцічы» ад «люты». Параўнай гэткія словы як «пружнасьць», «папружка», «пружыць».



*Племя голядзь*

На заканчэньне гэтага разьдзелу аб паходжаньні назову Прусы зацемім яшчэ побач дадзеных доказаў пачатак хронікі Гэльмольда аб славянскасьці гэтага народу:

Шматлікія ёсьць славянскія народы. Яны жывуць на пабярэжжы Балтыцкага мора. Яно выгінаецца ад заходняга акіяну на ўсход. Называецца таму Балтыцкім, бо цягнецца ў выглядзе пояса (balteus) даўгім цягам цераз скіфскія ваколіцы, сягаючы Грэцыі. Яно называецца таксама морам барбарскім або скіфскім ад барбарскага насельніцтва, што жыве над ягоным берагам.

Вакол гэтага мора жывуць шматлікія народы. Паймення Данцы і Швэды, якіх мы называем нарманамі, займаюць паўночнае пабярэжжа і ўсе востравы ў сярэдзіне яго. Паўдзённая пабярэжжа займаюць славянскія народы, з якіх першай ад усходу ёсьць Русь, далей ідуць Палякі, з якімі мяжуюць ад поўначы Прусы, ад паўдня — Багемы і Маравы ды Карынты побач Сербаў (лужыцкіх). Калі залічыць яшчэ Ваграў да славяншчыны, як некаторыя ўважаюць дзеля таго, што яны ня розьняцца ані вонкавым выглядам, ані мовай, дык славянская мова ахапляе так вялікую прастору, што яе амаль нельга агарнуць. Усе гэтыя народы, за выключэньнем Прусаў, з'яўляюцца хрысьціянскімі...

І так, як бачым, на тэрыторыі Усходніх Прусаў адбываліся некаторыя этнічныя перамены: да II стагодзьдзя пасьля Хр. былі там готы, частка якіх зьлілася з славянскім субстратам, з чаго паўсталі вандалы, ведамыя добра гісторыі ў часе вандровак народаў. З хвілінай адыходу готаў і вандалаў існуючае славян-

скае насельніцтва папоўнілі волаты і розныя іншыя плямёны з Крывіччыны ў сваім паходзе на захад. Вельмі праўдападобна, што разам з славянскімі плямёнамі пашла на захад частка голядзі, жамойдзкага племені. Сьляды яго знаходзім над Лабай каля Neuhaus: Golatz — рэчка на карце з 1845/50 гг. Там жа /ёсць/ Collau і Güleitz.

У Юлія Капіталіна (Julius Capitolinus) ёсьць зацемка, што наступіў бы супакой для Рыму, калі б пакарыць Сарматыю, якая ўспамагала германам. Разьвязку паняцьця «Sarmatia», як удзельніка ваенных паходаў на Рымскую Імпэрыю, знаходзім у 253 г., калі ў войнах, якія вёў наступнік Траяна Дэцыя (Trajanus Decius), Марцін Галл (Martinus Gallus) супроць сарматаў, гэта ёсьць супроць злучэньняў фінаў, голядзі і венэдаў, у доказ перамогі над якімі сын цэзара Voluzijanus атрымаў тытул: «Пераможца вандалаў, фінаў, галіндаў і венэтаў» (напіс на манэце: «Imperatori Caesari Vandalico Finnico Galindico Vendenico Volusiano Augusto»).

Як вынікае з зацемкі Аміяна Марцэліна (Ammianus Marcellinus), у канцы IV ст. пасьля Хрыста наступіў рух на захад праўдападобна жамойдзкіх плямёнаў (жэймаў і галіндаў) ад Рыфэйскіх гораў у раён Прэголы пад ціскам хазараў (тое ж у Іардана, у Лукі Давіда). У кожным выпадку ў V і VI стст. пасьля Хр. жэймы і галінды ўжо знаходзіліся на тэрыторыі Прусіі. Жэймы занялі сёньняшнюю акругу Samland, а голядзь (галінды) прастору між Alle, возерам Rybno, рэчкай Туросэль (Turosel), Дзіт-



*Племя голядзь (рэканструкцыя)*

вай (Skva) да рэчкі Разога (Rasoga) і на захад да рэчкі Амулеў (Amuleu). Гэта была мяжа з Мазуршчынай.

Ад V ст. пасьля Хр. пачынаюцца напады нарманаў на жэймаў, Курляндыю і Эстонію, якія мелі пірацкі характар. Аб гэтых нападах знаходзім весткі ў скандынаўскіх сагах[118]. Большае значэньне маюць скандынаўскія напады ў палавіне IX ст., якія зьвязаныя з дацкімі калёніямі на тэрыторыі Прусіі. Пайменна дацкі кароль Лотекунт (Lothekunt) высадзіўся з вялікім войскам і, спустошыўшы Прусы (Pruciam), Зэмгалію (Semigaliam), Карэлію (Kareliam) і іншыя суседнія краіны, аселіў праўдападобна на пабярэжжы Балтыцкага мора сваіх людзей. Сьлядамі гэтага змаганьня з нарманскімі наезьнікамі былі шматлікія гарадзішчы на тэрыторыі Прусіі ўжо ў IX стагодзьдзі, аб чым успамінае Вульфстан[119].



*Нарманы (варагі) атакавалі землі Прыбалтыкі*

Напады нарманаў прадаўжаліся і ў X—XI стст. У 935 г. /дацкі кароль/ Гаральд II здабыў славянскі Волін (недалёка ад сучаснага польскага Шчэціна. — *Рэд.)* і ўставіў уздоўж пабярэжжа сільную заставу. Яго сын Хакон (Haquin) пашырыў граніцы Даніі далёка на ўсход ды з вялікім войскам уварваўся ў Самландыю. Спачатку быў пераможаны і ледзь уцёк, спаліўшы свае караблі, але ў новым нападзе жэймы былі разьбітыя, мужчыны выразаныя, а жанчыны прымушаныя пажаніцца з пераможцамі.

---

118 Ynglinga saga, Heimskringla saga, Haraldsons saga.

119 «Daet Eastland is svide mycel. And thaer bid svide manig burh and on aelcere byrig bid Cyninge». (Estland ёсьць вельмі вялікая і там знаходзяцца шматлікія гарады (бургі) ды ў кажным горадзе князь). Гэтая зацемка адносіцца да пазьнейшага часу, калі на тэрыторыю Прусіі ў X—XI стст. вярнуліся люцічы пад агульным назовам пружанаў, тым ня менш шматлікія гарады маглі існаваць з ранейшага часу.

***

Канчаючы агляд падзеяў у Прусах, спынімся яшчэ на адміністрацыйным падзеле гэтае краіны, які існаваў у часе заняцьця яе крыжакамі. Паводля Дусбурга мелі існаваць там нагэткія акругі: Холмшчына, Памаранія, Пагараны, Вармія, Натанга, Барта, Галіндыя, Судавія, Самбія, Надравія і Шалявія.

У часе змаганьня з Польшчай (канец X—XIII стст.) і з крыжакамі (XIII ст.) ня маем у Прусах незалежных княстваў, але адзін суцэльны арганізм, які ахапляў таксама далейшую частку Прыбалтыкі, пайменна Жамойдзь, Зэмгалію і Курляндыю. У часе падарожжа Вульфстана яшчэ гэтага арганізму не было, што вынікае з ягонай рэляцыі: «у кожным горадзе свой князь». Астаткам даўнейшай формы незалежнасьці паасобных краінаў засталіся і надалей аўтанамічныя формы кожнай акругі. Яны выражаліся ў самастойных асяродках культу[120], у самастойным ваенным кіраўніцтве[121], а на чале кожнай акругі стаялі князь і сьвятар-судзьдзя (crive).

Дусбург прыпісвае функцыі ўтрымоўваньня адзінасьці ўсіх акругаў Прусіі, а нават Літвы і Лівоніі — сьвятару, падобнаму да Папы /рымскага/, якога называе «crive». Надае яму абсалютную ўладу і ўсемагутнасьць у вырашаньні ўсіх дзяржаўных справаў. На жаль ва ўсіх іншых тагачасных крыніцах не знаходзім вестак аб гэтым мітычным духоўным валадару. Няма іх ані ў Вульфстана, ані Дытмара, ані Адама Брэмэнскага, Гэльмольда, ані ў польскіх аналістаў, у «Повести временных лет», ані ў Генрыка Латыша. Да «crive» Дусбурга Каяловіч, Лелевэль і іншыя дадалі паясьненьне «kryvejte» (krivutė — жамойт., рада, сход) і /адсюль/ паўстаў ведамы «krive-krivejte» — галоўны сьвятар Прусіі.

Адсутнасьць беспасрэдных вестак аб «criwe» ў іншых крыніцах, ведама, вельмі паніжае рэляцыю Дусбурга, між іншым

---

[120] Сьляды даўнейшых асяродкаў культу знаходзім у Памараніі ў сьвятым лесе каля Хрыстбурга (Chrystburg) на гары Krevose; у Бартыі ў Валлевона (Wallewona) у сьвятым лесе, у Замляндыі каля Romova; у Надравіі каля Heiligenbeil, у Натангіі каля Домнаў (Domnau). Гэткія самыя асяродкі культу і сьвятыя месцы ведаем у заходніх славянаў, галоўным чынам у Люцічаў. Аб сьвятых гаёх, дзе адбываліся сходы і суды (у цені вялікага дубу) пісаў Helmold. Тут сьвятары выказвалі волю багоў аб вайне і пакою. Пракоп з Цэзарэі навочна бачыў выконваньне славянскага культу каля сьвятога дубу. Вялікімі асяродкамі культу была Радагошча (Retra), Vineta, Шчэцін, Arkona, Havelberg, Ratzenburg і іншыя меншыя.

[121] Дусбург называе князёў «dux» і «capitaneus», якіх войска выбірала. Такімі былі Codrune і Pyopse ў Варміі, Tirsco ў Надравіі, Goducke ў Натангіі, Glande ў Самляндзе, Autume ў Памараніі, Divan у Барціі.



*Рэлігійны (культавы) цэнтр Ромаў*

уложаную паводля ведамай структуры ў каталіцкім касьцёле, так як і апісаньне Лукашам (Lukas) рэлігіі прусаў аб трох багох (Пярун, Патрэба і Пекла — Percuno, Patrimpe, Pikalo) нагадвае хрысьціянскую сьв. Тройцу. Тым ня менш яна поўнасьцю ня выдуманая Дусбургам, магчыма перавялічаная і прадстаўлена паводля свайго свабоднага ўяўленьня. Дусбург пісаў сваю хроніку ў 1320—1326 гг., калі шмат што зьмянілася ў жыцьці прусаў і акружаючых народаў, але шмат пераказаў з даўніх часоў захавалася ў памяці сучаснага яму пакаленьня. Роля і значэньне сьвятароў у старых славянаў (і готаў) была большай за князёўскую ўладу. Сьвятар прадстаўляў і выражаў волю багоў, ад якой ня было адкліканьня. Князь залежны быў ад волі народу (веча)[122].

---

[122] Дусбург піша: «У важных справах князь адклікаўся да веча і сьвятых месцаў, дзе сьвятар даведваўся волю багоў і яе аб'яўляў».

Славяне не цярпелі над сабой нічыёй улады і таму не тварылі вялікіх дзяржаўных арганізмаў, хоць мелі ўсе на гэта дадзеныя. Так як грэкаў лучылі Алімпійскія гульні і супольны культ, тое самае было і ў славянаў. Розныя плямёны злучаліся ў адну цэласьць супольным культам. У часе небясьпекі, або для помсты склікалася веча старэйшых у сьвятым месцы, там адбываліся нарады і варожбы, каб даведацца аб волі багоў. У азначаныя дні году з'язджаліся ў сьвятое месца з розных краінаў. Так напрыклад 25 чэрвеня заходнія славяне прыязджалі ў Курляндыю і Зэмгалію на сьвята бога Ладу (Lado), дзе існавалі славянскія фігуры гэтага бога[123].

Аб ролі культу ў бурштыновай краіне знаходзім вестку з канца VI ст., запісаную ў грэцкага пісьмэнніка Ракопа з Цэзарэі. Пайменна хан авараў (обраў) у 590 г. загадаў у крывічоў і балтыцкіх славянаў дапаможнага войска для паходу на Канстанцінопаль, пасьля таго як падбіў славянаў у Дакіі, Паноніі і Чэхіі. Тады сабраліся яны ў сьвятыні, каб пачуць праз вусны сьвятароў волю багоў[124].

Ня можа быць ніякага сумліву, што і да X—XIII стст. роля культу і сьвятароў не паменшылася ў славянаў, не прыняўшых хрысьціянства ў Прусах, Літве і ўсёй Прыбалтыцы. Побач еднасьці культу адзінства ўсёй прасторы, занятай паваротнай хваляй славянства, тварыла канцэнтрацыя ваеншчыны люцічаў, у выпадках патрэбы выбіраючая Вялі-



*Тры галоўных богі старажытных прусаў: Пікалс, Перкунс, Патрымпс*

[123] Стрыйкоўскі зусім несправядліва ўважае Ладо за бога латышоў, сярод якіх па сёньняшні дзень на купальле сьпяваюць і танцуюць, паўтараючы: Lado, Lado, didis Lado! Звычай гэты пераняты ад славянаў. Ня менш ён ведамы ў старых абрадавых крывіцкіх песьнях.

[124] Дзе знаходзілася гэтае сьвятое месца, нам няведама. Не пярэчыць аснаўной ідэі еднасьці праз супольны культ і легэнда аб Bruteno і Wudewutto, запісаная ў хроніцы Хрысьцяна, дзе Bruteno быў выбраны галоўным сьвятаром.

кага князя і правадыра. Гэткімі напрыклад былі некаторы час паморскі князь Сьвятаполк, /яцьвяжскі князь/ Скумант, /літоўскі князь/ Мендаўг, Віцлаў III з Ругіі[125]. З часам бязупынныя войны ўзмацавалі ролю князя і паасобных ваяводаў, адсоўваючы на другі плян культ і сьвятароў, бо непаводжаньні ў войнах прымушалі да прыманьня хрысьціянства. Сумніўным аднак выдаецца тая роля абсалютнага ўладара, якую прыпісвае «criwe» Дусбург. Славяне, асабліва люцічы і крывічы, не ведалі гэткай абсалютнай улады над сабой сваіх князёў ці прадстаўнікоў культу.

Сам назоў «Крывэ» дасюль не выясьнены[126]. «Dusburgs Nachricht von einem Criwe», пісаў нямецкі вучоны Фацер (Vater)[127].

Найбольш праўдападобна, што Дусбург узяў вестку аб «criwe» ад латышска-жамойдзкага насельніцтва Прыбалтыкі, над якімі, а таксама ў Курляндыі і Лівоніі, ды ў Прусах, мелі ўладу славя-

---

[125] Князь Сьвятаполк II «Вялікі» быў гаспадаром Усходняга Памор'я з 1220 да студзеня 1266 г.

Скумант (Скомант, Скімант) — яцьвяжскі князь, які мужна біўся з крыжакамі і палякамі. Загінуў у 1256 г.

Мендаўг (або Міндаўг) — князь Наваградскі ў 1246—1253 гг., у 1253—1263 гг. першы кароль Літвы.

Віцлаў III (Wizlaw) у 1302—1325 гг. быў князям Ругіі (востраў Руян, цяпер Рюген у Нямеччыне). На поўначы Ругіі-Руяна знаходзілася славутая Аркона з храмам Сьвятавіта. — *Рэд.*/

[126] Каяловіч, Нарушэвіч, Лелевэль і амаль усе сучасныя даследчыкі прускага пытаньня, не ўглыбляючыся ў істоту гэтага назову, навязваюць яго да жамойдзкага «krivutė» — рада, сход, веча; адсюль «krivių krivaitis» меў бы быць галоўным сьвятаром. Тлумачэньне гэткае ня мае пад сабой ніякай апоры. Па-першае, сам назоў «krivių» і «krivaitis» не з'яўляецца par excellance /выключна — Рэд./ жамойдзкім, хоць і ўжываецца ў іхняй мове. Жамойдзкая мова перапоўнена запазычанымі словамі, у першую чаргу славянскага паходжаньня, прыклад: «niekada» — расейск. «некогда», «kūma», «kumas» — кума, кум, «knyga» — кніга і г. д. Па-другое, самае разумаваньне, быццам прусы былі племенем жамойдзкай групы, поўнасьцю неабаснаванае.

[127] Не без значэньня ў справе высьненьня назову «criwe» ёсьць зацемка Дусбурга, дзе прастора Літвы называецца Крывіччынай: «Crivitia terra et civitas illa, quae parva Nogardia dicitur... Epistomator Prope gardin intrant terram Krivitzan»...

Іншае /ёсць/ тлумачэньне Войта (Voigt), быццам «criwe» паходзіць ад скандынаўскага «grewe», «grive», што абазначала «старшыну», у готаў судзьдзю («Pfleger der Gerechtigkeit»). Адсюль мае паходзіць grave — graf, gericht. Voigt прыпісвае яму таксама і функцыі сьвятара, навязваючы да рэляцыі Тацыта («Germania») аб «sacerdos civitatis», які побач культу выконваў функцыі публічнага характару. Аднак гэткае тлумачэньне «criwe — griwe» ёсьць спробай гэрманізацыі паняцьця «criwe», на што няма таксама абаснаваньня. Нават калі і прыняць, што ў готаў існаваў «sacerdos civitatis» («griwe», як яго называе Войт), то немагчыма прыняць тэзу, што пасьля адыходу готаў цэлымі стагодзьдзямі ўтрымалася чужая інстытуцыя абсалютнага валадара над насельніцтвам, якое паводле сваёй псіхікі не прызнавала над сабой /ніякай/ цэнтральнай улады.

Супраць гэтай тэзы прамаўляе і сьведчаньне Дусбурга, што ўлада «criwe» ахапляла ня толькі прусаў, але ёй падлягалі «Lethowini et aliae nationes Livoniae». Lucas David піша, што ўладзе «крівэ» падлягалі Прусы, Літва, Жамойдзь, Лівы, Эсты і Куры. Калі яшчэ ў дачыненьні да Прусаў можна спасылацца на астаткі традыцыі готаў, то на так шырокай прасторы гэткая спасылка ня мае навуковай вартасьці.

не (крывічы) і дзе функцыі пануючай нацыі сьвятара і судзьдзі ў справах шырэйшага характару належалі не да мясцовых сьвятароў, але да прадстаўніка гэтай пануючай нацыі — Krivs, крывічоў[128]. Ведама, самі славяне свайго найвышэйшага сьвятара не маглі называць «крывіч», бо гэта быў агульны назоў нацыянальны. Называлі яго падуладныя чужынцы «Krive», «Krivs», бо не паходзіў з іх асяродзьдзя, ані прадстаўляў іх інтарэсаў. Таму Дусбург мог уяўляць сабе ягоныя функцыі аналягічна да Папы з шырокай і абсалютнай уладай.



*Жрэц Крыве-Крывейтэ (рэканструкцыя)*

Што да сядзібы «criwe» Romowe, Дусбург памяшчае /яе/ ў Надравіі, якую называе славянскай зямлёй; «Terra Scalowitarum sita est in utroque littore Memelae».. Зусім трапна падкрэсьлівае Дусбург, што Надравія і Ромаў «fuit in medio nationis, не in medio Prussiae», бо славянская ўлада ахапляла ізноў усю Прыбалтыку. Такім чынам знаходзім разьвязку рэляцыі Дусбурга адносна запутанай справы «criwe», увёўшую шмат непаразумленьняў у гістарычнай навуцы.

***

Спынімся цяпер над паасобнымі краінамі (акругамі) Прусаў.

1) Холмшчына (Kulmerland).

Знаходзілася між Віслай, Дрэвачай (Drwęca) і Осай. Рака Дрэвача тварыла мяжу між Мазуршчынай і Прусамі і пачатковую выпадовую базу для нападу на Польшчу.

[128] Назоў «крывічы», падобна як і «сербы», належыў да найстарэйшых агульных (не пляменных) славянскіх назоваў. «Крывіч» — адной крыві, «серб» — сваяк..

Сам назоў краіны бясспрэчна славянскі і гэткіх знаходзім вялікую колькасьць на славянскай тэрыторыі[129]. Славянскімі былі гарады і апорныя пункты, адкуль пачаткова прусы нападалі на Польшчу: Chołm, Груда (Crudziądz), Кольна, Турна, Рог, Рысін, Арэхава (Osechovo), Ябланова, Веліж (Willisa), Глыбокі (Glamboki), Плоцк, Пастольска, Белча, Рогаў, Тверч, Ванзіна, Остравіт, Палавежа, Кавалак і іншыя[130].

Холмшчына была першай акругай, супроць якой Конрад Мазавецкі пры падтрымцы Папы і Нямецкага ордэну пачаў крыжовы паход на Прусы. Перад гэтым рабіліся спробы мірным спосабам распаўсюдзіць хрысьціянства ў Прусах. У 1207 г. пасьля ранейшых пробаў Адальбэрта і Бруно з гэткай місіяй пераплылі Віслу і знайшліся ў Холмшчыне Gottfried і Filip, манахі з польскага манастыру ў Лукіне. Ім удалося навярнуць дзьвюх князёў у Холмшчыне — Палета (Phalet) і Жодрыка (Sodrech). У сем гадоў пазьней Хрыстыян навярнуў князя з Любава (Lubovia) Славабуня (Slavabuno) і Варапада (Warpod) з Пагараніі. Усё гэта доказы ня толькі на славянскасьць гэтай акругі, але на пэўную тэрытарыяльную незалежнасьць яе ў агульнай суспольнасьці пруска-літоўскай.

2) Другой падобнай аўтаномнай акругай была Памеранія[131].

На поўнач ад ракі Осы. Заходняя граніца ішла па Віслe, паўночная — затокай Віслы, усходняя — па рацэ Эльбінг (Elbing), возеры Дружна і па простай лініі да ракі Осы. Заходняя частка над Віслай і затокай была рэдка заселеная, сярэдняя тва-

[129] Chołm — славянскі горад у Лівоніі; Chołm каля Любліна; Chołm над Віслай у Холмшчыне, там жа Chołmża; Хольм над Ловаццю; Холмыч каля Гомэля; Chołm у Жамойдзі на Дубісе; Халмоўка каля Беразіны; Халмагоры на паўночнай Дзьвіне. Холм — горка, насып.

[130] У «Act. Boruss.» пад 1223 г. названыя вёскі Холмшчыны, падараваныя біскупу Хрыстыяну: Малынкава, Таргоміна (Tarchomino), Градцова (Gradcowo), Спорна (Sporno), Rudko, Турна (Tuschino), Radkin. Гл. у Дусбурга гарадзішча Прусаў над Віслай Нешава (Nessau), у іншым месцы названыя гарадзішчы Pin (пар. Піна, Пінск), Qwercz, Rogow, Turno. Ва ўмове Гэрмана Балка з Конрадам Мазавецкім з 1228 г. ёсьць апісаньне Холмшчыны. Ва ўсіх крыніцах знаходзім шматлікія назовы гарадзішчаў, вёсак, рэкаў, вазёраў выключна славянскія.

[131] Dusburg называе гэтую акругу Pomesania, за ім пайшлі іншыя аўтары. Pomesania (у адрозьненьні ад Pomerania на захад ад Віслы) узятае з польскай мовы ад «Pomorze», «Pomorzanie» ; у Дусбурга амаль што ўсюды перадаецца «rz», «ż» праз «s». Памаранія была прадаўжэньнем левабярэжнага (па Віслe) Памора. Нідэрле падкрэсьліваў, што пруска-паморская мяжа праходзіла між ракой Дзяргуняй і Паслукай (Elbing i Passarge). W. Łęga (1930) сьцьвярджае гэта на аснове раскопак.

рыла акругу Волатаў[132], усходняя ахапляла зямлю Любчы, Камара, Пасла і Алі[133].

Ня можа быць ніякага сумліву адносна славянскасьці гэтай акругі. Назовы гарадзішчаў, вёсак, заселеных пунктаў, рэк, возераў, лясоў і аколіцаў[134], імёны баяраў і правадыроў (Януш, Кудрун, Памада, Мехо) ды гістарычныя зацемкі гэта пацьвярджаюць[135]. Памаранія мела сваё сьвятое месца культу, дзе сёньня знаходзіцца Christburg, у гарадзішчы Крыважа, на разваліінах якога крыжацкі ордэн збудаваў гарадзішча Kirsberg[136]. Пад поглядам баёвай сілы Памаранія наймацнейшая адзінка, магла выставіць 80.000 войска, а ў войнах з крыжацкай навалай адыграла першарадную ролю. Лад палітычны і грамадзкі быў такі самы, як у заходніх славянаў. Злучала ўсіх рэлігійная еднасьць, усе былі людзьмі вольнымі, хоць падзяляліся на дзьве клясы: баяраў і шляхту. Кожны быў абавязаны да так званай «Пагоні»[137],

---

[132] Dusburg называе яе Reysen: territorium dictum Reysen... Viri famosi et bellatores strenui in territorio Rysen... Астаўшыся гэаграфічныя назовы — Riesenburg, Riesenkirche, Riesenwalde, Riesen. Няма *сумліву, што гэта нямецкі пераклад волатаў* (Riese — *волат*, велікан, асілак) тым больш, калі Dusburg паясьняе: viri famosi et bellatores... Пар. Riesa на Лабе каля Дрэздэна, Riesengebirge і іншыя ў Нямеччыне.

[133] Raynald annales, 1246: «...fratris Henrici Stangonis Commendatoris in Christisburg et fratrum Castri eiusdem et fratrum seniorum nostri ordinis in Pruscia, quod una tercia pars incipiat a castro Dypenowe (Дубнова) et trans Nogatam directe versus Wixlam (Вісла)...»

Далей названыя Beria (Боры), Buchotin (Букацін), Cameniz (Камянец), Loypicz (Любіч, Любча), Lynguar (сёньня Лінкэн, Лінкар), Lyva (Лева), Pasaluc (Пашалука), Pobuz (Побуж), Posoluam (Пасола), Prezlam (Брэслаў), Rudenz (Рудніч), fluvii Weysike (рака Высока), Zambroch (Замбров).

[134] Апрача пададзеных у вышэйшай прыпісцы назавем яшчэ пададзеныя Дусбургам: Kvidzyn (Quidzin); Зорка (Sorkapurn, у мове прусаў — Зоркабург); возера Дружна (Drusne); вёскі Баруты, Беліхова, Вадковічы, Годлава, Дубнова, Карчэмідлічы, Мярэнавічы, Нудзічы, Страсэвічы, Сыпнін...

Рэчка Пашалука або Шэрая — Passaluc vel Seria; Шантыр, пабудаваны Сьвятаполкам у 1245 г.; Sweza — Свежа; Nerei (Нуры, Норцы, Нэрцы), Tuya (Дуя); Голуб — Golub; вёска Круке (Crucke) каля Эльбінга; у дакуманце з 1249 г. вёска Пасола (Posolowe), Побужэ (Poburze); Пастэлін (Postelin); Rudenz — Рудніца; Raydez — Рудзіч, вёскі Orkusch, Ossowka, Krakava і інш.

[135] Знойдзены ваенны сьцяг прусаў меў напіс старымі славянскімі літарамі; Св. Адальбэртус сутыкнуўшыся з прусамі, якія варожа да яго наставіліся, каб іх супакоіць і паказаць, што супольнага паходжаньня, зьвярнуўся да іх, кажучы: «šum nativitate Sclavus». Падобна славянскасьць падкрэсьліваецца ў жыцьцяпісаньні сьв. Bruno: «O quam pulere ridet coelum, quando cum corona intrantem vidat Sclavum».

Maria і Zygmunt Wojciechowscy (1946 г.) апісваюць напад крыжакоў у 1331 г. на касьцёл Дамініканаў у Серадзу, у часе якога мясцовы ксёндз, паўшы да ног комтура з Эльбінгу (Памаранія), прасіў на ўсе сьвятасьці, каб не рабаваў сьвятыні і не паліў, на гэта комтур адказаў *па-пруску: «нэпрэсіт»* (не прасіць).

[136] На разваліінах Крывошы ордэн пабудаваў замак Kirsburg. Назоў гэты абазначае Krivsburg — Крывіцкі замак. Дусбург успамінае таксама аб «terrae Kirsoviae» у Судавіі, дзе знаходзяцца тры вёскі Kreven. Kirsovia — ёсьць перакручаным словам ад Крывоша.

[137] Глядзі ліст Вялікага Князя Ягайлы з 20.II.1387 у «Гісторыі Беларусі ў дакумантах і матэрыялах» (Менск, 1936, т. I, с. 210) аб «пагоні» як старым ваенным звычаю.

Вядомыя цікавыя тапаграфічныя назовы ў Люцічаў-Прусаў у заходняй славяншчыне тыпу «Пагоня": рэчка Pagun (пав. Wustrow), рэчка Pagün (пав. Lychov), рэчка Pagun на

гэта значыць на кліч князя ў вызначаным часе і месцы з'явіцца ў поўнай зброі.

Усе ваенныя звычаі, тактыка барацьбы, звычаі штодзённага жыцьця такія самыя, як у заходніх славянаў[138]. Такі самы спосаб будаваньня жыльля, гарадоў, абаронных замчышчаў, такая самая рэлігія і целапальны звычай паховінаў[139]. Такім чынам не

---

карце з 1845 г. (пав. Oldenstadt), тая ж рэчка на карце з 1839 г.; рэчка Pagohn на карце з 1842 г. (пав. Medingen); рэчка Pagonen (пав. Overstedt); рэчка Pagohn на карце 1850 г. (вол. Flinten, пав. Oldenstadt); рэчка Pugen на карце 1843 г (пав. Damenberg); Pugens, рэчка каля Mehlfien.

[138] Dusburg пісаў пра даведваньне волі багоў перад паходам у Прусаў, Saxo Grammaticus у заходніх славянаў. Helmold: Да бою ішлі са сьцягамі станіцамі. Іншы прускі сьцяг апісаны ў Лукаса (Lucas David), ён меў дзьве кароны жоўтага колеру на сінім фоне.

Ідэнтычнасьць ваеннай тактыкі ў прусаў і славянаў гл. Dusburg, Helmold, Widukind, Mauricius Strateg., Procop. Ces., Kadłubek, Annales Monast. Oliviae.

Адносна звычаяў штодзённага жыцьця адзначым дзеля недахопу месца толькі некаторыя, як адсутнасьць жабрацтва ў Прусах (Dusburg, Lucas David), у славянаў — Vita Ottonis; адсутнасьць зладзейства (Dusb.; Helmold); гасьцінnасьць (Dusburg; Adam Brem.; Helmold; Saxo Gramm.) Гэткі самы спосаб прыадзетку як у заходніх славян; адсутнасьць манэты і таваравыменны гандаль. Тыя самыя звычаі сямейнага жыцьця і пашана правапарадку.

[139] Аб такім самым будаўніцтве (Procopius Ces.; Helmold; Lucas David); аб замчышчах з дрэва з абароннымі ўмацаваньнямі і равамі у Прусаў (Dusburg, Vita Ottonis). Пар. яшчэ раскопкі гарадзішчаў у прусах і заходніх славянаў (Wł. Łęga, 1930). Аб целапальным абрадзе ў Прусаў пісаў Вульфстан. З пазьнейшых часоў знаходзім весткі ў Генрыха Латыша, у Дусбурга, у Лукаша Давіда; у прывілеі з 1249 г. у Каяловіча. Абрад такі самы як на ўсёй славянскай тэрыторыі. Аб рэлігіі будзе падрабязна ў II томе, тут толькі найважнейшыя рэчы, якія датычаць ня толькі Памараніі, але ўсяе тэрыторыі. Так як усе славяне, Прусы верылі, што /ёсць/ адзін Бог, творца ўсіх рэчаў.

У дачыненьні да Прусаў і Літвы найбольш яркім доказам веры ў адзінага Бога перад прыняцьцем хрысьціянства ёсьць асьведчаньне Гэдыміна перад папскім пасланьнікам біскупам Бартламэям з Алет 3 лістапада 1324 г. У прысутнасьці Паноў Рады: «Хрысьціяне аддаюць чэсьць Богу па-свойму, Русь паводля свайго абрадку, Палякі паводля іхняга. І мы аддаём чэсьць Богу па-свойму. Аднак усе мы маем аднаго Бога».

Праявамі дзеяньня Бога, як творчай сілы, ажыўляючай і падтрымоўваючай жыцьцё, былі сілы прыроды, якім славяне аддавалі чэсьць, каб яны дапамагалі ў творчым высілку чалавека. Апрача добрага Бога і ягоных творчых сілаў, славяне верылі ў існаваньне злой сілы, Чорнабога, чорта, ваюючага з добрым Богам і Ягонымі сіламі пры дапамозе сваіх разбуральных сілаў. Таму часамі клалі ахвяры і Чорнаму Богу, каб адвярнуць ягоны гнеў, заклінаі ягоныя сілы, каб не нанесьлі шкоды для чалавека і ягонай працы.

Адам Брэменскі пісаў, што ў Скандынавіі вераць у «trium Deorum». Да тройцы ў Прусаў зьвёў Lucas David, называючы трох багоў. характэрных для Прусаў: Perkunas, Potrymkos і Pikullos, Ён жа (16 ст.) першы дарабіў да назоваў жамойдзкія канчаткі ды зжамойдзіў славянскіх багоў (і ня толькі багоў!). У запраўднасьці ўсе ранейшыя крыніцы не пацьвярджаюць ані ліку багоў, ані іх жамойдзкага паходжаньня. Dusburg кажа: «Дзеля таго, што яны (Прусы) не знаюць Бога (хрысьціянскага), уважаюць з блуду кажнае стварэньне за Бога, як сонца, месяц, зоры, Пярун, чатырохногія зьвяры, птушкі, а нават гады»...

Чэсьць Пяруна ведамая ва ўсіх славянаў, як творцы агня, сымбалям якога быў зьніч. Выбражэньне Пяруна стаяла ў Кіеве: «і постави куміры на хомну вне двора терэмного Перуна дрэвяна, а главу его серэбрэну, а ус злат...» (ПВЛ). Saxo Grammaticus сярод багоў на Ругіі называе таксама Пяруна (Porenutius). Як славянскага бога Пяруна называе Dithmar Merseburgiensis.

Лукаш Давід багоў PACULLUM і PATRIMPE зжамойдзіў на Pikullos і Potrymkos. Pacullum, як слушна ўважае вялікі дасьледнік Прусіі Фацер (Vater) гэта златынізаванае славянскае Пекла, тое самае што Чорнабог, чорт, ўяўленьне сьмерці і зьнішчэньня, астаўшыся і пасьля прыняцьця хрысьціянства, як месца мукаў і кары (Прыпякала на Паморы).

Patrimpe — гэта Патрэба, бог удачаў у вайне (якая інакш называлася патрэбай), абаронца міру, носьбіт дастатку, ахоўца пасеваў і зямлі. Гэта тое самае, што Дажбог.

падлягае ніякаму сумліву, што і Памаранія была чыста славянскай акругай ад найдаўнейшых часоў і ў часе павароту Прусаў-Волатаў-Люцічаў.

3) Пагаранія (ў Дусбурга і іншых крыніцах Pogesania) знаходзілася на прускіх узвышшах, мяжуючы з Памараніяй, Холмшчынай, а на ўсходзе даходзіла да ракі Шэрай (Passarge). Сам назоў, як і папярэдніх, бясспрэчна славянскі[140].



*Прускія ваяры*

Над возерам Дружын (Drusin, Druzne) тут знаходзіўся стары і слаўны горад Truso, які за часоў Вульфстана ды напэўна і раней вёў шырокі гандаль з Скандынавіяй і Захадам ды з Польшчай. Truso — гэта нямецкая транскрыпцыя славянскага Дружа, дзе знаходзіўся асяродак культу Пагараніі, зьнішчаны маркграфам Генрыкам. Апрача гэтага гандлёвага гораду ў крыніцах

---

Прывілей прускі з 1249 г. успамінае аб іншым прускім бажышчы: «Ydolo quem semel in anno collectis frugibus consueverunt confingere et pro deo colere, cui nomen CURCHE imposuerunt». Dogiel падае крыніцу з 1428 і 1449 гг., дзе ўспамінаецца аб існаваньні каменя, на якім складаліся ахвяры гэтаму бажышчу, якога называе KORKAW: «Man soll vortan geen uff die ostgrenicze czu KORKAW, do cyn gross lang steyn zcwuschen czween andern steynen yn eyner wesse leyt». Возера, дзе камень ляжаў (каля Фраўэнбургу) называлася SWYNTHEY (Svienty, сьвяты). Там захавалася вёска Kurken і Kurkosadel (сяліба Курко). Іншы камень знойдзены недалёка Гумбіннэн, дзе мясцовасьць Kurpchen, каля Нордэнбургу — Kurkowchen і Kurkenfeld.

Падобных назоваў сустракаецца даволі шмат у Прусах, на Паморы і заходніх славянаў. Kargow каля Waren (Mecklenburg), Krakow на возеры Krakow, Kraków у Польшчы, Кракаў на Паморы. У ПВЛ успамінаецца аб славянскім бажышчы Хорсе. Куршыновічы каля Крывошына, Курск і інш. Богам зораў быў у Прусаў SWEIGSDE, у заходніх славянаў SWAIXTIGX, значыць Зьвезьдзік, Белы конь. Ён быў сымбалям волі багоў і пры дапамозе яго адбываліся варожбы ў пружанаў-прусаў і іншых славянаў.

Адзначым яшчэ назовы месяцаў у прусаў. Год пачынаўся, як ва ўсіх славянаў, на Багача, а месяцы называліся: кастрычнік — лістапад, лістапад — грудзень, сьнежань — студзень; студзень — люты; люты — варонік; сакавік — беразень; красавік — зязюльнік; травень — голубень; чэрвень — жарнік ; ліпень — ліпень; жнівень — жнівень; верасень — сявец.

Чараўнікі называліся ліхачамі. Назовы на нашай прасторы тыпу Ліхачы, прозьвішчы Ліхач, Ліхачонак, Ліхун, Ліхаеўскі і г. д.

[140] Pogesania, падобна як і Pomesania — тыповыя славянскія назовы ў нямецка-лацінскай транскрыпцыі пад уплывам польскага Pogorzanie і Pomorzanie. Сьлядамі сапраўднага гучаньня гэтага слова ёсьць назовы мясцовасьцяў у Гарадзеншчыне, заснаваныя праўдападобна выхадцамі з Прусаў, пайменна Пагараны, Гарны, Горніца, хоць там няма ніякіх гораў. Падобна як Лабна, Падлабене, хоць там няма ніякай Лабы.

названыя гарадзішчы Лужаны[141], дзе сёньня знаходзіцца вёска Leusen, Хатыны[142], Толк[143], Вікліч[144], Пагосты[145].

У Пагаранах[146] лік насельніцтва быў меншы, чымся ў Памаранаў. Дусбург ацэньвае мілітарную сілу гэтай краіны на 44.000 /ваяроў/.

4) Вармія знаходзілася між ракой Шэрай (Passarge), залівам Віслы, Натангай і Бартамі. На поўдні межавала з Голядзьдзю (Galindia).

Назоў паходзіў ад племя волатаў (люцічаў) варнаў, прыйшоўшых сюды разам з іншымі групамі ў часе змаганьня люцічаў з нямецкай навалай[147]. Гэтую прастору пасялялі кольпяны, /племя/ крывіцкага паходжаньня[148]. Галоўным горадам іх была Ганэда (Honeda)[149], названая немцамі Balga, ад імені найвышэйшага майстра Ордэну. Апрача гэтага ў крыніцах сустракаем назовы замчышчаў і мясцовасьцяў як Падагель (Pategal), Едун (Jeduns), Суніны (Sunines), Вандаліш (Bandalis), Сліня (Slinia), Вунтанова (Wuntenowe). У змаганьні з нямецкім ордэнам Вармія займае таксама выдатнае месца. У часе аблогі Ганэды ў 1239 г. выступае

---

141 Лужаны — племя заходніх славянаў. Гэограф Баварскі — Lunsici; Widukind (963 г.) — Lusiki; Dithmar — Lusizi, Luzici, Luizizi; у нямецкіх пазьнейшых крыніцах — Lausitz, Leezen, Leussow, Lausch, Lehsen, Leiseneitz, Lezen і іншыя, якія Paul Rost (1907 г.) кваліфікуе на аснове гістарычных крыніцаў як паходзячыя ад лужанаў і ад слова «луг». Падобных назоваў сустракаем шмат на крывіцкай тэрыторыі: Лужа, Лужок, Лужкі, Падлужа, Лужаны (каля Валожына) і г. д.

142 Kadienen (Каденэн) — славянскае племя, ведамае ў групе люцічаў як яго паўночная частка. Annales Saxo (952 г.) называе іх Chizzini; Adam. Brem. — Kyzini і Kycini. Saxo Gramm. (1171 г.) нагадвае Pribitzlaw de Kitzin. Шафарык уважае, што яны называліся Хіжане ад хіжына (хата), так як каля Магілёва мясцовасьць Хіжына, дзе жыхары — хіжане. Kadienen — Katyny — Chatyny — гэта адменнае слова на тое самае паняцьце: Катынь каля Смаленска, Кацежын каля Менска, Хацежын каля Старога Сяла, Хаценова каля Смалявічаў, Хатынова каля Урэчыцы; Хатынічы (каля Тэлеханаў), Хадынічы каля Кобрына.

143 Tolko. Талкунцы каля Ліды, Талковічы каля Пляшчаніцы.

144 Weklitz, у іншых крыніцах Wentlitz. Цвіклічы каля Горадні, Свеклічы каля Антопаля.

145 Pogauste — Пагостэ — Пагосты. Ёсць шматлікія назовы ў Крывіччыне: Пагосты на возеры Пагосты на Палессі; Пагост каля Турава і іншыя. Пагостамі называлі пагранічныя населеныя пункты.

146 Немцы называлі Пагараны — Hochland. «Повесть временных лет»: Пагорына на рацэ Горынь.

147 Ad. Brem.: «Polabingi item Liugones, Warnabi, Chizzini». Параўнай назовы Warna, Warnow, Варновічы — вёска ў Курляндыі, рака Варнічы каля Lychen (Mecklenburg), Warnen у Варміі (Прусы).

148 Гэограф Баварскі: «GLOPEANI in qua civitates ecce aut eo amplius». Па крывіцку гэта Колпаны, па якіх маем нямала сьлядоў. Калпакі каля Горадні, там жа — Копанікі, Калпяніца, Колп — рэчка, прыток Суды, Колпіта ў Магілеўшчыне, Колпа — прыток Упы, Калпяніца каля Баранавічаў, Калпакі каля Лесьнай,Колтычы каля Далятычаў, і шмат іншых. Kolpin на Лабе.

149 Dusburg, Lucas David — Hontow, Dusburg — Honedaw (сёньня Hunnetau). Honeda — нямецкая транскрыпцыя Гонтава. Вядомыя прозьвішчы Гонтаў, Контаў.

тут capitaneus (правадыр) Вармії Kudrun[150], які западазроны быў у здрадзе і забіты абложанымі. Яго месца заняў Piopso[151].

У аб'яднаных сілах усіх прускіх зямель у 1261 г. збройная сіла Вармії знаходзілася пад праваднiцтвам Колпа[152], з ягоных надуладных названыя Stoma, Stuča і Poprava[153], імёны бясспрэчна славянскія. На пагранiччы з Бартамі ў часы Дусбурга знаходзіліся старыя каменьні, якія называліся Pogrant, зн. пагранічныя. Асяродак культу быў у сярэдзіне Вармії каля Heiligenbeil.

5) Натангія (Natangia) знаходзілася між Варнамі, Лінскам (Прэголай)[154] і Бартамі. Назоў паходзіць праўдападобна ад рэчкі Танавы (Alle)[155], або ад затокі Nohat[156], што ёсьць у выглядзе нагі.

Самая тэрыторыя Натангіі паводля Дусбурга называлася Solidow, дзе сёньня знаходзяцца вёскі Вялікі і Малы Солаў (Gross und Klein Sollau), а ў часы войнаў з нямецкім ордэнам было гарадзішча Solidowa[157].

Далей у Дусбурга знаходзім гэткія назовы ў Натангіі: Sclumen, Perwilte, гарадзішчы Beselede, Kertene, рака Pasmar, Labegow, Tummone, Satwiert, Pokarwe, рака Durbe. Расшыфроўка гэтых назоваў падаецца ў прыпісках[158].

---

150 Dusburg: Kodruno. Кудрун ці Котрун — паходзячы з племені катараў.

151 Dusburg: «Pyopso quidam Pruthenus Capitaneus Warmiensium»; Lucas David — Piopse.

152 Dusburg — Glappo, Glottino, паходзячы з Колпанаў.

153 Dusburg — Stumo, Stutze і Pobrave.

154 Dusburg : Pregora sive Lipsa. Lucas David — Lipza. Лінск каля Аўгустова, Ліпічанка каля Ворлі, Пушча Ліпічанская і Руда Ліпічанская, Лінск каля Крывошына, Лінск каля Беразіны.

155 Гэограф Баварскі — Thafnezi. Рака Танава ў Галіччыне і каля Любліна.

156 Славянскі назоў Nogat для аднogi Віслы быў адначасова назовам для ўсяго заліву. Адсюль Natangia ёсьць перакручаным словам ад Nogat (Нагата).

157 У славянскай вымове Solidow — гэта Жалудава. У Крывіччыне — Жалудава, Жалудак, Жэлядзь, Солы і г. д. Soldaŭ (Дзялдова) на пагранiччы Мазуршчыны.

158 Sclumen, Sclunien, Slunyen; Slumney — значыць Слонім. Слонімцы каля Пружаны, Слонім на Шчары. Perwilte — Пераналота.

Beselede — Велесад. або Велессед (сядзіба Велеса). Праўдападобна асяродак культу Натангii, дзе быў Велес, бог-апякун жывёлы. Kertene — назоў лесу, дзе знаходзіўся Велесед. У драўлянаў гарадзішча Карасьцень, збуранае Вольгай.

Пасмар, рэчка ў Натангii, каля якой адбыўся бой з крыжакамі ў 1248 г. Wismar у заходніх славянаў (Вышмір). Паходзіць ад Пашмір. Дакумант з 1249 г. Labegow (Лабегаў) — ад Лаба. У нас Лабенкі, Лабна, Падлабеня ў Гарадзеншчыне, Лябежаны каля Баранавічаў.

Tummone — Tumané (у люцічаў і ў заходняй Крывіччыне множны лік пад націскам канчаецца на é, як валé, грыбé, валасé і г. д. Satwiert — Засьвір.

Pokarwe — Пакрывы. У заходніх славянаў Carwitz, Karvitze, Carwitzenberg, Carwitze, Carwytze.

Durbe — ад тур. Тур'я, прыток Нёмана, Турна каля Слоніма і на Палесьсі, Турэц на Сьвіслачы, Турэц каля Міра, Турава, Туранец.

Правадыры Натангіі названыя наступныя: Kaduk, Manciej[159]. Ваенная сіла Натангіі выносіла 56,000 воінаў, якая гераічна змагалася з нямецкай навалай і пад напорам ворага часткова перайшла у XIII ст. у Крывіччыну разам з войскам іншых акругаў[160].

6) Барты знаходзіліся між Танавай (Alle), Вуграпай (Angelrapp), Шчарай (Pregoła). На паўдні межавалі з Голядзьдзю. Барты падзяляліся на дзьве часткі — Вялікіх і Малых Бартаў.

Сам назоў Барты паходзіць ад борць, бортнік (поль. барць, бартнік), шырока распаўсюджанага бортніцтва ў славянаў[161]. Як пляменны назоў Барты ведамы ў заходніх славянаў і прынесены быў у Прусы паваротнай міграцыяй Волатаў-Люцічаў. Славянскасьць Бартаў падмацоўваюць старыя назовы, запісаныя ў крыніцах, як Wohen, Wallewona[162], Pollene[163], Wengrapia[164]. У ніжнім цячэньні Вуграпы, у раёне сёньняшняга Інстэрбурга мелася ўжо жамойдзкае насельніцтва ў акрузе Бартаў. Тут знаходзілася гарадзішча Weistotepila на рацэ Gobonis[165], а сам барташэўскі Інстэрбург (Insternburg) называўся Unsatrapis[166]. У гэтым жа раёне знаходзіліся гарадзішчы Kapostete[167], Ochtolitte[168]. Гэта пацьвярджае нашыя ранейшыя доказы, што жамойды ў IV—V стст. пасьля Хр. пасунуліся ў Прусы прыблізна да ракі

---

159 У Дусбурга — Goducke, Monte. Магчыма — Гудук, гэта значыць крывіцкага паходжаньня. Так жамойты называлі Крывічоў. Крывіцкае прозьвішча Манцей, Манцевіч, Мантач; вёска Мантаны каля Васілішкаў, Манцюты каля Бытэня.

160 Апрача нямецкай навалы да пакіданьня сваіх земляў прымушала прынесеная немцамі, зараза, якая зьдзесяткавала насельніцтва і ад якой не было іншай рады, як уцёкі ў лясы і далей на ўсход і поўдзень.

161 У Прусах: Bartenstein, Barthendorf, Barthe. У Крывіччыне: Барташэвічы ў Гарадзеншчыне, Бартале каля Аранаў, Барталуны, пав. Панявежа, Бортніцы каля Смаленска. Крывіцкія прозьвішчы: Барташ, Барташэвіч, Бартуль.

162 Wallewonna гэта Wawelena, Вавеляны. Wawel каля Кракава, Havelberg у Стадаранаў. Прыстаўное h замест v: гуліца (вуліца), гостры (востры), гавёс (авёс), ганучa (анучa).

163 Каля Вавелянаў знаходзіўся сьвяты лес, асяродак культу ў Бартаў, які ў старых крыніцах успамінаецца як Pollene-wiese, Pollenegarteus, Pollene-wald. Pollene — гэта Паляна.

164 Wengrapia — гэта назоў рэчкі ў Прусах, сёньня Angelrapp у нямецкім абазначэньні. Паходзіць ад вугор (поль. węgorz) — назову рыбы (магчыма, канчатак дададзены — apia, значыць вадзяны).

165 Gobonis, Gobrionis, сёньня Guber. Падобна да жамойцкага «garbana» — выгінастая (сэрпэнтына).

166 Unsatrapis, Unsapotraps. Павінна быць «Nesutrapus» — «нязломны». Як сам назоў паказвае, гэта мусеў быць жамойдзкі пагранічны апорны пункт на захадзе.

167 Kapostete ад жамойдзкага «kapas», насып. Kapostete — у значэньні славянскага «холм».

168 Ochtolitte, Auctolite, праўдападобна абазначала «верхняе гарадзішча» ад жамойдзкага «aukštai» і «lieti» (вышэй і цячы). Падобным гарадзішчам было ў гэтым раёне Augelitte, сёньня Euglau. На рацэ Garbonis ужо было названае гарадзішча недалёка ад Wawelany — Weistotepila. Як бачым, згушчэньне жамойдзкіх абаронных умацаваньняў знаходзілася на пагранічны Бартаў у раёне Прэголы.

Шчары-Ліпшы, якая сталася заходняй мяжой жамойдаў і імі названая Прэгола (ад Galas — мяжа). Далей на захад сустракаюцца толькі невялічкія жамойдзкія астраўкі[169], якія ня маюць ніякага значэньня сярод масы славянскага насельніцтва.

Як гэта пабачым далей, жамойдзкая мяжа ў Прусах на Прэголе і Пісе зусім не абазначае, што на паўночны ўсход ад яе не сягала ўлада Пружанаў Люцічаў. Прэгола і Піса тварылі толькі этнічную субстратную мяжу між сядзеўшым тут славянскім і жамойдзкім насельніцтвам.



*Пруская жанчына XIII ст. (рэканструкцыя)*

Вайсковы правадыр бартаў некалькі разоў названы ў Дусбурга — Divanus, dictus Clekine быў па паходжаньні драўлянам, крывіцкага племя, якое разам з іншымі крывіцкімі плямёнамі прымала ўдзел у міграцыі славянаў на захад[170]. Такім чынам акруга Бартаў паводля свайго насельніцтва і вайскова-палітычнай улады была славянскай, а толькі ў раёне Прэголы існавала жамойдзкае пагранічча.

7) Galindia (Голядзь) межавала на захадзе з Зайцамі (Sausin, Sassovia), рака Alle (Танава) аддзяляла ад Варнаў (Вармii). На поўначы ад Голядзі былі Барты, на поўдні Мазуры. На

[169] Такім астраўком, напрыклад, была вёска ў Памараніі Nerdingis, названая ў дакуманце з 1242 г.

[170] Divane, Divanus, dictus Clekine, ёсьць перакручанай формай ад Drevanus, dictus Claniki, што знаходзім у дакуманце Генрыка, нямецкага кайзэра, з 1004 году: «Claniki in Drevani». Драўляне або Дзераўляне сядзелі на Палесьсі. («Повесть временных лет»: Деревляне, Древляне). У часе славянскай міграцыі драўляне бралі ўдзел у паходзе на захад і поўдзень. На захадзе займалі акругу Hannover-Lineburg, дзе сёньня яшчэ яна называецца Drevaenen, і утрымалі сваю мову аж да XVIII ст. Назовы ў гэтай акрузе: Drevin, Drewitz, Drewise, Drewenz і г. д. Назоў паходзіць ад «дрэва», «дзерава». «Кляніki» ад слова «клён». Напр. Клёнск, Клянова, Клянцы, Кляновічы.




*Землі прусаў у XIII ст.*
*(рэканструкцыя М. Тэппена паводле П. Дусбурга)*

ўсходзе мяжа ішла ўздоўж ракі Віза аж да лесу Narwomede (Нарвамеджа)[171], далей уздоўж ракі Vincente, возера Rybna[172] аж да ракі Турошль[173], далей праз лес да ракі Skva[174], і ракі Росога[175].

---

[171] Narvomede (Нарвомеджа), мяжа з нарвамі, або славянамі.

[172] Rubins, цяпер Rybno, праўдападобна жамойдзкая форма славянскага Рыбін, Рыбінск.

[173] Turgawite, *цяпер Турошль*, ад жамойдзкага «turgavietė» — тарговішча, рынак. Turgellė, Тургэлішкі.

[174] Skva раней называлася Ditwo, ад жам. «diduma» — вялікая, «didveris» — магутны.

[175] Rosoga, раней Ruzogo, ад жам. «ruzgėti» — бурчэць, бурклівая.




*Землі прусаў у XIII ст. (рэканструкцыя У. Пашуты)*

Наступна далей на ўсход мяжа ішла ўздоўж Омулева[176] аж да рэчкі Orzic[177].

Такім чынам прастора ад Радзілова на Візе да Гарэлі (Chorzele) на Aretis на захад належала голядзі. Аб голядзі мы раней гутарылі, што гэта было перадавое жамойдзкае племя, найраней, бо ўжо ў II ст. пасьля Хр. пасунуўшыся са ўсходу ў аколіцу ніжняга Нёма-

[176] Omulew тады называўся Luko, славянскі назоў адзін і другі. Параўнай Омулец, Млава, Луцк, Лука, Лук, Лукомск, Лукомля, Лукома, возера Луканіцэ каля Хойніцы. У Географа Баварскага «Lucolane» — лукомляне.

[177] Orzic, раней Aretis. Orzic ад польск. «orzicz» — араць; Aretis — жамойдзкая форма крывіцкага «аратай».

на. Праўдападобна голядзь прымала ўдзел у славянскім паходзе на захад, аб чым была мова раней.

Аб этнічным характары голядзі асталося вельмі мала сьлядоў. Ня маем зусім назоваў іхных гарадзішчаў, якія безумоўна існавалі. Некаторыя назовы рэк, як Turgawitte, Aretis, Vincente, Rubîns сьведчаць, што голядзь тварыла жамойдзкую акругу найдалей высунутую на захад, а Сассэнпіля, гарадзішча Зайцаў, знаходзілася на іхнім заходнім рубяжы.

Голядзь у пэрыяд панаваньня пружанаў-люцічаў здаецца ня мела гэткай аўтаноміі, як іншыя акругі Прусаў і пэўнай цэнтральнай улады (прынамсі аб гэтым сьведчыць Dusburg). Пазьнейшыя крыніцы называюць іхняга князя Jesuguba, які быццам меў сваю сядзібу недалёка Loetzen, пасярэдзіне возера.

Лік насельніцтва быў меншы ад іншых акругаў, бо Голядзь магла выставіць толькі 16.000, калі напрыклад Памаранія 80.000, Вармія 60.000, Пагараны 44.000, Барты 56.000 і г. д.[178]

8) Sudawia, у Пталемэя «Ζουδινοι», ням. Sudauen, сённяшняя Сувальшчына.

Знаходзілася між ракой Łyk, возерам каля Райгараду, Алецкам і Бакларэвам, ракой Пісай і Чорнай Ганчай, мяжуючы на за-



*Землі Памераніі (Памор'я)*

[178] Гэта паводле Дусбурга. А паводле Лукаса Давіда, вайсковая сіла акругаў была ў чатыры разы меншая: Натангія — 14.000; Барты — 14.000; Пагараны — 10.000, Памаранія — 20.000, Голядзь 4.000.

хадзе з Галядзьдзю, Бартамі, на поўначы з Надравамі, на ўсходзе з Літвой. Судавія паводля як свайго назову, так і насельніцтва тварыла чыста славянскую акругу Прусаў. Назоў, як трапна сьцьвярджае Дусбург, абазначае краіну вазёраў і балотаў, што адказвае ў крывіцкай мове «судзірван»[179].

Што датычыць насельніцтва Сударвы (Судавії), то Dusburg выразна сьцьвярджае ягонае славянскае паходжаньне: «Nobili Sudovita dictus RUSSI genus». Гэта самае пацьвярджаюць архэалягічныя раскопкі.

Сталіцай Сударвы[180], дзе знаходзілася гаспода князя, было гарадзішча Камянёва. Паводля Дусбурга, гэтак мела называцца частка тэрыторыі Сударвы. Далей Дусбург называе акругу Kirsovia[181], дзе сёньня знаходзіцца Алецк, якую мы ўстанавілі як Крывоша[182], акругу Меруншкі[183], Красіны[184], Лык[185], Белую[186], Люцын[187], Сельле[188] і іншыя.

---

[179] Як сьцьвярджае Барсов, судаўскія перасяленцы ў канцы XIII ст. пад напорам немцаў аселі ў аколіцы Вільні, дзе знаходзіцца сёньня вялікая вёска Suderwa, паказваючая на этымалёгію назову Судзіноі і Судавя. Таксама Дзервіны каля Марцінканцаў, Дырванцы каля Жалудка.

[180] Dusburg: «KIMENOW et *castrum eiusdem nominis*»; «*Capitaneus Sudowitarum de* KYMENOVIA». Вялікая колькасьць назоваў на крывіцкай прасторы: Камянка у Гарадзеншчыне, там жа Камяніца; Каменка каля Гомеля, там жа Камень; Каменшчына каля Мазыра; Каменчаны каля Ліды; Камянка каля Беластока, каля Мастоў, каля Слоніма, каля Кобрына, каля Клецка, каля Узды, каля Койданава; Камень каля Івянца, Каменец каля Берасьця і г. д.

[181] Сюды адносіцца акруга Kirsovia (Крывоша). Людвік, Рымскі імпэратар нямецкага народу ў дакуманце з 1337 г. лічыць за адно два назовы: «Karsau vel Russia... Karsow vel Rusye...»

Рось — назоў аднаго рукава Нёмана, Рось — прыток Нёмана, Рось — мястэчка на гэтай рацэ, Русіна, Падрось у раёне цячэньня Росі, Русіны каля Баранавічаў, Русінавічы каля Ляхавічаў і г. д. У Прусах: Rus у раёне Алецка, там жа старыя назовы Буды, Высокае, Вэнды, Вялічка, Горкі, Грабова, Кавалі, Калінова, Каралены, Краглянка, Папроткі, Праскі, Рудчаны, Цімохі, Юха і іншыя.

[182] У дакумантах Мендаўга з 1257, папы Інацэнта IV з 1254 і Бурхарда, магістра Үямецкага ордэну з 1289 г. — CARSOWE, CARSOUWE, KARSOWE. Пад націскам Нямецкага ордэну, здаецца, сударванскія перасяленцы заснавалі ў раёне ракі Сэшувы, правага прытоку Нёмана, свае аселішчы, якія сёньня называюцца Karšuva і Rasieny.

[183] Сёння існуе вёска ў гэтым раёне Mierunken (Мерункі, Мірункі), раней званая Мірунск. Таксама Мір, рэчкі Міранка, Мэрэч, Мэрэчанка.

[184] У дакуманце Мендаўга з 1254 г. Краса (Crase totum). Мястэчка Красна, вёскі Красна каля Шчучына, каля Беліцы, каля Далгінава, Красеява каля Пінска, каля Гомеля, Краснаполе каля Рудзішкаў і шмат іншых.

[185] У дакуманце Мендаўга з 1257 г. Loukowe, Лукава, Лука (між Кобрынам і Бярозай Картускай), Лукомля і іншыя.

[186] Сёньня Бела (ням. Бяля). Ёсць шматлікія назовы як Белая, Беліца, Бельск, Беляны, Белавежа, Беласток, Беліны.

[187] Люцын каля Дзьвінска, Лютош каля Багданава, Люцін на рацэ Пцічы, Люцына і Люцынка каля Івенца і шмат іншых.

[188] Навасельле, Сельцы, Навасёлкі — вялізная колькасьць у заходняй Крывічыне.



*Культавы цэнтр Аркона (рэканструкцыя)*

У дакуманце Міндаўга з 1259 г. названыя Дайнова, Шантаны, Дзерны, Красна і Вельчова. У ранейшым дакуманце з 1257 году: Панямуня, Калена, Каршова, Нідарова, Вежа, Люкова, Расена і іншыя[189].

Польскія летапісцы, апісваючы змаганьне Польшчы з Прусамі, усьцяж падкрэсьліваюць удзел Русі побач Прусаў[190]. Пад Руссю праўдападобна яны разумеюць не Русь у дасюль прынятым паняцьці ці як абазначэньні на ўсход ад Буга, але частку Прусаў — Сударву. Русьсю таму называюць летапісцы, бо сюды сягала праваслаўная вера[191].

Сударва, за выключэньнем заходніх акругаў Вангэн, Каршувы (Крывошы), часткова Дайнова і Расены, падараваных Мен-

[189] Аб Расенах, Лукаве, Дайнаве, Крывошы і Красным была вышэй гутарка.
Pomemene — Панямунь. Панямунь каля Горадні, Неманчын, Нёман і іншыя. Kulene — Калена. Калена каля Алькенікаў, Каленковічы і інш. Niderowe — Нідарова, рака Ніда ў Польшчы; Nidzica ў Прусах (Зайцы), Ніда насупраць вусьця Нёмана, Нудычы каля Менска, Нудычы — племя заходніх славянаў між Заале і Фунэ (Fuhne). Weyzze, гэта бессумліву Вежа. Белавежа, Панявежа, Вежуны, Вежанцы каля Эйшышак.

[190] Гутарка ідзе аб вайне польскага караля Балеслава II з Паморам і Прусамі ў 1102 г.

[191] Адзін з настарэйшых рукапісаў Св. Пісьма з XII ст., знойдзены ў Супрасьлі каля Беластока, таксама ёсць доказ распаўсюджанай тут праваслаўнай веры.

даўгам Нямецкаму ордэну, належала да Вялікага Княства Літоўскага і гэткім чынам не падлягала працэсу гэрманізацыі і па сёньняшні дзень асталася славянскай, якой была і раней. Працэс славянізацыі датычыў яцьвягаў, якія тут, як чужы элемэнт, пасяліліся між крывіцкага насельніцтва[192].

У адносінах да жамойдзкага насельніцтва Прусаў Сударва і іншыя славянскія акругі гэтай краіны не былі зьвязаны ані прыязьню ані супольнымі інтарэсамі і праводзілі частыя рабаўнічыя напады. Толькі ў змаганьні з Нямецкім ордэнам аб'ядноўваліся сілы ўсіх акругаў, але і ў гэтым змаганьні жамойдзкае насельніцтва ставіла невялікі апор і часта перабягала да лягеру ворага[193].

9) Надравія, Надравы, знаходзілася на поўнач ад Сударвы, на захад ад Прэголы і Вугрaпы. На ўсходзе межавала з Літвой і Жамойдзяй, прытым Нёман не тварыў граніцы; Надравія ахапляла паласу па правым баку Нёмана, якая ўтрымалася аж да нашых часоў як складовая частка Прусаў, пад назовам Scalovia — Славонія.

---

[192] Аб яцьвягах была часткова гутарка раней. Не займалі яны акрэсьленай тэрыторыі, як дасюль прынята ўважаць (быццам у водазборах Буга і Нарвы), але пасяліўшыся былі сярод крывічоў у вадазборах Бугу, Нарвы, Нёмана і ў Сударве. Тварылі яны дапаможную сілу мясцовым крывіцкім князём, а за часоў Мендаўга ды ягоных наступнікаў стаялі на службе Вялікага Князя Літоўскага.

1) Місіянер Бруно ў 1008 г. прабаваў праводзіць сваю апостальскую дзейнасьць «in confinio Russiae et Lituae» — гэта значыць на тэрыторыі Сударвы, дзе прынята памяшчаць яцьвягаў. Тут яму ўдалося навярнуць мясцовага князя NETHIMERA (Niedamira). Аднак ягоныя малодшыя браты, з якіх адзін называўся ZEBEDEN, выступілі супраць Бруно і забілі яго. Імёны гэтых князёў славянскія і сьведчаць, што князі былі гэткага паходжаньня, інакш не дамагаўся б адзін з прыбочных Брунона, манах Бэнэдыкт, каб місіянер прамаўляў да насельніцтва іх собскай мовай і дзеля гэтага навучыўся славянскай мовы.

2) Пад 1192 г. Kadłubek, кажучы аб нападах Прусаў на Польшчу, падкрэсьлівае: «Прынята ўважаць Драгічын над Бугам за сталіцу яцьвягаў».

3) З умовы Ягайлы і Кейстута з ордэнам у 1379 г. ... «Wilkewitzk Saras Droyczin Melnik Belitzk Brisk Camentz und das Landt Garten (Ваўкавыск, Зарась, Драгічын, Мельнік, Бельск, Камянец, Горадня)... Значыць названая тэрыторыя была не яцьвяская, але руская (у значэньні праваслаўнай веры), інакш кажучы крывіцкая.

Названыя намі раней імёны некаторых яцьвяскіх правадыроў маюць выключна вайсковы характар, а не тэрытарыяльны. Ведама, заслужаныя адзінкі маглі займаць у баярскай герархіі і вядучыя становішчы, асабліва пасьля ліквідацыі яцьвяскіх вайсковых адзінак. Славянізацыя яцьвягаў пачалася ў палове XIII стагодзьдзя з хвілінай дабравольнага прыйманьня хрысьціянства, аб чым сьведчыць перапіска Казіміра, польскага караля, да папы Аляксандра.

[193] Голядзь у 1253 г. бяз большага супраціву паддалася Нямецкаму ордэну, згадзілася на хрост і дала сваіх заложнікаў. Не брала таксама ўдзелу ў агульным паўстаньні Прусіі ў 1261 г.

Аб перабежчыках да Нямецкага ордэну ў часе зацятага змаганьня ў 1261—1262 гг. глядзі ў Dusburg (Trune, Ibutos, Nakor i Kerse з Самбіі). Santeko, сын Grande з Самбіі — крыжацкі разьведчык; Girdawe, што быў на старане крыжакоў, зацята бароніць замак супраць Дывана (Дрэвана), правадыра бартаў і г. д.

Надравія дзялілася на наступныя акругі: Kattowin[194], на поўнач ад Гумбіннэн, дзе сёньня знаходзіцца вёска Kattenau, далей Otholichien, Rechau[195], дзе было шмат гарадзішчаў, як стары Wehlau[196], Gaminiswike недалёка Інстэрбурга, дзе магло памясьціцца 200 ваякаў[197]. У гэтых гарадзішчах сядзела пануючая верхавіна Надравіі (нобілі) пружанаў-люцічаў над жамойдзкім падбітым насельніцтвам. Тут знаходзілася сталіца Пружанаў, галоўны асяродак культу ў Ромаве[198], дзе сьвятар Крывіч (Criwe) воляй багоў злучаў у адно ўсю прастору Люцічаў, гэта значыць Пружанаў (Прусаў), Літву і Прыбалтыку.

Каб супрацьставіцца гэтым тэндэнцыям баярства Вялікага Княства Літоўскага (у першую чаргу Гаштальты), сягнулі да собскай крыніцы, старой легенды, быццам літоўскае рыцарства рымскага паходжаньня, а калі так, дык само па сабе з'яўляецца найбольш дастойным. А дзеля таго, што жамойдзкая мова паводля сваіх канчаткаў падобная да грэцкай і лацінскай, адсюль падмацаваньне да наступнай легенды, быццам Літва і Жамойдзь твораць адно паняцьце.

Вельмі магчыма, што ў славянаў у часе іхняга крывавага змаганьня з немцамі між Лабай і Одрай у X ст., калі гэтыя апошнія падбоям накідалі хрысьціянства, у славянаў паўстала думка стварыць свой уласны Рым, як супрацьстаўленьне гэнаму, што пад выглядам новай рэлігіі нёс гэрманізацыю і прыгнёт, падобна як у гістарычных часох гэткім аб'явілася Масква.

[194] Kattowin, Kattenau гэтага самага паходжаньня ад Хатыны. Катовіцы ў Польшчы, Хатынічы ў Пінскім павеце, Хатымск, мястэчка Клімкавіцкага павету, Хатынічы каля Кобрына.

[195] Rechow (Rethowi). У гэтай аколіцы асталіся назовы тыпу Ріхаў і Рэхаў, праўдападобна ў крывіцкай мове Ракава. Раковічы каля Нясьвіжа, мястэчка Ракаў на Іслачы, Рачкі каля Аўгустова, Рачкуны каля Варанова, Ракевічы каля Дзятла і шмат іншых. «K» і «ch» у нямецкай вымове найчасьцей чарадуюцца, як «холм» — «kolm» і «куніца» — «chunitz».

[196] Гарадзішча Wehlaw, Wilow ... ад славянскага Вілава. Таксама Вілейка, Вілянова, Вілунічы, Вільня, Вілія.

[197] Caminiswike, іншыя Kamenswik ад Каменяшоўка.

[198] Дусбург выводзіць Ромава (Romow) ад Рыму, як быццам тут існаваў другі Рым з сваім Папам — Criwe. Пытаньне гэтае незвычайна цікавае ў нашай гісторыі. Зацемім тут найважнейшае. У сераднявеччы Рым адыгрываў першарадную палітычную ролю, бо Папа быў ня толькі галавой каталіцкага касьцёла, але і крыніцай сьвецкай улады. Папа сам або праз сваіх біскупаў надаваў яе паасобным валадаром і бяз гэткага наданьня пры акрэсьленых цырымоніях і інсыгнях валадар ня быў «памазанцам Божым» і ня мог мець значэньня паўнапраўнага пануючага. Прадумовай да атрыманьня кароны і «памазаньня» апрача дзяржавы патрэбная каталіцкая вера. Каб абараніцца ад навалы Нямецкага ордэну першы Мендаўг у 1252 г. вырашыў прыняць каталіцтва і быў каранаваны Холмскім біскупам. Да гэтага імкнуўся і Вітаўт у пару, калі Ягайла стаўся каралём Польшчы і польскія магнаты вабілі нашых баяраў блескам сваіх тытулаў, быццам лепшых, паходзячых беспасрэдна ці пасрэдна з крыніцы «запраўднай» улады — з Рыму.

Voight (Gesch. Prussiens) уважае, што назоў Ромов, Ромовэ, паходзіць ад жамойдзкага «ramus» — супачынак, цішыня, паклікаючыся на Дусбурга, дзе гэты падае на Літве сьвятое месца, якое называлася Romene. Супраць гэткага цьверджаньня Фогта выступае тое, што падобных сьвятых месцаў было шмат, але яны называліся не Romowe, але іншымі рознымі назовамі. Romene (або Romanova, як яго называе Каяловіч) на Літве магло паўстаць пазьней, калі Прусы былі заваloданыя Нямецкім ордэнам. Гэткіх назоваў знаходзім з пазьнейшага часу болей, як Рамашкі каля Дзембрава, Раманка каля Эйшышак, Рамашканцы каля Варэнава, Раманаўка каля Ваўкавыска, Рамановічы каля Дзятла, Рымашэ каля Несьвяжа, Раманаўка каля Дубровы і інш. Усе яны паказваюць не на сьвятыя старыя месцы, але на перасяленцаў з Прусаў.

Сам назоў краіны ёсьць таксама славянскага паходжаньня і сягае ў глыбокую славянскую мінуўшчыну[199].

10) Sambia, Sembia, Samland. Зямля на захад ад Надравіі, між Шчарай (Прэголай) і залівам Віслы, заселеная ад V ст. пасьля Хр. жамойдамі (Жэймамі), тварыла старую акругу Прусіі, наведваную скандынаўскімі піратамі і ў скандынаўскіх хроніках абазначала часта ўсю прастору Прусіі. З хвілінай павароту славянаў была ім падпарадкаваная. Тут з апостальскай місіяй быў сьв. Адальбэртус і тут загінуў, забіты славінамі каля сьвятога месца Ромава[200].

---

199 Neuroi, Нэўраў, Нураў, Нарваў знаходзім у Heradota; Pomponiusa Meli; Pliniusa; Ptolomejos nazyvaje ich Navaroi — Наварамі. Нарвы, бясспрэчна славяне, аб якіх Пачатны летапіс (ПВЛ) пісаў: «От сіх жэ 70 і 2 языку бысьць язык словенеск, от племені Афэтова, нарці, ежэ суць словене». Яны жылі побач вудзінаў (будзінаў) і люцічаў, сягаючы Балтыцкага пабярэжжа. Рака Нарва ў Прусах, Нарва, прыток Бугу, Нурэц, прыток Бугу, возера і мястэчка Нарач, мястэчка Нур на рацэ Буг, рака Нарва ў Жамойдзі, Нараўка каля Белавежы, Нэрыс — жамойдзкі назоў Вяллі, Нарва, прыток возера Пэйпуса (Чудзкага), Нарава — вялікі горад каля Нараўскага заліву і шмат іншых.

200 Сьв. Адальбэрт (Войцех) нарадзіўся ў 950 г. у Любіку ў Багэміі, сын Слаўніка і Стрэзіславы, вучыўся ў Магдэбургу. Ведаў чэскую і іншыя славянскія мовы ды нямецкую. Доўгі час Адальбэрт хістаўся, які з суседніх паганскіх народаў выбраць для свае апостальскай місіі, прусаў ці люцічаў у Памараніі. Вырашыў ісьці да прусаў, бо гэтыя былі найбліжэйшымі суседзямі польскага караля Балеслава (Храбрага), ад якога спадзяваўся найбольшай дапамогі і падтрымкі. Баляслаў даў яму карабель і 30 узброеных людзей.

З Адальбэртам быў Гаудэнт і Бэнэдыкт. Перш яны прыехалі ў Гданьск. Тут вялікі натоўп даўся ахрысьціць. Адсюль Адальбэрт накіраваўся ва Усходнія Прусы марской дарогай. Пасьля некалькіх дзён высадзіўся на бераг і адправіў узброеную ахову назад. Пры ім асталіся толькі Гаудэнт і Бэнэдыкт. Ён баяўся, што ўзброеная ахова палякаў, з якімі прусы змагаліся, можа выклікаць варожае настаўленьне насельніцтва. Праўдападобна А. высадзіўся блізка вусьця Прэголы ў 1249 г., бо прусы былі забавязаныя ў Комары збудаваць касьцёл у чэсьць сьв. Адальбэрта. На пабярэжжы сустрэў апосталаў натоўп з крыкам і лаянкай, прытым адзін з натоўпу ўдэрыў яго вяслом па плячох. Тады А. вярнуўся на карабель, і высадзіўся ў нейкай гандлёвай вёсцы. Тут зноў сабраўся вялікі натоўп на-

Дусбург піша: «Сэмбія, шматлюдная і багатая, можа мецъ чатыры тысячы вершнікаў і 40 тысяч ваяроў», а на першае месца ставіць «Бэтэн, у якім жывуць ваяўнічыя людзі, і нагэтулькі магутныя, што з адной вёскі могуць выйсці на вайну прыдатныя да яе пяцьсот чалавек»...[201]. Апрача Bethen (Вяцічаў) Дусбург называе пануючыя роды Candym, у іншых дакумантах Candeyne (Койданы), што былі валадарамі ў Меданаве[202]. Іншыя баяры, як Sipayne (Сіпойныя, Сіповічы), Karioten (Карэты, Кароты, Кароткія), Greybowe (Грыбавы, Грыбаўцы), Seiken (Сыковічы, Саковічы), Вадоты і іншыя валодалі гарадзішчамі Quedenow (Кветнёва), Germow або Girmow (Ермава), Rudowie (Рудава), Waldow (Валдава), Powunde (Павунды, ад Повундэ — па вэндах), Warney (Варны, Варна), Pobethen (Паветы), Schaken (Шакі, Жакі), Wergen, Wargen, Werge (Вярхі) і іншымі.

Сярод вайсковых правадыроў Жэміі адзначаюцца: Glande (Глёнд, вучыўся ў Нямеччыне, магчыма адтуль паходзіць імя, хрысьціянскае яго імя Richard), вяціч з Рынава, Nalubo (Нялюба) і Wargulo (Варгуля) з Quedenow (Кветнёва), Swayno (Свойна).

Падкрэсьліваючы славянскія сьляды ў Жэміі (Самбіі), мы маем на ўвазе толькі пануючую верхавіну, пераважаючая маса насельніцтва была жамойдзкай, рыцарская частка

роду, цікавы даведацца, што за прыбыўшыя людзі. На пытаньне, хто яны будуць, адкуль прыйшлі і чаго хочуць, Адальбэрт сказаў: «Па паходжаньні я славянін з чэскага народу, называўся Адальбэрт, быў біскупам, цяпер манахам і апосталам. Мэтай майго падарожжа ёсць каб вы пакінулі вашых немых і глухіх багоў і пазналі Тварыцеля, каторы адзіны ёсьць, і апрача Яго нямашака іншага Бога». Калі б А. меў перад сабой неславянскае насельніцтва, не падкрэсьліваў бы так свае славянскасьці. Не інакш таксама прамаўляў як толькі па-славянску (жамойдзкай мовы ён ня ведаў). Натоўп не хацеў слухаць апостала, крычаў і кідаў на яго булавешкі, кажучы, што ня хоча зьмяняць сваіх звычаяў і законаў, пануючых у гэтай краіне, а калі А. не выедзе адсюль як найхутчэй, спаткае яго сьмерць.

Занепакоены А. гэтай жа ночы вярнуўся лодкай на пабярэжжа заліву і тут прабыў у аднэй вёсцы 5 дзён, раздумоўваючы, ці ня лепш ісьці да люцічаў з апостальскай місіяй. На пяты дзень пасьля імшы адпраўленай Гаўдэнтам і сьнеданьні А. адлучыўся ад сваіх прыяцеляў і увайшоў у сьвяты гай, які называўся Pojs (Пояс), дзе быў забіты. Сёньня ў гэтай аколіцы (каля Fischhausen) знаходзіцца вёска Peyse, ад назову лесу, дзе згінуў сьв. Адальбэрт. У іншым дакуманце, выстаўленым біскупам Зігфрэдам (1327 г.), знаходзім апісаньне, дзе знаходзіўся названы сьвяты лес Пояс: «Geydow (Гайдова), Villa Dargowayn (Тарговін) versus Sabenow (Жабенава)».

Mathias De Miechovia таксама абазначае месца сьмерці А. каля Fischhausen (Feszhaush). Цела сьв. А. было прусамі перавезенае да Ромава, дзе было выкупленае каралём польскім Баляславам.

[201] Bethen — веты, вяцічы, ад Віт. «Chron. Moissiacene» Вяцічаў называе Bethenzr, Bethenlclerert; Гэограф Баварскі — Bethenici; Dithmar — Vethenici. ПВЛ гаворыць аб паходжаньні вяцічаў быццам «от ляхов», у значэньні «з захаду».

[202] Medenow. Miedowe на Паморы, Meddau, Maddau у акрузе Mecklenburg; Меднікі каля Ашмяны.

якой судзейнічала з пружанамі або крыжакамі. Гэтае апошняе выклікала помсту аб'яднаных славянскіх сілаў на жамойдзкім насельніцтве. Жамойды мелі ў Жэміі знатную колькасьць гарадзішчаў (напрыклад Galgarbas, Ochtolite, Nogynite, Şugurbis, Unsatrapis), магчыма, што некаторыя з іх знаходзіліся ў руках жамойдзкіх васалаў[203].

Наяўнасьць жамойдзкага насельніцтва ў Жэміі (Самбіі), як славянскага субстрату, які ўтрымаўся пасьля зьнішчэньня Нямецкім ордэнам пануючай славянскай верхавіны, вельмі некарысна адбілася на аб'ектыўным вывучэньні мінуўшчыны ўсёй краіны і ўвяло дасюль існуючую блытаніцу, быццам уся краіна была заселеная насельніцтвам, якое гутарыла /той жа/ мовай, як у Жэміі і яе ўсходніх акругах. Гэтая мова добра ведамая з так званага «прускага» катэхізму, выдадзенага ў XVI ст. у Кёнігсбергу[204]. Да гэтай мовы адносяцца зацемкі ў Длугаша і Кромэра, першага не абаснаваныя і з'яўляюцца проста домыслам аўтара, прытым у дачыненьні да Літвы няпраўдзівым.

11) Scalovia, Schalavia, Schalauen, Славонія. Невялікая акруга, што знаходзілася «па абодвых бакох Нёмана» і межавала з Жамойдзьдзю, Літвой і Надравамі[205]. Заселеная была ад V ст. пасьля Хр. жамойдамі, але ў X ст. пануючую верхавіну тварылі, вярнуўшыся славяне.

***

У гэтым кароткім аглядзе паасобных акругаў Прусаў мы падкрэсьлівалі найважнейшыя мамэнты этнічнага характару, сьцьвярджаючы, што ўся прастора Прусаў была занятая

[203] «Scriptores rerum prussicarum» падкрэсьлівае, што галоўны апор нямецкаму наступу тварыла пануючая верхавіна з гарадзішчаў, якія мы ўстанавілі як славянскія. Да гэтага трэба дадаць, што славянская пануючая верхавіна супрацьстаўлялася Ордэну, бароняючы сваёй вольнасьці, як яе бараніла на захадзе, у той час, калі жамойдзкае насельніцтва нічога ня мела да страты і мяняла толькі ўладу, спадзяючыся, магчыма, што праз супрацоўніцтва з немцамі атрымае паляпшэньне свайго становішча.

[204] Падаю прыклад з «прускага» катэхізму: «O Deiwe Rikys kas tou Wyran bhe Gannan teikuns, bhe prei sallaūbiskan enteikūumis ir preistan seu Weisin ... Christum nonson Rikyan Amen». (Ойча наш, які ёсць на небе...»).

[205] Тут знаходзілася старое славянскае гарадзішча (пры ўліцьці Нёмана ў мора) Славенск.

Аб гэтым сьведчыць вялікая колькасьць славянскіх гарадзішчаў і імёны правадыроў. Галоўным гарадзішчам была Рагнета (Raganitam, ад «рог»), на мяжы з Літвой Зарэка (Sareka), на Нёмане Засава (Sassau). У Дусбурга названыя князі Сурбач (Surbach), Сьвішчэта (Swiscete) і Сярдзіты (Surdete), а ваенны правадыр Сьценагуд (Stenegote, Stenegaude, ад gudae — крывіцкі).

пружанамі-люцічамі, прытым на ўсход ад ракі Шчары (Прэголы) і ў раёне між Амулевам і возерам Сьпірдынг (польск. Снярдвы) знаходзілася жамойдзкае насельніцтва.

Апрача вышэй пададзеных доказаў, хацеў бы яшчэ зьвярнуць увагу на два далейшыя: 1) вызвольную барацьбу Пружанаў з Нямецкім ордэнам у XV ст. і 2) стан насельніцтва ва Усходніх Прусах паводля дадзеных з XVIII і XIX стст.

## Вызвольная барацьба Пружанаў у XV стагодзьдзі

Міма заваяваньня тэрыторыі Прусаў Нямецкім ордэнам у XIII і XIV стст. падбітае насельніцтва не зраклося з сваіх вызвольных імкненьняў і на працягу /ўсяго/ XV ст. вяло барацьбу з аслабленым у Грунвальдскай бітве ордэнам, апіраючыся на падтрымку Польшчы і Літвы. У гістарычных дакумантах гэтага змаганьня знаходзім далейшае падмацаваньне нашых ранейшых доказаў аб славянскасьці Прусаў.

Пачатак узноўленага змаганьня вяжацца з заснаваньнем *25 лютага 1397 г.* у *Холмшчыне тайнага «Таварыства Яшчаркі»* мясцовай шляхтай, якое хіба было прычынай, што ў бітве пад Грунвальдам Холмскія (Кульмскія) харугвы зложылі зброю на полі змаганьня[206].

У наступных гадох супраціў падбітага насельніцтва штораз больш узрастаў, асабліва ў часе войнаў ордэну з Польшчай і Літвой. А калі ў 1422 г. крыжакі пачалі праводзіць рэпрэсіі, гэты супраціў выліўся ў т. зв. Прускай Канфэдэрацыі, а наступна ў 1454 г. у паўстаньні рыцарства і далучэньні славянскіх акругаў да Польшчы.

Характэрнымі дакумантамі з гэтага змаганьня перш за ўсё ёсьць мэмарыял холмскай шляхты са з'езду ў Лісаве ў 1437 г., у якім яна бароніць свае права на холмскія прывілеі, падкрэсьліваючы, што шляхта і мяшчане паходзяць з прыбышоў і што ў часе наданьня холмскага прывілею жылі яны ў абаронных гарадзішчах, з якіх потым вытварыліся гарады;

[206] Заснавальнікамі яго былі браты Мікалай і Ганущ з Рынска ды Фрыдэрык і Мікалай з Кітнова (Niclos und Hannus von Renys, Fredrich und Niclos von Kynthenow).



*Саксонскія ваяры*

далей заснавальны дакумант Канфэдэрацыі Прускай, дзе /ўсе/ падпісаўшыся славянскага паходжаньня[207].

Ня менш вымоўным доказам славянскасьці прусаў ёсьць прамова Яна Бажынскага ад імя насельніцтва Прусаў у Кракаве перад /каралём/ Казімірам Ягайлавічам аб далучэньні Прусаў да Польшчы і Літвы, у якой між іншым знаходзім:

Aber wir arme Leute sind gleichwol dahin gezwungen, das wir haben muessen mit ziehen, und Krieg führen gegen unsere eigene

[207] Hans vom Czegenberge, харужы Холмшчыны, сябра Таварыства Яшчаркі; Конча з Сьвятога (Cuntcze vom Swiente), Swiente каля Грудзеца (цяпер Грудзёндз); Атон з Плёніхава (Otto von Plenichaw), лаўнік Холмскі. Аўстын з Шэвы (Austin von der Schebe), меў вёскі Радовіска, Арэхаўка і Новы Двор пад Радзінам. Сябра Таварыства Яшчаркі, лаўнік земскага суду ў Холме; Сымон з Глазава (Simon von Glazow), земскі суддзя ў Холме; Гунтар з Петрыкава, Радзінскага павету; Якуш з Труменяў (Jacusch von der Tromenye) і іншыя.

Пруская Канфэдэрацыя абдымала: Холм, Торунь (Thorn) і Новы Торунь (Neue Thorn), Эльбінг (Elbing) і Новы Эльбінг (Neue Elbing), Алленбург (Allenburg), Брадніца, Бранева, Велява, Гданьск (Danzig), Грудзенец, Каралевец (Кёнігсберг), Кніпава, Ландсберг, Ліпнік, Новае Места (Neumarkt), Радзін, Хейлінгбейл (Heiligenbeil) — гэта значыць Холмшчыну, Памаранію, Пагаранію, Вармію, Натангаў і Бартаў. Інакш кажучы, славянскія акругі на захад ад Прэголы.

freunde, und einea Glaubens verwandten, gegen die Polen und Littawen, Ewer hochlöblichster Gedechtnisz Vorfaren, welches wir denn gantz ungern, unnd wider unsere Freyheitungen unnd beschliessungen auff den Tagefarten gethan haben...

А далей аб карысьцях з далучэньня Прусаў да Польшчы і Літвы:

Solches wird Ewer Koeniglichen Mayestet allein nützlich, sondern auch löblich und rümlich sein, denn der erste nutz den Ewer Koenigliche Mayestet daraus haben mag, ist die vermehrung und verbreitung jhrer Lande und streckung des Reiches, das jr von ewren Feinden des to mehr gefürchtet werdet darnach das E. Koenigliche May, da sie biszhero in 200 Jar in Staedten Krieg und widerwillen gewesen ist, auch dadurch zu ewigen bestendigen frieden kommen mag, zum dritten weil der Orden nu zu gleich ewer und unser feind ist, kan er jetzo desto leichter unnd bequemer vertrieben werden...

Казімір згадзіўся стацца пратэктарам Прусаў і далучыць да свае дзяржавы. У акце далучэньня Прусаў з 6 сакавіка 1454 г. яшчэ раз пакрэсьленая супольнасьць інтарэсаў і законныя



*Паўсталыя прусы ваююць з крыжакамі (XIII ст.)*




*Паўстаньні славянаў у Палаб'е*

правы Казіміра, як спадкаемцы правоў сваіх папярэднікаў. Падкрэсьліць прыходзіцца, што ва ўсёй гэтай акцыі не было прадстаўнікоў ад жамойдзкага насельніцтва.

І ўрэшце ў трактаце тарунскім з 1466 г., на аснове якога наступіла заканчэньне вайны з ордэнам і падзел Прусаў між Польшчай і крыжакамі, знаходзім нямала славянскіх назоваў мясцовасьцяў на захад ад Прэголы, як сьлядоў старой тут сла-

вяншчыны. Што гэта была за славяншчына, найлепш сьцьвярджае Кромэр:

З якіх (прусаў) засталіся нейкія рэшткі ў вёсках і сёлах Вармійскага і Самбійскага краю, якія карыстаюцца мовай вельмі падобнай да літвінскай.

Прыклад гэтай мовы знаходзім у запісаных прускіх лямэнтацыях:

Галеле, леле, і проч ты мяне ўмерл? I за ты(м) не меў што есьці, альбо піці, і проч ты ўмерл? Галеле, і за ты не меў красі малодзіцы, і проч ты ўмерл? («Halele, lele, y procz ty mene umierl? y za ty nie miel szto iesty albo pity, y procz ty umierl? Halele, lele, y za ty nie miel krasi mlodzice, y procz ty umierl...»).

## Стан насельніцтва ва Усходніх Прусах паводля дадзеных XVIII і XIX стст.

Міма гэрманізацыйнай акцыі немцаў у Прусах карэннае насельніцтва перахавала сваю мову і звычаі аж да XIX стагодзьдзя. Пад канец XVII ст. засяг жамойдзкай мовы ахапляў прастору на поўнач ад Прэголы аж пад Каралевец і ад Gumbinnen да Darkehmen і Goldap. Дакладная лінія менш-больш прабягала ад Labiau на поўначы, праз Petersdorf, Norkitten, Muldschen, Jodlauken, Trempen, Darkehmen, Schabinen да Goldap і ад Goldap на паўночны ўсход праз Stalluponen, Schirvinty да ракі Невяжы.

На гэтай прасторы на пачатку XVIII ст. было 62 жамойдзкіх пастары, з якіх два ў Рагніце (Ragnit) і Тыльзыце (Tilsit), тры ў Мемэлі (Memel), якія яшчэ ў 1719 г. гаварылі казаньні па жамойдзку.

У 1848 г. жамойдзкая мяжа амаль не зьмяняецца і прабягае праз Labiau, Laukischken, Plibischken, Norkitten, Obelischken, Jodlauken, Didlachen, Ballethen, Darkehmen, Gawaiten, Toluminken і Dubeninken. (Глядзі Karl Keller, 1929).

У 1876 г. паводля Kurschata яшчэ адбываліся набажэнствы ў жамойдзкай мове ў Memel, Heydekrug, Tilsit, Ragnit, Pillkalen, Labiau, Insterburg, Goldap, Staluponen, Gerdauen, Darkemen, Gumbinnen і Wehlau.

Як бачым, жамойдзкая мяжа з XVIII і XIX стст. менш-больш адказвала лініі засягу жамойдзкага насельніцтва з часоў Дусбурга (XIV ст.), што згаджаецца з гістарычнымі і археалягічнымі дадзенымі.

Урадавы перапіс насельніцтва з 1905 г. яшчэ зарэгістраваў у акрузе Gumbinnen каля 65.000 жамойдаў, у акрузе Koenigsberg — 32.000. У 1910 г. пруская статыстыка прынясла дадзеныя на карысьць далейшага росту германізацыі, паказваючы ў акрузе Gumbinnen 57.993 (9,56 % насельніцтва); у акрузе Koenigsberg 31.883 (3,49 %).

Паводля Кэллера рост германізацыі (супраць жамойдзкай мовы) ад 1825 да 1910 г. прадстаўляецца наступна на некарысьць жамойдзкай мовы: у павеце Darkehmen з 85,4 % да 99,6 %; у пав. Gumbinnen з 99,2 % да 99,5 %; у пав. Goldap з 69,9 % да 98,1 %; у пав. Niederung з 50,1 % да 87,7 %; у пав. Pillkalen з 60,2 % да 92,7 %; Stallupoenen з 77,9 % да 98,5 %; Тыльзіт — Раготна — з 52,2 % да 86,6 %; Insterburg з 75 % да 98 %; Labiau (Лябява) з 66,7 % да 91,6 %.

Славянскі элемэнт у гэтых акругах, які да апанаваньня іх крыжакамі быў тут пануючай верхавінай, на працягу



*Умацаванае гарадзішча прусаў (рэканструкцыя)*

стагодзьдзяў амаль што знік пад ціскам нямецкага асыміляцыйнага працэсу і прадстаўляў у палове XIX ст. ад 2 да 3,5 % насельніцтва, прытым найбольшае згушчэньне захавалася ў Славоніі (Schalauen) у так званым «Судаўскім трыкутніку».

З гэтых дадзеных вынікае, што сыстэматычная гэрманізацыя насельніцтва ненямецкага паходжаньня датуецца ад 1825 г., калі пачынае расьці магутная пруская дзяржава, абаснаваная на прынцыпах нямецкага нацыяналізму. Ранейшы працэс германізацыі ня меў гэткіх тэмпаў, дзякуючы гэтаму і не загінулі сьляды этнічнай мяжы Жамойдаў у Прусах.

На захад і поўдзень ад жамойдзкай этнічнай мяжы, гэта значыць ад лініі Koenigsberg — Tapiau — Wehlau — Gerdauen — Angerburg — Benkheim — Sabienen — Goldap — Dubeningken знаходзілася карэннае вэнэдзкае (славянскае) насельніцтва, паміж якім

die fortgesetzte Germaniesirung, hat nicht nur die geschlossenen Sprachgebiete mit deutschen Inseln durchsetzt, Sondern auch einen breiten Keil deutscher und germanischer Bevoelkerung eingeschoben (Tetzner).



*Старажытны германец*

Нямецкія кліны і астравы, як калянізацыйнае з'явішча не зьмяняюць пытаньня аб этнічным абліччы карэннага насельніцтва, якое ўтрымалася на месцы, перахоўваючы сваю мову і звычаі цэлымі стагодзьдзямі. У бартаў каля 1562 г. мовай штодзённага жыцьця была «венэдзка-пру-

ская» (такая як крывіцкая), праз касьцёлы шырылася таксама польская, якая напр., у Дуброўцы (Dombrowken) переатрывала да 1844 г. Тэцнер піша:

> Folgende Nordgrenze schliesst (пач. XIX ст.) das rein deutsche Cebiet von der Landschaft ab, die ihren evangelischen Einwohnern neben der deutschen auch polnischen Predigt gewährt: von Dubeningken zieht sich die Linie westwaerts ueber Gurnen, Grabowen, Benkheim Buddern, Angerburg und Engelstein bis an die Grenze des Gumbiner Regierungsbezirks. In koenigsberger Regierungsbezirk setzt sich die Linie in den ziemlich reindeutschen Grenzkirchspielen Drengfurt und Rastenburg fort und umfasst dann den gesamten Ortelsburger, Neidenburger und Osteroder Kreis (naemlich noerdlich bis Bischofsburg (Папова), Wartenburg, Locken, Liebemuehl...



*Пруські ваяр-дружыннік (рэканструкцыя)*

З'явішча польскай мовы у сьвятынях ў Прусах мае сваю гэнэзу, падобна як у Крывіччыне, ад XVI і XVII ст., калі Нямецкі ордэн перастаў існаваць, а Прусы сталіся васалам Польшчы.

Паводля Тэцнера, ў XIX ст. славянскі элемэнт у Прусах прадстаўляў яшчэ вялікую сілу, напр. у акрузе Яганэсбург ён складаў 76,6 %; у акрузе Ortelsburg — 75,7 %;

Neidenburg — 74,2 %; Lyck — 64,5 %; Osterrode — 52,4 %; Loetzen — 47,9 %; Oletzko — 45,8 %; Angerburg — 7,2 %; Goldap — 2,2 %. Агулам славянскага насельніцтва ў Прусах у XIX ст. розныя дасьледчыкі налічваюць ад 327.696 (Neumann) да 1.216.000 (Tetzner). Вялікі працэнт з гэтага ліку нямецкія дасьледчыкі залічаюць да мазураў, /што/ тым ня менш не аслабляе нашай тэзы аб славянскасьці апісанай прасторы.

Такім чынам на працягу больш дзесяці стагодзьдзяў пры аналізе насельніцтва Прусаў мы не знайшлі нідзе сьлядоў існаваньня сёньня безкрытычна прынятага ў літаратуры «прускага плямені», як адной галіны «балцкага» этнічнага элемэнту. Гэты «балцкі» элемэнт прадстаўлялі самыя запраўдныя жамойды, высунуўшыся клінам у Прусію прыблізна каля V ст. пасьля Хр., але гэта не дае ніякіх асноваў ані ўважаць, што ўся тэрыторыя Прусаў была імі ахоплена, ані лічыць яго за самастойнае племя. Існаваньне жамойдзкага невялікага кліна ў Прусах ані не перакрэсьлівае іх славянскага характару. Славяне былі



*Змаганне паўстаўшых прусаў з тэўтонцамі*



*Хрост прусаў*

там валадарамі перад жамойдамі, а ад 1Х ст. сталіся зноў імі ня толькі ў Прусах, але ва ўсёй Прыбалтыцы.

Пад паняцьцем прусаў мы знаходзім ня што іншае, як паваротную хвалю люцічаў, якія ці то пад назовам прусаў-пружанаў, ці літвы (у сутнасьці аднолькавага паходжаньня з крывічамі, бо ад іх у сваім часе выйшлі) здолелі накінуць сваю ўладу на ўсёй Прыбалтыцы, у тым ліку і жамойдзкаму насельніцтву ад Прэголы да Дзьвіны і ад мора да Пісы, Дубісы і Невяжы ды сарганізаваць вялікі супольны арганізм, споены рэлігійнай адзінасьцю, які падзяляўся на тэрыторыю Прусіі і Літву.



# Глава 9
# ПЕРАМЕНЫ Ў ПОЗЬНЯЙ ЖАЛЕЗНАЙ ПАРЫ Ў ПРЫБАЛТЫЦЫ. ПАХОДЖАНЬНЕ ЛІТВЫ І ПАЧАТКІ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

У 8-м разьдзеле мы разглядалі вялікую славянскую міграцыю ў /часы/ сярэдняй жалезнай пары, у выніку якой пашырылася таксама жамойдзкая прастора да ракі Прэголы ва Усходніх Прусах. Аднача́сова сьцьвердзілі зніканьне культурных славянскіх элемэнтаў на прасторы, занятай жамойдамі, і выяўленьне чыстых жамойдзкіх элемэнтаў у раскопках жамойдзкіх магільнікаў.

У позьняй жалезнай пары (800—1250 гг.) да 1000 году пасьля Хр. далей не наглядаецца істотных пераменаў, яны неспадзявана выступаюць на пераломе X і XI стст. Такім чынам прыйдзецца час позьняй жалезнай пары падзяліць на два пэрыяды: да 1000 г. і пасьля 1000 году.

*а) Раскопкі з пэрыяду між 800—1000 гг. у Жамойдзі*

Дасьледаваныя былі з гэтага часу шкілетныя магільнікі ў наступных аколіцах у павеце Крэтынга: Mitrava, Ginteliški, Gadeli (Codelia), Imbary, Jazdy, Kartena, Kiauleiki, Laiviai, Pryšmancy;

Nikeli (pav. Taurohi), Pauličy i Juodsodė (pav. Telšai), усе з заходняй Жамойдзі[208].

Ва ўсіх дасьледаваных магільніках магілы былі ўпарадкаваныя, як гэта мы бачылі раней. Абкладаньне каменьнямі, характэрнае для ранейшай пары, амаль зусім зьнікае. Толькі некалькі магілаў у Гінталішках і Імбарах мелі абводку з каменьняў, што даказвае, што за 500—600 год самастойнага жыцьця жамойды страцілі элемэнты набытай раней крывіцкай культуры.

Арыентацыя памёршых асталася часткова такая самая як раней, часткова зьмянілася. У большасьці магілаў шкілеты ляжалі галовамі ў паўночна-заходнім кірунку (як раней), як напрыклад у вялікіх магільніках у Кяўлейках і Гінталішках. У магільніку ў Яздах усе магілы (101 адзінка) былі ва ўсходня-паўдзённым кірунку. У магільніках у Гадэлях і Яздах арыентацыя /шкілетаў/ была розная. У Прысманцах мужчыны ляжалі галовамі на поўдзень, жанчыны — на поўнач.

Памёршыя ўсюды пахаваныя ў дамавінах, як і ў ранейшых часох. Ва многіх магілах відаць выразныя сьляды ад бярвеньняў дамавіны, найчасьцей дубовых калодаў. Памёршыя ляжалі наўзнак з выпраставанымі нагамі; рукі зложаныя на грудзёх, або выпраставаныя ўздоўж тулава. Адзетыя былі ў багатую вопратку, у сьвіткі, шапкі, стройныя паясы і г. д. У жанчын на грудзёх часта здараюцца ланцужкі, шпількі, нашыйнікі, бранзалеты і пярсцёнкі. Каля галавы побач мініятурнай пасудзіны сустракаюцца скрыначкі са скуры або бярозавай кары з рознымі прадметамі ўпрыгожаньня, зусім падобна, як гэта сустракалася ў магілах з ранейшых часоў, толькі з большым цяпер багацьцем. У мужчын у галовах часта паложаная зброя, як канцоўкі кап'я, сякеры, косы, закелзнікі, мячы, нажы і астрогі. У жаночых магілах апрача прадметаў упрыгожаньня знаходзім у галовах ткацкія снадзівы, верацёны і г.п. Мініятурная пасудзіна і розныя прадметы сустракаюцца таксама і ў дзіцячых магілах.

Падобнае з'явішча наглядаем і ў сярэдняй Жамойдзі. Шкілетныя магілы, дасьледаваныя ў Titvydiškės, пав. Šiauilai (Доўгірд,

[208] Раскопкі ў Мітраве (Дымітраве), Гінталішках, Гадэлях, Лайваях праводзіў Баленюнас. У Кяулейках і Прысманцах — Нагевічус; у Нікелях і Паўліцах — Пузынас. У Імбарах і Карценах — А. Гімбутэне; у Яздах — А. Спіцын, у Юдсодэ — М. Брэнштэйн.

1889) і Meldiniai, павет Панявежа (Кулікаўскас, Тарасенка, Урбас, 1943) не даюць нічога новага і становяць прадаўжэньне раней выступаўшай тут жамойдзкай культуры.

## Паяўленьне целапальных магілаў

На пераломе X і XI стагодзьдзя наглядаем побач шкілетных жамойдзкіх магілаў масавае паяўленьне целапальных курганоў. Ужо Мантэліюс (O. Montelius, 1888) пісаў у канцы XIX ст., што трываласьць той самай культуры сьведчыць аб наяўнасьці таго самага народу, а рэзкія перамены паказваюць на прыход новых людзей з новай культурай.




*Арэал рассяленьня крывічаў*

Гофман (J. Hoffman, 1941) падае дакладнае абазначэньне часу паяўленьня целапальных курганоў у Жамойдзі і іх кірунак. Перш паяўляюцца яны ў басэйне ніжняга Нёмана на паграніччы з Прусамі ў IX ст. Між 850—900 гг. да 1050—75 гг. яшчэ масава выступаюць у басэйне ніжняга Нёмана жамойдзкія шкілетныя магілы, а целапальныя курганы выступаюць рэдка. У 1050—1100 гг. пануюць целапальныя курганы побач шкілетных жамойдзкіх магілаў, ад 1100—1200 гг. у раёне ніжняга Нёмана выступаюць амаль выключна целапальныя курганы.

З басэйну ніжняга Нёмана ў X—XI стст. целапальныя курганы пасоўваюцца ва ўсёй Жамойдзі. На тэрыторыі заходняй Латвіі целапальныя курганы паяўляюцца перш у XI стагодзьдзі (каля 1000 году яшчэ выступаюць шкілетныя магілы латышскага тыпу), хоць як рэдкія выпадкі /яны/ датуюцца з VIII і IX ст.[209].

Як бачым, маем тут зусім згодны з гістарычнымі дадзенымі час і кірунак павароту волатаў-люцічаў на ўсход, што дало пачатак гістарычнай Літве.

Прыгледзімся бліжэй к гэтаму незвычайна важнаму археалягічнаму матэрыялу, які дае асновы да разьвязкі пытаньня аб паходжаньні Літвы. Целапальныя курганы з гэтага часу былі знойдзеныя ў заходняй Жамойдзі ў наступных мясцовасьцях: Mitrava, Genčai, Ginteliški, Imbarė, Jazdai, Kiauleikiai, Laiviai, Lazdininkai, Pryšmančiai, Rūdaičiai, Mockaičiai, Paulaičiai, Pociai, Skomantai, Jazdaičiai, Nausodis, і іншых[210]. Усе мясцовасьці з паветаў Крэтынга, Таўрагі і Тэльша. У большасьці з названых мясцовасьцяў целапальныя курганы паходзяць з канца IX і X стст. пры пераважаючай колькасьці шкілетных жамойдзкіх магілаў, як напрыклад у Гінталішках, Лайвіяй (Лівах), Рудзічах і Мітраве. У іншых мясцовасьцях целапальныя курганы выступаюць аддзельна ад шкілетных жамойдзкіх магілаў.

[209] Ed. Šturms. Žur Vorgeschichte der Liven. Eurasia Sept. Antiqua X, Helsinki, 1936, s. 32. Šturms памылкова ўважае іх за магілы вікінгаў з 675—850 гг.

[210] Мітрава — знойдзена 10 шкілетаў і 6 целапальных пахавінаў на адным магільніку. У адным выпадку целапальныя пахавіны знаходзіліся пад шкілетам; Генчай — 6 целапальных пахавінаў; Гінтэлішкі — 21 шкілет, 12 целапальных пахавінаў; Імбары — 2 шкілеты і 3 целапальныя; Язды — 4 шкілетныя і 13 целапальных пахавінаў; Кяўлейкай — 48 шкілетных і 6 целапальных пахавінаў; Лайвіяй — 100 шкілетных і 1 целапальны курган; Лаздінінкай — 7 целапальных пахавінаў; Прысманцы — 22 шкілетных і 50 целапальных пахавінаў; Рудайчай — 3 целапальныя пахавіны і гэтак далей.

Вельмі часта сустракаюцца падвойныя паховіны ў кургане, як напрыклад у Гінталішках, Рамучох (два мужчыны) і Андулях (знойдзеныя астаткі ад целапальнага абраду мужчыны і жанчыны). У Скомантах пад целапальнымі паховінамі мужчыны знаходзіўся шкілет каня з вуздой і келзалам у зубах, у скорчаным палажэньні, праўдападобна закопаны жыўцом пасьля рыцарскіх змаганьняў пры абрадзе паховінаў, характэрных для славянаў. На шкілеце каня ляжаў плоскі камень, а на ім спаленыя косьці чалавека, прыкрытыя зноў каменьмі[211]. Гэты курган зусім падобны да шматлікіх у Прусах з конскімі паховінамі.

У Нікелішках знойдзены конь побач чалавека. Конь у поўнай упражы ляжаў галавой на захад, а пад ім знаходзіўся сьлед вялікага папялішча ад целапальнага абраду. У Гінталішках конь быў пахаваны пад спаленым памёршым, галавой у кірунку паўночна-заходнім.

У старэйшым пэрыядзе, калі целапальныя паховіны выступаюць рэдка (IX і X стст.) на супольных жамойдзкіх магільніках наглядаецца некаторы ўплыў жамойдзкай культуры ў пахавальным абрадзе. Так напрыклад у Гінталішках, Лівах (Laiviai) і Ляздынінках астаткі ад целапаленьня пахаваныя ў дамавіне разам із зброяй, снадзівам і прадметамі ўпрыгожаньня. У Яздах спаленыя косьці знаходзіліся ў мініятурнай дубовай дамавіне, а побач была скрыначка з ліповай кары з ткацкімі прыладамі як верацяно, ніці, пярсцёнак і нашыйнік з бронзы. Падобныя паховіны знайшоў Энгэль (C. Engel) у Лінкунах каля Тыльжы з IX ст., а Bazzenberger у Рамутах, Андулях у басэйне Нёмана з X—XII стст.

У пазьнейшым пэрыядзе (XI—XII стст.), калі целапальныя паховіны выступаюць у вялікай колькасьці, не знаходзім ужо сьлядоў уплыву жамойдзкай культуры, але ямныя целапальныя паховіны, характэрныя для прусаў, памораў і заходніх славянаў. Яны прадстаўляюць сабой круглую яму да 2,50 м глыбіні. Спаленыя косьці, ачышчаныя і ўложаныя, прыкрытыя каменьмі, як

---

211 Як паказвае сам назоў Скоманты, насельніцтва праўдападобна паходзіла з Судавы (Сударвы), дзе панавала культура прыкрываньня спаленых косьцяў каменнымі крушнямі. Імя апошняга правадыра Сударвы было Скомант.

напрыклад у Гэнчай і Прышманчай. Рэчы нябожчыка паламаныя і спаленыя разам з памёршым.

У сярэдняй Жамойдзі ад X ст. маем вялікую колькасьць целапальных паховінаў, з якіх дасьледаваныя былі ў Давойнах, Пакапах, Саргэнах, Сэрэджусе, Вэршвах, Граўжах, Русінах і Рымайсах[212].

Вонкавы выгляд курганоў напамінае раней тут сустраканыя, а таксама на Паморы і ў заходніх славянаў: невялікія насыпы над малой ямай у выглядзе міскі (30—50 цм у дыямэтры) да 30 цм глыбіні. Спаленыя косьці разам з попелам і спаленымі рэчамі пахаваныя ў гэтай яме. Курганы гэткага тыпу маем у Вэршвах, Давойнах і Граўжах. У іншых курганах сустракаем тоўсты (10—20 цм) пласт папялішча і вялікую колькасьць паломаных і спаленых розных прадметаў як зброю, пасудзьдзе, рознае снадзіва, косьці разам спаленых зьвяроў і іншае. Многія курганы абложаныя каменнымі кругамі. Залічыць іх трэба паводля багацьця знаходак да знатнейшага пласту насельніцтва. Гэткія курганы дасьледаваныя былі ў Саргэнах, Вэршвах, Сэрэджусе, Пакапах, Русенах і Рымашох. Кірунак іх ідзе на паўдзённы ўсход у глыб крывіцкай тэрыторыі, дзе гэткага тыпу курганоў сустракаем вельмі многа.



*Крывіч (рэканструкцыя)*

У сярэдняй Жамойдзі побач целапальных курганоў сустракаем мноства конскіх шкілетаў, так сама як на Віленшчыне ды Горадзеншчыне, што даказвае, што тут канцэнтравалася ва-

[212] Раскопкі праводзілі ў 1932—39 гг. C. Engel і Puzinas. Апрача целапальных паховінаў знойдзена шмат конскіх шкілетаў.

еншчына, якая дала аснову для паўстаньня Вялікага Княства Літоўскага.

У сярэдняй Жамойдзі гэткія конскія магілы былі дасьледаваныя ў Пакапах і Вэршвах Ковенскага павету, у Граўжах і Русенах, Койданаўскага павету і Рымашох каля Панявежа. Кернаў (Kiernava), як ведама, былі пачатнай сталіцай гістарычнай Літвы. Коні пахаваныя або разам з спаленымі касьцямі мужчыны, як у Русенах і Граўжах, або ў аддзельным «конскім магільніку» як у Пакапах, Вэршвах, Рымашох. Ва ўсіх выпадках шкілеты коней няспаленыя. Лік іх розны ад аднаго каня да 8, як напрыклад у Русенах, Граўжах, Вэршвах. У Русенах і Пакапах знойдзеныя апрача конскіх шкілеты сабакаў.

Усе коні пахованыя ў кірунку заходнім, паўночна- і паўдзённа-заходнім. Палажэньне конскіх шкілетаў рознае: найчасьцей глыбока скорчаныя і на каленах, часам стоячыя на нагах, а толькі у адным выпадку шкілет ляжаў на сьпіне. У Вэршвах конскі шкілет меў завязаныя вочы і знаходзіўся пры ім мяшок з аўсом. Усё гэта даказвае, што коні хаваліся жыўцом. У зубах маюць келзалы, на галаве вуздэчкі і повады з бронзавых ланцужкоў. Збруя ўпрыгожаная бронзавымі і сярэбранымі бляшкамі, сьпіралямі і пацеркамі, што сьведчыць, што гэта былі коні воінаў, баяраў.

Звычай хаваньня коняў у гэткі спосаб побач целапальнага абраду воіна выступае ў Прусах куды раней, бо ў старэйшую жалезную пару ды між IX і XIII ст. ва Усходніх Прусах гэты звычай быў так распаўсюджаны, што Нямецкі ордэн ва ўмове з 1249 г. вымагаў прысягі ад насельніцтва, каб пакінула стары звычай целапаленьня і хаваньня памёршых разам з коньмі, зброяй і іншымі рэчамі.

У паўночнай Жамойдзі (у раёне Шаўляў) дасюль ня знойдзена целапальных курганоў ані конскіх магілаў з X—XIII стст., за выключэньнем Куршэнаў (павет Шаўлі), дзе аднак не было ніякіх рэчаў, апрача целапальных паховінаў, што не дазваляе ўстанавіць храналёгіі гэтага кургана. Тут пануюць непадзельна ў гэтым часе жамойцкія плоскія шкілетныя магілы, засяг якіх ідзе далей на поўнач, ахапляючы Курляндыю і Зэмгалію[213].

---

[213] H. Moora (Tartu, 1938) сьцьвярджае далейшы яе засяг аж да паўночнай Эстоніі, падкрэсьліваючы яе самастойнасьць і жывучасьць, датрываўшую да гістарычных часоў.

Такім чынам пачаткавы засяг славянскай ваеншчыны ў X—XI стст. ахапляў басэйн ніжняга Нёмана, а ў сярэдняй Жамойдзі пачынаўся ад ракі Дубісы, што знаходзіць пацьверджаньне ў гістарычных крыніцах[214]. Завалоданьне паўночнай часткі Прыбалтыкі літоўскай ваеншчынай адбылося на пераломе XII і XIII стст.[215]. Крыху раней (XII ст.) была апанованая Курляндыя, а адсюль ішла славянізацыя заходняй Латвіі, якая была спыненая высадкай тут на пачатку XIII ст. Лівонскага ордэну, у выніку чаго жамойцка-латышская культура ўтрымалася ў Зэмгаліі аж да гістарычных часоў.

На паўдзённы ўсход ад Дубісы і Невяжы маем дачыненьня з прасторай Літвы, старой славянскай тэрыторыяй, на якой у X—XIV стст. (як і раней) масава выступаюць целапальныя курганы з культурай, характэрнай для басэйну Нёмана, Прусаў і Памора. Дасьледаваныя тут былі магілы ў наступных мясцовасьцях: (апрача ўжо названых): Apsas, Aukštoliai, Bielmanty, Dubary, Gudahaj, Kijėnai, Łapušyški, Łuža, Pernarava, Peršukšty, Radikłai, Šalcieny, Smilgeliai, Svienta, Vēžlaukis, Богін, Будраны, Ванагішкі, Жынгі, Загор'е, Занарач, Засьвір, Зязюлька, Кернава, Лентупы, Мацэлі, Парэчча, Пільвіны, Плікішкі, Салапяцішкі, Тверэч, Швайцары і іншых.

Лік целапальных кургаюў, як было сказана раней, незвычайна вялікі. Так напрыклад у Богіне налічваецца іх каля 150, у Парэччы — 100, у Апсе — 70 і г. д. На жаль была толькі частка з іх дасьледаваная. Большасьць кургаоў мае круглую форму, сустракаюцца таксама прадаўгаватыя і чатырохкутныя. Вышыня кургаоў у сярэднім 80 цм, дыямэтр ад 4 да 10 м. Кругом кургаоў сьляды ямаў, скуль бралася зямля на насып. Каменныя кругі адсутнічаюць. Дно кургана высыпанае жвірам або чыстым пяском.

[214] Летапісец Вялікага Княства Літоўскага і Жамойдзкага: «У верх Нёмнам пашлі да ракі Дубісы... Над каторымі-ж рэкамі над Дубісаю і над Нёмнам і над Юраю там ся пасялілі і пачалі размножвацца...» Басэйн Дзьвіны знаходзіўся каля 1186 г. у валоданьні Полацка.

[215] Першы раз маем зацемку ў Генрыха Латыша каля 1190 г. аб літве, прымаўшай удзел разам з крывічамі і курамі ў нападзе на Плесколу, сядзібу Лівонскага ордэну. Аб тым, што Курляндыя і Зэмгалія належалі да супольнага арганізму прусаў (волатаў-люцічаў) глядзі дакумант з 1231 г. (Acta Boruss.): «Terre Pruzie, ex una parte fluvii Lipz Pomizania, Laulania, Ermelandia, Notangia, Barcia, Peragodia, Nadravia, Galindo, Syllones, Zudua, Littovia; ex altera parte Lipz Zambia, Scalwo, Lammata, Curlandia, Semigalia».




*Гарадзішчы паўночнай Крывіччыны: 1 — Пруднікі; 2 — Сабалеўшчына; 3 — Панізава; 4 — Бароўна; 5 — Азяруты; 6 — Асінавік (Навасёлкі) (паводле Ў. Шадыры)*

Целапальныя паховіны знаходзяцца ў розных мясцох кургана. У большасьці курганоў знаходзяцца астаткі аднаго памёршага, але сустракаюцца па 2—3 паховіны на папялішчы. Попельніцы адсутнічаюць. Косьці зьмешаныя з вугальлем і попелам ды пагнутымі і паломанымі рэчамі. Памёршыя спальваліся ў вопратцы, са зброяй, снадзівам, упрыгожаньнем і конскай збруяй (упражай). У першым пэрыядзе гэтага часаліку (да сярэдзіны XII ст.) сустракаецца вялікая колькасьць зброі. У XIII ст. зброі далёка менш, або выступае рэдка (час сфармаваньня Вялікага Княства). Сярод конскай упражы і прынадлежнасьцяў выступаюць сёдлы, астрогі, уступні, бізуны, повады (Будроны, Мацэлі, Пэршукшты, Швайцары). Часта здараецца ў мужчынскіх курганох серп, кавалкі глінянага пасудзьдзя.

Конскія магілы вельмі частыя. Маюцца шкілетныя і целапальныя. Напрыклад у Сьвятой пад курганом знаходзіўся шкілет каня з поўнай упражай, а пад ім серп. Конь быў закопаны (жыўцом) у стаячым палажэньні, галавой у заходнім кірунку. Падобныя знаходкі былі ў Лапуцішках і Будронах.

У Швайцарах каля Вільні, Зязюльцы, Засьвіры і Панізе коні былі спаленыя разам з чалавекам і разам пахаваныя. У Жынгах і Будронах былі таксама знойдзеныя курганы з конскімі астаткамі без сьлядоў чалавека. Целапальны абрад з апісанай пахальнай культурай утрымаўся на ўсёй азначанай тэрыторыі (у заходняй Крывіччыне) без пераменаў аж да XIV ст. Гістарычныя крыніцы поўнасьцю гэта пацьвярджаюць[216].

Апрача целапальных курганоў выступаюць на прасторы заходняй Крывіччыны (гістарычнай Літвы) і шкілетныя магілы з XI—XIII стагодзьдзяў. Іх можна падзяліць на дзьве групы: 1) шкілетныя магілы славянскага (крывіцкага) паходжаньня і 2) шкілетныя магілы неславянскага паходжаньня.

## Шкілетныя магілы славянскага паходжаньня

Ад XI—XII стст. сустракаюцца побач целапальных курганоў у заходняй Крывіччыне шкілетныя курганы і ямныя магілы з славянскім культурным зьместам. Некаторыя польскія дасьледчыкі, як Яроцкі (S. Jarocki, 1901), Шукевіч (W. Szukiewicz, 1909), Цэгак-Галубовіч (H. Cehak-Hołubowiczowa, 1936—1939) і іншыя ўважаюць іх за тыповыя і характэрныя для Крывічоў, супрацьстаўляючы іх целапальным курганом, якія памылкова залічаюць да «балцкага» або варажскага паходжаньня.

Навейшыя студыі над так званай «лужыцкай» і славянскай наагул культурай сьцьвярджаюць аднагалосна яе целапальны і курганны характар з некаторымі адхіленьнямі з выніку аддзейніваньня культуры субстрату, аб чым была мова раней.

Шкілетныя магілы з XII—XIV стст. на нашай тэрыторыі — гэта вынік пашырэньня хрысьціянства, якое ў XII—XIII стст. сягала да Бугу і ахапляла Сударву (Судавію-Сувальшчыну) у Прусах. Раскопкі на Каложы і старым замчышчы ў Горадні даказваюць, што там ужо на пачатку XII ст. існавала хрысьціянская

[216] Długosz. Opera Omnia, XII, s. 474: «Дадаецца пры спаленні цела нешта лепшае, конь, бык, карова, крэсла, зброя, адзеньне, пас, маністы, пярсцёнак і [ўсё] спальваецца разам з нябожчыкам; не зважаючы ці былі яны залатыя ці срэбныя...»

M. Stryjkowski. Kronika polska, litewska, żmudzka: аб целапальным абрадзе пры паховінах вялікага князя Сьвінтарога пры ўліцці Вялейкі ў Віллю каля Вільні ў 1271 г.

царква ўсходняга абраду. Супрасльскае Евангэлле таксама паходзіць з XII ст. З іншых крыніцаў можна паказаць на справаздачу біскупа Хрыстыяна Папе /рымскаму/ у 1210 годзе, дзе маем зацемку аб існаваньні там праваслаўя, а таксама на булу папы Аляксандра IV з 1257 г. да польскіх біскупаў аб барацьбе з няверным і схізмай у Прусах, ды булу Урбана IV з 1267 г.

З XI—XII стст. знойдзеныя побач целапальных курганоў па шкілетнай магіле ў Засьвіры, Шальцэнах і Апсе. У Засьвіры шкілет ляжаў у сярэдзіне кургана на зямлі (не ў яме) у заходнім кірунку з выцягнутымі канцавінамі. Побач правай нагі знаходзіўся нож і сякера, пры левай назе — гліняная пасудзіна. З прадметаў упрыгожаньня былі шкляныя пацеркі, характэрныя для славянаў. Падобны матэрыял знойдзены ў Шальцэнах. У Апсе шкілет ляжаў на левым баку з рукамі зложанымі на грудзёх, ногі крыху скорчаныя. Каля грудзёў была гліняная пасудзіна славянскага паходжаньня.

У Браслаўі выкрыта шмат шкілетных курганоў: увесь курганны магільнік падзелены быў на дзьве часткі. Ва ўсходняй знаходзіліся выключна шкілетныя магілы, у заходняй — целапальныя. Гэткі падзел на шкілетныя і целапальныя курганы сустракаем у Загор'і, Залесках і Парэччы. Ва ўсіх шкілетных курганох знойдзеныя розныя прадметы, зброя і ўпрыгожаньні. Памёршыя ляжалі ў заходнім кірунку, у большасьці выпадкаў паложаныя былі на зямлі і прысыпаныя курганом, некаторыя пахаваныя ў яме. Глінянае пасудзьдзе найчасьцей пастаўленае ў нагах (у жамойдзкіх — у галовах).

Апрача вышэй названых мясцовасьцяў былі яшчэ Шукевічам дасьледаваныя шкілетныя курганы ў Ашмянскім павеце ў Казароўшчыне, Лянкоўшчыне і Высокім. Не даюць яны новага матэрыялу апрача кургану ў Казароўшчыне, які быў зроблены з зямлі і каменьняў.

Падобныя курганы з каменьмі знайшоў Шукевіч у Вузоўшчыне, Апанаўцах, Карначыçе, Ночы, Пузелях, Дварчанах, Шылатнях (W. Szukiewicz, 1899). Курганы гэтыя з ранейшага часу маюць круглую форму, з пазьнейшага (XIV—XVI стст.) падаўгаватую. У апошніх былі знойдзеныя манэты Кейстута, Вітаўта, Вацлава, Аляксандра. Шкілеты ляжалі ў заходнім кірунку

з рукамі выпраставанымі ўздоўж тулава ў ямах 1,50 м глыбінёй. У мужчынскіх магілах знаходзілася вельмі шмат зброі, у жаночых характэрныя славянскія ўпрыгожаньні, як пацеркі, кольчыкі, сьпіральныя брошкі і іншае.

Вольга наказвае пахаваць дзераўлянскіх паслоў у лодках «врінуша е в яму і с лодею» — паводле славянскага звычаю. Паховіны княгіні Вольгі /памёрла ў 969 г./ адбыліся — паводле яе волі — супраць народнага звычаю: «і прызвавшы сына своего Святослава, заповеда ему погрэсті ся с землёю ровно, а могілы не суті, ні трызны творыті» (ПВЛ). Аб тым, што пасьля прыняцьця хрысьціянства зьменены быў толькі звычай целапаленьня на целапахаваньне, а ўсе /астатнія/ старыя звычаі доўгі час практыкаваліся, сьведчыць цэлы рад гістарычных вестак і раскопак у глыбіні славянскай тэрыторыі. У княскай магіле з канца XI ст. у Дзесяцінай царкве ў Кіеве былі знойдзеныя зброя і іншыя рэчы; з XII ст. у Юр'евым манастыры ў Ноўгарадзе — зброя і пасудзьдзе з пітвом. Стары звычай існаваў нават у XII ст. Сын Глеба Юр'евіча — князь Уладзімір /памёршы ў 1187 г./, быў пахаваны ў «караблеце»[217].

У жыцьці Канстанціна Мурамскага /памёр у 1129 г./ чытаем, што калі Канстанцін пахаваў свайго сына паводля хрысьціянскага абраду, то «неверніі люде, видяшчэ сия, дивляхуся еже не по их обычаю творымо бе погрэбение, яко погребаему князю Михаилу во знак на востоце, а верх холмом не сыпаху, но ровно с землёю».

## Шкілетныя магілы неславянскага паходжаньня

Сюды аднесьці трэба яцьвяскія курганы і жамойцкія магілы з канца XIII і XIV стст., рассеяныя ў заходняй Крывіччыне. На жаль многія з іх дасюль ня былі дасьледаваныя. Яцьвяскага паходжаньня безумоўна ёсьць вялікія падаўгаватыя курганы з XIV—XVI стст. з шкілетным зьместам у глыбокіх ямах, выложаных каменнымі плітамі і прыкрытых дошкамі, дасьледаваныя Шукевічам у Апаноўцах, Вузоўшчыне, Карначысе, Пузелях,

[217] Анучин Д. Н. Сани, ладья и кони как принадлежности похоронного обряда. 1890.

Дварчанах і іншых мясцовасьцях Лідчыны. Яны ня розьняцца ад яцьвяскіх курганоў на Падляшшы і прытоках ракі Нарвы, дасьледаваных Дударэвічам, Самаквасавым, Паўлоўскім, Прыбароўскім і Язджэўскім.



*Жалезныя дзіды і стрэлы з магільнікаў паўночнай Крывіччыны (паводле Ў. Шадыры)*

Час паяўленьня яцьвяскіх курганоў у вадазборы Нёмана поўнасьцю згаджаецца з гістарычнымі дадзенымі. Пад напорам крыжакоў у канцы XIII ст. наступае перасяленьне насельніцтва з Прусаў у Літву: пагаранаў, надраваў, бартаў, судаваў разам з яцьвягамі[218]. Тройнат уцёкшае з Прусаў насельніцтва ў 1276 г. рассяліў у Горадзеншчыне і Слонімшчыне. Такім чынам у Горадзеншчыне, Лідчыне і Наваградчыне ў канцы XIII ст. вытварылася вялікае скупішча насельніцтва, а разам з гэтым і ваеншчыны, што дало новы, небясьпечны для суседзяў ваенны табар, які распачаў рабаўнічыя напады на захад і поўдзень[219].

Сярод прыбылага насельніцтва былі і яцьвяскія групы, аб іх некаторых селішчах сярод крывіцкага насельніцтва сьведчаць

[218] Калі татары і Даніла Галіцкі ў 1277 г. ішлі паходам на Літву, барты і прусы, зрабіўшы вылаcку з Горадні, зьнішчылі вялікі аддзел русінаў (гл.: Ипатьевская летопись, Карамзин).

[219] Напады Літвы на Польшчу ў большым памеры прыпадаюць на другую палавіну XIII ст., калі з аднаго боку Літва пашырае сваю ўладу на Горадзеншчыну, Ваўкавышчыну, Слонімшчыну і Наваградчыну, а з другога — расьце людзкі патэнцыял з прускіх перасяленцаў. Іхнія паходы былі ў 1244, 1246, 1264 гг.

У 1278 г. паводле Длугаша літва зьнішчае Куявы; пад 1278 годам у Гіпат. летапісу апісаны паход літвы і яцьвезі на Люблін; у Длугаша ў 1281 г. на Мазуршчыну. У гэтым жа годзе Тройдэн у зьнішчальным паходзе даходзіць да Кірсбурга ў Прусах; у 1284 г. ідзе Лютувар («rex Lethowie») на Польшчу; наступныя гады характэрныя яшчэ большай экспансіяй Літвы і шматлікімі войнамі галоўным чынам з нямецкімі ордэнамі. Вялікі экспансіўны патэнцыял Літвы, вытвараны на працягу 50 год, быў бы немагчымы бяз масавага прыплыву насельніцтва з Прусаў.

назовы вёсак, як Баландзі, Кірбэдзі, Скондзі, Скрундзі, Сурконты, Юндзілы ды вялікая колькасьць тыпу Яцьвезь. Яцьвяскія правадыры, перайшоўшыя на службу Літвы, тварылі частку літоўскага баярства[220].

Войны з крыжакамі і лівонскім ордэнам былі прычынай пэратасоўкі і жамойдзкага насельніцтва ў Прусах і Жамойдзі. Перш за ўсё жэймы з Жэміі і Надравіі, пакідаючы сваю ранейшую прастору, сяліліся ў межах Літвы. Такім чынам паўночная Сувальшчына і прастора між Чорнай Ганчай ды Нёманам запоўнілася жамойдамі, утвараючы яшчэ сёньня існуючую аддзельную дыялектычную акругу з выразным крывіцкім субстратам[221]. Час гэтых перасяленьняў ахапляе пэрыяд другой палавіны XIII і пачатку XIV стст.

У XIV ст. з прычыны жорсткіх змаганьняў з нямецкімі ордэнамі Жамойдзь была спустошаная[222] і вялікая колькасьць жамойдзкага і куршскага насельніцтва[223] прымушаная была перасяліцца ў глыб Літвы. Новыя перасяленцы асядалі ў раёне на поўдзень і ўсход ад Вільні, сягаючы да Нёмана і верхняй Беразіны, гэта значыць на пэрыфэрыях тагачаснай Літвы, на прасторы між Налібоцкай і Рудніцкай пушчамі ды Дзьвіной.

Сьлядамі гэтых перасяленцаў ёсьць назовы жамойцкіх паселішчаў на вышэй названай прасторы як Гераняны, Дайлідкі, Жамойты, Верганы, Мэршычы, Жыжма, Жраўжышкі, Кіргеляны, Кемелішкі і шмат іншых. Некаторыя з іх выразна паказваюць на свой перасяленчы характар, напрыклад Жамойдзь, Жамойты, Упіта, Расены, Павяжы, Юрацішкі, Дубісы і г. д. Праўдападобна да жамойцкіх перасяленцаў адносяцца

---

220 Напрыклад: Гіны, Гунды, Гэлгі, Даўгірды, Жэздры, Конгэнты, Конты, Кунды, Солтаны і іншыя.

221 Характэрныя элемэнты гэтага дыялекту ёсьць дзеканьне і цеканьне, г. зн. вымаўляньне злучэньняў «di» і «ti» як «dzi» і «ci», напрыклад жамой. «Dievas» — «Dzievas», «tievas» — «cievas». Далей зацьвярдзелае вымаўленьне «r» і «š» як у крывіцкай мове; адсутнасьць насавых гукаў ę, is, ęs, ų, ą і замена іх адкрытымі а, о, у, і, прытым ą перадаецца як у; адсутнасьць ė і замена яго простым е; жамойцкае «е» перадаецца як «ia»; існаваньне прыстаўнога h як напр. «hała» замест «ała» і іншае.

222 Напады крыжакоў на Літву і Жамойдзь пачынаюцца насьля апанаваньня Прусаў у 1283 г. У першую чаргу полем ваенных змаганьняў была Жамойць. Аб зьнішчэньні Жамойдзі ў бясконцых бітвах хопіць некалькі зацемак. У 1311 г. крывавы паход крыжакоў апісвае Dusburg. Зьнішчалі яе і мечаносцы з Лівоніі. У Длугаша шмат зацемак аб жудасных налётах немцаў на Жамойдзь і Літву, пусташэньні паселішчаў і зьнішчэньні насельніцтва.

223 Аб курлянцкіх нерасяленцах у заходняй Крывіччыне могуць сьведчыць шматлікія назовы паселішчаў як Куршы каля Алькенікаў, Курнеляны каля Табарышкаў, Куршыновічы каля Ляхавічаў; Корэняты каля Сьвіранкі; Карэлічы і іншыя.

шкілетныя ямныя магілы ў Шо (пав. Дзісна), Кісеве (пав. Паставы), Саленіках (пав. Наваградак), дасьледаваныя Г. і В. Цэгак-Галубовічамі ў 1938 і 1939 гадох.

Знаходзячыся ў крывіцкім акружэньні, гэтыя новыя жамойцкія выспы на працягу наступных стагодзьдзяў аславянілізаваліся, страцілі сваю мову і жамойцкую культуру. Паводля статыстыкі з 1890 году, жамойцкі элемэнт у Віленшчыне прадстаўляў толькі дробныя астраўкі ў крывіцкім моры, якія налічвалі некалькі дзесяткаў жамойдаў.

Запісаны Тышкевічам і выданы ў 1871 г. фальклёр з Ковеншчыны дапаўняе карту Развадоўскага аб наяўнасьці жамойцкага элемэнту ў Ліцьве (Tyszkiewicz, Wilija i jej brzegi, Drezno, 1871). Гэты фальклёр паказвае на крывіцкае насельніцтва Віленшчыны і Ковеншчыны ў канцы XIX ст. з некаторымі элемэнтамі польшчыны, характэрнымі для двароў[224].

Жамойцкія назовы на тэрыторыі заходняй Крывіччыны не абазначаюць зусім, што ўсе яны адносяцца да жамойцкіх астраўкоў. Большасьць з іх абазначаюць славянскія паселішчы, заснаваныя літоўскімі баярамі і шляхтай, якая раней сядзела ў Жамойдзі і ад назоваў жамойцкіх атрымала свае прозьвішчы і дала гэтыя назовы новым паселішчам, аб чым гутарка ніжэй.

На заканчэньне нашага агляду кінем яшчэ раз вокам на жамойцкую прастору ўжо ў гістарычных часох пасьля ўвядзеньня хрысьціянства, каб поўнасьцю пераканацца, што нашыя выва-

---

224 Вось некаторыя прыклады гэтага фальклёру: а) назовы падводных каменьняў у Віліі за Трокамі: Чырвоны, Свіння, Кумпяк, Кульбака, Тры браты, Сольнік, Сарна, Жарабец, Алейнік, Пятушок, (за Сьвятой) Карова, Мядзьведзь і Пац (каля Коўні);
б) народныя песьні ў Троцкім павеце:

Зялён малён, зялён малён
Да па падворы паслаўся.
Малады кароль
У дарожаньку прыбраўся,
і г. д.

Цераз бор зеляненькі
Бяжыць конь вараненькі.
То ня конік выбягае,
То Кароляк выяжджае ...

Сіні голуб, сіні голуб
Галубка сінейша.
Мілы бацька, міла матка
Дзяўчына мілейша...

ды адносна абазначэньня тэрыторыі Жамойдзі, яе матэрыяльнай і духовай культуры, выражанай у пахавальным абрадзе, ёсьць правільныя.

Вось жа дасьледаваныя магілы з XIV—XVI стст. у Лаўменах (Laumenai), Пакапах і Паштувах Ковенскага павету; у Паропе і Урнежах Кейданаўскага павету; у Тынталах павету Крэтынга; у Кельме і Пошкачах павету Расены; у Санконах і Тайкунах павету Сэйны не далі ніякіх зьменаў у пахавальным абрадзе ў параўнаньні да раней выяўленай жамойдзкай матэрыяльнай і духовай культуры. Усе магілы плоскія і шкілетныя, спалучаныя ў магільнікі. Памёршыя ляжалі ў дамавінах з бярвеньняў, /галовамі/ у заходнім кірунку. Зброі пры памёршых ня знойдзена, але розныя рэчы, як нажы, поясы. З прадметаў упрыгожаньня — пярсцёнкі і адна жалезная бранзалета. Затое знойдзена шмат манетаў пад галавой памёршага, у руках або на грудзёх. Праўдападобна грошы клаліся ў скураным кашальку, бо ў Пакапах знойдзеныя былі сьляды скуры.

***

І так археалягічныя раскопкі далі рэвалюцыйны матэрыял, дасюль невыкарыстаны крывіцкай навукай. Жамойцкія дасьледнікі (Alseikaltė-Gimbutienė, Puzinas, Baleniunas і іншыя) стараюцца гэты матэрыял аслабіць цьверджаньнем, быццам у Х ст. жамойцкае насельніцтва зьмяніла сваю культуру з целапахавальнага на целапальны абрад і што гэты апошні ёсьць характэрны не для славянаў, але для «балтаў». Абсурдальнасьць гэтага цьверджаньня мы наглядалі пры разглядзе паасобных акругаў у розных часох. Мы бачылі — з аднаго боку — трываласьць і цяглась целапальнай славянскай культуры, з другога боку — гэткую трываласьць і цягласьць жамойцкай целапахавальнай культуры аж у глыб гістарычных часоў.

Археалягічны матэрыял разьбівае рад фантастычных, дасюль існуючых тэорыяў:

1) быццам Крывіччына ў дагістарычныя часы была заселеная «балтамі», а Крывічы прадстаўляюць сабой «балцкаславянскі» элемэнт (Шчэрбакіўскій; Янка Станкевіч, С. Брага /В. Тумаш. — *Рэд.*/, А. Спіцын);

2) быццам яцьвягі і прусы належаць да «балцкай» этнічнай, моўнай і культурнай сям'і;
3) быццам Жамойдзь і Літва /ёсць/ адно паняцьце, а Вялікае Княства Літоўскае — палітычны твор жамойдзкага паходжаньня.

Раскопкі даказваюць, што ад палавіны бронзавай пары на тэрыторыі Прусаў, у басэйне ніжняга Нёмана і Дзьвіны, уздоўж Балтыцкага пабярэжжа сядзелі славяне-крывічы (волаты, люцічы, нарцы). На ўсёй гэтай прасторы да II ст. перад Хр. не знаходзім зусім сьлядоў, характэрных для «балтаў» (жамойдаў і латышоў). Да гэтага часу гэтыя апошнія знаходзіліся не ў Прыбалтыцы, але між Дняпром і Донам, потым у вярхох Дняпра і Дзьвіны і вадазборы Ловаці. Такім чынам /на працягу/ больш /за/ 1000 год уся Прыбалтыка была славянскай прасторай, прасторай волатаў, ад якіх паходзіць і назоў самога мора.

Вялікая міграцыя славянаў на захад у канцы II ст. пасьля Хр. была прычынай руху «балтаў» (жэймаў) таксама на захад, у выніку чаго ад II ст. пасьля Хр. знаходзім у сёньняшняй Жамойдзі першыя сьляды жэймаў у раскопках магілаў з гэтага часу.

У V—VI стст. пасьля Хр. рух славянаў на захад асягнуў найдалейшы засяг (пабярэжжа Фрызіі і Батавіі ў Галандыі ды Брытыйскія астравы), а гэтым часе жэймы пашырылі сваю тэрыторыю на захад, даходзячы да ракі Прэголы. Гэта быў найдалейшы засяг жэймаў на захадзе. У паўдзённым кірунку яны не займалі шырэйшай тэрыторыі, як да ракі Невяжы. Гэты стан утрымаўся да X ст. пасьля Хрыста.

У X ст. наглядаецца пачатак паваротнага руху славянаў з заходу на Усход у выніку наступу аб'яднаных нямецкіх плямёнаў. Рэзультатам гэтага паваротнага славянска-крывіцкага руху было паўстаньне прускай і літоўскай ваеншчыны і заваладаньне ізноў усяе Прыбалтыкі славянамі.

Канчатковыя перамены наступілі ў XIII—XIV стст. у выніку інвазіі нямецкіх ордэнаў у Лівоніі і Прусах. Пад ціскам ваенных падзеяў з нямецкімі ордэнамі ў гэтым часе жамойды прымушаныя былі часткова пакінуць сваю прастору і пасяліцца (падобна як і яцьвягі) у глыбіні крывіцкай тэрыторыі

жамойцкімі астраўкамі між крывіцкім насельніцтвам, дзе хутка засыміляваліся. Сьляды гэтых перасяленцаў знаходзім у геаграфічных назовах жамойдзкага паходжаньня, даходзячых аж да Палесься, аднак усюды яны адносяцца толькі да вёсак, не старэйшых XIII—XIV стст., без сьлядоў самастойнага палітычнага жыцьця (адсутнічаюць сьляды замчышчаў, гарадзішчаў ці абаронных пунктаў).



*Пахаванне шляхетнага ліцьвіна спаленьнем цела*

На аснове гэтых сьлядоў жамойцкіх перасяленцаў з XIII—XIV стст. абсурдальным ёсьць з аднаго боку цьверджаньне аб «балцка-славянскім» элемэнце крывічоў (балцка-славянская моўная еднасьць адносіцца да неалітнага пэрыяду на зусім іншай тэрыторыі), а з другога прэтэнсіі сёньняшніх жамойдаў да крывіцкай тэрыторыі як Віленшчына, Горадзеншчына, Наваградчына, Меншчына. Прэтэнсіі гэтыя падобныя да нямецкіх, калі яны даказвалі нямецкасьць усходняй славянскай прасторы (Deutsches Osten) на аснове праўдападобных там невялічкіх нямецкіх пасёлкаў.

Астаецца нам яшчэ ў гэтай кніжцы бліжэй спыніцца над паходжаньнем назову Літва і яе славянскасьцю ў сьвятле гістарычных крыніцаў.

Летапісец Вялікага Княства Літоўскага з XV ст., ствараючы легэнду аб рымскім паходжаньні літвы (каб супрацьставіцца заманкам польскай шляхты быццам яна «шляхетнейшага» роду ад літоўскіх баяраў) і назоў краіны выводзіць ад лацінскага «litus» (бераг):

> І празваў тот Кернус бераг (над Нёманам, Дубісаю і Юраю) па влоску /у сэнсе «па лаціне». — *Рэд.*/, гдзе ся людзі яго множаць ЛІТУС, а труба, што на іх іграюць ТОУБА, туба. І даў імя тым людзём сваім па лаціне, злажыўшы бераг Літус, а труба — туба і даў ім імя Літустуба, што пак простыя людзі ня ўмелі знаці па лаціне і пачалі зваці Літва і ад таго часу панства Літоўскае пачалося зваці і множыці ад Жамойці.

Няма хіба патрэбы даказваць недарэчнасьць гэтага цьверджаньня, знайшоўшага паўтарэньне ў Длугаша, Стрыйкоўскага, Каяловіча ды іншых. Гэтая легэнда падобная да «Энэіды» Вэргілія, які выводзіў рымлянаў з нашчадкаў траянцаў дзеля падмацаваньня роду цэзара і рымскай імпэрыі. Блізасьць некаторых канчаткаў у жамойцкай мове да лацінскіх (на «as», на «s») спрыяў гэтай легэндзе, што Длугаш і Кромер прымалі за вачавіднае[225]. Ані жамойдзкая мова не паходзіць ад лацінскай, ані радавод літоўскага баярства ад рымскага рыцарства. Недарэчнасьць першага заложаньня вядзе да недарэчнасьці другога як выснаву.

Шафарык (Šafarik. Slovanske Starožitnosti) рабіў няўпэўненае дапушчэньне, паклікаючыся на Аміяна Марцэліна, Іардана і іншых старых аўтараў, успамінаючых аб літянах (Letos у Марцэліна, Litiani у Іардана і г. д.), як аб барбарскім племені, якое жыло ў заходняй Галіі ў ваколіцах Рэймсу (некаторыя называюць гэта племя люціца), што магчыма ліцяны разам з вэндамі прыйшлі ў Прыбалтыку аж з Галіі і ад іх паходзіць Літва.

---

[225] Марцін Кромер (1512—1589) — польскі гісторык, аўтар знакамітага твора «Аб паходжанні і гісторыі палякаў» (1555 г.)

Мацей Стрыйкоўскі (1547—1590) — польскі гісторык, аўтар шэрагу гістарычных твораў, з якіх найбольш вядомая «Хроніка польская, літоўская, жамойцкая і ўсяе Русі» (1582 г.).

Альберт Каяловіч (1609—1677) — рэлігійны дзеяч і гісторык з ВКЛ. Галоўны твор — «Гісторыя Літвы» ў двух частках на лацінскай мове (1650, 1659). — *Рэд.*

Нарбут (T. Narbut, 1835) уважае літву за нашчадкаў гэрулаў, Недэрле (L. Niederle, 1911) — за аўтахтонаў, утоесамляючы літву з лета-жамойдамі. Буга (K. Buga, 1924) на аснове лінгвістычных студыяў гэаграфічных назоваў выводзіць літву са ўсходу, з прасторы верхняга Дняпра і Волгі. На гэтым становішчы стаіць Лаўмяньскі (H. Łowmiański) і многія іншыя аўтары.

Памылковасьць сучаснай і ранейшай літаратуры адносна паходжаньня Літвы і яе этнічнага аблічча заключаецца ў тым, што так ранейшыя як і сучасныя аўтары:

1) не бралі пад увагу існуючага археалягічнага матэрыялу ў спалучэньні з лінгвістычнымі і гістарычнымі студыямі;
2) свае вывады рабілі на аснове простага, так сказаць, вульгарнага, спасыланьня на некаторыя ўрыўкі розных крыніцаў (якія мы ніжэй разгледзім) без глыбейшай навуковай аналізы і крытыкі;
3) не маглі вызваліцца з традыцыйнага палону першых дасьледнікаў (напрыклад Lucas David, Gruenau, Kojałowicz, Stryjkowski, Lelewel, Narbut) ды з памяшаньня розных паняцьцяў Літвы і Жамойдзі ў адно, ствараючы



*Літоўскія (ліцьвінскія) баяры XV ст. (рэканструкцыя Ю. Бохана)*

блуднае кола, перапоўненае рознымі супярэчнасьцямі, якіх разьвязаць ня ў сілах. Не малую ролю адыгрывалі ў некаторых аўтараў і палітычныя мамэнты.

Гаворачы аб паходжаньні прусаў мы падкрэсьлівалі шлях і час павароту ў Прыбалтыку люцічаў-волатаў ды іх еднасьць, абаснаваную на рэлігійнай сувязі, на еднасьці культу ў першапачатковай фазе тварэньня будучых арганізмаў Прусіі і Літвы. У XI і XII стст. ў валоданьні славянскай ваеншчыны знаходзілася ўся прыбалтыцкая прастора ад Віслы да Заходняй Дзьвіны з розным этнічным субстратам, гэта значыць славянамі, жамойдамі, латышамі, курамі і лівамі. Побач гістарычных крыніцаў археалягічныя пошукі даюць на гэта выдатнае падмацаваньне. Такім чынам мы маем першую цьвёрдую і ў сваіх выніках кансэквэнтную /паслядоўную. — *Рэд.*/ аснову для вывучэньня пытаньня Літвы.



***Вайдэлот і вайдэлоткі***

Фактычна істотнай розьніцы між Прусамі і Літвой ня было і яе ня бачылі ў тыя часы. Мы ўжо падкрэсьлівалі ня раз розныя крыніцы, дзе пад паняцьцем Прусіі разумелася ў той час ня толькі прастора між Нёманам і Віслай, але і на ўсход ад Нёмана, уключаючы сюды Жамойдзь, Курляндыю, Зэмгалію і Літву. З другога боку і Літва, астаўшыся пасьля падзеньня Прусаў у 1283 г. непераможанай галінай гэтых жа самых крывічоў-люцічаў, уважае і ўсю прускую тэрыторыю за сваю, за законную спадчыну сваіх продкаў. У «Лівонскай Хроніцы» Вартбэрга знаходзім дамаганьні Гэдыміна ў 1358 г. у крыжакоў прасторы Прусаў да рэк Алле і Прэголы на захадзе, па Дзьвіну і возера Лю-

бань на ўсходзе. У 1413 г. Вітаўт, як і папярэднікі, заяўляе перад маршалам Ордэна свае законныя правы на ўсю Прусію аж да ракі Осы[226].

У Марыенбургскіх рахунковых кнігах з 1399—1409 гг. (Глядзі: Marienburger Tressterbuch, Koenigsberg, 1896) знаходзім таксама пацьверджаньне, што істотнай розьніцы тагачасныя /людзі/ ня бачылі між Прусамі і Літвой, пайменна ў інвэнтарных запісах паўночна-ўсходняя частка Прусаў абазначаная як Lithuania. Падобны сэнс вынікае і з аналізы першай весткі аб Літве, з Кведленбургскіх аналаў, дзе запісанае месца сьмерці Бруно ў 1009 годзе: «in confinio Rusciae et Litue a paganis capite plectus».

У іншых летапісах маем «in confinio praedictae (Prussiae) regionibus et Rusciae... capitur». Закшэўскі (St. Zakrzewski) зусім няўдачна спалучыў розныя крыніцы ў адно, абазначаючы, што сьмерць Бруно наступіла на пагранічны Прусаў, Русі і Літвы. У той час (пачатак XI ст.) Польшча межавала зусім не з Літвой, а з Прусамі і Крывіччынай, якая ў летапісах абазначаецца як Русь. Бруно з сваімі сябрамі перайшоў мяжу Польшчы на паўночным усходзе, такім чынам мог знайсьціся на пагранічны Прусаў і Сударвы (якая была праваслаўнай), інакш кажучы, Русі, а пад паняцьцем Літвы летапісцы разумелі ня што іншае як Прусы.

Аб гэтым можа сьведчыць і ліст Бруно да Генрыха II, каб ён сарваў саюз з Лютычамі, што ляжала ў інтарэсах польскага караля Балеслава, які пратэгаваў Бруно:

> Князь Балеслаў, які ахвотна і з ўсёй моцаю духа і цела хацеў дапамагчы мне ў навяртаньні прусаў, і вырашыў не шкадаваць на гэта ніякіх грошай, цяпер уцягнуты ў вайну, якую мудры кароль палічыў неабходным распачаць, не мае ані часу ані магчымасьці дапамагчы мне ў абвяшчэньні Евангельля.; і канчае гэткімі славамі: Вы ж не марудзьце, калі можаце даць нейкую раду і дапамогу ў навяртаньні люцічаў і прусаў, як прыстоіць пабожнаму каралю, надзеі свету.

[226] Codex Epistolaris Vitoldi 1376—1430 (Cracovie, 1882), дакумант Nr. 529: «Do wart Witoldt czornig und sprach: Pruszen ist och miner eldep geweszen und ich wil is ausprechen bis an di Osse, wen is min vetirlich erbe ist. Und fragete do den Marschalk: welchs des Ordens vetirlich erbe were?»

Сутык Літвы з Польшчай і ваенныя дачыненьні наступілі ў XIII ст. Да гэтага часу саюзьнікамі прусаў былі праваслаўныя крывічы, аб чым маем рад вестак.

***

Не было таксама істотнай розьніцы між Літвой, Крывічамі і Прусамі ў мове, як вонкавым выяўленьні супольнага этнічнага характару. Дзеля таго, што гэты аргумант наагул прынята ўважаць за адзін з вырашальных пры этнічным падзеле народаў (хоць не заўсёды так бывае), прыйдзецца спыніцца на ім падробна.

Як выхадны пункт нашых разважаньняў возьмем мову Літвы. Не падлягае сёньня ніякім спрэчкам, што пануючай мовай Вялікага Княства Літоўскага была мова крывіцкая. Аб гэтым сьведчыць незвычайна вялікая колькасьць дакумантаў, граматаў, запісаў, пастановаў і г. д., захаваўшыхся як багатая спадчына Вялікага Княства. На жаль не перахаваліся старэйшыя акты, скажам ад часоў Мендаўга, Гэдыміна, пісаныя па-крывіцку. Найстарэйшыя акты, нам ведамыя ў крывіцкай мове, як мове ўсяго гаспадарства, адносяцца да канца XIV ст.: гэта дакуманты Вялікіх Князёў (і іншых баяраў) Вітаўта, Ягайлы, Скіргайлы і Сьвідрыгайлы.

З часоў Альгерда з 1361 г. ёсьць ведамы дакумант Казіміра Вялікага, польскага караля, выданы Ходзьку Быбельскаму на маёнтак у Чырвонай Русі і пісаны ў мове Вялікага Княства Літоўскага[227]. Мова гэтага дакуманту нічым ня розьніцца ад дакумантаў XV і XVI стст.[228] і сьведчыць аб выробленасьці ўжо кан-

[227] Вось урывак з дакуманту: «Во імя Айца і Сына і Сьвятога Духа Амін. Божаю Міласьцю, мы кроль Казімір Кракоўскай земле, Судомірскай этц., гаспадар і дзедзіч вечный землям тым самодзержэц, кароль велебны яўно паведамляем калі-ж то прышэдшы прад наша абліча, слуга нас верный Ходко Быбельскій і указаў есьць князя Львовы лісты і іных старэх князій лісты, тагды пажадаў есьць у нас слуга наш верный Ходко Быбельскій абыхом пацвердзілі князя Львовы лісты і інных старых князій лісты і яго ўсяго імэнія...»

[228] З часоў Альгерда (1377) маецца грамата княгіні Альгердавай Ульяны: «Се я княгіня Олькгердовая Ульанія ўставіла есмі браці на цэркаў божыю прэчыстой успенія тэмяншчыну, на год па полу копле грошэй ув Азёрышчах, на Уханех са Алексееўшчыны. А хто імець тое закладываць, або от цэркві божыа атдаліваць і мсціць ямы Бог і прачыстая яго мацер у сій век і у будушчый Амін».

Вось урывак з Устаўной граматы Вял.Кн. Аляксандра (1503 г.) для характарыстыкі мовы: «Чынім знамяніта сім нашым лістом, хто на няго пасмотрыць, або чтуці яго ўслышыт, нінешнім і патом будучым, каму будзець патрэба таго ведаці. *Білі нам чалом* ус князі і баяре і слугі Віцебскія, і войт і мяшчане места Віцебскаго, і уся земля Віцебская ў *паведзілі перад намі, што-ж* прышоўшы злодзеі з Велікаго Ноўгарада пакралі у ніх цэркаў Прачыстае Богамацеры...»

цэлярыйнага штандарту, на што патрэбны даўжэйшы ранейшы час, тым больш, што сталася мовай дыпляматычных зносінаў. Як ведама, Казімір Вялікі быў жанаты з Альдонай, дачкой Гэдыміна, а швагра ягоны Тройдэн, літоўскі князь, быў у гэты час князем Мазуршчыны (Мазовіі). Такім чынам мова Вялікага Княства Літоўскага была ведамая ў Польшчы, а з гэтага далей вынікае, што гэткай была ў часы Гэдыміна, Віценя і Лютавара. Гэдымін нарадзіўся і выхоўваўся ў Эйраголі, моцным замчышчы над ракой Дубісай, на мяжы Літвы і Жамойдзі, у сэрцы сёньняшняй «Летувы», дзе панаючай мовай была мова крывіцкая.

Засяг славянаў да Дубісы і Юры ды нават на ўсю Жамойдзь даказваюць і старыя назовы, характэрныя для жамойцаў, якімі яны абазначалі славянаў — гэта тыпу «гуды»:

Gudajtė, вёска ў раёне Панявежа;

Gudajcie, вёска Ковенскага павету, у 1827 г. мела 12 хатаў;

Cudajcie, шавельскага павету — 37 двароў;

Gudakienie, вёска гаспадарская (дзяржаўная) Троцкага пав.;

Гуданцы, вёска Сэйненскага павету;

Guddaschen, вёска каля Рагнеты;

Guddatschen, вёска ў пав. Gumbinnen (Прусы);

там жа каля Інстэрбурга Guddehlen;

Guddelen — двор, павет Dakheim;

Gudden, вёска, павет Тыльзіт;

Guddin, фальварак, павет Gumbinnen;

Gudele, вёска, павет Sejny — 16 хатаў, 144 жыхары. Там жа другая вёска Gudele — 7 хат, 71 жыхар, трэйцяя і чацьвертая таксама Gudele;

Дзьве вёскі Gudele (12 і 14 хатаў) у Марыямпольскім павеце;

Gudele каля Панявежа, 11 хатаў;

Gudele каля Расенаў;

Gudele каля Шаўляў — 46 двароў; там жа возера і ўзгор'е Gudele і вёска Gudeliški, павет Кальварыя;

Gudele ў Кальварыйскім пав. (13 хатаў, 100 жыхароў);

Тры вёскі Gudele ў Вілкамірскім павеце (10, 30, 12 хатаў);

Gudellen вёска, пав. Stołupjany;

Gudessy, вёска ў Шавельскім павеце;

Gudlen, Gudlina, Gudnichen, Gudnik, Gudniki, вёскі, павет Rastenburg;

Gudnik, павет Lipstadt;

Gudschen вёска, пав. Рагнета; там жа вёска Gudschenschen;

Gudwallen, Gudweinen, павет Darkheim;

Gudgalen, вёска і фальв. каля Рагнеты;

Gudojcie, вёска, павет Шаўлі;

Gudupy, вёска (17 хат, 129 жыхароў), павет Кальварыя;

Gudwaitschen, вёска; павет Столупяны;

Gudy, вёска, павет Расены;

Gudyny, вёска (24 хаты, 227 жыхароў), павет Марыямполь;

Gudyrvy, вёска, павет Расены;

Gudyški, 2 вёскі, павет Марыямполь;

Gudyški, 2 вёскі, павет Шаўлі;

Gudyški, вёска каля Rasieny;

Cudziany, вёска ў Ковенскім павеце і іншыя[229].

Апрача пералічаных назоваў тыпу «гуды», якімі жамойды называлі сядзеўшых там літвіноў, існуе яшчэ вялізная колькасьць іншых славянскіх назоваў. Некаторыя зь іх тут пералічым.

*Ад слова «воін», «вайна»:*

Vajnajcie, Vajnejki — вёскі, павет Тэльша; Vainy, вёска, павет Расены; Vajniekany, шляхецкая аколіца ў павеце Панявежа; Vajniełki, вёска, павет Тэльша; Вайнійкайне, вёска, пав. Коўня; Vajnalauki, шляхецкая аколіца, павет Расены; Вайоты, вёска, павет Расены.

*Ад слова «Вэнды»:*

Vendagoła, мястэчка, двор і фальварак над ракой Уркай, павет Коўня. Каля гэтай мясцовасьці адбыўся ў 1384 г. бой між крыжакамі, якія памагалі Вітаўту і літоўскімі войскамі пад правадырствам Скіргайлы; вёскі Venekajcie, Veneki, Vengiry ў павеце Расены; Veny, двор у павеце Шаўлі.

*Ад слова «віт»:*

Viduciški, вёска пав. Расены; Vidugaj, вёска, пав. Вількамір; Viduhiry, вёска, пав. Сэйны; Viduhircy, засьценак шляхецкі, пав.

[229] Усе дадзеныя адносна колькасьці хатаў і жыхарства датычаць 1865 г. У 1827 г. налічвалі ня больш 7—11 хатаў. Крыніца: «Słownik geograficzny Królewstwa polskiego». Warszawa, 1886.

Вілкамір; Vidukła, мястэчка, пав. Расены, зьнішчанае першы раз крыжакамі ў 1352 г., далейшыя напады ў 1371, 1376, 1377, 1378 і 1390 гг.; Vidukła, двары ў павеце Расены (4 двары) і адзін двор дзяржаўны; Vidułaŭki, аколіца шляхецкая ў Ковенскім павеце; Vidułaŭki, вёска ў пав. Панявежа; Vidziuny, вёска на паграніччы Латвіі; Vitkajty, дзьве вёскі ў павеце Расены; Vitkajty, аколіца шляхецкая каля Тэльшы; Vitkieli, вёска пав. Расены; Vitkleliški, вёска, пав. Вілкамір; Vitliški, засьценак шляхецкі пав. Марыямполь; Vitkiški, двор над Дубісай; Vitkiški. вёска, пав. Расены; Vitkoŭščyna, засьценак шляхецкі у пав. Вілкамір; Vitkuny, вёска, пав. Вілкамірскі; Vitkuny, аколіца шляхецкая, пав. Коўня; Vituški, вёска каля Латвіі; Vitkuški, двор там жа; Vitaŭty, вёска пав. Шаўлі.

*Ад слова «вежа»:*

Viežajty, вёска, пав. Расены; там жа чатыры двары гэтага назову; Viežancy, тры вёскі ў Троцкім павеце; Vieželi, вёска, пав. Вілкамір.

*Ад слова «войнар» (як баяр):*

Vajnary, вёска, каля Расенаў; Vajnary, вёска ў пав. Алецкім у Прусах; Vajnaryški, вёска ў пав. Коўня (параўнай Войнарава на Беразіне, Вайнароўка ў Магілёўшчыне); Vojnatyški, вёска і двор у пав. Расены; Vajniejki, вёска і двор на мяжы з Латвіяй; Vojniany, двор гаспадарскі каля Расены; Vojny, вёска пав. Расены; Vojniarany, вёска пав. Панявежа; Vojniny, дзве вёскі і два двары ў пав. Шаўлі; Vojnatyški, вёска і двор у пав. Расены; там жа мястэчка гаспадарскае Войнута.

*Ад слова «крывічы»:*

Крыва, возера ў пав. Сувальскім; над гэтым возерам старая вёска Крыва (у 1827 г. 43 дымы і 325 жыхароў); Крыва, паселішча шляхецкае, пав. Вільня; Крываландзі, вёска ў пав. Вілкамірскім (у 1827 г. 129 жыхароў); Крываландзі, паселішча шляхецкае ў Віленскім пав.; Крывалужы, паселішча гаспадарскае на Вільлі; Крыванісы, в-ка (у 1827 г. 24 дымы і 202 жыхары) у пав. Сьвенцяны; Крываны, вёска ў Ашмянскім пав.; Крываны, двор над ракой Вілляй, пав. Трокі; там жа другі двор Крываны над возерам Рудэсай; Крыванцы, вёска ў пав. Сэйны; Крываселле, пасёлак над возерам Кеўня ў пав. Сьвенцяны; Крывашуны, вёска ў Троцкім павеце; Крывін, старое гарадзішча каля Пру-

скай граніцы над ракой Крывянка (у 1827 г. 1301 праваслаўных 26 католікаў); Крывоўшчына, паселішча над Дзьвіной; Крывуль ка, тры вялікія вёскі ў паўночнай Сувальшчыне; Крывулька, дзв рэчкі ў Сувальшчыне; Крыўля, аколіца шляхецкая ў Ашмянскі пав.; Крыўна, вёска каля Рэжыцы; Крыўск, вёска гаспадарска (у 1827 г. 23 дымы, 268 жыхароў) пав. Ашмяна; Крэва, мястэчк гаспадарскае з старым замчышчам у Ашмянскім пав.; Крэвін паселішча і двор, пав. Сэйны; Крэвін двор, пав. Расены; Крэвін вёска і двор каля Рэжыцы; Крэвічы, вёска ў Дзісьненскім павеце Крэўны, вёска гаспадарская над ракой Насевалкай у Віленскім пав. (у 1866 г. 14 дымоў, 146 жыхароў.);

Kreviany — дзве вёскі ў Сувальшчыне; Krevič, вёска ў павеце Прудніцкім (Прусы); Kreviele, вёска ў Віленскім пав.; Krevincy вёска, пав. Сэйны; Kreviški, вёска, пав. Віленскі; Krevniški, вёска і фальварак у пав. Кальварыя (старая гаспадарская вёска У 1827 г. 17 дымаў і 117 жыхароў); Krevy, вёска ў былым павеце Владыславоўскім (Жамойдзь); Krevy, вёска, пав. Расены; Kryve возерра ў пав. Сувальскім, там жа другое возера Kryve каля вёскі Kryvulka; Kryve, возера ў Аугустоўскім пав.; Kryviec, вёска пад Сувалкамі; Kryviensk, вёска ў Прусах на мяжы з Мазуршчынай; Krewehnen, вёска і двор, пав. Тыльзіт; Krewile, вёска, пав. Шаўлі (у 1827 г. было 15 усадзьбаў); Krewna, рака ў былым павеце Новааляксандраўскім, Ковенскай губэрні, выцякае з возера Antokrewne. Недалёка там жа возера Сорты, інакш Крэўскае. Над гэтай рэчкай знаходзяцца вёскі: Antokrewnie, Užukrewnie, Pakrewnie, Sukrewnie і Krewno; Krewulschen, двор у пав. Інстэрбург (Прусы); там жа Krewciwmiejza (Russendorf); Kriwe — тры вёскі ў пав. Margrabava (Прусы); там жа Kriwen, старая вёска; Kriwe, або Krummendorf у пав. Kromitz; Kriwe, возера ў пав. Алецкім (Прусы); Krywe, дзве вёскі ў пав. Алецкім (Прусы); там жа Alten-, Gross-, Klein-Kriwe (Старое, Вялікае, Малое Крыве)[230].

*Ад слова «Люцічы»:*

Lucyn, мястэчка каля Рэжыцы; Lucyniški, вёска гаспадарская (у 1827 г. 208 жыхароў) у пав. Троцкім; Ludeliški, паселішча га-

[230] Засяг назоваў тыпу «Крывічы» ідзе далёка на захад і густой сеткай пакрывае прастору люцічаў між Одрай і Лабай, што даказвае, што люцічы адна з мянушак вялікага крывіцкага племя.

спадарскае ў пав. Вільня; Ludenrode, двор у пав. Гумбіннэн (Прусы); Luderwalde, паселішча каля Тапляцкэн (Прусы); Ludy, двор у пав. Шаўлі; Lutejka, рака, правы прыток Нёмана; Lutki, вёска каля Ольштына (Прусы); Lutkuny, вёска, пав. Шаўлі; Lutkus, двор, пав. Рагнета; Lutkuški, вёска, пав. Шаўлі; Lutoša, вёска над ракой Лютошай, пав. Ашмяна; Lutaŭka, вёска ў былым пав. Злотава (Прусы); Lutyka, засьценак шляхецкі пав. Віленскі; Lutyki, вёска ў пав. Шаўлі; Lutynia, дзьве вёскі на мазурскай граніцы з Прусамі; Lutynica, правы прыток Дзьвіны; Lutziken, вёска ў пав. Gumbinnen (Прусы); Luxethen, вёска ў пав. Elbing (Прусы).

*Ад слова «Лабы (Палабы)»:*

Łabardzie, вёска і двор у пав. Расены; Łabaŭkšty, вёска ў пав. Расены; Łabejki, паселішча шляхецкае ў павеце Вілкамір; Łabgiry, стары двор і апорны пункт супраць крыжакаў у пав. Расены; Łabašyški, вёска, пав. Вылкавыскі; Łabukšty, вёска, пав. Расены; Łabunova, вёска і двор пры вусьці Берупі да Невяжы; Łabunova, два двары ў пав. Шаўлі; Łabunova, засьценак шляхецкі каля Тэльшы; Łabomiedze, вёска ў пав. Расены, і шмат інш.

*Ад слова «Heruli» («Giry»),* славянскага племені, што жыло разам з Пружанамі між Одрай і Лабай (галіна Люцічаў)[231]:

Girajcie, вёска пав. Кальварыя; Girajcie, вёска і двор у пав. Сэйны; Girajcie, паселішча шляхецкае, пав. Трокі; Girajtele, вёс-

---

[231] Т. Нарбут, а за ім сучасныя жамойцкія аўтары ўважаюць Гэрулаў-Гіраў за жамойцкае племя, абасноўваючы сваё цьверджаньне на запісаным у XVIII ст. у Гановэршчыне «Войча наш» — у мове вэрулаў (гэрулаў). Запіс зроблены згэрманізованай славянскай мовы чужынцамі ў страшэнна перакручанай форме, так што робіць уражаньне неславянскай мовы. Навейшыя досьледы над Гановэрскімі тэкстамі ўстанаўляюць іх славянскі зьмест (Paul Rost, 1907). Для прыкладу падаю тэкст гэрульскага «Войча наш».

«Nŏs hŏlya Wader ta toy chiss wa nebisgây. Sjunta woarda tugi geima. Tiâ rik komma. Tia, willya schingot, koke nebisgây tak kak nŏ sime. Nŏessi wisse danneisna stgeiba doy nam dans. Un wittedŏy nom nŏsse ggrels kak moy wittedogime nossem ggresnarim. Ny bring goy nŏs ka wartikŏnge. Tay lŏsoây nŏs wit vissôkak Chundak».

Як бачым, запісваючы ня меў адпаведных літараў і не пераймаў дакладна незразумелых яму словаў. У адшыфроўцы гэты тэкст выглядае наступна: Nŏš holi (англ. сакс. — сьвяты) Fader (англ. сакс. Айцец) da ty is (англ. сакс. ёсьць) va niebisi. Svienta werde (англ. сакс. хай будзе) твае (g — j) імя. Tvoj rok komna (komma — англ. сакс. come). Tvaja vola scheingot (англ. сакс. — хай сьвеціцца), kak u niebiesi, tak kak na ziemi. Našy (нашага) višdziońnišni(aha) chleba (было памылкова пастаўленае l замест t — sleba) daj nam dziens (дзісь). Und (ням. — і) vitaddaj nam našy grechi, kak ny vitaddajom našym grešnarym. Ni bring (англь. саск. — прыводзь) i nas k verdėkanie (ад ням. verdenken). Dy losy (ням. losen — збавіць) nas vit vizłoha. Chaj tak.

Як бачым у гэтай малітве ёсьць славянская мова настолькі згэрманізованая, што ўжо нельга ўстанавіць ранейшага стану, бо і запісаная давольна ды пераказальнік мог прыпомніць сабе моцна перакручаныя адломкі славянскай мовы, паміраючай у нямецкім моры. Але і ў гэтых абломках няма нічога жамойдзкага. Апрача гэтай малітвы існуюць розныя запісы паасобных слоў і тэкстаў ды нават песьняў.

ка, пав. Сэйны; Hirany, вёска ў пав. Расены; Hirdajty, вёска ў пав. Расены; Hirdany, вёска гаспадарская ў пав. Сьвяньцяны; Hirdvojny, вёска і два двары ў пав. Расены; Hirdvojneli, вёска ў тым жа павеце; Hirdyški, мястэчка ў тым жа павеце; Girdziany, вёска ў пав. Шаўлі; Hirdzi, двор гаспадарскі і вёска ў пав. Расены; Hirdziuny, вёска каля Ашмяны; Hierula, вёска ў Віленскім павеце; Hirkonty, фальварак каля Шаўляў; Hirkontyški, вёска ў пав. Тэльша; Hirłauki, пав. Шаўлі; Hirminy, двор у пав. Шаўлі; Hiravičy, вёска каля Ашмяны; Hiruty, вёска, пав. Коўня; Hirviški, вёска ў пав. Расены; Hirynajty, вёска ў Расенскім павеце; Hiryncy, вёска ў Віленскім пав.; Hiryniki, вёска, пав. Расены; Hiryno, вёска ў тым жа павеце; Giryški, вёска ў пав. Шаўлі; Hieruliški, вёска ў Панявежскім пав.; Gieruliški, вёска каля Марыямполя; Hieruliški, паселішча шляхецкае над Віляй; Hieranichy ў Ашмянскім пав.; Hierduty, двор каля Расены; Hiervity, вёска, пав. Расены; Ejgirdy, вёска, пав. Тэльша; Pahirdany, вёска, пав. Расены; Pahiry — 6 шляхецкіх паселішчаў у Віленшчыне; Pahiry, вёска, пав. Расены; Гердавы ў Прусах; Гіргішкі, фальварак у Вілкамірскім павеце; Гіры, вёска шляхецкая (1827 г. — 29 дымоў); Гіры, паселішча шляхецкае, пав. Трокі; там жа Гіры, лясны пасёлак; Гіры, вёска шляхецкая (1827 г. — 17 дымоў), пав. Сьвянцяны; Лабгіры, двор у пав. Расены і шмат іншых.

З іншых назоваў зьвернем увагу на Расены (Русіны), месца павета за Дубісай, выхадная прастора Літвы. На гэтай прасторы найбольшая канцэнтрацыя славянскіх назоваў у сёньняшняй Жамойдзі; там жа Rusiny — вялікая вёска; Rusiški, вёска, пав. Расены; Rusiški — двор у пав. Шаўлі.; Rustejki, вёска ў тым жа павеце; другая вёска ў былым Новааляксандраўскім павеце; Ruščany, пас. шлях. у Віленскім павеце; Rusnejki, двор у пав. Расены; Rusaki, вёска ў Віленскім павеце і шмат падобных.

Незвычайна вялікая колькасьць назоваў тыпу Слабада, у Віленшчыне і Ковеншчыне налічвае 87 мясцовасьцяў; Слабодка — 82; Славянішкі (Słavianiški), адна вёска ў Троцкім павеце, другая ў Вілкамірскім (воласць Курпішкі); Забалоцце — 59; Забалоцішкі (Zabałociški) — 9; Рудня — 35; Рудзішкі (Rudziški) — 11; Навасады — 10; Наваселе — 13; Навасёлкі — 114; Новы Двор — 42.

Апрача названых мясцовасьцяў на прасторы гістарычнай Літвы і Жамойдзі маецца вялізная колькасьць іншых славянскіх назоваў, якія твораць на прасторы ад Юры, Дубісы і Невяжы да Дзьвіны, ад Нёмана да Беразіны і на захад ад Нёмана ў глыб Прусаў густую сетку славянскага насельніцтва, сярод якога жамойцкія назовы прадстаўляюць сабой рэдкія астраўкі. Гэта ёсць таксама адзін з доказаў, як недарэчным з'яўляецца цьверджаньне, быццам гэтая прастора заселеная была жамойдамі-балтамі перад XIII ст.

***

Іншым доказам славянскасьці Літвы і пануючай верхавіны ў Жамойдзі ёсць перагляд баяраў згодна з попісам войска ў 1528 г.

*Віленскі павет:*

*Двор Ашмяна.*

Харужы Ашмянскі Мікалай Якубовіч маець сам ехаць і Процька Якубовіч маець ставіці 7 коней. Мікалай Дашкевіч маець ставіці 5 коней. Пасынак яго Аліаксандра Сіняковіць маець ставіці конь. Юры Петрашэвіч маець ставіці 4 коні; Сэбастыян Міхайловіч — 2 коні; Ян Петковіч — конь; Ян Івашковіч — 3 кані; Павал Мікалаевіч — 2 кані; Міхно Рэкуцевіч — 4 кані, князь Мікалай Рэкуцевіч — 2 кані; Барташовая Рэкуцевіча — 2 кані; Бокшар Адам — 5 коней; Станіслаў Лешчынскі[232]; Ян Жычаловіч; Ян Пастаўчыч; Каспар Буткевіць; Мікалай Пашковіч; Мілославовая Савічаўна; Багдан Грынкевіч; Ян Грынкевіч; Адам Яшковіч, Новагонскі; Сымка Мікалаевіч; Ян Суглобіч; Станіслаў Хрышчановіч; Ян Валадкевіч; Дмітр Федаровіч, Габрыал Мосцвіловіч; Станіслаў Андрэевіч і г. д. Імёнаў з жамойцкімі канчаткамі зусім не знаходзім.

*Кернава.*

Рэестр баяр керноўскіх. Кажды баярын мянован есьць і на колькі конех маюць служыці. Дзеля скарочаньня падаю толькі імёны і прозвішчы баяраў Ян Габрыяловіч; Станіслаў

[232] У далейшым прапускаем лік коней. Адзін конь лічыцца ад 8 валокаў. Дадзеныя ўзятыя з Літоўскай мэтрыкі.

Габрыялfavіч; Стась Мікалаевіч; Ян Вайцеховіч; Мацей Вайцеховіч; Мікалай Яцковіч; Вайтковая Невяровіча; Сымко Богухвалавіч; Марцін Кульвойця; Бартош і Грынь Багдановічы; Войцех Александровіч; Міхайла Юськовіч; Соцькавая удава Ганна; Мікалай Світэ; Міс Вайтковіч; Юхно Мітковіч; Мікалай Валадкевіч; Мацей Вайцяховіч, Мікалай Балтрамеевіч; Аляксандар Балтрамеевіч; Якуб Станіслаtsовіч; Сабэстыян; Юры Станіславовіч; удава Станковая; Станіслаў Пашковіч; Балтрамей Тамковіч; Станіслаў Пецкевіч; Мікалай Сташковіч; Павал Гінвілавіч[233]; Нацко Юрдовіч; Міхайла Юргайцевіч; Мікалай Багдановіч; Станіслаў Яцкевіч; Пётр Яцковіч; Стэцковая ўдава; Грыньковая ўдава; Пётр Бутрымовіч; Янушка Яцковіч; Міш Вецэвіч; Павал Вецэвіч; Ян Дабковіч; Станіслаў Лешчовіч; Аляксандр Бартковіч; Янушковая ўдава; Якуб Яшковіч; Багдан Петрашэвіч; Ян Станчуковіч; Мікалаевая ўдава; Ян Дабковіч; Ян Яновіч; Сымановая ўдава; Габрыял Маркутовіч; Станіслаў Нарбутовіч; Юры Салагубовіч; Барбара Мікалаеўна; Янушка Буйвідовіч; Ян Венцлавовіч; Мацей Багдановіч; Ян Стангубовіч; Павал Нарбутовіч; Пётра Яновіч; Якуб Гасьціловіч; Андрэй Любашэвіч; Алехна Стабудовіч; Мікалай Паўбуровіч; Стась Пятковіч і г. д.

З агульнай лічбы 184 прозьвішчаў не знаходзім ніводнага з жамойцкім канчаткам.

*Вілкамірскі павет:*

Станіслаў Бердоўскі; Войцех Александровіч; Дахно Васілевіч; Мікалай Даўгяловіч; Андрэй Петковіч; Бернат Мантрымовіч; Ядвіга Венцлавовая; Мікалаеўна Петрашковіча; Грыгор Квінвіловіч; Кумась Ямантовіч; Станчык Бартковіч; Габрыял Кандратовіч; Мікалай Мацовіч; Юры Мэцеевіч; Міцька Гінтаўтовіч; Андрэй Давідовіч; Войцех Якубовіч; Мікалай Міцьковіч; Андрэй Мікалаевіч; Ян Бартковіч; Януш Мікалаевіч і г. д.

Таксама ва ўсім пераліку баяраў не знаходзім прозьвішчаў з жамойцкімі канчаткамі.

---

[233] Прозьвішчы тыпу Гінвайловіч, Гінтаўтовіч паходзяць ад жамойцкіх вёсак і мястэчак тыпу Гінкішкі (Ginkiški), Гінэйкі (Ginejki), Гінэйтэ (Ginejtė), Гінтутэ (Gintutė), Гінтулішкі (Gintuliški) у паветах Расены, Вілкамірскім, Тэльша, Аўгустоўскім, Троцкім, Лідзкім і іншых.

*Ковенскі павет.*

Рэестр баяраў ковенскага павету пададзены ў літоўскай мэтрыцы родамі, прытым назовы родаў паходзяць ад назоваў мясцовасцяў, адкуль яны выйшлі і дзе мелі свае маёнткі і вёскі, сабе падпарадкаваныя.

1) Род Вітартовічаў[234]. У пераліку баяраў гэтага роду не знаходзім ніводнага прозьвішча з жамойцкім канчаткам.

2) Род Просьцевічаў. Няма жамойцкіх прозьвішчаў.

3) Род Апейковічаў.

4) Род Дамэйкаў.

5) Род Гэтсаўдовічаў.

6) Род Петрасэвічаў. У гэтым родзе ёсьць.

7) Род Невяровічаў. У гэтым родзе знаходзім два прозьвішчы, вытвараныя ад жамойцкіх мясцовасьцяў: Голгінаў і Грык Гоўгейдовіч.

8) Род Скорульцаў. Няма жамойдзкіх прозьвішчаў.

9) Род Банішкаў.

10) Род Юрэвічаў з Вондзяголы.

11) Род Семашкевічаў ад Вяллі.

12) Род Давятовічаў з Жэйм. Сярод пералічаных у рэестры баяраў знаходзіцца адно прозьвішча з жамойцкім канчаткам — Пусільгіс. Магчыма з мяшчанага жанімства.

13) Род Давалговічаў з Таўтвілтова[235].

---

[234] Вітартовічы праўдападобна раней былі ў Шаўлях, дзе знаходзіцца вёска Віторце. У Ковенскім павеце потым ім належыў двор Віторты. Іншы двор Віторты знаходзіўся каля Панявежа. Манюшкі, праўдападобна Гудсудовічы, выхадцы з Судавы, значыць судаўскія крывічы.

[235] Žejmy, вёска і двор у Ковенскім павеце. Taŭtviłtova, двор у Ковенскім павеце. Towcie — 2 дворы ў павеце Тэльша; Таўціловічы — двор у Троцкім павеце; Tovciški, вёска і двор скарбовы ў Віленскім павеце; Таўцьвілы, шляхецкая вёска ў пав. Слонімскім; Taŭćviły, вёска ў павеце Тэльша. Ад гэтых назоваў паходзяць прозьвішчы як Таўцівіл, Таўцівіловіч, Таўцьвілтовіч, прытым жамойцкае «taŭta» абазначае народ, племя, «vilkas» — воўк, «vil» корань ад «vilzi», «vilten» (велат або волат — іншы назоў люцічаў).

У скандынаўскіх сагах Літва называецца Wilkinaland, князь Wilkinus, народ Wilken, які мяжуе з Ruziland. Сведчаць аб гэтым шматлікія назовы з коранем «vil», «viel», «vilk» на прасторы гістарычнай Літвы і Жамойдзі: Velden, двор у Курляндыі; Velekieny, вёска і двор у пав. Панявежа; Вэлерова, двор у пав. Ковенскім; Vельanova, вёска у пав. Ковенскім; Welniow або Літва, двор, пав. Радзынь; Velkvidis, рака, прыток Рысы; Velpesy, вёска і двор, пав. Расены; Viełajcie, вёска, пав. Тэльша; Vielujki, вёска пав. Расены; Vielancici, вёска, пав. Дзісна; Vielanka — два шляхецкіх паселішчы каля Вільні; Vielčašy, вёска, пав. Ашмянскі; Vialaniški, вёска над Вілляй каля Кернова; Vieletyški, вёска, пав. Тэльша; Vieličkova — два дворы ў пав. Трокі; Vielikša, возера ў Сьвеньцяншчыне; Vielona, мястэчка над Дубісай; Vielaniški, вёска, пав. Панявежа; Vieluny, вёска, пав. Біржы; Viałajty каля Тэльшы; Viłačy, вёска, пав. Віленскі; Vilanova — два дворы ў Ашмяншчыне; Viłatova, вёска і два дворы ў Наваградчыне; Воўчая Лапа ў Вільні; Вільчышкі, паселішча ў пав. Вілкамірскім; Vilejka, вёска і двор у пав. Біржы; Vilejka, вёска і двор каля Шаўляў; Vilejka, вёска і двор у Вількамірскім

14) Род Даўгойлаў з Ланчунова.

15) Род Праўлабаў за Кармяловам.

16) Род Буйвідаў ад Жынян. Няма жамойцкіх прозьвішчаў.

17) Род Геркаў з Пядзей.

18) Род Янвілаў з Пядзей.

19) Род Жаковічаў.

20) Род Вайдмінаў ад Капліцы.

21) Род Гэдгаўдаў з Арвістова.

22) Род Рымвідаў.

23) Род Сцебейкаў ад Жэймаў.

24) Род Жэбровічаў ад Жэймаў.

25) Род Палюшэвічаў ад Жэймаў.

26) Род Ліпневічаў з Куян.

27) Род Эйтовічаў ад Жэймаў.

28) Род Свалкенаў ад Жэймаў. У сьпіску ёсьць прозьвішча з жамойцкім канчаткам: Мікалай Мажэевіч Шукіс.

29) Род Саковічаў ад Жэймаў.

30) Род Рымвідаў ад Капліцы.

31) Род Мінемовічаў ад Жэймаў.

32) Род Эйсмонтаў ад Капліцы[236].

33) Род Шылейнаў.

34) Род Ганусаў з Лабунова.

35) Род Вацянцаў ад Капліцы.

36) Род Конгентаў ад Капліцы[237].

---

пав.; Вілейшы, вёскі і двары ў Шаўлях і каля Панявежа; Vilejty у Сьвеньцяншчыне; Vilgirdajty, двор у пав. Шаўлі; Vilkali, двор, пав. Шаўлі; Vilkancy, вёска каля Эйшышак і двор каля Вілкаміра; Vilkavyški, вёска каля Рагнеты; Vilkelen, Vilken, Vilkendorf і г. д. вялікая колькасьць назоваў у Прусах; Vilkienščyna, вёска каля Сэйнаў; Vilkiany, вёска, пав. Расены; Vilkie; Vilkiški, Vilkary, Vilnelė; Vilkija, шмат вёсак з назовам Vilkija, Vilkieja і г. д. у пав. Коўня, Панявежа, Расены; Шаўлі, Тэльша і Вілкамір.

Як бачым, усе назовы родаў паходзяць ад розных мянушак або ад мясцовасцяў.

Вядомыя шмат прозьвішчаў як Erdźviły; Radziviły, Surviły; Hirviły і падобных.

[236] Ejty, вёска, пав. Расены; Ejściški каля Віжан. Ёсць легэнда аб Ejcie, заснавальніку Эйшышак. Эйсмонты, вёска ў Горадзеншчыне. Прозьвішча складаецца з дзьвюх частак Эйс-Монт як Skumont, Skirmut (Skirmont), Daŭmont, Narymont і шмат падобных. Імёны гэтага тыпу паходзяць з часу суадносін Літвы з скандынаўскімі вікінгамі ў X—XI ст. Першая аднак прыстаўка «Эй», фактычна «Jej», «Jaj» вельмі характэрная ня толькі для літоўскіх прозьвішчаў, але і да гэаграфічных назоваў літоўскіх мясцовасьцяў у жамойцкай вымове, што сьведчыць, што гэта жамойцкія мянушкі ліцьвіноў, ад частага вымаўляньня «яй» (яй Богу, яй так, яй сяк, частае «я» перад націскам), падобна як крывічы называюць жамойдаў «клаўсюкі» ад «клаўсік» — *слухай*. Вось для прыкладу некалькі назоваў: Jejbuty, вёска пав. Шаўлі; Ейцянцы, вёска пав. Трокі; Ейцюны, вёска каля Марыямполя; Jaciuny, вёска гасп. у Віленскім павеце; Яйчы, вёска ў пав. Расены; Jaduniški, в-ка пав. Расены.

[237] Генёты (Расенскі пав.), Гентуцішкі, Конты (Ашмяншчына).

37) Род Драгатовічаў з Шылагол[238]. У сьпісе баяраў гэтага роду сустракаем прозьвішча Юрага Енкунаса.

38) Род Эйгірдовічаў ад Капліцы[239].

39) Род Таўговічаў з Мэшаголкі[240].

40) Род Дзірментаў[241]. У сьпісе Ютко Пацковіч Ушкурыс.

41) Род Даўктаў[242].

42) Род Ядаўтаў з Жынян.

43) Род Медзікаў з Шатын[243].

44) Род Раковічаў з Лабунова.

45) Род Паськевічаў з Куян.

46) Род Ветаў з Лабунова[244].

47) Род Кудрэвічаў.

48) Род Лугейлаў з Лабунова.

49) Род Гойлютаў з Панявежа[245].

50) Род Урняжэвічаў.

51) Род Кундовічаў ад Капліцы.

52) Род Мунчэвічаў ад Мэйшаголкі.

53) Род Гінейкаў з Ауштыгол.

54) Род Уркшэвічаў з Прэйшаголы.

55) Род Гелгудаў з Кулві[246].

56) Род Мацэвічаў з Лабунова.

57) Род Мілашэвічаў з Вілчатова.

58) Род Савейчовічаў з Лабунова.

59) Род В'юкаў з Рамойн[247].

60) Род Бернатовічаў з Рамойн.

61) Род Адрыховічаў з Варлова.

---

238 Шылаголы, двор і веска ў Ковеншчыне.

239 Ад Гіраў, Гірдаў, жамойцкая мянушка.

240 Mejšahołka ў Ковеншчыне. Taйhoły, вёска ў пав. Расена; Taugmiedze, вёска ў пав. Расены.

241 Праўдападобна Дзірмонты.

242 Daůkšy, старая вёска ў пав. Кальварыя; Daůkšty, шляхецкая вёска ў пав. Коўня; Daůkšy, вёска, пав. Шаўлі.

243 Шатыны ў Ковеншчыне.

244 Веты ад Віты.

245 Ад «люты», з прыстаўкай Гай-Люты.

246 Гелгуды, павінна быць Гайлгуды, як Ягайла, Скіргайла, глядзі заўвагу да прыстаўкі «эй». Корань «гел» (Гелда, Ягела, Скіргела, Даўгела і інш.) паходзіў ад назову славянскага племені, якое Пталемэй называе Ігілліонэс і памяшчае ў Наваградчыне. Славянскасьць Ігілёнаў ці Ягелёнаў не падлягае ніякому сумліву ў сучасных славістаў (Šafaryk, Niederle, Bujak, Tymieniecki).

247 Vjuki, вёска на Лужыцах.

62) Род Эйгірдовічаў з Варлова[248]. З жамойцкімі мянушкамі Ясас Ушкурыс, ягоны пасынак Юры Пятровіч; далей Юзас Тамашэвіч і Станіс Юшковіч.

63) Род Гэковічаў /Гаковічаў/[249].

64) Род Ельцаў з Аншагін.

65) Род Вебровічаў з Вэндзаголы.

66) Род Прыжкаў з Куян[250].

67) Род Рымунаў з Шылакольні[251].

68) Род Каяленаў з Паняважа.

69) Род Стэгвіловічаў (Сьцягвіловічаў) з Варлова. У сьпіску гэткія жамойцкія імёны: Станіс Мэцэевіч, Баліц Барткевіч, Баніс Енкунас, Сташыс Лаўцэвіч.

70) Род Дамэйкаў з Варлова.

71) Род Драсейковічаў[252].

72) Род Колнянцаў за Кармяловым.

73) Род Верцібесаў.

74) Род Колаў.

75) Род Зэдраў за Коўням[253].

*Павет Вілкамірскі.*

Станіслаў Бердоўскі; Вайцех Александровіч; Дахно Васілевіч; Мікалай Даўгяловіч[254]; Андрэй Пятковіч; Бернат Мантрымовіч; Ядвіга Венцлавовая; Грыгор Квінвіловіч; Станчык Бартковіч і г. д. Сустраюцца і жамойцкія прозьвішчы, але вельмі рэдка, як Кумас Ямантовіч.

Як бачым з перагляду спісу баяраў з прасторы да ракі Бубісы толькі каля дзясятка жамойцкіх прозьвішчаў можа дапускаць іх жамойцкае паходжаньне, праўдападобна з прычыны мяшаных жанімстваў. Падазраваць пісара пры попісе баярства ў славянізаваньні імён ды прозьвішчаў ніяк нельга, бо ўсюды ён перадае надзвычайна багатую разнастайнасьць у вымове тых са-

[248] Ejgirdy, вёска каля Тэльшы; Ejgirdy — шляхецкія вёскі каля Ашмяны з XVI ст.

[249] Гакава, Гакоўшчына ў заходняй Крывіччыне.

[250] Куяны, вёска і двор у Ковеншчыне. Куявы, Куяны ў заходніх славянаў.

[251] Ёсць маса назоваў тыпу Рымашы, Рымава, Рамэйкі.

[252] Парашнай Дрыса, Дарасэвічы.

[253] Праўдападобна яцьвяскага паходжаньня. Сідра ў Горадзеншчыне, Жыздра каля Калугі.

[254] Даўгяле, мястэчка, пав. Паняважа; вёска ў пав. Расены; Даўгялішкі, вёска і двор у пав. Марыямполе; мястэчка ў Сьвяньцяншчыне; Даўгіле, двор у пав. Вілкамірскім; Даўгінава, мястэчка, пав. Вілейка; ад «даўгі».

мых імёнаў, так як гаварыў народ. Жамойцкія канчаткі імёнаў і прозьвішчаў усюды перадаюцца там, дзе яны сустракаліся. У гэтым ляжыць навуковая вартасьць Літоўскай мэтрыкі. Пісар не апытваў кожнага чалавека, але запісваў на аснове інфармацыяў адзінак данай мясцовасьці, таму часта запісаў шматлікія мянушкі, якімі называлі адныя другіх. Часамі проста, калі не было ведамае імя ці мянушка, паводля становішча, як напрыклад крывы дзяк, казак і іншае.

Жамойцкіх прозьвішчаў значна больш знаходзім сярод баяраў у самай Жамойдзі.

*Двор гаспадарскі Вількея.*

Міхайла Станкевіч, харужы; Венцлаў Радзівіловіч; Сенько Вербоўскі; Яновіч Вайноўскі; Пётр Семашкевіч; Павал Грыгаровіч і г. д. З агульнай лічбы 166 пералічаных у спісе баяраў сустракаем наступныя з жамойцкімі канчаткамі: Крыголіс, Даўгіс Таўтковіч, Якуціс Гіневіч, Гойлюс Кібуровіч, Юргеліс, зяць Амбражэя Ядвіговіча, інакш кажучы, 3 %.

*Двор гаспадарскі Велена.*

Мікалай Хрышчановіч; Алехна Гаўрылавіч Пунштовіч; Мацько Юражыч; дзяк Юры Яновіч; Говен Вяж; Аляксандар Завішыч; і г. д. З агульнай лічбы баярскіх імёнаў жамойцкія наступныя: Гоіль Ятвілойціс; Гішпіс Юшковіч; Станіс Манюковіч; Між Даўгеліс; Нарто Тускісіс. Усяго 225, жамойцкіх 2,2 %.

*Воласьць Эйрагола.*

Ян Рачковіч; Станіслаў Юражыч; Лаўрын Міхайловіч; Станіслаў Стэфановіч; Марцін Бернатовіч; Габрыял Бутковіч; Пётр Рудзевіч; Юры Валадкевіч, цівун; Станіслаў казак; Стась Керновішка; Мацько Юшковіч і г. д. З агульнай лічбы 80 чалавек жамойцкія прозьвішчы: Ян Тамошайціс і Юры Самдрайціс — 2,5 %.

*Воласьць Расейны.*

Войцех Нарбутовіч; Багдан Каговіч; Монтрым Юрэвіч, Ян Мацэвіч, Шым Крыневіч, Юры дзяк Гінтаўскі, Шымка Руковіч і г. д. З агульнай лічбы прозьвішчаў 194 жамойцкія канчаткі маюць наступныя 42 (21,64 %):

Пётр Барнікойціс, Грыгор Будвідайціс, Юргіс Буйвідайціс, Юргіс Буткайціс, Каспар Вітортайціс, Марцін Гірдвойціс, Ян Гэтвілайціс, Мікалай Дашкайціс, Станіслаў Дашкайціс, Станіс

Даўгоўціс, Марцін Ільжбежайціс, Віткус Кутнайціс, Рымшыс Левойціс, Ян Мажайціс, Мацько Манкайціс, Ян Мацойціс, Марцін Мілейшайціс, Юргіс Міхайловіч, Юргель Нарвошайціс, Мілко Нарэшайціс, Роман Нарэшайціс, Ян Оленойціс, Юры Ошвілойціс, Лаўрын Петрайціс, Юргіс Піктурновіч, Януш Пронцкайціс, Юргіс Пупштойціс, Стань Раклойціс, Юргас Рымкойціс, Андрэй Рымчайціс, Богдан Скірвойнойціс, Балтрамей Станкойціс, Рвэтко Стонайціс, Балтрамей Суткойціс, Аляксей Юдгайдзіс, Крыцус Юргайціс, Мацей Юргайціс, Мацько Юркойціс, Ян Юшкайціс, Лукаш Янойціс, Грыгор Янчайціс, Войткус Ясудайціс.

*Воласьць Відуклі.*

Усіх прозьвішчаў 166, з гэтага з жамойцкімі канчаткамі 14 (8,43 %).

Ян Межайціс, Сцірпенка Мілейкайціс, Андрушка Бутвілайціс, Пашка Тарвонтайціс, Юргіс Сарэйкайціс, Петрык Кудашайціс, Міхно Юргайціс, Монка Прожнайціс, Грыц Гортайціс, Юрыс Войтатовіч, Якуб Карэвайціс, Адам Кірстойціс, Юрыс Нарушэвіч.

*Воласьць Каршогва (Каршува).*

Усіх прозьвішчаў 103, з жамойцкімі канчаткамі 22 (21,35 %): Януш Андрушкайціс, Петрас Балюшайціс, Хрышчон Вайдайціс, Мэцей Вісмілаціс, Станіс Гайлевіч, Юры Галчайціс, Якмін Гімбутайціс, Станіс Гінятайціс, Гірдайціс, Янэліс Грыгаровіч, Гэдымін Даўгінойціс, Мікуціс Кантрымовіч, Павал Капшойціс, Станіс Люцэвіч, Станіс Мацелевіч, Станіс Мацойціс, Мікуціс, Юрыс Наргайловіч, Юргіс Пашкайціс, Якуб Петройціс, Станюс Пікташэвіч, Станіс Яновіч.

*Воласьць Паюр'е.*

Усіх прозьвішчаў 68, з жамойцкімі канчаткамі 8 (11,76 %). Юрыс Яновіч, Міц Віткайціс, Юрыс Стэкайловіч, Петраш Другінайціс, Юры Друтынайціс, Балтрамей Ясайціс, Янкайціс, Петрык Дэмгідайціс.

*Воласьць Шоўды.*

Усіх прозьвішчаў 34, з жамойцкімі канчаткамі 4 (11,8 %): Юрыс Кантантовіч, Марцін Талвайтойціс, Нарас Янойціс, Мікалай Нарвойновіс.

*Воласьць Рэтава.*

У рэестры баяраў толькі 6 прозьвішчаў: Селівэстр Міхайловіч, Томка Станковіч; Андрэй Качэвіч; Марцін Петрашкевіч, Цепан (сіц) Петрашкевіч і Якуб Юшковіч.

*Воласьць Гондзінга.*

Адам; Павел Рымдзейковіч, Дашковая ўдава; Багдан Якубовіч; Ян Петройціс, Юц Мілашайціс; Сельвэстр Дабрыяновіч; Мацей Яновіч; Вайтковая ўдава; Мацей Андрушковіч; Сямашка; Габрыяль; Ян Вайтойціс, пан Станіслаў Кухмістровіч.

*Воласьць Вешвяне.*

З агульнага ліку 33, з жамойцкімі канчаткамі 3 (9,1 %): Мікалай Рубежайціс; Юрыс Міцкайціс; Венцко Петравіс.

*Воласьць Тэльшы.*

Дакладнага ліку баяраў нельга ўстанавіць у воласьці Тэльшы, бо ў Літоўскай Мэтрыцы не хапае дзьвюх лісткоў. У частковым пераліку няма прозьвішчаў з жамойцкімі канчаткамі.

*Воласьць Біржаняны.*

У цэлай воласьці пададзеныя толькі тры прозьвішчы баяраў: Марцін Гірвеновіч; Шымка Вайтковіч і Мікут Станевіч. Гэта выдатна падмацоўвае археалягічныя дадзеныя, што ў паўночнай частцы Жамойдзі пануе ў пахавальным абрадзе жамойцкая культура, а славянскія магілы належаць да рэдкасьцяў.

*Воласьць Дзірвяны.*

У сьпіску пералічана 27 прозьвішчаў баяраў, сярод якіх няма з жамойцкімі канчаткамі.

*Воласьць Медзінголы.*

З 23 пералічаных баяраў 8 прозьвішчаў (34,8 %) з жамойцкімі канчаткамі: Андрэй Танбутайціс; Юрыс Вітковіч; Барсцік Сангінайціс; Вонбут Велойціс; Можэйкойціс; Юрыс Марковіч; Станіс Мастайціс і Андрушка Будрайціс.

*Воласьць Жараны.*

З 24 пералічаных у сьпіску 6 баяраў (25 %) прозьвішчаў з жамойцкімі канчаткамі: Марцін Кіншайціс; Марцін Гальмінайціс; Бортка Піктурнайціс; Мацей Даўгінтайціс; Сакто Гудмантойціс; Якуб Эйцінайціс.

*Воласьць Патумшы.*

З 20 пералічаных у сьпіску баяраў 2 (10 %) прозьвішчы з жамойцкімі канчаткамі: Мордас і Павел Вісвайнайціс.

*Воласьць Коркляне.*

З 53 пералічаных баяраў 22 (41,5 %) прозьвішчы з жамойцкімі канчаткамі: Ян Нарушайціс; Марцін Кірбутайціс; Юцель; Ян Стэнайціс; Мікалай Даўкшайціс; Лаўрын Даўкшайціс; Юрыс Кіртутайціс; Мікалай Білайціс; Пётр Якайціс; Канчаль Вайнатойціс; Якубайціс; Уладыслаў Жамойціс; Віткус Мікалаевіч; Монкус Карэвайціс; Пётр Жэбенкойціс; Юры Эйстайціс; Станіс Рымшовіч; Пац Якубайціс; Мікалай Саўкантайціс; Валянцін Кагдзілайціс; Жвірбліс Мейжакціс; Пётр Піктурнос.

*Воласьць Ужвента.*

З 13 пералічаных баяраў 3 прозвішчы (23 %) з жамойцкімі канчаткамі: Юхно Багданойціс; Нарко Якойціс; Войтка Радойціс.

*Воласьць Бержаны.*

З 86 прозьвішчаў 7 баяраў (8,13 %) з жамойцкімі канчаткамі: Якуб Піктайціс; Войцех Даргайціс; Ян Станкелойціс; Мацей Лаўкінтойціс; Войчус Саўгоўдзіс; Даўгуціс Петрашэвіч; Мікуціс Мілашэвіч.

*Воласьць Крожы.*

З 162 пералічаных баяраў у 54 (33,34 %) прозьвішчы з жамойцкімі канчаткамі: Пётр Даўгялойціс; Мікалай Даўкшайціс; Стась Янойціс; Станіслаў Пікеліс; Юры Юдзейкайціс; Ян Мацкайціс; Андрэй Сташайціс; Юры Якубайціс; Станюль Велайціс; Петраш Эйткайціс; Грыцус Перванайціс; Станіс Бортка; Ян Пікайціс; Сцяпан Нарващойціс; Доргіс Мінконтайціс; Мікалай Радвілайціс; Мацей Товатайціс; Мікуціс Монкайціс; Рымко Янкайціс; Віторг Коншайціс; Мікалай Дарналайціс; Ян Петкойціс; Станіслаў Радзівілайціс; Юры Мінмонтойціс; Станко Андрушкойціс; Януціс Андрушкойціс; Янка Кібартойціс; Грыц Андрушкайціс; Нарко Долкшайціс; Юцус Цэпровіч; Януш Кусаціс; Станіс Рукайціс; Яц Ваболайціс; Контрым Рукайціс; Будрус Радвілойціс; Венцко Сукайціс; Марцін Сункалайціс; Станіслаў Янойціс; Багдан Мацкайціс; Станіс Шажукайціс; Шымка Янойціс; Багдан Межайціс; Контрымук Піктайціс; Пацут Міцайціс; Грыгоры Радайціс; Будрыс Крымжтайціс; Білюс

Манкантовіч; Рымко Рагіс; Станіслаў Піктайціс; Юрыс Вікновіч; Нарко Лугайціс; Манвіл Кунайціс; Андрэй Монтвілайціс; Станіс Мартэйковіч.

*Воласьць Кельменская.*

З 34 пералічаных у рэестры баяраў 8 (23,5 %) прозьвішчаў з жамойцкімі канчаткамі: Пётр Станюкайціс; Ян Нарвошойціс; Марцін Разайціс; Гэткаўт Мінкаўдайціс; Лаўдзюс Будрайціс; Міцко Еднінайціс; Грыгор Пікалайціс.

*Воласьць Тондзягола.*

З 63 пералічаных у рэестры баяраў 14 (22,2 %) прозьвішчаў з жамойцкімі канчаткамі: Ромуціс; Юрыс Яўніловіч; Рупека Вішутайціс; Петко Таўтвілайціс; Міцко Віртартайціс; Аляксандр Станкойціс; Мацей Сталюкайціс; Раман Кіментайціс; Марцін Даргайціс; Мацей Стырпейкайціс; Марын Андрушкайціс; Юры Друсутайціс; Пётр Гэгалтайціс.

*Двор Ясвойны.*

З 55 пералічаных у рэестры баяраў 2 (3,63 %) прозьвішчы з жамойцкімі канчаткамі: Міц Мошовтойціс; Якім Даргілойціс.

*Воласьць Відукле.*

У рэестры пералічаныя наступныя баяры, сярод якіх няма прозьвішчаў з жамойцкімі канчаткамі: Грыц Мірэйковіч; Якуб Вітартовіч; Марцін Вековіч; пані Венцлавова Барташэвіч; Пашка падскарбяга нябожчыка (магчыма абазначае зямлю); Марціновая Петрашэвіч; Лукаш Мікалаевіч Вековіч; Мікалаевая Валадкевіча; Станіслаў Мікалаевіч — казак; Войцях Семашковіч; пан Станіслаў Кухміровіч; Адам Ганусовіч; пан Станіслаў Сірэвіч; пан Андрушка Руковіч.

***

Як бачым з прагляду вялікай колькасьці імёнаў і прозьвішчаў баяраў у Літве і амаль усіх у Жамойдзі вынікае, што прастора да Невяжы выпаўненая была амаль выключна славянскім элемэнтам, у Жамойдзі жамойды тварылі прыблізна 12,1 % усяго баярства (бяз Тэльшы, дзе нельга ўстанавіць ліку баяраў) у 1588 г.[255].

[255] Думаем, што многія з гэтых прозьвішчаў з жамойцькімі канчаткамі не абазначаюць, што і баяры, да якіх яны тычацца, былі жамойцкага паходжаньня, бо яны могуць быць жамойцкімі мянешкамі, як напр. Станіслаў Радвілайціс, Станіс Рымковіч; Войтка Радойціс; Ян Вайтойціс і іншыя.

Прытым найбольшая згушчанасьць славянскага баярства ў Жамойдзі знаходзілася ў раёне між Невяжай, Дубісай і Юрай ды Нёманам.

Славянскі элемэнт утрымаўся ў Жамойдзі аж да канца існаваньня Вялікага Княства. Паводля сьпісу насельніцтва ў 1866 годзе ў Жамойдзі этнічны склад насельніцтва прадстаўляўся наступна:

| Акруга | жамойд. | славян. | жыдоў | немц. | усяго |
|---|---|---|---|---|---|
| **Шаўлі** | 182 000 | 18 200 | 53 000 | 7500 | **261 700** |
| **Расена** | 146 000 | 10 700 | 42 000 | 2500 | **201 200** |
| **Тэльша** | 73 000 | 10 300 | 15 000 | 1000 | **99 300** |
| **Коўня (за Невяжай)** | 572 000 | 59 000 | 159 000 | 19 000 | **893 400** |

Нічога дзіўнага, што пануючай мовай ня толькі ў Літве, але і ў Жамойдзі была крывіцкая мова, мова сядзеўшага там літоўскага баярства. Да XVI стагодзьдзя, г. зн. да часу рэфармацыі і рэлігійных рухаў, якія выкарыстоўвалі мовы падуладнага субстрату, ня маем ніякіх сьлядоў запісанай жамойцкай мовы. Але і пасля жамойцкая мова ўжывалася толькі ў малітвах і казаньнях, а ўсе запісы, у тым ліку і касьцельныя на Жамойдзі вяліся ў літоўскай, гэта значыць крывіцкай мове.

Не інакш перадаюць весткі аб моўных суадносінах у Прыбалтыцы гістарычныя крыніцы з XV—XVI і пазьнейшых стагодзьдзяў.

Дзеля лепшага зразуменьня гэтых вестак трэба мець на ўвазце яшчэ і палітычную тэндэнцыю, створаную на пачатку XV ст. у Літве аб рымскім паходжаньні Літвы і Прусаў і штучнай падмацоўцы гэтай лягенды пры дапамозе спасыланьня на жамойцкую мову, як быццам сугучную з лацінскай.

Тацыт у «Germania» пісаў, што ў «Плямёны эстыяў... у якіх... мова бліжэйшая да брытанскай». На аснове гэтай зацемкі некаторыя аўтары, як W. Pierson (1875), August Bielenestein (1892), W. Kamieniecki (1916), C. Jullian (1920) шукалі падабенства між мовамі жамойцкай і кэльцкай.

Аднак вартасьць гэтых пошукаў ня мае большага навуковага значэньня, міма існуючага некаторага падабенства, характэрнага для ўсіх старых індаэўрапэйскіх моваў, бо 1) за часоў Тацыта, як сьцьвярджае архэалёгія, не было яшчэ жэймаў у Прыбалтыцы, 2) навейшая лінгвістыка і архэалёгія сьцьвярджаюць прыход жэймаў-латышоў не з захаду (з суседзтва кэльтаў), але з усходу, з вярхоўя Дзьвіны і Дняпра[256].

Мюленгоф (Muehlenhoff) адмаўляе зацемцы Тацыта навуковае значэньне, кажучы:

> Wer dies meinte, hätte allerdinge wohl einmal «britanisch» reden hoeren urteilte aber nach dem blossen fremdartigen Klange, nicht anders als jene Islaender des X/XI Jhs, die nach Amerika verschlagen, die eingeborenen dort glaubten irisch sprechen zu hoeren. Er kannte und verstand weder «britanisch» noch gallisch, weil er dann eben so gut wie andere Romer und gewaehrsmaenner des Tacitus gewusst haette,dass der «sermo» zu beiden Seiten des Canals «haud multum diversus» (Agricolae, 11) sei, und bei wirklicher Aehnlichkeit und naeherer Verwandschaft beider sprachen nicht die unbedingt naeher liegende Vergleichung des aestischen mit dem gallischen uebersprungen haette.

Тацыт сваёй зацемкай аб падабенстве мовы «Aestiorum gentes» да «Britanicae», а не да суседняй «suevicae» (гэрманскай) сьцьвярджае, што гэтая мова была розная ад нямецкіх плямёнаў і такім чынам дае бліжэйшае акрэсьленьне, чаго ня мог бліжэй азначыць пры апісаньні «Peucinorum Venedorumque et Fennorum nationes». Некаторыя выясьненьні гэтай зацемкі знаходзім у Тацыта, дзе ён, апісваючы племя Boudicca (Voadicca — Hasse, славянскае ў Брытаніі), кажа:

> На трэці год выправаў ён адкрыў новыя плямёны, спустошыўшы народы аж да Таная (назва затокі).

Такім чынам сьцьвярджае Тацыт, што назоў ракі Танавы ў Англіі ёсьць aestuario nomen, інакш кажучы, што мова «Aestiorum gentes» на тэрыторыі Прыбалтыкі на ўсход ад Віслы

[256] Працы Rozwadowskaha, F. Papée, K. Buga, A. Погодзіна, Г. Лаўмянскага, Лер-Сплавінскага і іншых.

была гэткая самая ці падобная да славянскай на брытыйскім абтоку. Славяне гэтыя каля 786 г. пасьля Хрыста выэміґравалі ў Галію.

Суровецкі (Surowiecki) яшчэ ў XIX ст. у сваіх студыях над пачаткамі славяншчыны трапна зацеміў (у нямецкім перакладзе):



*Брошкі позняй жалезнай эпохі*
*(Паалкшнялайте, Летува. 1934 г.)*

Bedenken wir bei den so offenbaren Verwandschaftsspuren dieser Voelker, so laesst sich kuehnlich annehmen, dass sie dieselben Weneten, wie die baltischen und andere gewesen und dass ein grosser Teil derselben mit Gewalt von ihnen getrennt, tief nach Norden gedreangt worden sei. Diese Verdraengung lasst sich nicht ablaeugnen, denn sowie die adriatischen und armorischen weneten mitten unter keltischen Voelkerstaemmen wohnten, ebenso haben sich auch bei den baltischen Weneten unverkennbare Spuren keltischer Nachbarschaft erhalten.

Аб зацемках Пталемэя, Іардана, Эйнгарта, Адама Брэменскага, Гэльмольда, Скандынаўскіх сагах, Вульфстана і іншых, сьцьвярджаючых аднагодна славянскасьць Прыбалтыкі, ужо была гутарка раней, дык гэтага матэрыялу ня будзем паўтараць.

Спынімся над сумліўным матэрыялам Длугаша і Кромэра з XV і XVI стст., які спрычыніўся да паблытаньня паняцьцяў.

Длугаш аб этнічных і моўных суадносінах у Прыбалтыцы піша наступна:

Было ж у той час лютае і жорсткае племя прусаў адданае ідалапаклонству, шанаваньню дэманаў ды такой сляпой і цёмнай аблудзе, што пакланяліся як багам сонцу, месяцу, зоркам, зьвярам, птушкам, агню ды іншым створэньням. Некаторыя лясы, азёры і воды, якіх нельга было парушаць ловячы рыбу, палюючы ці высякаючы, яны лічылі сьвятымі. Яны маюць адмысловую гаворку, якая хоць крыху паходная




*Жаночыя ўпрыгожваньні літвы, жамойтаў, палабцаў*

ад лацінскай але мае нейкую згоднасць і роўнасць з літоўскай, і мелі амаль тых самых багоў, абрады і тыя ж сьвятасці, а таксама аднаго і таго ж самага сапраўднага найвышэйшага сьвятара з сядзібаю ў іх горадзе званым Ромаў, які лічыўся сталіцаю, і быў названы так ад Рыма. Яго загады не выкананыя паслухмяна з'яўляліся сьмяротным злачынствам, На іх мове ён зваўся Крыў.

Вядома, што прусы, літвіны і жамойты былі аднаго абычаю, мовы і роднасьці, а калі ўсчаліся грамадзянскія войны паміж Цэзарам і Пампеем і палала ўся Італія, яны пакінуўшы старыя селішчы, прыйшлі ў тыя краі, якія насяляюць цяпер і заклалі свае сядзібы ў гаях і пустках, на рэках, ставах і парослых балотах і заснавалі таксама галоўны горад Ромаў на ўзор Рыма ды зьмясцілі там свайго найвышэйшага святара. І хоць гэтыя плямёны вымаўленнем словаў адрозніваюцца, гэтак жа як палякі, багемцы і русіны, але тым не менш у многім яны сыходзяцца. Усё ж лічаць, што яны былі не з аднаго ствала і мовы, але ўважаюць, што паходжаньне прусаў было іншым, чым у літвінаў і жамойтаў...

Як бачым, Длугаш ня быў добра абзнаёмлены з этнічнымі розьніцамі прыбалтыцкіх народаў. Ён чуў легенду аб рымскім паходжаньні прусаў і літвы, і ад Дусбурга сьпісаў зацемку аб веры ды галоўным сьвятару Крывэ, што знаходзіўся ў Рамове. Ва ўсім праяўляецца няўпэўненасьць, што Длугаш выказвае словамі: «мяркуюць», «робіцца вядомым», «лічыцца», «перадаюць». Раз кажа, што аднолькавыя звычаі, мова і паходжаньне ў прусаў, ліцьвінаў і жамойдаў, то зноў перадае іншую чутку:

Усё ж лічаць, што яны былі не з аднаго ствала і мовы, але ўважаюць, што паходжаньне прусаў было іншым, чым у літвінаў і жамойтаў...

І трэйці варыянт — «gentec ipsae in prolatione verborum different», падобна як палякі, багэмы і русь.

Такім чынам, весткі Длугаша ня маюць большага навуковага значэньня. Разглядаць іх можна толькі як справаздачу розных чутак, да якіх нельга прывязаць даслоўнага абазначэньня. Ва ўсіх варыянтах чутак, пераданых Длугашам, міма падкрэсьленьня, што звычаі, мова і паходжаньне прусаў, літвы і жамойдзі ёсьць аднолькавыя, ня маем цьверджаньня, што яны не славянскія, а

толькі параўнаньне моўнай розніцы, падобнай якая існуе між палякамі, багэмцамі і русінамі.

Ня робіць таксама Длугаш ніякай зацемкі, што гэтая супольная мова прусаў, ліцьвінаў і жамойдаў датычыць усіх слаёў насельніцтва, як простага народу, так шляхты і баярства. У іншым месцы ён жамойцкую мову бачыць як самастойную, у якой некаторыя канчаткі напаміналі яму лаціну, а ў слоўніцтве кідалася ў вочы шмат славянскіх карэньняў. Але гэтая мова характэрная была ў Жамойдзі для «gentium vicinarum», для простага народу вёскі. З гэтага вынікае, што Длугаш, гаворачы аб мове, звычаях і паходжаньні прусаў, літвы і Жамойдзі мае на ўвазе не плебс, простанародзьдзе вёскі, а пануючую клясу, баярства, якое запраўды ў Прусах, Літве і Жамойдзі гутарыць аднной мовай (з магчымымі дыялектычнымі адхіленьнямі), мовай крывічоў, мела аднолькавыя звычаі і супольнае славянскае паходжаньне. Пад паняцьцем «Lituania» Длугаш разумее ўсю прастору Крывіччыны, адьдзяляючы Жамойдзь і Русь.

Таксама і пад паняцьцем «літоўскай мовы» Длугаш не што іншае разумеў, як мову крывічоў. Гэта вынікае з ягонага апісаньня разбурэньня ў 1387 г. Ягайлам «вечнага агню» Зьнічу ў Вільні:

> Кароль Уладзіслаў агонь, які яны лічылі вечным і які захоўваў у месьце Вільні, што была сталіцаю і метраполіяй племені, сьвятар, які іх моваю называўся Зьніч...

Адначасова даецца сьцьвердзіць у Длугаша падзел насельніцтва Літвы на дзьве групы паводля рэлігіі: на ліцьвінаў-каталікаў і ліцьвінаў-схізматыкаў, з якіх першых проста называе «Lithuani», а другіх «Rutheni». Трымаючыся тэорыі аб рымскім паходжаньні літвы, жамойдзі і нават яцьвезі, Длугаш таксама падкрэсьлівае, што ўся прастора, якую займаюць гэтыя народы, ёсьць уласнасьцю так жа «gentis Ruthenicae», куды даўно пранікла праваслаўе і вытварыла рэлігійную мешаніну.

І ўрэшце Длугаш бліжэй спыняецца над Жамойдзяй і яе мовай, мовай не баяраў, але «gentium vicinarum» — простанародзьдзя.

> Потым, калі суседзі да іх не мяшаліся, сьпярша жывучы вольна, карыстаючыся сваім правам і ўсё больш памнажаючыся ды разрастаючыся, яны назвалі ніжэйшую адносна Прусіі зямлю з

уласьцівасьці сваёй гаворкі Жамойцю, што значыць «ніжэйшая зямля», і ўрэшце спустошылі сумежную з Польшчаю зямлю, званую Жарачоны /Жараны. — *Рэд.*/... Гаворка ў іх лацінская, з невялікімі адрозьненьнямі, якая ад зносінаў з суседнімі народамі дастасавалася да ўласьцівасьцяў славянскіх словаў.

Такім чынам жамойцкая мова ў разуменьні Длугаша мела лацінскія элемэнты з словамі, прымыкаючымі да славянскіх.

Як бачым, ва ўсіх характэрных зацемках Длугаша няма яснасьці, станоўкасьці, а ўвесь матэрыял авеяны туманнасьцю рымскага паходжаньня літвы і іншых суседніх народаў. Гэта паказвае, наколькі быў бяскрытычны Длугаш, што сьвежа створаную ў Ліцьве легенду прымаў за вельмі вучоную тэорыю, якая засланіла яму ясныя і вачавідныя факты. Не давала яму аб'ектыўнасьці ненавісьць да ўсяго некаталіцкага і няпольскага, у ягоных вачах літва, прусы і іншыя — гэта барбары, дзікары, якіх толькі прылучэньне да каталіцтва і Польшчы можа сцывілізаваць.

Больш ста гадоў пазьней пісаў Марцін Кромэр сваю «De origine et rebus gestis Polonorum», для якога Длугаш быў вялікім аўтарытэтам і які ня толькі не раз'ясьніў пытаньня аб паходжаньні літвы, прусаў, жамойдзі і яцьвягаў, але яшчэ больш заблытаў. Ён высіляўся даць «вучоную» разьвязку аб паходжаньні славянаў і неславянскіх народаў Сармацыі, але ня змог узьняцца на навуковую вышыню і выйсьці з кругу распаўсюджаных легендаў і домыслаў. Фінкель (L. Finkiel, 1883) уважае працу Кромэра за плагіят Длугаша, Вапоўскага і іншых.

У часы Кромэра рэлігійныя суадносіны ў Вялікім Княстве Літоўскім значна зьмяніліся ў параўнаньні да часоў Длугаша. Пачатная каталіцкая палітыка Ягайлы ўпрывілеяваць выключна баяраў-каталікоў мусіла скапітуляваць перад разьвіцьцём праваслаўя сярод літоўскага баярства[257]. Паняцьце Літвы і Русі, каталікоў і праваслаўных страціла сваё ранейшае значэньне.

---

[257] Трэці агульны земскі прывілей з 6.V.1434 Жыгімонта Кейстутавіча аб зраўнаньні у правох каталікоў і праваслаўных; Чацьверты агульна-земскі прывілей Вялікага Князя Казіміра з 2.V.1457 г. і Пяты агульна-земскі прывілей Вялікага Князя Аляксандра з 6.III.1492 г.; Шосты агульна-земскі прывілей Вял. Князя Жыгімонта з 7.XII.1506 г.; Сёмы агульна-земскі прывілей, або Літоўскі Статут з 1529 г.

Ад Берасьцейскай вуніі вытварыліся новыя паняцьці: каталікоў-лаціньнікаў, уніятаў і дызуніатаў. Сярод каталікоў-крывічоў праводзілася палянізацыя духавенствам; каталікі-жамойды, дзякуючы рэфармацыі, пачалі абслугоўвацца ў жамойцкай мове, якую прускія рэфарматары (аб чым ніжэй) называюць таксама літоўскай.

Вось гэтая рэлігійная мешаніна, памяшаньне паняцьцяў, хто ліцьвін, хто рускі, хто жмудзін, была прычынай таго, што Кромэр, Каяловіч, Лукаш Давід і іншыя ў сваіх «вучоных» домыслах зьвязвалі назоў Літуанія з жамойдамі, што знаходзіліся ў Літве, прытым у гэтым няма ніякай пасьлядоўнасьці; слова Літва, Літуанія то абазначае ўсіх жыхароў В.К.Л. і супрацьстаўляецца Жамойдзі, то зноў звужваецца да літоўскіх жамойдаў. Кромэр як і іншыя названыя аўтары, не адважваецца аднак паставіць тэзы: Літва і Жамойдзь гэта непадзельны адзін народ. Кромэр кажа:

> Лівы, жамойты, літвіны і прусы, утрымліваючы старую назву... дасюль між сабою ва ўжытку карыстаюцца адной і той жа мовай, цалкам не падобнай да славянскай, але якая мае не мала прымешаных лацінскіх словаў, амаль сапсаваных і адзначаных больш прыкметамі італійскімі альбо гішпанскімі, чым лацінскімі.

Значыць па-жамойцку (Кромэр ня знаў гэтай мовы, яна яму здавалася падобнай часткова да лаціны, больш да італьянскай мовы) гаварыў просты народ (lingua vulgo) у Жамойдзі, у Лівоніі (Латвіі), у паўночна-заходняй частцы Прусаў, якая асталася пры немцах, і жамойды ў Літве. Але і ў гэтым Кромэр няўпэўнены, бо ў іншым месцы кажа, што ў той частцы Прусаў, што асталася пры нямецкім ордэне:

---

У лісце Жыгімонта з 7.VI.1563 аб зьменах у Гарадзэльскім прывілею і зраўнаньні ў правох станаў шляхты ўсіх веравызнаньняў між іншым сказана: «Мы з паны радамі нашымі абачыўшы, іж перад тым, ніж тот прывілей у Гародне выдан, станы і народы шляхоцкія знакамітымі службамі рэчы паспалітай і прэдкам нашым заслугуючыся, зацна вывышоны і учэсьнены былі, а к таму, іж тож бываючы ня толькі рымскага касьцёла паслушныя, але і грэцкага, у лавіцы рады продкаў нашых і нашае... ухвалаем і хочам меці, іж ад таго часу, ня толькі тые панове, шляхта і баяры, або патамкове іх, усіх зямель нашых таго ўсяго панства нашага, дараваньня прывілеяў і наданьня ўсіх вольнасьцей і праў земскіх ужываці і з іх ся весяліці маюць, каторыя суць подданы касьцёлу рымскаму і каторых тож прадкове кляйноты і гэрбы ў каруне Польскай прыймавалі, але тож і усе іныя стану рыцарскага і шляхоцкага яко Літоўскага, так і Рускага народу, адно бы былі веры хрысьціянскай»...

Вітаўт і Ягайла таксама былі праваслаўнымі. Аб Ягайле ў Длугаша:

> «Альгерд... меў 12 сыноў ад адной рускай жонкі, дачкі князя Тверскага: Ягайла, Скіргайла, Барыс, Карыбут, Вігунт, Карыгайла, Нарымунт, Ленгвен, Любарт, Андрэй і Бутаў. Усіх юнакоў матка выхавала на грэцкаму абычаю на асновах грэцкага вызнаньня».

больш ужываная ў гэтых плямёнаў нямецкая мова, чым тая старая мясцовая, асабліва ў местах і гарадах, гэтак як у літвінаў прыйшла да ўжытку дзеля суседства і зносінаў з русінамі а таксама выведзеных калоніяў [русінская]: яны шмат карыстаюцца русінскай гаворкаю.

Інакш кажучы, у гарадох і местах Прусіі, а таксама і ў Ліцьве жамойцкай мовы не было і насельніцтва гутарыла «sermone Russico», значыць крывіцкай мовай.

Як гэта сталася, што існаваў гэткі моўны падзел між жамойцкай вёскай і горадам, Кромэр ня ведае. Яму здаецца, што паўсюднае ўжываньне крывіцкай мовы ў Прыбалтыцы ёсьць вынікам славянскай калянізацыі гэтых зямель і бліскім суседзтвам да «Русі» (Крывіччыны).

У адносінах да яцьвягаў Кромэр таксама блытаецца. У адным месцы /ён/ кажа:

Языгі ж ці яцвінгі былі, як хочуць некаторыя, той жа мовы з Літвінамі, тых жа звычаяў і рэлігіі, і насялялі на поўдні ў Літве памежныя, суседнія з Польшчаю лясы.

Тут паўтарыў амаль даслоўна зацемку Длугаша, быццам яцьвягі аднолькавага паходжаньня з Літвой. У іншым месцы падае зусім супярэчную да першай вестку:

Перадаюць, што дасюль засталіся нейкія нязначныя рэшткі іх (яцьвінгаў) у Літве і Русі, якія карыстаюцца цалкам адрознай моваю ад славянаў і літвінаў.

Як бачым, Кромэр, падобна як і Длугаш, ня ёсьць здавальняючай крыніцай адносна этнічных элемэнтаў Прыбалтыкі, у асаблівасьці прусаў, яцьвягаў, літвы і жамойдзі. Вырваныя пасобныя сказы абодвух аўтараў могуць наводзіць сугэстыю на неабазнанасьць чытача, быццам усе названыя народы адной мовы, звычаяў і паходжаньня (што і сёньня яшчэ бяскрытычна паўтараецца многімі), аднак як Длугаш, так і Кромэр на гэта не маглі даць станоўчага адказу і паўтаралі розныя погляды і домыслы ці нават нябыліцы. У аднаго і другога жамойцкай мовай гаварыла вёска ў Жамойдзі, частцы Прусаў, Лівоніі і жамойцкае

насельніцтва Літвы. Шляхта і мяшчанства, магнаты і сяляне Літвы гутарылі сваёй мовай, «sermone Russico» — так называюць крывіцкую мову В. Княства Літоўскага.

Можна было б мець нейкія сумлівы адносна крывіцкасьці (славянскасьці) Літвы, Прусаў і баяраў Жамойдзі, калі б існавалі толькі гэтыя польскія крыніцы, якія тэндэнцыйна выкарыстоўваюцца ў сучаснай літаратуры прожамойцкага кірунку. На шчасьце існуе вялікая колькасьць іншых крыніцаў, больш аўтарытатыўных, якія аднаэгодна сьцьвярджаюць праўдзівасьць намі пастаўленай тэзы.

Hartmann Schedel у 1493 г. у сваёй «Chronicon mundi» піша аб мове літоўскай: «гаворка племені славянская...»; Sebastian Münster, «Cosmographia» (1554 г.) сьцьвярджае гэта самае: «Гаворка племені, як і ў палякаў, славянская...» Знакаміты гуманіст /першай палавіны/ XV ст., вучоны і Папа рымскі Энеа Сільвіё (Enea Silvio Piccolomini, Papa Pio II), які ў сваёй працы «De Europa» зьмясьціў цэлы разьдзел «De Lituania», меўшы добрыя інфармацыі ад спавядальніка караля Ягайлы і іншых касьцельных крыніцаў аўтарытэтна сьцьвярджае:

> Сама Літва абсяжны і магутны край, які прылягае да палякаў з усходу... Гаворка племені славянская; гэтая мова вельмі пашы-




*Фрагмент Квэндлібурскіх аналаў, дзе ўпершыню згаданая Літва*

раная і падзеленая на розныя віды. З славянаў адны належаць да рымскага Касцёла як дальматыйцы, харваты, карвы і палякі, іншыя спавядаюць аблуды грэкаў як балгары, русіны і многія з літвінаў...

З польскіх аўтараў заслугоўвае на ўвагу M. Miechovita, які ў сваёй кнізе «Descriptio Sarmatiarum Asianae et Europianae...» (1521 г.) шмат месца празначае Літве і Жамойдзі. Падходзячы крытычна да існуючага матэрыялу розных летапісаў, Мехавіта вырозьнівае як два розныя народы літву і жамойдзь, Літву хоць і асьцярожна залічае да славянскіх краінаў:

мова славянаў вельмі пашыраная і распаўсюджаная, займае многія землі і правінцыі, так ёсць сербы, мізіі, раскі ці балгары і басьнякі падбітыя ў сённяшні час туркам. Таксама ёсць дальматыйцы, харваты, панонцы, славы, карны, багемцы, маравяне, сілезцы, палякі вялікія і малыя, мазуры, памаране, кашубы, сорбы, русіны, маскоўцы. Гэтыя ўсе славяне і віндэлікі, якія насяляюць вялікія каралеўствы, але і літвіны ўжо гавораць па-славянску...

Асьцярожнасьць Мехавіты адносна славянскасьці Літвы (ён сьцьвярджае толькі іх славянскую мову) вынікае з прынятай ім тэорыі аб рымскім паходжаньні літвы. Жамойдзь — гэта краіна розная ад Літвы: «Жамойдзь так называюць з самой яе гаворкі, што іхняю моваю значыць „ніжэйшая зямля"...»

Славянскасьць Літвы сьцьвярджае Adalbertus de Starczewski, польскі гісторык XVI ст., залічаючы Літву да славянскіх народаў:

А пра паходжанне племені, нічога не маюць апрача ніжэй пададзеных летапісаў: гэтае племя славянскае з роду Яфэта, і некалі асела было на Дунаі, дзе цяпер Вугоршчына і Балгарыя, і тады называлася норцамі: а ўрэшце разыйшлося і рассыпалася па землях ды атрымала назвы а мясцовасцяў, гэтак як маравяне ад ракі, іншыя чэхі, багемцы, далей белыя харваты, сербы г.зн. сэрвы, званыя харантанамі, якія аселі на Дунаі, выгнаныя ж валахамі адыйшлі да Віслы і атрымалі імя ляхаў ад нейкага Леха князя палякаў, ад якога палякі нават і цяпер называюцца ляхамі. Адны з іх літвіны, мазуры, памаране, а іншыя сядзяць па Дняпры, дзе цяпер Кіеў.

Яны называліся палянамі, іншыя дрэвянамі, якія жылі ў гаях, іншыя між Дзвіной і Прыпеццю, называныя дрэговічамі, іншыя паленчане на рацэ Полта (Палота), якая ўпадае ў Дзвіну, іншыя вакол возера Ільмень, якія занялі Ноўгарад, дзе паставілі князя па імені Гастамысл, іншыя па рэках Дзясне і Судe, званыя севяране альбо северскі, іншыя ж над рэкамі Волгаю і Дняпром крывічы, замак і сталіца якіх у Смаленску. Так сведчаць іх летапісы. (Historiae Ruthenicae Scriptores Exteri saeculi XVI).

Гэта самае сьцьвярджае італьянец Гвагнін (Alexandri Gwagnini), які служыў у войску Вялікага Княства Літоўскага і некаторы час быў камандантам гарнізону ў Віцебску, займаўся таксама вывучэньнем нашай мінуўшчыны. У 1578 г. /ён/ выдаў сваю вялікую працу «Sarmatiae Europeae description», дзе ў пераліку ўсіх славянскіх краінаў пляменнай эпохі памяшчае і Літву, як старую славянскую зямлю, падкрэсьліваючы, што «omnes unius gentis et idiomatis Slavonicae fuerint».

Сучасьнік Гвагніна і Кромэра, польскі гісторык М. Стрыйкоўскі таксама залічае літву да славянскіх народаў, выводзячы іх з Пафлагоніі:



*Забойства сьв. Бруно 9 сакавіка 1009 г.*

Wandalitowie on narod waleczny poszedł. Acz wszyscy ruszywszy sie z Paflagoniej ciągnęli nad Pontem Euxinem albo Czarnym Morzem aż do uścia morza Meotis i rzeki Tanais, a potym złączywszy sie з inszym potomstwem Jafetowym i Mosochowym napełnili większą część krain północnych w Europie, jakož jeszcze do tyćh czasów w krainach tychže potomkowie ich trzymają osady swoje, gdzie teraz Rusacy, Moskwa, Litwa, Podlaszanie, Polacy i Prusowie starzy. A i dziś Morze Pruskie i Pomorskie od tych Henetow Henetyckim albo Wenedyckim mianują, a narody nad tym morzem mieszkające, ktoregom sam dobrze świadom. Henetami, Windiszami, Rugiany, Wandaliki i Kasubami zowią...

Стрыйкоўскі добра адрозьнівае, дрэнна толькі інтэрпрэтуе этнічны падзел насельніцтва, існуючы ў Жамойдзі: на пануючую шляхту, якая быццам «рымскага паходжаньня» і якая нічым ня розьніцца ад гэткай на ўсёй славянскай прасторы і на «чэрнь», простанародзьдзе, што быццам паходзіць з «starych gepidow, sudowitow i litalanow albo alanow».

Ці ёсьць патрэба яшчэ прыводзіць шмат іншых падобных доказаў розных аўтараў на славянскасьць літвы, прусаў і жамойцкай шляхты? Я думаю, што лішнім будзе абцяжэньнем гэтага разьдзелу.



# Глава 10
# ЖАМОЙДЗЬ І ЛІТВА

## Жамойдзкая пісьменнасьць

Да палавіны XVI ст. ня маем ніякай памяткі жамойдзкай мовы. Як ужо ведаем з зьмешчаных крыніцаў, гэта была мова «чэрні», простага народу ў Жамойдзі, Лівоніі, паўночнаўсходняй часткі Прусаў, /а таксама/ Ковеншчыны ў Літве, дзе знаходзілася жамойдзкае насельніцтва. Шляхта і баяры, гарады і месты гутарылі крывіцкай мовай, якая была дзяржаўнай мовай Вялікага Княства Літоўскага і дыплёматычных зносін з суседнімі гаспадарствамі.

Разьвіцьцё рэфармацыі і пратэстанцкага руху прынясло некаторыя зьмены. Да рэфармацыі рэлігійным жыцьцём простага народу мала хто займаўся. Сьвятыні і манастыры знаходзіліся ў гарадох і мястэчках, дзе і канцэнтравалася рэлігійнае жыцьцё. Пратэстанцкі рух у барацьбе з каталіцкім касьцёлам імкнуўся выкарыстаць занядбаныя масы простага народу, асабліва пасьля Трыдэнцкага Сабору, дзе былі прынятыя меры дзеля аздараўленьня каталіцкага касьцёла і барацьбы з рэфармацыяй. Каб дасягнуць сваёй мэты, пратэстанцкі рух выкарыстоўваў мову вернікаў у набажэнствах і рэлігійнай літаратуры і гэтым спрычыніўся да падняцьця з нізоў мовы простага насельніцтва. Для больш эфэктыўнай барацьбы з «гэрэзыяй» гэтым шляхом пайшоў і каталіцкі касьцёл.


Catechismus
in preussischer
sprach, und da-
gegen das
deudsche.
1545.


Unsey gobuns andangon / Sin-
dats prastickray Wans wismo-
singis Thawas / Swendan per-
gubuns wirst przylaginwey stans
gijwans bha aulauwussens.
As drowe en swintan nasalen /
Ainan swintan krixtianiskan kir-
kin / Ainan perroniscon swintan /
Er werpsannan grecon / Er Skellan
na menschon / Bha prabutskan ga-
win. Amen.

Sta Thawe nuson.
Thawe nuson kas thu asse an-
dangon. Swintints wirst twais
emmens. Pergeis twais laeims.
Twais quaits audasseisin na sem-
mey key andangon. Nusan deini-
d

*Катэхізм на прускай мове (пачатак XVI ст.)*

У адносінах да жамойцкай мовы сталася гэта насамперш ва Усходніх Прусах. У 1525 годзе Albrecht Hohenzollern, каб ратаваць сваю ўладу перад націскам Польшчы, пакінуў каталіцызм, сэкулярызаваў Закон /Ордэн. — *Рэд.*/ і стаўся /гэрцагам/ сьвецкім васалам Жыгімонта, караля Польшчы і В.К.Л.

Перайшоўшы на пратэстантызм, Альбрэхт выкарыстаў рэфармацыю як новую палітычную сілу, якая з часам прынясла непрадбачаны Жыгімонтам вынік, пайменна стварэньне магутнай прускай нямецкай дзяржавы. У 1544 г. Альбрэхт дзеля пратэстанцкіх і палітычных мэтаў перамяніў існуючую ў Кёнігсбэргу школу на Акадэмію і ўстанавіў 24 стыпэндыі на лютэранскіх місіянераў. Паводля «Ordinatio de alumnis illustrissimi principis» з 24 студэнтаў 7 павінны былі добра валодаць літоўскай, 7 польскай мовай (septem linguam Polonicam, septem Lithuanicam calere debent).

Год пазьней была выданая ў тым жа Кёнігсбэргу

першая катахізмоўка ў жамойцкай мове, якая аднак была названая «прускай» мовай і гэтым спрычынілася да путаніцы, існуючай па сёньняшні дзень, быццам гэта была мова ўсяго насельніцтва Прусіі. У запраўднасьці гэта была мова простага насельніцтва вёскі, мова жамойцкая ў паўночна-ўсходнім кутку прускай прасторы.

Выданы катэхізіс не дасягнуў сваёй мэты. Мова яго была з прычыны вялікай прымесі германізмаў недаступная для жамойцкага насельніцтва. Таму Альбрэхт вымагаў ад студэнтаў, каб «descedendo uno ex germanis semper substituendus est Polonicae aut Lituanicae linguae peritus, precipue autem Pruthenicae si haberi potest». У 1547 г. Мажвідас (Mosvidius) выдаў другую катахізмоўку «Catechismusa Prasty szadei. Makslas skaitima raschta yr giesmes dal krisczianistes bei der bernelin iaunu nauiey suguldita» з значна выпраўленай жамойцкай мовай. За жыцьця Альбрэхта ў 1559 г. была выданая яшчэ адна кніжыца ў жамойцкай мове на 42 бачынах — цэрэмонія хросту («Forma Chrikstima kaip Baszniczas istatimae Hertzikistes Prusu ir kitosu Žemesu laikoma ira». Drukawot Karalauczui per Jona Daubmana meta Christaus. MDLIX).

Як паказвае сам загаловак апошняй кніжыцы, яе выдаўцы ставілі перад сабой шырэйшыя мэты: шырыць пратэстантызм ня толькі ў Гэрцагстве Прускім, але і ў іншых краінах, пад чым разумець трэба Вялікае Княства Літоўскае.

Хоць у дзьвюх апошніх кніжыцах няма паясьненьня аб назове мовы, падразумяваецца тут «пруская» мова, аб чым былі выясьненьні ў першай катахізмоўцы з 1545 г. Так разумеў сам Альбрэхт, дадаючы паясненьні да «prutheni vel sudini», ад так званага «Судаўскага трыкутніка» ў паўночна-ўсходнім кутку Прусіі[258].

Сучасьнікі Альбрэхта разумелі пад гэтай «прускай» або «судаўскай» мовай ня што іншае, як толькі жамойцкую мову і жамойцкае насельніцтва. На картах з гэтага часу Гроцы (Grotius)

[258] Судаўскі трыкутнік (Sudauen Winkel) — гэта трыкутнік абмежаваны морам, Нёманам і лініяй Кёнігсбэрг — Рагнета, куды перасялілася частка насельніцтва Сударвы (Судавіі) у другой палавіне XIII ст. з прычыны нямецкіх атакаў на Сударву з захаду. Не абазначае гэта зусім, што перасяліўшаеся насельніцтва было жамойцкае. Яно толькі прыняло свой назоў.

правільна абазначае прастору з «прускай» мовай у Гэрцагстве Альбрэхта проста SAMAIDE (Жамойць)[259].

Зусім недарэчным ёсьць разуменьне сучаснымі жамойцкімі аўтарамі[260] быццам абазначаная ў дакумантах Альбрэхта і іншых тагачасьнікаў «літоўская мова» Lithuanica, Lithuani ў Прусах адносіцца да жамойдаў. Альбрэхт у /сваім/ «Ordinatio de alumnis» ясна і недвузначна адрозьнівае тры розныя мовы і тры народнасьці ў Прусах:

- польская, літоўская і пруская мова;
- палякі, літвіны, прусы ці судыны;
- палякі, літвіны, судыны ці прусы (якія не разумеюць нямецкай мовы).

Што прусы ці судыны абазначалі ў яго жамойдаў, на гэта ёсьць доказам першая катахізмоўка і карта Гроцыя, а таксама зацемкі Длугаша, Кромэра і іншых /аўтараў/.

З лістоў Альбрэхта да біскупа Прусіі з 1536—1545 гг. даведваемся, дзе існавала ў ягоным гаспадарстве літоўская мова. Літоўскай мовай гаварыла насельніцтва ў акругах Lyck, Angerburg, Fischhausen, Gerdauen, Engylstein. Гэта самае сьцьвярджае нямецкі падарожнік Самуэль Кіхель (Samuel Kiechel), які ў 1586 г. праязджаў праз Кашубы, Гданьск, Эльбінг, Кёнігсбэрг да Горадні і апісаў сваё падарожжа, інфармуючы, што жыхары ў раёне Königsberg і на паўдзённы захад ад Gerdauen гавораць па-літоўску[261].

Аб вялікіх зацікаўленьнях Альбрэхта літоўскай мовай і магчымым намерам друкаваць рэлігійную літаратуру ў крывіцкай мове сьведчыць справа з Францішкам Скарынай. У 1530 г. Скарына, відаць, на просьбу гэрцага прыбыў у Кёнігсбэрг і быў прыняты з вялікай пашанай і апекай, і залічаны да грамадзян Прускага Княства. /Але/ план гэты Альбрэхта ня зьдзейсьніўся, бо ў гэтым самым 1530 годзе Скарына, забраўшы з сабой іншага

---

259 Abraham Ortelli. Theatrum Orbis terrarum. Antwerpiae, 1570, карта 44.

260 C. Jurgela. «History of the Lithuanian Nation». New York, 1952.

261 Samuel Kiechel. «Ueber Kassuben, Danzig, Elbing und Koenigsberg, in Altpreuss». Глядзі таксама «Recessus Generalis der Kirchen Visitation Insterburgischen und anderer Littawischen Embter im Herzogthumb Preussen De Anno 1638», Preuss. Provinc. Kirchenblatt, Koenigsberg, 1843, s. 262, дзе гаворыцца, што на поўабтоку на поўнач ад Кёнігсбэрга і ў раёне Інстэрбурга насельніцтва гутарыла па-літоўску.

друкара, нейкага жыда з Кракава, пакінуў Кёнігсбэрг і выехаў у Літву[262].

Ужо пасьля сьмерці Альбрэхта гадунцы Кёнігсбэрскай акадэміі, жэймы па паходжаньні, зьмяняюць кірунак Альбрэхтавай палітыкі. Яны жамойцкую мову, на якой выдаюць рэлігійную літаратуру, называюць не «прускай», але «літоўскай» мовай. І так у 1579 г. надрукаваная была трэйцяя жамойцкая катахізмоўка:

> Enchiridion Catechismas maszas, dael paspalitu Plebonu ir koznadiju wokischku lieszuwiu paraschits per Daktara Martina Luthera. O isch wokischka lieszuwia and lietuwischka pilnai ir wiernai pergulditas per Baltramieju Willenta plebona Karalauczuie and Schteindama.



*Катэхізм Мажвидаса на жамойдзкай мове (1547 г.)*

У 1589 г. жамойцкім сьвятаром у Каралеўцы быў выдадзены духоўны сьпеўнік з абазначэньнем «Lietuwischka lieszuwi». Асабліва выдатным пашыральнікам жамойцкага друку быў у гэтым часе Ян Брэткун, які скончыў тэалёгію ў Каралеўцы /Кёнігсбэргу. — *Рэд.*/ у 1563 г. і быў плябанам у гэтым месьце. Ён пераклаў на жамойцкую мову (у 1579—1590 гг.) біблію:

> Biblia tatai esti wissas Schwentas Raschtas Lietuwis chkai pergulditas per Jana Bretkuna, lietuwos Plebona Karaliacziuie.

Біблія гэтая не была друкаваная.

---

[262] Кароль Альбрэхт і Скарына, дакуманты з дзяржаўнага архіву ў Каралеўцы. Запісы БІНіМ, 1953, № 2.

У 1591 г. Брэткун выдаў «Postilla tatai esti trunpas ir Prastas isschguldlmas Euangeliu, sakamuju Baszniczoie krikschozionischkoie, nūg Aduento ik Waeliku», таксама падкрэсьліваючы яе «літоўскі» характар.

У змаганьні з пратэстантызмам езуіты паслугоўваліся тымі самымі сродкамі: выдавалі ў розных мовах і ў тым ліку па-жамойцку сваю рэлігійную і палемічную літаратуру. Першай гэткай кніжыцай, выданай езуітамі ў Вільні з падкрэсьленьнем яе «літоўскай» мовы, была катахізмоўка:

> Katechismas arba mokslas kiekwienam krikszcziomi priwals. Paraszitas per D. Jakuba Ledesma Theologa Societatis Jesu. Iżgulditas iż lieżuwio Lankiszko ing Lietuwiszka per kuniga Mikaloiu Daugsza, kanonika Żemaiczi (Iżpaustas Wilniuie, Metusę iżgimimo wieszpaties. 1595).

Ад гэтага часу Вільня сталася другім Каралеўцам у множанні жамойцкай літаратуры. Езуіты з свайго боку, а рэфарматары з другога на пераломе XVI і XVII стст. спрычыніліся да разьвіцьця жамойцкага друку. Нас цікавіць не сам жамойцкі друк і жамойцкая мова гэтых друкаў, але пытаньне назову, падкрэсьліванага ў кожнай кніжыцы, што гэта — «літоўская» мова.

Мы ўжо раней зазначылі, што на працягу XVI стагодзьдзя роля каталіцкага касьцёла ў Літве затраціла сваё вядучае значэньне, як «літоўская вера» і фактычна праваслаўе сталася жыцьцёвым зьместам Літвы як «руская вера», ахапляючы ў 80 % Раду Вялікага Княства і знатнейшае баярства. У другой палавіне XVI ст. далейшае аслабленьне каталіцтва прынясла рэфармацыя: Радзівілы, Валовічы, Дарагастайскія, Савіцкія, Глябовічы, Пронскія, Сьвірскія, Зяновічы і шмат-шмат іншых знатнейшых магнатаў пакінулі каталіцтва і перайшлі да пратэстантызму, кальвінізму ці арыянізму.

Пачаўся жудасны пэрыяд рэлігійнага змаганьня ў В.К.Л на шкоду крывіцкай мовы. З аднаго боку рэфармацыя падносіць жамойцкую мову сярод жэймаў, з другога ў славянскіх зборах уводзіць польскую мову і выдае польскую рэлігійную літаратуру. Тое самае ўводзяць езуіты. Для прыкладу назавём толькі некаторых знатнейшых аўтараў, каталіцкіх і пратэстанцкіх з

пары рэфармацыі, /якія/ друкавалі па-польску рэлігійную і палемічную літаратуру ў Літве: Пётр Скарга (P. Skarha), Якуб Вуек (J. Vujek), Андрэй Юргевіч (A. Jurhievic), Станіслаў Градзіцкі (S. Hradzicki), Крыштоф і Станіслаў Варшавіцкія (Varsavickija), Марцін Лашч (M. Lasc), Марцін Сміглецкі (M. Smihlecki), Сымон Будны (S. Budny), Марцін Чаховіч (M. Chechovic), М. Бранеўскі (M. Branieuski), Андрэй Волян (A. Volan), Станіслаў Кашуцкі (S. Kasucki), Сымон Жак (S. Zak), Андрэй Трыцельскі (A. Trycielski), Грыгор з Жарноўца (Hrygor z Zarnouca) і шмат іншых.

Унія Літвы з Польшчай (1569 г.) адкрыла дзьверы ў Крывіччыну для польшчыны ў рэлігійным жыцьці. Такім чынам каталіцкі і пратэстанцкія касьцёлы сталіся ў канцы XVI і XVII стст. чынам асяродкамі польшчыны і выціснулі крывіцкую мову са сьвятыняў, а супраціў мясцовых манастыроў, як францішканаў, дамініканаў і базыльянаў, быў занадта слабы, каб даць адпор нарастаючай хвалі польшчыны, ведзенай езуітамі і падтрыманай многімі літоўскімі магнатамі. Сьмерць апошняга з Ягайлавічаў сталася пачаткам заняпаду літоўскай культуры і літоўскай запраўднай мовы.



*Альбрэхт Гогенцоллерн (1490—1568)*

Да гэтага заняпаду прылажыла сваю руку і праваслаўе.

Праваслаўе міма свайго разьвіцьця не сталася нацыянальнай верай Літвы. Гэніяльная спроба Вітаўта ў 1415 г. аддзяляцца ад Масквы і назначэньне Рыгора Цамблака на Літоўскага праваслаўнага мітрапаліта ў Кіеве, незалежнага ад Масквы, няўдачна скончылася пасьля сьмерці мітрапаліта. Заняць-

це туркамі Канстанцінопаля (29 траўня 1453 г. — *Рэд.*) адняло аўтарытэт бізантыйскаму патрыярху, дасюлешнім галаве праваслаўя. Адначасова крэпне Масква, вызваліўшыся канчаткова (у 1480 г.) ад татарскай залежнасьці. Яна становіцца другім пасьля Рыму цэнтрам, а Іван III (гаспадарыў у 1462—1505 гг.), ажаніўшыся (у 1472 г. — *Рэд.*) з апошняю нашчадніцай бізантыйскіх імпэратараў Зофіяй Палеалёг, уважыў сябе прадаўжальнікам бізантыйскіх імпэратараў (з усімі імпэратарскімі эмблемамі) і галавой усходняга праваслаўя як «самодэржэц Велікой, Малой і Белой Русі». Ад гэтага часу Масква як «трэці Рым» пачала сваю экспансію на захад, выкарыстоўваючы праваслаўе і ўмешваючыся ў рэлігійныя справы Вялікага Княства Літоўскага.

Міма росквіту крывіцкай мовы і літаратуры ў XVI ст. праваслаўе было зьвязанае царкоўна-славяншчынай і ня толькі не змагло вызваліцца ад яго, але вытварыла тэорыю, быццам запраўдна паўсюднай і годнай праваслаўя ёсьць мова царкоўна-славянская. Немалую ролю ў гэтым адыгралі перабежчыкі з



***Пратэстанцкая Акадэмія (Універсітэт) у Каралеўцы***

Масквы ў Літву, як напрыклад /князь Андрэй/ Курбскі, /друкар/ Іван Федаровіч. Таксама і праваслаўныя Царкоўныя Брацтвы, якія займаліся школьніцтвам у гэтым часе, трымаліся тэорыі аб вышшасьці царкоўнай славяншчыны.

У выніку ўсяго гэтага ў другой палавіне XVI ст. наступіла пераацэнка, перамена і памяшаньне паняцьцяў на рэлігійнай падкладцы і стары назоў «літоўская мова» страціў сваё крывіцкае значэньне, пачаў ужывацца ў адносінах да жамойцкай мовы, ляпей кажучы да дыялекту жэймаў, што знаходзіліся ў Літве, да дыялекту, у якім пісаліся рэлігійныя кнігі ў Прусіі і Літве.

Бецценбергер пісаў /у 1882 годзе/:

> Die preussischen Littauer (чытай жэймы), schaetzen die Žemaiten gering, die žemaitische Sprache gilt ihnen fuer unfein und in Folge dessen ruempfen die suedlicher Wohnenden schon ueber das um Memel gesprochene Litauisch, das viel žemaitisches enthalte, die Nase[263].

Дыялект прускіх і літоўскіх жэймаў, у выніку ўздзеяньня крывіцкай культуры і крывіцкага насельніцтва быў гэткі самы і розьніўся ад мовы насельніцтва Жамойдзі.

Такім чынам вытварылася заблытанае становішча: Літва, ліцьвіны далей абазначалі Крывіччыну і крывічоў, без Жамойдзі і Русі, а «літоўская» мова стала абазначаць жамойцкую[264]. Нават

---

[263] A. Bezzenberger, Littauische Forschungen. Goetingen, 1882, s. 38.

[264] Ва ўсіх дакумантах Вялікага Княства Літоўскага існуе адрозненьне Літвы ад Жамойдзі і Русі. Для прыкладу возьмем наказ паслам Аляксандра з 1503 г. у сувязі з тытулам Маскоўскага князя «всея Русі»:

«А пра то маюць о том вельмі цьвёрда стаяці, штобы Маскоўскі не пісаўся паном всея Русі, а набольшы, што служыць на каралества; а еслі інак не можаць быці, тагды мае быць прызволена: калі кароль будзець у Вяліком Княстве Літоўскім, тагды няхай бы пісаўся ў тытуле Маскоўскі паном усея Русі, а есьлі будзець у Кароне і он бы пісаўся без тытулу всея Русі. А вшакож, тот князь Маскоўскі няхай пажываець сваего тытулу, каторага хочэць.

А есьлі бы Маскоўскі к таму што мовіў, штож ад даўных часоў пісана яго «гасударам всея Русі», тагды маюць адповедзеці: калі быў пакой, а кароль на Карону яшчэ не быў выбран, але толькі быў велікім князем Літоўскім; а ныне, калі ужо есьць каралём тагды ня годная рэч, штобы яго пісаць пісаці гасударам всея Русі, калі ў каралеўства і пад каралеўствам есьць большая часьць Русі»...

Аб Жамойдзі, каралеўскі ліст з 1524 г. «Што есьце прысылаў к нам брацью свою Венцлава і Мікалая а том, іж есьмо воласьць нашу Шаўленскую далі князю Яну, біскупу Вілянскаму... іно мы шляхты нашае ў павеце Шаўленском князю біскупу нікол і не давалі, а захавалі есьмо іх так, как княжат і панят і ўсю шляхту ў Велікам Княстве Літоўскам і у зямлі Жамойцкай. (...) Іню, веджа ацец наш Казімір і брат наш Аляксандар, каралі іх міласьць, і мы намней падавалі как пану старасьце Жамойцкаму і так вам, падданым нашым, множаства людзей і земль і пажыткаў нашых гаспадарскіх у зямлі Жамойцкай, а тымі часы мы, гаспадар, для каторае прычыны ня мелі быхмо моцы людзей нашых аддаваці...»

Трэці Літоўскі Статут як быццам санкцыянаваў гэтую путаніцу, наказваючы пісару земскаму «рускімі літары і словы пісаці».

Інакш справа прадстаўлялася яшчэ ў XV ст., за часоў Вітаўта, калі ён пісаў у 1420 г. да нямецкага караля Жыгімонта I: «ideo Szomoyth vocatur, quod in Lythwanico terra inferior interpretatur». Тады літоўская мова абазначала крывіцкую мову, у перакладзе на якую Жамойдзь значыла «зямля ніжэйшая».

Гэтую літоўскую мову гэтак характарызаваў у XVII ст. Praetorius:

> Die Littauische und jetzige Nadravische, Sudavische, Žalavonische Sprache ist eine Sprache gewesen nur dass sie in der Mundart in etwas und das das sehr wenig discrepiret, dooh dass sich alle Zeit wohl haben verstehen koennen. Die Littauische Sprache ist in Haussen so gemein gewesen, dass man LittauischRaussisch und Reussisch-Litauisch genannt, wie denn oben erweisen, dass die Littauen und Zamaiten erst alle sind Reussen genannt worden, daher die Littauische und Reussische Sprache sich hat sehr vermueschen muesten und ist selbige nachgeblieben. Und findet man aus diesen Fundament, dass ungeacht das Grossherzogthum Littauen dem Koenigreich Polen einverbleibt ist, dennoch seine sermonem patricium behaelt. Wie denn auch bis dato die Sprache in den Urtheilen wenn man sie der Reussischen entgegenhaelt, scheint fast Reussisch zu sein, doch was sie in etwas ins polnische deflectipet. Doch behalten die meisten Woerter den Radicem, den man in der preuscisch-nadrawischen und zalavonischen Sprache jetzo noch findet. Aus obigen erhaelt, dass die alte preussische Sprache einen ziemlichen Stri Strich in Europa eingenommen hat, naemlich Preussen, ein Theil Masuren, ganz Curland, Semigallen, Lievland, panz Littauen und die von da dependirenden Provincien, auch einen Theil von Moscau, als welche Laender von einem Krywe (Крывічамі. — *В. П.*) in einer Sprache sind regiert worden. Hiezu sind auch zu rechnen die Wenden in Pommern, als auch in Mecklenburg, item viele Oerter in Brandenburg und Lueneburg als welche eine sprache geredet, die mit der Preussischen eins ist, und hat diese Preussische Sprache ein stueck von Europa eingehabt, welches weit groesser als das roemische und franzoesische Reich ist[265].

[265] Пераклад J.S. Vater. „Die Sprache der alten Preussen». Braunschweig, 1821.

## Жамойдзь і Аўкштота

Адным з шырока пашыраных у сучаснай літаратуры «доказаў» на тое, быццам Жамойдзь і Літва тварылі адну непадзельную цэласьць, як тэрытарыяльную, так і этнічную, ёсьць так званая аўкштоцкая легэнда, або твораны міт Аўкштоты. Сутнасьць гэтай лягенды або міту заключаецца ў тым, быццам у склад Літвы, як агульнага назову, уваходзілі два плямёны з сваімі адзьдзельнымі тэрыторыямі: Жамойдзь і Аўкштота, terra inferior і terra superior.

Аб Жамойдзі была гутарка раней, дзе мы падкрэсьлівалі, што ў аснове гэтага назову ляжыць паняцьце «žeme», што абазначае краіну, зямлю, заселеную адным племем, так як у фінаў паняцьце «ma» (Suo-ma, Pier-ma, Me-rdve, Kastro-ma і інш.). Ад гэтага назову латышы, як пагранічнікі, называліся Земгалы, а насельніцтва гэтага племя ў паўночна-ўсходнім кутку Прусіі і займаная ім прастора — Žeme, ад чаго паходзіць злятынізованая форма Seme, Sembia, Sambia.

Таксама і гэаграфічныя назовы сьведчаць аб гэтым, як напрыклад Жамовічы, вёска і фальварак гаспадарскі ў Лідзкім павеце; Жамовічы, вёска і фальв. над Нашай, павет Слуцкі; Жэймале, вёска ў павеце Расены; Жэйматэле, вёска ў павеце Владыславова; Жэйматэле, вёска каля Панявежа; Жэйматышкі, аколіца ў Віленскім павеце; Жэймэле, фальварак у Ковенскім павеце; там жа мястэчка Жэймы; Жэймэле, мястэчка, павет Панявежа; Жэймале, маёнтак, павет Вілкамірскі; Жэймэле, вёска ў Віленшчыне; Жэймяна, возера, павет Сьвенцяны, там жа асада Жэймяна; Жэйме, фальварак каля Шаўляў; Жэймішкі, вёска і фальварак у Віленскім павеце; Жэймэвяны ў павеце Шаўлі; Жэймы, вёска, павет Сэйны; Жэймы, места і маёнтак над рэчкай Жэмлянкай, прытоку Невяжы; дзьве вёскі ў павеце Вілкамірскім; там жа дзьве вёскі Жэймэ; Жэйтты — дзьве вёскі, павет Шаўлі; Жэймы — дзьве вёскі, павет Тэльша; Жэмагулы каля Мэйшаголы; Жэмэляны, мястэчка і вёска, павет Тэльша; Жэмгора, рака, павет Тэльша; Жэмгуле, вёска, павет Расена; Жэмянка, маёнтак, павет Вілкамір; Жэмігола — тры маёнткі і аколіца, павет Расена; Жэміты, вёска, павет Тэльша.

Ад «жэмэ», «жэймэ» паходзіць і зборнае славянскае жамойць, як чудзь, вэсь, яцьвезь, голядзь, лів, корш. Гэаграфічныя назовы вымоўна сьведчаць аб гэтым, як напр. Жэмайце, вёска каля Панявежа; Жэмойдзінкі, павет Віленскі; Жмудзь, вёска каля Сэйнаў; Жмуйдкі, мястэчка, павет Вілкэмірскі; Жамойць, некалькі вёсак у заходняй Крывіччыне.

У літаратуры прынята ўважаць, што жамойдзь, жмудзь паходзіць ад «žemaitia», што ў перакладзе на лацінскую мову абазначае terra inferior (ніжэйшая зямля). Гэткае тлумачэньне знаходзім у лісьце Вітаўта з 1480 г. да нямецкага караля Жыгімонта I, у Длугаша, у Мехавіты. Магчыма, што гэты назоў дадзены латышамі, якія разглядалі жамойцкую тэрыторыю ніжэйшай у параўнаньні да сваёй. Гэта мусіла наступіць перад паяўленьнем літвы ў басэйне Нёмана, бо ўжо ў XI—XIV стст. Жамойдзь як тэрытарыяльная адзінка знаходзілася вышэй ад тэрыторыі Літвы (быццам Аўкштоты). У кажным выпадку жэймы, жэйматы ці жэмайты — гэта абазначэньне племя, а не тэрыторыі. Звузеньне наступіла з хвілінай паўстаньня /гаспадарства/ Літвы, якая ўздоўж Нёмана сваім арганізмам разьдзяляла жэймаў на дзьве часткі: ва ўсходніх Прусах і ў кліне між Дубіцай (Дубісай), курамі і зэмігаламі. Дзеля таго, што фактычна ўся Жамойдзь ад самага пачатку заснаваньня Літвы знаходзілася пад уладай літоўскіх князёў і баяраў, дык гэты назоў стаўся і тэрытарыяльным абазначэньнем. У гэтым сэнсе і піша Вітаўт:

> Зямля жамойтаў, якая ёсць нашым дзедзецтвам і вотчынаю з законнага ўспадкавання ад нашых продкаў і дзядоў, якою мы валодаем і цяпер і якая таксама ёсць і заўсёды была адзінай з зямлёю Літвы, бо адна гаворка і адны людзі, але паколькі зямля Жамойтаў ёсць зямлёю ніжэйшай да зямлі Літвы, таму яна называецца Жамойдзю, што ў літоўскай /мове/ тлумачыцца як ніжэйшая зямля.

Між іншым, гэтая вытрымка з ліста Вітаўта сталася асновай сёньня існуючага погляду быццам Жамойць і Літва «unum et idem, unum ydeoma et uni homines» у даслоўным значэньні. Гэткае разуменьне названага тэксту ёсьць памылковым. Вітаўт у сваім лісьце не дае выкладу аб этнічных суадносінах Жамойдзі і Літвы, але хоча пераканаць нямецкага кайзэра, як патрона

крыжакоў, што ягоныя /Вітаўта. — *Рэд.*/ прэтэнсіі да Жамойдзі і дакананы акт прылучэньня яе да Літвы ёсьць законныя. Таму ён падкрэсьлівае, што гэта зямля ад дзядоў і прадзедаў належала да Літвы і што яна /ёсць/ неразьдзельная частка прасторы, занятай тымі самымі людзьмі з той самай мовай і, дадайма, таго самага паходжаньня. Гэта зусім не абазначае, што падуладнае жамойцкае простанародзьдзе творыць неразьдзельную частку літоўскага народу і гутарыць той самай мовай. Што баяры ў Літве і Жамойдзі былі аднаго паходжаньня, гэта не падлягае ніякому сумліву і аб гэтым была гутарка раней.

Далей Вітаўт карыстаецца хітрым, але аднасова і супярэчным іншым доказам: Жамойдзяй таму называецца, бо гэта ў мове жамойцкага насельніцтва абазначае, што ў перакладзе на мову літоўскую роўназначна з terra inferior, нізінай. Калі адны людзі і адна мова тут і там, то навошта перакладаць па-літоўску? Вітаўт стараецца выясьніць /што/ слова Жамойдзь (і Аўкштота, аб чым крыху ніжэй), безумоўна нялітоўскага паходжаньня, але зусім не даказвае тоесамасьці жамойцкай і літоўскай моваў.

Фактычна папярэднікі Вітаўта разглядалі Жамойць, Зэмігалію (Сэмгалію), Курляндыю, хоць заваёваныя Літвой, але ўсё ж чужыя і не так дарагія, як карэнна літоўскія. Літва будавала абаронныя крэпасьці не на іншым, але сваім рубяжы па Дубіцы, Юры і Нёмане перад атакамі крыжакоў[266], Мендаўг, Гэдымін, Скіргайла, Ягайла і сам Вітаўт[267] у цяжкіх мамэнтах змаганьня аддавалі Нямецкаму закону ўсю Жамойдзь па Дубісу (Дубіцу), Зэмгалію і іншыя акругі.

## Межы Жамойдзі

Ва ўсіх дакумантах адносяшыхся да Жамойдзі яна выступае як самастойная краіна з малой прасторай, якую, як піша Сільвіюс, можна прайсьці ўздоўж у працягу няпэўнага дня[268]. Яна знаходзілася, паводля дакладу на Саборы ў Канстанцыі

[266] Путнікі, Эйрагола, Расена, Лукава, Вілкія, Велёна, Вэндагола, Відукла і іншыя.
[267] Вітаўт аддаваў Жамойдзь Нямецкаму ордэну ў 1384, 1398, 1404, 1409, 1413 гг.
[268] Aeneas Sylvius: «Inter Livoniam et Prusciam parvam terram esse ferunt unius ferme die latam itinere quam Massagete (Samagite) colunt».




*Староства Жаймойдзкае ў XVI—XVIII стст.*

(1415 г.), «inter Livoniam et Lithuaniam prope Prussiam» (Паміж Лівоніяй і Літвой знаходзіцца Прусія).

Запраўды гэта была невялічкая тэрыторыя. На поўнач ад Нёмана яна ніколі не даходзіла да Балтыцкага мора, і жэймы ня былі марскім народам. Ад мора аддзялаў Жамойдзь Куронскі пояс, які сягаў на поўдні да вусьця ракі Мініі ў Нёман. Мяжа з Корсю (Курляндыя, куры — фінскае племя) ішла прыблізна ад Нёмана ўверх Мініі да ракі Барты (Бартува), далей верхняй Бартай, пераходзячы на сярэднюю Вэнту.

Дакумант з 1253 г. аб падзеле тэрыторыі між нямецкімі Законамі называе гэтую прыморскую паласу коршскай (курон-




*Аўкштота — гэта тэрыторыя Віленскай губерні*

скай) і падае коршскія мясцовасьці: Ceclis, Megowe, Dowsare, Pilsaten і «terra inter Scrunden et Semigalen» як «terra incultae», значыць незаселеныя[269]. Названую мяжу Жамойдзі з Корсю поўнасьцю пацьвярджае лінгвістыка і археалягічныя раскопкі магілаў Жамойдзькага тыпу, якія сягаюць найдалей аколіцаў Крэтынгі.

Мяжа з Зэмігалай паводля дакументу з 1254 году (і іншых) праходзіла ад сярэдняй Вэнты, па загібе Мушы, правым берагам Ліэлупы і ракі Нямунэліс, уваходзячы клінамі ў акругі на поўдзень ад Шаўляў і Упіты[270].

[269] Ідзе спрэчка ў літаратуры адносна абазначэньня «terrae incultae». Навейшыя досьледы даказваюць, што гэтая прастора была заселенай. Mortensen. «Die Besiedlung des nordöstlichen Ostpreusaens bis zum Beginn des 17 Jahrh». T. II. Leipzig, 1938, s. 138.

[270] Дакумант з 1254 г. называе наступныя акругі Зэмгаліі: Sillene, Sagera (Zagare), Dobene (ў раёне ракі Egluona), Sparnene (у раёне Ile, Auce, Biksti), Thervetene (на рацэ Tervete), Dobelene, Upemolle (Upmala), у загібе р. Мушы (Musa) на правым беразе Ліэлупы і ніжнім бегу Нямунэліс, сягаючы Упіты і Шаўляў. (A. Bielenstein. Die Grenzen d. lettischen Volksstammes, s. 493).

Мяжа з Прусамі. Жамойдзь ад горада Мэмеля да ніжняга бегу ракі Юры межавала з Славоніяй (Скаловія ў Дусбурга), прускай правінцыяй, якая належала да крыжакоў.

Мяжа з Літвой. Адрозьніць трэба два пэрыяды. У першым, старэйшым пэрыядзе (XII—XIV стст.) Літва пачыналася ад ніжняга бегу ракі Юры, дзе стаяла літоўская цьвярдыня Путнік (у Дусбурга — Putenicka). Літва ў гэтым раёне межавала з Славоніяй /Скаловіяй паводля Дусбурга. — *Рэд.*/. Ад Таўрогаў мяжа ішла па Шэшуве да крэпасьці Відуклы, далей на поўнач ад Расены пераходзіла на раку Дубісу , ішла Дубісай ўверх да загібу, далей пераходзіла на верхні бег ракі Шушвы, наступна на поўдзень ад Содваў пераходзіла на раку Нявяжа аж да Паняважа, дзе межавалі ужо зэмгалы[271].

Названая мяжа Літвы з Жамойдзяй у ранейшым пэрыядзе ёсьць перш за ўсё палітычнай мяжой. Яна абазначае, што на ўсход ад яе пачынаўся арганізм Літвы, як ваенна-палітычны твор, які адсюль дамінаваў на суседнія тэрыторыі. Этнічнай мяжой была рака Нявяжа, да якой даходзіла жамойцкае насельніцтва і якое, як навакольнае, спрычынілася да зжамойдзеньня некаторых прозьвішчаў (як мянушак) баяраў і назоваў мясцовасьцяў.

---

[271] Як вялікая была тэрыторыя Жамойдзі і дзе пачыналася Літва можам мець уяўленьне з запісаў крыжакоў з XIV ст. на аснове дадзеных праваднікоў у так званых «літоўскіх дарожных вестках». У Хроніцы Віганда з Марбургу знаходзім гэткая апісаньне дарогаў Жамойдзі з Мэмеля ў Літву:

Anno Domini 1387... am montag post octavas epyphanie lis MALDENNE EYWAN (Ivan Maldziena) dese nochgeschriben wege furen: czum ersten vor der Memel bis uf ein flis, daz heist Meynie (Minija) und ist do czwischen III (2) mile, und ist gut weg. Von der Meyne dem flize bis zur Swexte (voz. Šwekčnie) II mile; do czwischen ist eyn flis, daz mues man brucken; von der Swexten bis uf daz feit Bareykin III mile, do czwischen mus man rumen und brucken an etzlichen enden, von Bareykinfelde bis czu Gnethen IIII milen, do czwischen mus man ouch rumen und brucken an etzlichen enden; von Asswerthe (Uzwenty) bis czu Lawkawsze III mile...

Вартбэрг пад 1372 г. апісвае іншы паход Закону ў гэты самы раён. Рабункі праводзіліся пераважна на ўсходнім пабярэжжы Невяжы, аднак трэйцяга дня была залічаная TERRA WEYSOKE на правым берагу Невяжы (тая самая Austeyte). Наступнага дня Лівонскі закон скіраваўся «versus partes Sameyten». Тут былі спустошаныя на захад ад Невяжы Куены, Бурвэ, Лінковэ ў аколіцы Сурвілішак. Значыць у раёне Сурвілішак па правым баку Невяжы лічылася Жамойдзь, а «terra Weysoke» належала да Літвы.

Аб вытычных пунктах мяжы Літвы і Жамойдзі глядзі ў «Scriptores rerum prussicarum», дзе апісаныя розныя паходы рознымі аўтарамі ў Жамойдзь і Літву. Цікава адзначыць спор Літвы з крыжакамі ў 1413 г. у справе Велёны. Крыжакі даказвалі, што Велёна «ніколі не была гэтак як і цяпер не ёсць часткаю зямлі Жамойці, (...) размешчаная не ў яе межах». Літва гэта не прызнавала, але падкрэсьлівала, што Велёна, хоць збудованая ёй, знаходзіцца ў Жамойдзі (справа ішла аб звароту ўсяе Жамойдзі). Крыжакі гэтаму пярэчылі, кажучы, што акруга Велёны «знаходзіцца на адлегласці амаль чатырох міляў ад гаёў Жамойтаў, якія па-простаму называюцца Жамойцкія гаі (der Samayten Heyne)». Крыжакі правільна вызначалі межы Жамойдзі, справа іншая, што яны ня хацелі аддаць Велёны Літве, не прызнаючы яе права да гэтага гарадзішча. Дусбург аднак піша, што Вялёну «Lethowini edificaverunt».

Гэта выразна сьцьвярджае, апрача археалёгіі, Вітаўт у 1422 г.:

Між іншых падзелаў межаў зямлі Літвы з зямлёю жамойтаў іх аддзяляла і аддзяляе пасярэдзіне рака званая Нявежа.

Такім чынам адрозьнівалася Жамойдзь з дзьвюх пунктаў гледжаньня: у вузейшым разуменьні гэта была прастора між Корсю, рэкамі Мінія, Шэшувай, Дубісай і Невяжай, як зямля падуладная Ліцьве; і ў шырэйшым этнічным разуменьні — да ракі Невяжы.

Праз падуладнасьць Ліцьве трэба разумець не фэадальную залежнасьць ці «Tributpflichtigkeit» (даваньне даніны), але збройную акупацыю. Літоўскае баярства тварыла на ўсёй Жамойдзі ня толькі пануючую верхавіну, але і вайсковыя апорныя пункты. Аб гэтым маем шмат доказаў. Дусбург і іншыя нямецкія летапісцы ня раз называюць «Lethowini de Samethia», якія нападаюць на немцаў або бароняцца.

У XIV—XV стст. з прычыны бязупынных нападаў Нямецкіх законаў на Жамойдзь і Літву і зьнішчэньня Літоўскага пагранічча над Дубісай, мяжа з Жамойдзяй перасоўваецца на ўсход між Дубісай і Невяжай, дзе будуюцца новыя крэпасьці, як Бетыгола, Вількія, Вэндзягола, Айрагола[272].

Такім чынам у канцы XIV ст. Скіргайла, Ягайла, Карыбут, Вігант і Сьвідрыгайла згаджаюцца аддаць Жамойдзь крыжакам па раку Дубісу «czu ewigem gedechtnisse... uff Dobyssen werder gegeben ist», вызначаючы на ёй мяжу з Літвой. Аб ёй успамінаецца ў дакуманце Канрада Цольнэра з 1383 г., які абвяшчаў вайну Літве, што Жамойдзь «bis uf di Dobiez». На гэтую мяжу згаджаўся ў 1388 г. Скіргайла «iuxta fluvium Dobise».

Пасьля разбурэньня літоўскіх апорных цьвярдыняў між Дубісай і Невяжай у канцы XIV і на пачатку XV ст. крыжакамі, мяжа Літвы перасунулася канчаткова на раку Невяжу

---

[272] Бетыгола (Ветыгола) паходзіць з XIV ст. Вітаўт і Ягайла пабудавалі тут касьцёл. Вількія, літоўская крэпасьць з XIV ст. Крыжакі першы раз спалілі яе ў 1388 г. Вэндзягола над ракой Уркай — літоўская цьвярдыня з XIV ст. разбураная ў 1384 г. комтурам Раганеты.

Айрагола — крэпасьць літоўская на левым берагу Дубісы. Гэта была старая цьвярдыня, аб якой успамінаецца ў дакуманце Мендаўга з 1253 і 1257 гг. Тут жыў Лютавор, тут нарадзіліся Вітань і Гэдымін. Крыжакі першы раз падышлі да яе ў 1322, другі раз, вяртаючыся з паходу пад Пэрнава, стаялі на адну мілю ад яе, але ня адважваліся штурмаваць. Мусілі быць вялікія ўмацаваньні. Зьнішчыў гэты апорны літоўскі пункт у 1382 г. маршалак Kuno von Hatenstein.

і ўтрымалася на ёй аж да канца існаваньня Вялікага Княства Літоўскага[273].

Вітаўт, відаць, зыходзячы з этнічнага засяленьня жэймамі прасторы да Невяжы, ва ўсіх сваіх дакумантах з 1384 і 1398 гг., перадаючых Жамойдзь крыжакам, паслядоўна трымаўся гэтай мяжы. Гэта самае ён сьцьвярджаў у 1422 г., аб чым была гутарка. Таксама Аляксандар у 1492 г. у прывілеі для Жамойдзі вызначае мяжу Літвы на Невяжы; «тэж дзецкі толька па раку Невяжу маем слаці»[274].

Як бачым, Жамойдзь пашырыла сваю мяжу ў XIV—XV стст. у выніку войнаў з нямецкімі Законамі каля 70 км на ўсход, аб'ядноўваючы ўсе землі раней заселеныя (перад паўстаньнем Літвы) жэймамі, гэта значыць да Невяжы. На ўсход ад гэтай ракі знаходзіліся толькі перасяленцы-жамойды, што ўцякалі ад ваенных падзеяў. На так аб'яднанай жамойцкай тэрыторыі было /ўтворанае/ жамойцкае староства, як самастойная адміністрацыйная адзінка Вялікага Княства Літоўскага, якое абдымала 29 воласьцяў (паводля тарыфы падымнага падатку з 1775 г.): Бержы, Біржыняны, Дзірваны Малыя, Дзірваны Вялікія, Айрагола, Гонды, Ясвойны, Корклява, Каршува, Крожы, Медынгіяны, Платэльшы, Паюр'е, Палонга, Патумшава, Павондзін, Рэтава, Расена, Шаўды, Шаўлі, Тэльшы, Тэндзягола, Цьвер, Ужвена, Відукла, Велёна, Вешвяны, Вілкія і Жараны[275].

## Аўкштота

Перш разгледзім гістарычныя крыніцы адносна гэтага назову. Найбольшым і раздутым да немагчымасьцы сучаснымі аўтарамі доказам, быццам Аўкштота абазначала Літву, ёсьць ліст Вітаўта з 11 сакавіка 1422 г. да нямецкага кайзера Жыгімонта I, дзе пішацца:

---

[273] На пачатку XV ст. крыжакі былі часова заўладалі прасторай аж да ракі Сьвятой (Швенты), устанаўляючы на ёй мяжу з Літвой. Гэтую мяжу называў Вітаўт у 1422 г., закладаючы супакой з немцамі і далучаючы Жамойдзь да В.К.Л.

[274] A. Działynski. «Zbiór praw litewskich», 1841, s. 68.

[275] Таксама ў Сумарыюшы дымаў у Жамойдзі з 1667 г. і Попісе войска з 1567 г. маем 29 воласьцяў. Новай фазай жамойцкага перасяленьня ў Літву быў пэрыяд сялянскай эксплятацыі ў Жамойдзі ў XVI ст. літоўскім баярствам і цівунамі. Жэймы масава пакідалі зямлю і ўцякалі ў Літву і Прусы.

Жамойты ж Літву называюць Аўкштота, што ёсць вышэйшая зямля ў adносінах да зямлі Жамойтаў.

Як ужо мы раней падкрэсьлівалі, Вітаўт у гэтым лісьце хоча даказаць свае законныя правы на тэрыторыю Жамойдзі, уважаючы яе за складовую частку літоўскага гаспадарства. Такім чынам і ягоная заўвага, што жамойды называюць Літву Аўкштотай, гэта ёсьць вышэйшай зямлёй у адносінах да Жамойдзі, мае характар не навуковы, але чыста палітычны.

Літва за часоў Вітаўта (1420 г.) ахапляла ўсю Крывіччыну і Русь, і старыя межы выхаднай літоўскай прасторы даўно былі зацёртыя. Адсюль абагульненьне, быццам Жамойды называлі Аўкштотай усю Літву, ёсьць больш чым неабаснаваным. На гэта не адважваюцца нават найбольшыя прыхільнікі-«тэарэтыкі» Аўкштоты. Вітаўт безумоўна меў на ўвазе не ўсю Літву, але пагранічную паласу з Жамойдзяй, аб якой маюцца весткі ў хроніках XV ст.

Дусбург, апісваючы паход Раганецкага комтура, не інакш разглядае Аўкштоту як пагранічную паласу, дзе знаходзілая перанесеная з Прусаў Рамова, асяродак літоўскага (лютычаў) культу:

> У той час Ледовік фон Лібэнцэль быў комтурам з Раганіты, які з сваімі братамі і зброяносцамі правёў шмат слаўных войнаў супраць летавінаў. Шматразова ён меў вайну на караблях, адну ў Аўштэхіі зямлі караля Літвы, у якой спаліў сяло званае Ромена, якое паводле іх веры было святым, схапіўшы ўсіх і забіўшы[276].

Вартбэрг у «Хроніцы Лівонскай» некалькі разоў успамінае аб Аўкштоце як пагранічнай акрузе «in superioribus partibus Letwinorum», абазначаючы яе між Нявежай і Дубісай на вышыні Упіты і называючы яе таксама славянскім назовам «terra Weyseke» (Высока)[277].

---

[276] Ромава, рэлігійны цэнтар лютычаў у Прусах (у Надравіі), з хвілінай заняцьця Надравіі крыжакамі быў перанесены ў Літву над раку Дубісу і знаходзіўся праўдападобна ў раёне Бетыголы і Айраголы. У канцы XIII ст. гэты асяродак быў далей перанесены на ўсход Сьвінтарогам і памешчаны каля Вільні (Jaroszewicz, Obraz Litwy I, 192; Антоновіч, Очэрк іст. В.К.Л., 82).

[277] Chron Liv. У 1357 г. У гэты час летвіны з Стрыпейкі, Упіты, Межавільта з АЎШТАЙТЫ хацелі перабрацца з Летовіі, але майстар перашкодзіў ім.

Таксама ў дакуманце Гэдыміна з 1323 г. у справе міру з Нямецкім ордэнам пад назовам Eustoythen абазначана прыблізна гэтая прастора.

Галіцка-Валынскі летапіс называе «зямлёй Нальшчанскай» і «Дзяволтвай» прастору між Сьвятой і Нявежай, не называючы яе літоўскай[278]; адсюль Лаўмяньскі (H. Łowmiansk) робіць неабаснаваны вывад, быццам гэтая прастора адносілася да Аўкштоты. Калі б яна гэтак называлася, ня было б патрэбы называць яе Нальшчанамі і Дзяволтвай. Тэндэнцыя да штучнага расьцягваньня невялікага пагранічнага раёну Аўкштоты далёка на ўсход ад Невяжы ня мае ніякіх абаснаваньняў у гістарычных крыніцах.

Аўкштоту, як пагранічную паласу між Літвой і Жамойдзяй вызначаюць таксама і гэаграфічныя назовы: Ауксьце, вёска ў раёне Расены; Аўкшкулі, вёска, павет Расена, там жа вёска Аўкштоле; Аўкшташліне, вёска, павет Расена; там жа вёска Аўкштракі, двор Аўкштотылас і Аўкшташылас; Аўкштышкі, вёска, павет Расена; Аўксгуды, вёска, над ракой Вадокстай, павет Шаўлі; Аўксуце, двор у павеце Шаўлі; Аўкшкальне, двор у павеце Шаўлі; Аўкштале, вёска, павет Шаўлі; Аўкштолкі, вёска і двор у павеце Шаўлі; Аўкстагойе, двор каля Панявежа; Аўкшталішкі, двор каля Панявежа; Аўкшця, двор у павеце Панявежа; Аўксуды ў павеце Тэльша і Шаўлі; Аукшталішкі, вёска ў павеце Тэльша; Акштоле, вёска ў раёне Невяжы; Аўкштыголе, вёска ў воласьці Жэймы, Ковенскага павету і іншыя.

Раздутая прастора Аўкштоты далёка на ўсход ад Невяжы была штучна створаная ў сёньняшніх часох на аснове выдзяленьня так званага «верхняга жамойцкага дыялекту», які пачынаецца ад Невяжы на ўсход. Гэты дыялект, з вялікай прымесяй славяншчыны, называюць «аўкштоцкім» і ўважаюць яго за адзьдзельны, пляменны, быццам тут сядзела другое племя жэймаў.

Год 1374. У гэты год найвышэйшы маршалак у дзень Нараджэння Марыі быў з двумя войскамі ў землях летвінаў пад назваю Аўштайта, моцна спусташаючы яе тры дні і тры ночы...

Anno 1372: «Terra Weyseke» Вартбэрг памяшчае на правым баку Невяжы, дзе сёньня Васканы.

278 «Войшэлк нача княжыць во всей землі Літовской», а потым «пойдзе в сіле цяжцэ і нача гарады імаці во Дяволтве і в Нальшчанах». Таксама пад годам 1258: «Татары з Васільком воеваша землю Літовскую і Нальшчанскую». З гэтага аднак не вынікае, што гэта Аўкштота.

Дыялект верхня-жамойцкі ёсьць з'явішчам зусім не плямённым, але вытварыўся пад уплывам крывіцкай мовы і славянскага насельніцтва на ўсход ад Невяжы. Гэты самы дыялект быў у паўночна-ўсходняй частцы Прусаў, дзе былі амаль такія самыя ўмовы аддзейніваньня славяншчыны на жамойцкую мову.

Падобнае з'явішча можна наглядаць у вялікай сям'і раманскіх моваў. Такім чынам паасобныя дыялекты мовы зусім не абазначаюць самастойных плямёнаў, але з'яўляюцца вытварам ад дзеяньня іншай мовы на пэўную групу людзей. Падобна, як мова ня ёсьць доказам на антрапалягічнае, расавае паходжаньне, так дыялекты ня ёсьць доказам на самастойную дыфэрэнцыяцыю пэўнай этнічнай групы. Субстрат, або пануючая мова фармуе дыялект.

*Грамата вял. князя Вітаўта на старабеларускай мове*

Адзначыць трэба з падкрэсьленьнем, што аб Аўкштоце ня маем ніводнай зацемкі ў гэтак званых «рускіх» летапісах, ані ў дакумантах Вялікага Княства Літоўскага (за выключэньнем ліста Вітаўта і ўмовы Гэдыміна з Ордэнам), шмат месца прысьвячаючых суадносінам Літвы да Жамойдзі. Калі б Аўкштота (як гэтага хочуць сучасныя «тэарэтыкі» жамойцкага пытаньня) займала акрэсьленую тэрыторыю і мела роўнаважнае значэньне з Жамойдзяй (так сёньня знаходзім у выабражэньні аўтараў), безумоўна мела б сваё выяўленьне ў гістарычных дакумантах Вялікага Княства Літоўскага, так як знаходзім гэткае

ў дачыненьні Літвы, Жамойдзі, Русі ды паасобных акругаў (напрыклад, Жамойцкая зямля, Віцебская зямля, Валынская зямля, Інфлянцкая зямля, Інфлянты, Падольле і г. д.).

Не знаходзім яе таксама ў апісах Літвы рознымі замежнымі падарожнікамі і бывальцамі на двары Вялікага Князя і сталіцы княства, ані ў рэляцыях да Папы /рымскага/. Усё гэта даказвае, што Аўкштота не абазначала шырэйшай тэрыторыі, але толькі невялікую пагранічную паласу, якая ня мела большага значаньня ды ў XV ст., калі мяжа з Жамойдзяй замацавалася на рацэ Нявежы, уваходзіла ў склад жамойцкай зямлі, так як і землі па левым баку Нёмана на поўнач ад ракі Шэшупы (Сакі).

### Аб назове Літва

Першы раз сустракаем назоў ЛІТВА пад годам 1009 у «Annales Quedlinburgenses» у сувязі з сьмерцяй сьв. Бруно. Гэтая крыніца паходзіць прыблізна з 1025 году, у ёй знаходзім:

> Святы Бруно, які зваўся Баніфацый, арцыбіскуп і манах, у 11 год свайго навяртання быў абезгалоўлены паганцамі на памежжы Русі і Літвы разам са сваімі

Ужо было раней намі падкрэсьлена, што ў дадзеным выпадку назоў Літва адносіўся не да тэрыторыі Літвы, ведамай з пазьнейшага часу, але да тэрыторыі Прусаў, бо ў іншых тагачасных крыніцах, як напрыклад у Цітмара (Thietmar; памёр у 1018 г.) сказана «in confinio Prusiae et Rusciae».

Крыху пазьнейшыя крыніцы, як «Chronica Magdeburgensis», «Annalista Saxo» таксама акрэсьліваюць сьмерць Бруно «in confine Rusciae et Lituae», як быццам паўтараюць вестку Квэдлінбурскага летапісу. Гэткае абазначэньне Прусіі Літвой ня ёсьць прыпадковаці летапіснай памылкай, але адказвае праўдзе. У першай палове XI ст. Літва яшчэ знаходзілася ў Прусіі. Найлепшым гэтага доказам ёсьць раскопкі. Паводля Гофмана (J. Hoffman, 1941), між 900—1050/75 гг. яшчэ масава выступаюць у басэйне Ніжняга Нёмана жамойцкія шкілетныя магілы, а целапальныя курганы належаць да рэдкасьці. У гадох 1075—1100 целапальныя курганы ў большай колькасьці побач жамойцкіх магілаў

з'яўляюцца ў басэйне Нёмана, а ад 1100—1200 гг. ужо на гэтай прасторы маем дачыненьня амаль выключна з целапальнымі курганамі. Такім чынам Літва перасунулася з Прусіі ў басэйн Нёмана не раней XII стагодзьдзя, дзе сфармавала свой арганізм.

Да XII ст. літва разам з прусамі і яцьвягамі час ад часу праводзіць збройныя напады ў глыб крывіцкай тэрыторыі, водгукі якіх знаходзім у т. зв. «рускіх» летапісах.

Прускае паходжаньне літвы дае разьвязкі назову яе. Мы ўжо шмат разоў падкрэсьлівалі ў працэсе аналізы нашага пытаньня тоесамасьць прусаў і літвы з люцічамі, крывіцкім племенем, што ў часе вялікай славянскай міграцыі заняло Прыбалтыцкі басэйн




*Вялікае Княства Літоўскае ў XIV—XV стст.*

аж да Лабы на захадзе. Літва — гэта парафраза слова Лютва. Не прыпадкова бацька Віценя называўся Лютвар, Лютувар (Длугаш; Дусбург); Лютэйка — правы прыток Нёмана; Люткуны — вёска ў павеце Шаўлі, там жа Люткушкі; Лютва, вёска ў Прусах і шмат іншых, названых раней. Не прыпадкова ў некаторых дакумантах знаходзім Лютва замест Літва. Так напр. Папа Рыгор XI у 1371 г. пісаў:

> Грыгорый біскуп слуга слугаў Божых ... майстру і братам Нямецкага шпіталя святой Марыі ў Ерузалеме. Нядаўна нам паведамленае ўтрымлівала, што хоць вы самі, як вядома, вядзіцё безперапынную вайну супраць няверных ЛЮТВАНАЎ і некаторых схізматыкаў русінаў, ім падлеглых, якія нападаюць на саміх братоў і іншых хрысціянаў, аднак некаторыя твае падданыя размешчаныя на землях тых самых майстра і братоў а таксама ЛЮТВАНАЎ і русінаў, дзеля блізкасці месца часцей чуючы пра падрыхтоўку і выправы майстра і братоў, паведамляюць пра іх тым жа ЛЮТВАНАМ...

З другога боку, і люцічы ў шматлікіх крыніцах названыя літвой, ліцьвінамі, як напрыклад «Sclavi LITHEWIZEN», «Liutici», «Lithuani».

У крывіцкай мове склад «лу» чарадуецца з «лі», як напрыклад Любава — Лібава; люцыпар-ліцыпар; Любск — Ліпск; Любча — Ліпча; Люта — Ліда і г. д.

Паходжаньне назову літва ад назову люцічы сьцьвярджаў ужо ў XVI ст. Лукаш Давід (Lucas David), у XVII ст. — Гартнох (Hartknoch) і Прэторыус (Praetorius). Жамойцкія спробы тлумачэньня гэтага назову ад «lietus» — дождж, падобна як летапісу Вялікага Княства Літоўскага ад лацінскага «litus» — бераг, не вытрымліваюць навуковай крытыкі і сёньня ніхто з паважнейшых дасьледчыкаў імі не займаецца.



# ЗАКАНЧЭНЬНЕ

Абагульняючы ўвесь матэрыял першага тому нашай працы, падкрэсьлім наступнае:

1. Перад прыходам славянаў у басэйн Балтыцкага мора на гэтай прасторы, слаба заселенай, знаходзілася фінскае насельніцтва, заваёванае індаэўрапэйцамі групы кентум.

Славяне занялі гэтую прастору ў III—IV бронзавым пэрыядзе (каля 1300—1250 гг. перад Хр.) і ўладалі ёй бесьперарыўна да II ст. пасьля Хр.

Жамойцкія плямёны да V ст. перад Хр. знаходзіліся ў вадазборах верхняй Акі, Дзясны і Сэйму, дзе межавалі з тракскімі плямёнамі і ўспрынялі шмат тракскіх элемэнтаў у сваю культуру. Пад напорам скіфаў і пэрсаў /яны/ перасунуліся на поўнач у раён Смаленска, Мажайска і возера Ільмэнь. Міграцыя на захад пачалася каля II ст. перад Хр., і ў гэтым часе латышы дасягнулі Заходнюю Дзьвіну.

Жамойды пачалі сваю міграцыю 400 год пазьней, калі адбывалася крывіцкая міграцыя на захад. У II ст. пасьля Хр. яны засялілі прастору між Корсю (Курляндыяй) і Невяжай, даходзячы да Нёмана, у IV—V ст. перасунуліся ў Прусы да ракі Прэголы. На гэтай прасторы /яны/ ўтрымаліся да X/XI ст. пасьля Хр., гэта значыць да часу паваротнай хвалі заходніх крывічоў, званых люцічамі.

2. У II ст. пасьля Хрыста крывічы ў магутным паходзе на захад дасягнулі і перайшлі раку Лабу. Крыху пазьней выпаўнілі вялікую прастору між Одрай і Лабай і высадзіліся на брытыйскім востраве. Нямецкая навала IX—XI стст. зламала незалежнасьць крывічоў-люцічаў на заходзе і прымусіла іх вольную ваеншчыну вярнуцца ў ранейшую прастору ў Прусію. У XI—XII стст. уся ўсходняя Прыбалтыка зноў знайшлася ва ўладаньні гэтага народу з цэнтрам у Прусіі.

У XIII ст. Нямецкія ордэны (крыжакі і мечаносцы) зламалі крывічоў-люцічаў у Прусіі і ў басэйне Заходняй Дзьвіны, але утрымалі сваю незалежнасьць Літва і полацкія крывічы, злучэньне якіх дало асновы да магутнай дзяржавы Вялікага Княства Літоўскага.

## ВАЦЛАЎ ПАНУЦЭВІЧ
## (Коратка пра аўтара)

Вацлаў Пануцэвіч нарадзіўся ў другой палове 1910 — першай палове 1911 гадоў у вёсцы Гожа, што каля Горадні. Яго сапраўднае прозвішча не Пануцэвіч, а Папуцэвіч. Трэба адзначыць, што ў Горадні ды бліжэйшых ваколіцах прозвішча Папуцэвіч сустракаецца даволі часта.

У другой палове 1935 года ён — студэнт Віленскай духоўнай каталіцкай семінарыі. Але быў выключаны з ліку клерыкаў за беларускую дзейнасць. З восені 1936 году вучыўся на юрыдычным факультэце Універсітэта Стэфана Баторыя ў Вільні. Адсюль, а таксама з каталіцкай духоўнай семінарыі вядзе свой пачатак грунтоўная філалагічная падрыхтоўка спадара Вацлава, асабліва ў галіне лацінскай мовы, веданне якой значна дапамагло яму падчас працы з сярэднявечнымі помнікамі пісьменнасці, што датычыліся гісторыі Беларусі. Стаўся адным з арганізатараў «руху маладых адраджэнцаў».

У гэты час адбылася падзея, якая моцна паўплывала на далейшае жыццё спадара Вацлава — знаёмства з дзеячамі Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Спадар Вацлаў пісаў:

> У канцы 1935 г. я асабіста запазнаўся з кс. Гадлеўскім ды да верасня 1939 быў яго супрацоўнікам. Перш я сустрэўся з кс. Адамам Станкевічам ды ягонымі супрацоўнікамі, што гуртаваліся пры вуліцы Завальная № 1, дзе была друкарня і ўсе ўстановы БХД. Кс. Гадлеўскі ў гэтым часе вельмі крытычна адносіўся да ідэалагічнай дзейнасці кс. Станкевіча і ягонай групы... В. Гадлеўскі на мяне зрабіў прыцягаючае ўражанне. Таму я таксама далучыўся да ягонай групы. Я адчуваў у ім чалавека глыбока веруючага, перанятага лёсам свайго народу ды незалежніка. Усё гэта мне болей падабалася, чымся дзейнасць кс. Станкевіча і ягонай группы.

Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя, бясспрэчнымі лідэрамі якой былі ксяндзы Адам Станкевіч і Вінцэнт Гадлеўскі, хаця і заяўляла дасягненне поўнай незалежнасці Беларусі як канчатковую мэту дзейнасці партыі, да сярэдзіны 1930-х гг. фактычна арыентавалася на палітычную барацьбу, што не выходзіла за межы канстытуцыі (г. зн. прызнавала цэласнасць польскай дзяржавы). Але у новых палітычных умовах выявіліся супярэчнасці паміж двума галоўнымі ідэолагамі партыі. Ксёндз Адам Станкевіч імкнуўся надаць БХД агульнанацыянальны характар, адкрыць шляхі да супрацоўніцтва з усімі антыфашыстоўскімі партыямі Польшчы, у тым ліку і КПЗБ. Менавіта такую палітыку праводзіла ўтворанае ім Беларускае Народнае Аб'яднанне.

Ксёндз В. Гадлеўскі застаўся на цвёрдых антыкамуністычных пазіцыях і бачыў перспектыву ў супрацоўніцтве беларусаў з краінамі Восі ў выпадку новай вайны... Пасля расколу БХД летам 1936 г. групоўка В. Гадлеўскага стварыла ўласную арганізацыю — Беларускі Народны Фронт. Пануцэвічу больш імпанавала выразная нацыянальная (ці нават нацыяналістычная) пазіцыя В. Гадлеўскага, таму ён і далучыўся да яго групоўкі. Аднак канчатковае палітычнае размежаванне дзеячаў былой БХД адбылося толькі праз паўгода пасля таго, як В. Пануцэвіч пазнаёміўся з ксяндзамі Гадлеўскім і Станкевічам. У канцы ж 1935 — першай палове 1936 г. ён паспеў яшчэ прыняць удзел у працы структураў рэфармаванай і пакуль што яшчэ адзінай БХД-БНА.

1 снежня 1935 г. Вацлаў Пануцэвіч згадваецца як сябра рэдкалегіі «Студэнцкай трыбуны» (моладзевага дадатку да газеты «Беларуская Крыніца» — галоўнага інфармацыйнага выдання БХД). У наступных нумарах «Студэнцкай трыбуны» друкуецца некалькі ягоных невялікіх артыкулаў. Пануцэвіч заставаўся актыўным супрацоўнікам гэтага выдання да вясны 1936 г.

Яшчэ адным важным накірункам яго дзейнасці ў гэты перыяд з'яўляецца праца ў Беларускім Інстытуце Гаспадаркі і Культуры (БІГіКу). БІГіК як і Таварыства Беларускай Школы займаўся пытаннямі культуры асветніцкай работы сярод шырокіх мас насельніцтва Заходняй Беларусі, але ў адрозненні ад ТБШ знаходзіўся пад уплывам дзеячаў хрысціянска-дэмакратычнага накірунку ў беларускім нацыянальна-вызваленчым руху.

26 лютага 1936 года Вацлаў Папуцэвіч быў абраны сакратаром краязнаўчай секцыі інстытута, а таксама ўвайшоў у склад Урада (праўлення інстытута) у якасці гаспадара (заўхоза). У пачатку траўня таго ж года Вацлаў Папуцэвіч згадваецца «Беларускай Крыніцай» ужо як намеснік сябра Цэнтральнага ўрада БІГіКу.



*Вацлаў Панууцэвіч*

Аднак у чэрвені 1936 года з выхадам у свет першага нумара газеты «Беларускі Фронт» раскол БХД–БНА стаўся фактам. Лінію Гадлеўскага падтрымалі Мікалай Шкялёнак, інжэнер Лявон Дубейкаўскі і студэнт Вацлаў Папуцэвіч. В. Папуцэвіч выконваў абавязкі выдаўца «Беларускага Фронту». Усяго да верасня 1939 г. выйшла 50 нумароў газеты. Выданне неаднаразова канфіскоўвалася, а рэдактар і выдавец падвяргаліся рэпрэсіям з боку ўладаў. За артыкул «Залежнасць ці незалежнасць» (№ 3 ад 30 жніўня 1938 г.) В. Папуцэвіч атрымаў год астрогу. Праўда, пакаранне было завешана, бо ў 1938—39 акадэмічным годзе ён працягваў навучанне ва ўніверсітэце.

Ён таксама рэдагаваў студэнцкі часопіс «25 сакавіка». Разам са «Студэнцкай трыбунай» «25 сакавіка» быў адным з самых значных выданняў беларускай моладзі напрыканцы 1930-х гг. Да канца 1938 года выйшла 4 нумары «25 сакавіка».

З выбухам вайны 1 верасня 1939 года Вацлаў Папуцэвіч быў змабілізаваны ў польскае войска. Служыць ён павінен быў у 81 пяхотным палку гарадзенскіх стральцоў імя Стэфана Баторага, які размяшчаўся ў Горадні. Дарэчы сказаць, гэты полк польскай арміі быў тэрытарыяльным, у ім служылі толькі ўраджэнцы Гарадзеншчыны. У свой полк трапіць Папуцэвіч хутчэй за ўсё

не паспеў (яшчэ ў канцы жніўня 81-ы полк пакінуў Горадню, каб потым прыняць удзел у баях з усходнепрускай групоўкай нямецкіх войскаў) і 22 верасня трапіў у савецкі палон разам з іншымі салдатамі гарадзенскай групоўкі войскаў, але неўзабаве быў вызвалены.

У перыяд з восені 1939 па чэрвень 1941 года спадар Вацлаў жыў у Горадні, дзе працаваў настаўнікам разам са сваёю жонкаю Ірэнай (яна была дачкой Эдварда Будзькі).

22 чэрвеня 1941 года В. Папуцэвіч таксама сустрэў у Горадні. Ужо ў канцы лета ён актыўна далучыўся да працы Беларускага нацыянальнага камітэта, арганізаванага беларускімі дзеячамі ў ліпені 1941 г. у Беластоку. У Горадні жа вяліся настаўніцкія курсы, якія ўзначаліў В. Папуцэвіч. Планавалася беларусізацыя праваслаўнай царквы і стварэнне беларускай праваслаўнай духоўнай семінарыі, аб чым звяртаўся 27 кастрычніка 1941 г. у гарадзенскі БНК біскуп Антоній. У кастрычніку В. Папуцэвіч быў нават прызначаны бургамістрам Горадні і на працягу аднаго месяца павінен быў пераняць справы ад паляка Гарбачэўскага, аднак далучэнне Беластоцкай акругі да Усходняе Прусіі звяло ўсе намаганні беларускіх дзеячоў на нішто.

У сярэдзіне лістапада 1941 года В. Папуцэвіч і разам з ім каля 100 чалавек выехалі з Горадні для беларусізацыі адміністрацыі акругаў Баранавічы, Слонім, Наваградак, Ліда. В. Папуцэвіч пасяліўся ў Баранавічах, дзе пражыў да лета 1944 года. Дзейнасць яго хутчэй за ўсё была звязана са школьніцтвам, бо ў верасні 1942 года ён наведваў беларускага школьнага інспектара ў Лідзе. Некалькі разоў сустракаўся з кс. Гадлеўскім, але актыўнага ўдзелу ў перыпетыях палітычнай барацьбы не прымаў.

***

Падзеі ліпеня 1944 года вымусілі Вацлава Папуцэвіча падацца ў выгнанне. Наступны раз мы сустракаем яго ўжо пад прозьвішчам Пануцэвіч у другой палове 1945 года як арганізатара беларускага жыцця ў лагеры для перамешчаных асобаў Ватэнштэт, што знаходзіўся ў Ангельскай зоне акупацыі Нямеччыны (за 10 км ад Браўншвайгу, Ніжняя Саксонія). Лагер быў даволі вялікі, у пачатку 1948 года ў ім было 716 беларусаў-

уцекачоў з БССР. Ужо 15 лістапада 1945 года ў лагеры была адкрыта гімназія імя Максіма Багдановіча, якая працавала аж да ліквідацыі лагера ў лютым 1950 года. Першым дырэктарам стаў Вацлаў Пануцэвіч, ён жа выкладаў лацінскую мову, яго жонка — прыродазнаўства. Навучанне ў гімназіі адыграла значную ролю ў выхаванні некалькі дзесяткаў маладых беларусаў, адарваных ад Бацькаўшчыны.

Цяжка пераацаніць ролю В. Пануцэвіча ў арганізацыі скаўцкага руху сярод беларусаў у Нямеччыне. У 1946 годзе ён арганізаваў першы злёт беларускіх скаўтаў, прыняў удзел у выданні часопісаў «Шляхам жыцця» і «Напагатове». У Флёнбургу В. Пануцэвіч выдаў дапаможнікі для скаўцкай работы: «Скаўцкая кніжка», «Праца ў звязе», «...для кіраўнікоў скаўтаў». Скаўты мелі добрую арганізацыю і гуртавалі вакол сябе значную частку беларускай моладзі. Ужо ў красавіку 1946 г. В. Пануцэвіч узначаліў Згуртаванне Крывіцкіх Скаўтаў на Чужыне (ЗКСЧ), якое ў лютым 1950 г. аб'ядноўвала маладых беларусаў з Англіі, Аўстраліі, Аргентыны, Бельгіі, ЗША, Бразіліі, Канады, Нямеччыны і Францыі.

У лагеры Ватэнштэт, як адзіным ва ўсёй Нямеччыне, арганізавалася беларуская каталіцкая парафія, пробашчам якой быў айцец Міхась Маскалік. З красавіка 1948 года ватэнштэцкі парафіяльны камітэт выдаў уласны часопіс «Беларуская Думка», рэдагаваў яго В. Пануцэвіч.

Аднак з канца 1949 года беларускае жыццё ў лагерах для перамешчаных асобаў паступова заціхала. Страціўшы надзею ў хуткім часе вярнуцца на Радзіму, беларусы-эмігранты пачалі уладкоўвацца на чужыне. Вясной 1950 года Вацлаў Пануцэвіч разам з сям'ёй ад'ехаў ў ЗША.

Сорак гадоў, пражытых Вацлавам Пануцэвічам на амерыканскай зямлі, у Чыкага, сталі плённым перыядам у ягонай навуковай і грамадскай працы. Ужо ў траўні 1959 г. ў Нью-Йорку было заснавана Беларуска-Амерыканскае Каталіцкае Таварыства, якое за кароткі час згуртавала вакол сябе 150 беларускіх сем'яў. Старшынём арганізацыі стаў Станіслаў Грынкевіч, віцэ-старшынём — Вацлаў Пануцэвіч. Дэлегацыя таварыства была нават прынята вядомым сваімі антыкамуністычнымі поглядамі кардыналам Спэлманам.

Актыўны ўдзел у жыцці беларускай каталіцкай парафіі ўсходняга абраду ў Чыкага і выданне часопіса «Беларуская Царква» (1956—1965) прынеслі В. Пануцэвічу вядомасць як значнага рэлігійнага дзеяча беларускай эміграцыі. У палітычнай працы дзейнасць В. Пануцэвіча звязана з Беларуска-Амерыканскай Нацыянальнай Радай, у склад якой увайшлі яе беларусы даваеннай і пасляваеннай хваляў эміграцыі, ў тым ліку і слынны Язэп Варонка. В. Пануцэвіч з 1950 году выконваў у гэтай арганізацыі абавязкі сакратара. Рада выдавала свой бюлетэнь, спрабуючы звярнуць увагу амерыканскага грамадства на сітуацыю ў БССР.

Працягвалася праца В. Пануцэвіча і ў галіне скаўтынгу. У 1951 годзе ў Чыкага ім была заснавана моладзевая дружына «Пагоня», а пасля — «Арлы».

***

Вацлаў Пануцэвіч пакінуў значную творчую спадчыну. Ён апрацоўваў і выдаваў казкі, чытанкі, пераклаў на беларускую мову «Падарожжа Гулівера да волатаў...» Дж. Свіфта*, напісаў некалькі кніжак пра беларускі скаўтынг. Зрабіў пераклад літургіі св. Іаана Залатавуста (Чыкага, 1958), якім карысталіся ў беларускай грэка-каталіцкай Спаскай царкве ў Чыкага.

Асноўныя яго працы — кнігі па гісторыі Беларусі:

«Zamojdz i Litva: Roznyja krainy i narody» (Чыкага, 1953—1954)

«З гісторыі Беларусі або Крывіччыны-Літвы» (Чыкага, 1965)

«Крывіцкая этнаграфічная прастора»

«Зь гісторыі вышэйшых школ у Беларусі. 1. Віленская акадэмія»

«Пачаткі хрысьціянства на нашых землях з часоў Ізяслава» (1959)

«Плян Агінскага 1811 г.»

«Сьв. Афрасіньня Полацкая»

«Сьвяты Язафат Кунцэвіч» (Чыкага, 1963; Полацк, 2000),

«З гісторыі Беларусі альбо Крывіччыны-Літвы» (1965)

«Польская мова ў XIV—XVIII ст.ст. і каталіцкі касцёл у Вялікім княстве Літоўскім» (1967).

---

* Swift J. Падарожжа Гулівэра да волатаў у краіне Бробзынгнаг. Пераклаў В. П. Фленсбург, 1949.

«Вінцэсь Гадлеўскі...» («Спадчына», 1993)

«Літва і Беларусь»

«Берасьцейская вунія»

«Паўстаньне 1863 на Беларусі»,

«Гарадзеншчына ў нацыянальным руху ў 1918—1919 гадах» («Бацькаўшчына», 1960-я; «Пагоня», 1994)

«Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква» і іншыя.

Большасць кніг выйшла мізерным накладам, з'яўляецца рарытэтамі. Яны патрабуюць перавыдання.




Як бачым, навуковыя працы Пануцэвіча шырока ахопліваюць старажытную і сярэднявечную гісторыю Беларусі. Толькі пералічым назвы буйнейшых яго работ:

Гэтыя кнігі друкавала заснаваная Вацлавам Пануцэвічам на пачатку 1960-х гадоў Беларуская Выдавецкая Сябрына. Акрамя кніг, Сябрына з 1966 года выдавала рэлігійна-гістарычныя часопісы «Беларуская царква» (кірыліцай) і «Litwa» (лацінкай).

Гістарычныя тэорыі Вацлава Пануцэвіча, хаця і бясспрэчныя далёка не заўсёды, аднак вылучаюцца арыгінальнасцю, грунтоўным апрацаваннем, а колькасць выкарыстаных гістарычных крыніц, асабліва на лацінскай мове (вось дзе сказалася грунтоўная універсітэцкая падрыхтоўка), выклікае зайздрасць у любога гісторыка.

З найбольшай увагай Пануцэвіч даследаваў паходжанне назоваў Крывія, Літва, Жамойдзь, Яцвязь і па сутнасці пер-

шым сярод беларускіх гісторыкаў ставіў пытанне пра тое, як тэрмін Літва перамясціўся з цягам часу на тэрыторыю Жмудзі і як славяне-ліцвіны сталіся беларусамі. Як і Павал Урбан у сваёй кнізе «Да пытання аб этнічнай прыналежнасці старажытных ліцьвінаў», Вацлаў Пануцэвіч абгрунтоўвае славянскую этымалогію назова Літвы, падтрымліваючы ідэю аб тоеснасці старажытных ліцвінаў з люцічамі. Надзвычай арыгінальна, але ізноў жа вельмі доказна выглядае сцверджанне В. Пануцэвіча аб тым, што напярэдадні «хрысціянізацыі» ў канцы XIV ст. Літва была не паганскай, а яе насельніцтва вызнавала нейкую хрысціянскую ерась усходняга паходжання накшталт маніхейства.

***

Памёр Вацлаў Пануцэвіч 25 жніўня 1991 года. Апошні дзень яго жыцця стаў першым днём незалежнай Рэспублікі Беларусь. Застаецца толькі пашкадаваць, што і дагэтуль імя яго працягвае заставацца на Беларусі амаль невядомым. А шлях да адраджэння — гэта ў першую чаргу шлях да сваёй гістарычнай памяці і да прынцыпаў унутранай свабоды, сфармуляваных Вацлавам Пануцэвічам:

> Адрадзіць сваё «Я», гэта значыць пераламаць самога сябе і прыняць, што ня толькі існую «Я», але існуе гэткае самае «ня Я» — другі чалавек з такімі самымі прыкметамі, асабовасцю і правамі. Сваё думанне асвяціць вышэйшаю праўдай хрыстовае навукі, што ўсе людзі — браты і што творым адну велізарную грамаду чалавецтва.

Навукова-папулярнае выданне

**ПАНУЦЭВІЧ Вацлаў**

**ЛІТВА І ЖАМОЙДЗЬ:
РОЗНЫЯ КРАІНЫ І НАРОДЫ**

Падпісана да друку 20.12.2013. Фармат 60×90 1/16.
Папера газетная. Друк афсетны.
Умоўн. друк. арк. 19,0. Тыраж 1500 экз. Заказ 35.

ТАА «Харвест». ЛВ № 02330/0494377 ад 16.03.2009.
Вул. Кульман, д. 1, корп. 3, пав. 4, к. 42, 220013, г. Мінск, Рэспубліка Беларусь.
E-mail рэдакцыі: harvest@anitex.by

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009.
Пр. Незалежнасці, 79, 220013, г. Мінск, Рэспубліка Беларусь.

Гэтая кніга дасюль заставалася невядомай чытачам на Беларусі. І вось прышоў час выправіць такую загану. Нягледзячы на тое, што сваё даследаванне Вацлаў Пануцэвіч выканаў 60 год таму, яно па-ранейшаму мае значную каштоўнасць для суайчыннікаў. У першую чаргу гэта тычыцца пераканаўчага доказу ім таго факту, што ліцвіны (продкі цяперашніх беларусаў) і жамойты (продкі цяперашніх летувісаў) былі рознымі народамі, якія гаварылі на розных мовах, жылі на розных землях, мелі розныя культурныя традыцыі.

ISBN 978-985-18-2703-5

